*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС*

**4** (966)

*КРАСАВІК*

# ПОЛЫМЯ

**Выдаецца
са снежня 1922 года**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Мінск 2010**

# *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»

## Мар’ян ДУКСА



* * *

І нельга нам ступіць у рэчку двойчы,
ў адну і тую ж рэчку увайсці,
нягледзячы на тое, што захоча
твой успамін прыемны след знайсці.
Зрабіць нам гэта проста не дазволіць
гадоў няспынных шпаркая хада.
За гэты час — і не па нашай волі —
уся да кроплі зменіцца вада.
І нельга нам ступіць у рэчку двойчы…
Прыміце гэта — будзе спакайней.
Яна была празрыстаю аднойчы,
цяпер яна нашмат ужо брудней.
Яна чамусьці памутнела ў часе,
яна ў нябыт пабегла ад мяне.
Яна былой і цёплай засталася
на дне душы — на серабрыстым дне.

---

**Дукса Мар’ян Мікалаевіч** *нарадзіўся 5 красавіка 1943 года на хутары каля вёскі Каракулічы Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Свірскае вучылішча механізацыі (1960), філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1969). Працаваў у калгасе, настаўнічаў у Сольскай сярэдняй школе на Смаргоншчыне.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Спатканне» (1967), «Станцыя» (1974), «Забытыя словы» (1979), «Твая пара сяўбы» (1985), «Заснежаныя ягады» (1989), «Горн прымірэння» (1993), «Прыйсці да алтара» (2003) і інш., кніг для дзяцей «Зялёны акварыум» (1980), «Світаюць сосны» (1987), «Нябесны карнавал» (1998), «Паэтычны каляндар» (2003).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1990).*

* * *

І смуткам паранены вочы,
хоць сонца навокал аж лішак.
І зноўку з зялёных абочын
Чарговы выглядвае крыжык.
Ля гэтай красуні-бярозы
Мільгнула жыццё і растала.
Пакінуўшы горкія слёзы,
у неба душа стартавала.
А траса спявае ад гуду
для ўцехі натуры мабільнай.
Быць хочацца нашаму люду
Еўропаю аўтамабільнай.
Дастаць небасхіл зухавата,
прыўзняцца ў крылатым палёце…
Нябачная воку расплата
на кожным стаіць павароце.

* * *

Прысмак адчуе салодкі і горкі
той, хто нябесную кнігу чытае.
Кропля святла ад малюсенькай зоркі
толькі праз тысячы год прылятае.
Колькі яна таго ўпартага лёту
робіць у цемры і не зледзянее,
каб хоць на міг азарыць адзіноту,
ціхенька ў вечнасць паклікаць надзею.
Цэдзіцца бляск несупынна-нязводны,
каб супачыць ад бяздоння на даху.
Позірк у зоркі спакойна-лагодны —
што ж ты, душа, заміраеш ад страху?

* * *

Прыйшоў у хату да цябе ўвесь свет,
глабальны свет у хату ўлез са спешкай.
Камп'ютэр твой, мабільнік, Інтэрнет —
прыемныя дзіцячыя пацешкі.
Каб адчуваў: свой чалавек і ты
між маніторных лічбаў, слоў і знакаў,
каб мог запоўніць вольны час пусты,
каб ты, як тое немаўлё, не плакаў.
Мільгае ў зрэнках і далей імчыць
паслуг, сенсацый, распрананняў сумесь…
З той вечнасцю, якая ўсё маўчыць,
як хочацца душы наладзіць сувязь.
Што дасць душы камп'ютэрны экран?
Душа пакуль самоціцца і ные.
Усё, што бачыць, — марнасць і падман.
Учуць бы ёй ад Бога пазыўныя.

* * *

Душу людскую лёгка прылагодзіць.
Парупся так зрабіць,
пакуль не позна.
Каго любіць хацелі — адыходзяць.
Цяпер мы любім роспачна і слёзна.
Любоў такая дужа сэрца раніць
і смуткам найвялікшым ахінае.
Як хочацца, спазнаўшы боль, параіць:
будзь вельмі шчодрай,
о душа людская.
Пакуль ёсць час,
цяпер не паскупіся,
сябе не абкруці халодным дротам.
Пакуль ёсць час,
да іншых прыгарніся,
не адкладай сваё цяпло на потым.

* * *

Ах, колькі вырылі тут ям
разбушаваныя стагоддзі.
А нам, цяперашнім, няўцям,
на чым стаім, па чым мы ходзім.
Мы робім бег штодзённы свой,
а памяць, нібы нежывая,
зусім не кажа: пад травой
дагэтуль попел астывае.
Ці чуем, хоць бы незнарок,
плач у лісцёвым шапаценні?
Ці знаем: п’юць карэнні сок
з ружовым — аж цяпер! — адценнем?
Мы хочам ці не хочам знаць,
па глебе ходзячы кругамі:
калі прыслухацца — звіняць
асколькі лёсаў пад нагамі.
А можа, ты сабе дазволь
быць і глухім, і невідушчым.
Іначай, як лавіна, боль
цябе прыцісне і раструшчыць.

* * *

Свет не заўважыў: нехта выпаў з лодкі,
не запаволіўся шалёнай лодкі бег.
Эстраднай зоркі галасок салодкі
аднекуль ліўся. Раздаваўся смех.
Не скалануўся ад дарожнай драмы,
не задрыжаў ад шкадавання свет,
заняты працай. Хто спяшаўся ў краму,
на стадыён. Хто думаў пра абед.

Маленькі цень на самым бліжнім твары
праплыў і знік. Нічога не было…
А ў цэнтры свету — закаханых пары.
І ўсё святло, што з неба, — іх святло.
На хвалях сэрцаў беды мала важаць,
хоць ліпнуць, як назойлівая тля…
Цікава, а сусвет… ён ці заўважыць,
калі з арбіты скоціцца Зямля?

* * *

Глядзі, адбіўся твой няўцямны лёс
на ўсёй далоні, як на добрай карце,
з прыемнай пыхай задзіраеш нос,
калі стаіш упэўнена на старце.
Але занадта дужа не скуголь,
калі табе не той дастаўся выйгрыш.
Не гонар твой, але чамусьці боль
прыходзіць першым на галоўны фініш.

* * *

Асенняя слота зацягвае сэрца густой павуцінай,
нашэптвае ціха: не рвіся, спыніся, замры…
Ды толькі зусім не сур'ёзная гэта прычына,
каб водбліскі ў ім не заўважыць вясенняй пары.
І вецер блукае, як бомж, непрыкаяна-мокры,
да поўначы стукае ў шыбы жалосна: пусці…
Ды колькі разоў урывалася сонейка ў вокны,
каб я яго піў і хмялеў ад яго ў забыцці.
Нібы непрытомныя, цягнуцца ў вечнасць хвіліны.
Застыла душа і сябе ўсведамляе ледзь-ледзь.
Калышацца смутак асенні на голлях рабіны,
хоць радасць на гронках працягвае ўсё ж чырванець.

* * *

Жыццё — як расінка світальнай пары,
што ціха цяжэе, буйнеючы звыкла.
А сонца дыхне цеплынёю з гары —
драбнее, лягчэе, марнее — і знікла.
Хоць, можа б, хацела вісець на траве,
бясконца на ветрыку ўдзень калыхацца.
Не страціць сябе яна і ў сіняве,
адкуль ёй удасца з дажджамі вяртацца.
Жыццё, як расінка, працягне свой шлях,
калі існавала з нябёсамі ў згодзе.
Душа пакружляе, як лёгенькі птах,
і ў вечнасць дарогу жаданую знойдзе.

* * *

Адчуеш горыч і самоту востра,
уявіш сябе шхунай між ільдзін
ці мараком, закінутым на востраў.
Агледзішся навокал. Ты адзін.
Зацяты. Нелюдзімы. Невясёлы.
На дзікай волі позірк твой патух.
Які ж ты ўсё-ткі хваравіта-кволы,
з надуманымі комплексамі дух!
Сваю неапраўданую panыласць
раптоўнай радасцю апаласні.
Ты маеш лёсам дораную міласць —
не быць ахвярай марнай мітусні.
Гудзе сталічнай плошчы эйфарыя…
Дарэмна смутак раніц, як кап'ё.
Твой дух — у цэнтры.
На перыферыі —
астатні свет і водгулле тваё.

* * *

Мой запаветны верш маўчання,
цябе ніяк не напішу.
Усе грымотныя вяшчанні
ужо не радуюць душу.
Калісьці меў такі задор я —
ператвараць іх у званы.
Але да яснага надвор'я
не падыходзяць больш яны.
Мой запаветны верш маўчання,
з'явіся ў гамане людской.
Тваё ледзь чутнае дыханне
няхай прыносіць супакой.





**Зінаіда ДУДЗЮК**

# СЛОДЫЧ І АТРУТА

*Раздзелы з рамана**

## 22

**Сонца** зайшло. Толькі на захадзе неба яшчэ свяцілася чырванню, як шчака маладзенькай дзяўчыны, якую ўпершыню пацалаваў закаханы хлопец. Зямля апускалася ў млявасць летняе ночы, кароткай і ціхай. Над поплавам рассцілаўся пульхны сувой туману. Гэта быў час спакою, калі птушкі аціхлі ў гнёздах, толькі назойлівы камар, шукаючы спажывы, часам з галодным зумканнем азываўся каля вуха. Гардзей ішоў па траве, акрытай вечаровай расой, Каця побач — па вузкай сцежцы. Ішлі няспешна, удумліва вялі гаворку, прыглядваючыся адно да аднаго. Вусны дзяўчыны час ад часу расквечваліся прыязнаю ўсмешкаю, гэта заспакойвала Гардзея. Ён разумеў, што падабаецца ёй. І гэтага было ўжо дастаткова. Сур'ёзная і абачлівая Каця, як здавалася яму, была процілегласцю вясёлай і няўрымслівай Зосі. Калі старэйшая сястра хацела прадбачыць усё наперад, малодшая жыла адным імгненнем, загаралася шчасцем, як запалка, і згасала пры няўдачах, але новая радасць здатная была адрадзіць яе душу зноў.

Гардзея не хвалявала, што адбываецца з Зосяй, чаму яна пазбягае яго. Ён жа ёй у каханні не кляўся. Яму не хацелася прывязвацца да некага душою. Наперадзе яго чакалі невядомыя, але, ён спадзяваўся, вельмі добрыя падзеі. У прадчуванні іх Гардзей ашчаджаў душу, бярог сілы, каб дзейнічаць у новых умовах.

— Кажуць, цябе вылучылі кандыдатам у дэпутаты гміны? — спытала Каця і з цікавасцю заглянула яму ў вочы.

— Так, — і на твары Гардзея адбілася ўпартасць і, як падалося Каці, ганарыстасць.

— Для цябе гэта важна?

Гардзей адказаў не адразу, памаўчаў, а потым загаварыў, узважваючы кожнае слова. Ён упарта вучыўся гаварыць нетаропка, нешматслоўна, каб слухач змог глыбока зразумець ягоную думку.

— Думаю, што гэта важна нам усім, вяскоўцам, малапісьменным ці непісьменным людзям. Мы ж не дурнейшыя за паноў і асаднікаў, якія засядаюць у гміне. Іх па пальцах можна пералічыць, а яны трымаюць у руках лейцы

---

Заканчэнне**.** Пачатак у № 3, 2010 г.

і кіруюць тысячамі бедных людзей, абіраючы іх да ніткі. Сялянскія дзеці не маюць магчымасці ні вучыцца, ні набываць прафесіі, бо гэта каштуе вялікіх грошай. Як людзі праваслаўныя мы не можам сякераю зганяць багацеяў з прыбытковых месцаў. Трэба спрабаваць законным шляхам браць тое, што належыць нам. З-за сваёй непісьменнасці і недасведчанасці мы ж нават не ведаем ні законаў, ні сваіх правоў. А калі паглядзець, скуль узяліся гэтыя паны ды падпанкі? Набрыдзь нейкая панаехала з Польшчы!

Гардзей пачынаў губляць раўнавагу, у голасе ягоным стаў прарывацца гнеў і нянавісць да прыхадняў:

— Асаднікі атрымалі па сорак і болей гектараў зямлі. За што? Ці бачыце, яны Польшчу баранілі! Дык няхай бы іх Польшча і ўзнагародзіла сваёй зямлёю. Не, яны нашу знайшлі!

— Я цалкам згодная з табою, Гардзей. Але ж ці ўдасца табе перамагчы, — выказала сумненне Каця.

Гардзей засмяяўся нервовым смехам.

— А гэта, даражэнькая, ужо залежыць ад вас, выбаршчыкаў. Прагаласуеце за мяне ці мо аддасце перавагу асадніку…

— Безумоўна, за цябе, — адказала Каця.

— Ну, вось і выдатна, я магу разлічваць на поспех, — прамовіў Гардзей, спрабуючы абняць Кацю, але яна выслізнула з-пад яго рукі.

— Гэта цяпер для цябе галоўнае? — спытала яна.

«Яе так проста не прыгорнеш. Ёй, напэўна, спярша трэба прынесці клятву на вернасць», — незадаволена падумаў Гардзей. Хаваючы прыкрасць у душы, ён напусціў на сябе сур'ёзнасць і адказаў:

— Галоўныя для мяне цяпер маці-радзіма і бацька-народ, а яшчэ вера ў Бога, бо толькі на ягоную дапамогу я магу разлічваць у жыццёвых нягодах. Можа здарыцца, што і радзіма адвернецца, і народ не зразумее, а Бог прыме кожнага. Гаворыцца ж у Бібліі, што «Ідзе Гасподзь выкрыць усіх нячыстых ва ўсіх жорсткіх словах, якія прамаўлялі на яго бессаромныя грэшнікі».

— Усё наша вернецца нам па справах нашых, — згадзілася Каця.

Гардзей здзіўлена зірнуў на дзяўчыну і сказаў:

— А ведаеш, ніколі яшчэ ў жыцці не сустракаўся мне чалавек, які б так разумеў мяне.

— Часам і я чытаю Біблію.

— А я думаў, што цябе цікавяць толькі любоўныя раманы.

— Раманы, між іншым, я больш люблю гістарычныя, але і любоўныя — таксама. А цікавасць да Бібліі ў маёй душы абудзіў ты. Я спрабую зразумець цябе, твае парыванні.

— О, калі сказаць папраўдзе, дык я і сам сябе далёка не заўсёды разумею.

— Я гатова табе дапамагчы, — сказала Каця, і хітры агеньчык мільгануў у яе вачах.

— Паспрабуй… Як ты гэта зробіш?

Гардзей апантана ўцягваўся ў гульню, якую прапанавала яму дзяўчына. Зрэшты, абаім абрыдла сур'ёзная гутарка. Хіба для гэтага даюцца цёплыя і ціхія вечары?

— Калі ты збіраешся жаніцца? — спытала Каця.

— Не ведаю. Мне спачатку трэба пааддаваць замуж сясцёр, ды і ў мяне ж яшчэ і дзяўчыны няма.

— Дзяўчат у цябе цэлая вёска! Шмат хто гатовы пакахаць цябе.

— Каханне — рэч узаемная, даецца адно на дваіх, — заўважыў Гардзей.

— Няўжо ты яшчэ не кахаў?

— Не… Праўда, здараліся іншы раз залёты. Нічога сапраўднага… Але, Каця, больш я табе не скажу ні слова. Ты ж не поп. Не жадаю спавядацца, а хачу цалавацца.

Гардзей ашчаперыў Кацю, пацалаваў у вусны. Яна сумелася ад нечаканасці і сказала з папрокам:

— Ты ж мяне не кахаеш. Тады навошта…

— Цалавацца я магу і без кахання, — засмяяўся Гардзей.

— Без кахання? — разгублена перапытала Каця.

— А што тут такое, калі што якое…

Каця адступіла на два крокі, непрыязна паўзіралася ў твар хлопца, раптам павярнулася і хутка пайшла ў бок сваёй хаты.

— Каця, ты чаго? Пакрыўдзілася? Я ж нічога благога не думаў, — пачаў апраўдвацца Гардзей, дагнаўшы Кацю. — Ты дзяўчына, я хлопец… Гэта ж звычайная справа. Мы ж нават ворагаў сваіх павінны любіць, а што ўжо да бліжняга, дык гэта ж зусім не забараняецца!

— Я ў такім разе не хачу быць тваёй бліжняй. Лепш буду дальняй!

Гардзей пасміхнуўся сам сабе і вырашыў перавесці ўсё ў жарт.

— Ты ведаеш, што ў Бібліі напісана на гэты конт?

— Што? — спытала і спынілася Каця.

— Падумай сама, калі мы будзем любіць толькі тых, хто любіць нас, якая ж нам будзе ўзнагарода? Я абавязаны любіць усіх, — з пафасам заявіў Гардзей.

Каця памаўчала, быццам спрабуючы схаваць свой гнеў, але не стрымалася і прамовіла са злосцю:

— Любіць ты можаш увесь свет, а кахаць толькі адну! Гэтаму цябе вучыць бацька-народ, які стварыў два словы ў нашай мове: любоў і каханне. Нават маці-радзіму не кахаюць, ёй дастаткова любові. І Богу патрэбны твая любоў і вера. А цалаваць дзяўчыну ты можаш толькі тады, калі пакахаеш яе.

— Кацечка, як жа я яе пакахаю, калі не пацалую, — жаласліва прастагнаў Гардзей.

— Не блазнуй і не праводзь мяне. Дарогу дамоў і ўпоцемку знайду, не сляпая.

— Не, ужо дазволь, я правяду цябе туды, дзе ўзяў.

— Як хочаш, — абыякава адказала Каця.

«Бач ты, як вылезла Кірылава парода! Якая гарачая, які імпэт, толькі прыхаваныя пад разважлівасцю. Парода ёсць парода, — думаў Гардзей, ідучы побач з маўклівай і пакрыўджанай Кацяй. — Нічога, не апошні дзень жывём на свеце. У нас яшчэ будзе час упэўніцца, хто мацнейшы і разумнейшы».

— Дзякуй, што правёў, — сказала Каця, праходзячы ў свой двор.

— Пачакай, — папрасіў Гардзей.

— Бывай, — адказала яна з цемры, ужо адчыняючы дзверы ў хату.

«Няўжо не ўдасца скарыць гэту цнатліўку? — падумаў з запалам. — Не адкруціцца! Сама прыпаўзе. Будзе маліць. Вазьмі мяне! А я не вазьму! Не, зрэшты, магу і пакарыстацца».

Гардзей засмяяўся і, насвістваючы, падаўся ў бок Крачак па палявой сцежцы, абапал якой цягнулася духмянае жыта. Яно дыхала пахам хлеба, змяшаным з водарам лугавога разнатраўя. З асцярогаю падумаў пра русалак, якія жывуць на полі, але адагнаў прымхлівы страх, пакепліваючы з сябе, маўляў, да якога жыцця дайшоў, што нават дзяўчына толькі што не захацела з ім цалавацца. Ну, няхай сама сябе цалуе…

**23**

Зося ўважліва назірала за сястрою. Бачыла, як сумуе Каця па вечарах: сядзіць каля хаты, быццам і чытае кніжку, а сама раз-пораз падымае галаву і пазірае ў бок Крачак. Пэўна, выглядае Гардзея. «Чакай, чакай, нічога ты не дачакаешся, — думала Зося. — Гардзея разумнымі размовамі не ўтрымаеш. Яго наогул нічым немагчыма прывязаць да сябе. Нездарма яго прозвішча Рахуба. Ён гэтую самую рахубу скрозь шукае. І мне трэба пра яго забыць назаўсёды. Не кахае ён мяне. Зрэшты, ён нікога не кахае».

Зосі згадалася нядаўняя выпадковая сустрэча з Марфаю. Тая ішла, перавальваючыся з нагі на нагу і несучы перад сабою вялікі жывот. Павіталася, спыніла Зосю, спытала:

— Ці ходзіць да цябе Гардзей?

— А табе якая справа? — злосна адказала Зося.

— Не вер яму.

— Чаго ты пра мяне клапоцішся, пра сябе думай.

— Вось, дурніца, я ж табе дабра жадаю.

— Соль таму ў вочы, хто нам дабра хоча, — прымхліва прамовіла Зося вядомую ў тутэйшых мясцінах прымаўку і пайшла далей, не азіраючыся, з пагардаю і прыкрасцю думаючы пра тое, што вось і Марфа хацела забраць у яе Гардзея, ды во што выйшла.

Зося села побач з Кацяй на прызбе, спытала:

— Цікавая кніжка?

Каця нехаця адвяла вочы ад старонкі, абыякава паглядзела на Зосю, адказала:

— Вельмі…

— А як называецца?

— «Графіня Козель».

— Я таксама пачытала б, каб бачыла. Вельмі ж дробныя тут літаркі…

— Табе трэба акуляры купіць, — параіла Каця.

— Не буду я ў акулярах хадзіць, людзей смяшыць, — заўпарцілася Зося.

— Ты ж не бачыш сапраўдных колераў, чытаць не можаш…

— Тое, што трэба, я і без акуляраў разгледжу. А ты мне раскажы, пра што там напісана?

— Пра каханне. Як дачытаю да канца, тады і раскажу.

— Каця, сёння святая нядзелька. Давай сходзім на вячоркі, — прапанавала Зося.

— Не люблю я гэтых зборышчаў, не пайду.

— А я пайду! Мне ж не сто гадоў, каб на прызбе сядзець!

— Ідзі. Ці цябе хто трымае? –- безуважна адказала Каця і зноў схілілася над кніжкаю.

Зося пругка паднялася, пайшла ў хату, а праз колькі хвілін выйшла ў блакітнай паркалёвай сукенцы, якую па-майстэрску пашыла ёй Каця.

— Паглядзі на сваю работу, — папрасіла Зося ўсмешліва.

Каця адарвалася ад чытання, акінула Зосіну постаць позіркам, задаволена сказала:

— Ідзі, пахваліся маёй працай.

— Абавязкова буду ўсім казаць, што гэта ты пашыла, няхай нясуць табе шытво.

— Яны звыклі хадзіць у андараках.

— Не, ужо зрэдку дзяўчаты і ў крамным прыходзяць, — запэўніла сястру Зося.

Зося выйшла за вароты і, здавалася, не пайшла, а паляцела над высокім недаспелым жытам, над сінімі валошкамі, што прывабна сінелі зорачкамі паміж сцяблін. Прыпол лёгкай сукенкі развяваўся, як ветразь, валасы вакол ілба закучаравіліся. Уся яна была лёгкая, нібы аблачынка на ясным летнім небе. Гэтая лёгкасць напаўняла душу, хацелася падскочыць, падбегчы або закружыцца на палявой сцежцы, як кружылася ў вальсе з Гардзеем. І яна пачала вальсіраваць, уяўляючы, што каханы трымае яе за стан і вядзе, вядзе… Галава закружылася, Зося расплюшчыла вочы і ўбачыла перад сабою Гардзея.

— Ты? Тут? Адкуль? — здзівілася яна.

— Адразу і столькі пытанняў. Добры дзень, Зоська, — адказаў Гардзей, абдымаючы дзяўчыну. — Я да вас ішоў.

Яна адскочыла ад ягонай рукі так, быццам уджаліла гадзюка.

— Не дакранайся да мяне!

— Ты чаго? — ён паглядзеў неўразумела і пакрыўджана.

— Я ненавіджу цябе! Ненавіджу твае вочы, рукі! Зразумеў?

— За што? — з напускным здзіўленнем спытаў Гардзей.

— Ідзі, там цябе Каця чакае.

— Няўжо ты раўнуеш мяне да сваёй сястры? Я ж да цябе ішоў.

— Да мяне ты ўжо адхадзіў! Хопіць! — закрычала Зося, голас сарваўся на плач, каб схаваць слёзы, яна кінулася бегчы да вёскі.

— Пачакай, шаляніца, — крыкнуў Гардзей услед, але Зося яго ўжо не пачула.

Яна бегла па сцежцы, каласы балюча сцябалі па руках і па твары, а здавалася, што яе даганяе няшчасце, ад якога абавязкова трэба ўцячы, схавацца. Задыхана спынілася толькі тады, калі выбегла на гасцінец, выцерла потны лоб, агледзелася. Гардзея не было. З палёгкаю падумала, што хлопец пайшоў да Каці.

З-пад ліп чуўся заліхвацкі голас гармоніка. Зося накіравалася туды няспешнаю хадою, даючы спачын разгарачанаму целу. Як толькі наблізілася да гурту дзяўчат, адразу побач апынуўся Мікола Іванюк, запрасіў на польку. Танец завіхурыў іх, закружыў, прымушаючы два юныя целы рухацца, як адно. Рыжаваты Міколаў чуб узлятаў над ілбом, рабіў яго падобным да маладзенькага пеўніка, які толькі спрабуе голас, смешна выцягвае шыю. Нават нос у Міколы быў падобны на пеўневу дзюбу, востры і трохі прыгнуты ўніз. І вочы ён меў па-курынаму круглыя і бездапаможныя.

Увесь вечар Мікола не адыходзіў ад Зосі. Адскакалі незлічоную колькасць розных танцаў, а калі месяц цікаўна звесіўся з неба, зоркі яскрава разгарэліся, вабячы сваім хараством, і час пераваліў за поўнач, Зося стомлена сказала:

— Годзе, павесялілася. Пара дахаты, бацька будзе сварыцца.

— Я праваджу цябе, Зоська, — з гатоўнасцю прапанаваў Мікола.

— Пайшлі, калі ног не шкада, — спакойна адказала яна.

— Няўжо ты не баішся хадзіць адна?

Зосі раптам згадалася тая ноч, калі яна блукала ў лесе ў пошуках смерці, аднак прырода выратавала яе, дала магчымасць выжыць, адказала:

— Каго мне баяцца? Ліхадзеі ў нас не жывуць, а злы дух добрых людзей не чапае.

— Адважная ты! Я і то часам баюся хадзіць адзін поначы.

— Калі баішся, дык лепш не праводзь, — адказала Зося.

— Мне так добра з табою, што не хочу развітвацца, — прызнаўся Мікола.

Яны пайшлі поруч да дарогі. За іхнімі спінамі ўсё яшчэ не сціхаў гармонік, дзяўчаты і хлопцы спявалі прыпеўкі.

Зося раптам спатыкнулася, войкнула. Мікола падтрымаў яе за руку.

— На камень наступіла, ледзь не ўпала. Ажно нага забалела, — паскардзілася Зося.

— Можа, на руках паднесці? — з гатоўнасцю спытаў Мікола.

— Паднясі, хоць адпачну, — засмяялася Зося.

Мікола лёгка падхапіў дзяўчыну на рукі і панёс.

— Які ты дужы! — здзівілася яна.

— Ці такія мяхі з бульбаю ды жытам цягаю! — усміхнуўся Мікола.

Раптам пяском сыпнула ў твар Зосі з-за Міколавай спіны.

— Што гэта? — ускрыкнула дзяўчына.

Мікола адпусціў Зосю, азірнуўся. Крокаў за пяць ад іх стаяў Гардзей.

— Звар'яцеў? Будзеш каменнем кідацца! — пайшоў Мікола на Гардзея, сціснуўшы кулакі.

— Буду! А ты што думаў? Адыдзем, пагаворым!

Хлопцы, тузаючы адзін аднаго, адышлі ўбок, пачалі лаяцца. Раззлаваная Зося паглядзела на іх з пагардай, хмыкнула, прабурчала сабе пад нос: «Пеўні! Пеўні дурныя!» і пайшла да свайго хутара, думаючы пра тое, што Гардзей і сам не жыве, і ёй жыцця не дае. І колькі ж гэта будзе доўжыцца?

Калі была недалёка ад сваёй хаты, яе дагнаў Гардзей, схапіў за руку, папрасіў:

— Пачакай, калі ласка, малю цябе. Скажы, чым я перад табою вінаваты? Я ж не ведаю, што цябе турбуе? Што я зрабіў не так? Чым пакрыўдзіў? Думаў, у Каці дазнаюся. А яна таксама нічога не здолела патлумачыць.

Ён быў зараз такі пакорлівы, бездапаможны, што Зосі раптам зрабілася шкада яго. Яна адказала, каб заспакоіць хлопца:

— З чаго ты ўзяў, што я крыўдую?

— Ты ж крычала, што ненавідзіш мяне.

— Мне на вячоркі хацелася, паскакаць, павесяліцца. А тут ты раптам выскачыў, як Піліп з канапель. Ну, думаю, зараз зноў задурыць галаву! Трэба неяк адбіцца. Толькі і ўсяго, — схлусіла Зося.

— Прабач маю дурноту. Давай прысядзем тут, на muражку. Так цябе даганяў, што стаміўся.

Ён разаслаў пінжак на траве, сеў, пацягнуў за руку Зосю, пасадзіў побач. Абняў за плечы.

— Не чапай мяне, — ухілілася ад абдымкаў Зося.

Гардзей прыняў рукі, паглядзеў у пасвятлелае неба, потым перавёў вочы на дзяўчыну, прашаптаў:

— Ты мяне напалохала! Пабачыў цябе з ім — ледзь не звар'яцеў...

— Чаго ж гэта ты так захваляваўся? — насмешліва спытала Зося.

— Чаго, чаго! А таго!

Гардзей нахіліўся, сарваў кветачку рамонка і гарэзліва кінуў Зосі за пазуху. І з гэтым белым венчыкам, які акаляў залатую сярэдзінку, быццам упала дзяўчыне за пазуху само сонца, распаліла сэрца, напоўніла душу невыказным пачуццём любасці, жадання, прагі, якую можна было наталіць толькі ягонымі пацалункамі і абдымкамі. І забылася Зося пра свае нядаўнія беды і мітрэнгі, аддалася на волю лёсу і Гардзеевых жаданняў. І зноў не было на свеце жанчыны шчаслівейшай за яе…

## 24

Жніво вывела ўсіх сялян на поле. На досвітку людзі на вазах ехалі да сваіх палеткаў, прыглядаліся да каліў, ці няма заломаў, ці хто не наслаў на хлеб псоты. Шапталі малітвы і замовы, па старадаўняй звычцы просячы Бога, каб даў добрага ўраджаю і здароўя шчасліва завяршыць жніво без вераду ў спіне ці якой іншай немачы.

Сям'я Барэйшаў — Кірыла, Каця, Зося і Серафім — таксама выйшла на свой палетак. Маладыя жалі сярпамі. Кірыла круціў перавяслы, звязваў снапы, ставіў іх у бабкі. Зося адразу пачала паказваць свой спрыт, пайшла так хутка ўперад, што Серафім і Каця, як ні стараліся, не здолелі яе дагнаць. Дзве русыя касы матляліся за спінаю, часам падаючы ўперад на грудзі.

— Няхай ляціць! — насмешліва сказала Каця Серафіму. — Пабачым, наколькі яе хопіць.

— У Зосі рукі доўгія. Як захопіць, дык адразу цэлы сноп зразае.

— Вы б замест балбатні жалі хутчэй. Як сонца высока падымецца, тады ўжо напоўніцу не напрацуеш — спякота адолее, — агрызнулася Зося.

— Хоць бы хустку завязала, сонца галаву напячэ, — папярэдзіла Каця.

— Горача мне…

— Годзе вам! Знайшлі дзе сварыцца! — прыкрыкнуў на дачок Кірыла. — Грэх на хлебным полі спрэчкі заводзіць — праца не зладзіцца.

Дзяўчаты аціхлі, чутно было толькі, як добра назубленыя сярпы ўразаюцца ў даспелыя сцябліны жыта, сцінаюць іх, пакідаючы пасля сябе калючую пожню, там-сям перавітую зялёнаю коскаю мышынага гарошку. Жніво — гэта не проста праца, гэта вянец цыкла сялянскага года. З восені гаспадар рыхтаваў глебу, сеяў азіміну, дасяваў ці перасяваў, калі нешта вымярзала зімой, назіраў за сваім палеткам, прасіў у Бога дажджу, сонца і ветрыку на час апылення, а зараз збіраў плён сваёй працы. Але і пасля жніва збажыну яшчэ трэба было змалаціць, правеяць, высушыць, змалоць і толькі пасля гэтага рашчыніць і замясіць цеста ды спячы хлеб са свежага ўмалоту. У нядбайнага чалавека зерне магло загінуць на ўсялякім з гэтых этапаў, таму да хлеба ў сялян было асабліва пачцівае стаўленне. Крый божа, зняважыць або пакрыўдзіць хлеб, тады будзеш галадаць рэшту жыцця.

Зося з асалодаю жала. Яе цела, налітае здароўем і сілай, любіла аддавацца працы да цяжкай стомы, ад гэтага яна атрымлівала задавальненне і ўпэўненасць у тым, што патрэбная сям'і, гэтаму палетку і наогул свету. Праца натхняла, прыносіла радасць, праз яе дзяўчына сцвярджалася, пачуваючы сябе годным чалавекам і забываючы ўсе свае дзявочыя турботы і мітрэнгі.

Каця разагнулася, расціраючы паясніцу, пастаяла хвіліну і пачала зноў жаць. Следам за ёю і Серафім разагнуўся, дастаў капшук, скруціў цыгарку, прапанаваў Кірылу:

— Давай перакурым, дзядзька.

Кірыла няспешна падышоў да пляменніка. Закурылі, са смакам зацягваючыся.

— Жыта не спаліце, — засмяялася Зося. — Шукаеце прычыны, каб адпачыць.

Кірыла не стаў увязвацца ў гаворку з дачкою, а падхапіў сноп і панёс да капы. Размовы ў час працы не патрэбны, не доўга і руку парэзаць, асабліва цяпер, калі сонца прыпякае, а пот залівае вочы. Рэдка якой жнейцы ўдаецца перажыць жніво і хоць трохі не параніцца.

Зося жала і ўвесь час думала пра Гардзея. Згадвала іхнія сустрэчы, напоўненыя мілаваннем і пяшчотаю. Сэрца замірала, і гарачая хваля залівала цела,

калі яна згадвала ночы, праведзеныя разам з каханым. Але ўжо два тыдні ён быццам забыўся пра яе, таму Зося нудзілася і пакутавала ў здагадках, якая кошка прабегла паміж імі. Раптам адчула, што ёй робіцца млосна. Галава закружылася, усё паплыло перад вачамі. Зося яшчэ паспела адвесці руку ўбок, каб не напароцца на серп, і ўпала ў жыта.

— Што з табою? — першаю кінулася да сястры Каця. — Памажыце, дайце вады.

Над Зосяю схіліліся ўсе сямейнікі. Каця паднесла ёй да вуснаў вады, лёгенька паляпала па шчацэ — і да Зосі вярнулася прытомнасць. Яна расплюшчыла вочы, са здзіўленнем паглядзела на родных, спытала:

— Што здарылася?

— Нічога, — адказаў Кірыла. — Перапрацавалася ты, адпачні трохі пад капою, у цяньку.

Зося паднялася, каб ісці, і адчула, што яе водзіць у бакі. Так-сяк даплялася да капы, схавалася ў цянёк.

— Казала ж я, што сонца галаву напячэ, — упікнула сястру Каця.

— Ідзі, дачка, дамоў, адпачні. Заўтра мо палепшае, дык дажнеш сваё, — сказаў Кірыла. — Ніхто не ведае, дзе каго хвароба напаткае.

Зося папіла вады са збанка, зрабілася трохі лягчэй, дастала з торбы хустку, завязала, паглядзела на сямейнікаў, якія зноў узяліся за працу. Бацька падняў Зосін серп, пачаў таксама жаць, цяжка нагінаючыся. Яму, немаладому ўжо чалавеку, гэтая справа давалася нялёгка.

«Што ж гэта са мною? — занепакоілася Зося. — Няўжо зноў цяжарнасць? Божа мой, што ж мне рабіць? Гэта ж будзе дзіця ад Гардзея, адзінага, майго каханага…»

Але тут жа здрадліваварухнуўся на дне душы страх, нагадваючы пра ганьбу, якая чакае дзяўчыну, што прыгуляла дзіця: «Застаецца адно: ісці на балота шукаць зязюліна мыла? Дык вось чаму Гардзей не трапляе на вочы, адчувае, што нарабіў ліха. А калі сказаць яму? Што будзе? Нічога… Не прызнае, як не прызнаў Марфіна дзіця, ды яшчэ плёткі распусціць па сяле… Божа літасцівы, ратуй… Чаго гэта я тут разлеглася, трэба ісці бацьку памагчы. Цяжарнасць не хвароба. Наадварот, трэба працаваць як мага больш, каб пазбавіцца ад яе…»

— Мне палепшала ўжо, тата, — сказала Зося, забрала ў Кірылы серп, пачала жаць.

— Не спяшайся, — папярэдзіў бацька. — Дзень доўгі, беражы сілы.

Зосіна весялосць зляцела з твару, рукі захадзілі павольна, так што Каця з Серафімам хутка абышлі яе. Яна працавала механічна, занятая думкамі пра тое, як пагаварыць з Гардзеем і што рабіць з новаю і такою нежаданаю цяжарнасцю.

Па абедзе Зосі зноў зрабілася блага, яе пачало ванітаваць. Сямейнікі вырашылі, што дзяўчына атруцілася. Бацька настояў, каб дачка пайшла дамоў. Зося не працівілася.

Па дарозе яе дагнаў Мікола Іванюк. Ён ішоў побач з возам, на якім узвышалася гара снапоў, павітаўся з дзяўчынаю і хацеў тупаць далей, але Зося спытала:

— Ты злуеш на мяне?

— А чаго мне злаваць? — пацiснуў ён плячыма. — Ты ж Гардзеева. Ён казаў, што ў цябе з ім ужо даўно ўсё было…

Чырванню заліло Зосін твар, яна абурана сказала:

— Пляткар ён. Не вер яму!

— Ды мне што? Дзяўчат хапае, — абыякава адказаў Мікола.

Зося ўжо не пачула яго, яна рашуча павярнула ў бок балота. Вострыя прыліў нянавісці і абурэння выціскаў з душы закаханасць. Гардзей не толькі пакарыстаўся ёю, але яшчэ і хваліцца сваімі перамогамі! Цяпер яна бачыла сваё выратаванне толькі ва ўзвары з зязюлінага мыла.

## 25

Лета і восень для Гардзея падаліся тлумнымі і турботнымі. Даводзілася шмат часу патраціць на сустрэчы з сялянамі ў бліжэйшых вёсках у якасці кандыдата ў радныя гміны. Сустракаўся з моладдзю на вячорках, да старых падыходзіў, падсаджваўся да гурту на лаўках, часам з ім хадзіў Захар Маркевіч. Тады было значна лягчэй весці гутарку, бо цяжкая гэта справа нахвальваць сябе самога і прасіць, каб на выбарах прагаласавалі за цябе. Іншы раз ён браў з сабою хлопцаў з ячэйкі — Яўсея Пуха і Івана Валошчыка, але толку з іх было мала, не ўмелі яны ці не хацелі сказаць людзям добрае слова пра свайго сябра, а больш псавалі справу. Іншы раз Гардзею здавалася, што хлопцы з ячэйкі зайздросцяць яму. Вядома, няма прарока ў сваёй Айчыне.

На вяселлі сястры Дашы і Нічыпара Гардзей наогул пасварыўся з Яўсеем з-за пасагу. У сенях схапіліся загрудкі, пачалі біцца, ды людзі разнялі. Гардзей з упартасці не павялічыў надзел зямлі, які аддаваў Дашы, ні на адну дзесяціну, так што з першага дня стаў ворагам новым сваякам. Баяўся, што Яўсей пачне распускаць пра яго розныя плёткі, і людзі не падтрымаюць Гардзея на выбарах, аднак усё абышлося. Абранне ў раду гміны, бадай, было найвялікшаю радасцю за апошні час для Гардзея. Вестка сама сабою разнеслася па сяле, а ён пазбягаў лішні раз паказвацца на людзі, каб даўжэй нарадавацца. Ён хацеў стаць войтам, каб самому кіраваць гмінаю. І гэтая Гардзеева мара пачынала збывацца.

Першы сход, дзе сабраліся новыя радныя, прайшоў урачыста. Спачатку выступіў былы войт, асаднік Бяляцкі, невысокі, тоўсты і круглы, як жорны. Ён доўга апавядаў пра задачы і праблемы, якія належыць вырашыць новаму складу гміны. Школы, дарогі, масты, паселішчы, могілкі — усё гэта патрабавала пільнай увагі і фінансаў, якія трэба было сабраць з грамадзян. Але што можна сабраць з беднякоў? Таму радным трэба падтрымліваць сяброўскія кантакты з панамі, каб з іх ласкі папаўняць казну на патрэбы гміны і ўсяго грамадства.

Уважліва слухаючы Бяляцкага, Гардзей па-свойму разумеў і ацэньваў кожную фразу і прыйшоў да высновы, што менавіта асаднік, які добра прыгрэўся на пасадзе войта, і будзе галоўным ягоным ворагам у гміне. Але, паколькі сярод радных колькасць сялян пераважала, была надзея, што яны падтрымаюць яго пры абранні на пасаду войта.

Пачалі выбіраць праўленне гміны тайным галасаваннем. І зноў Гардзею давялося пахваляваца. Аднак у ліку пяці чалавек праўлення аказалася і прозвішча Гардзея. Гэта была перамога! Заставалася дамагчыся войтаўства. А як гэта зрабіць? Тым часам сход ішоў сваім парадкам. Цяпер слова ўзяў пан Райскі, ён сказаў, што радныя абавязаны пакляцца ў вернасці дзяржаве і народу. Раздаў усім тэкст клятвы, узмахнуў рукою, і ўсе пачалі чытаць: «Як член рады абяцаю, што буду працаваць у імя дабрабыту і росквіту гміны, заўсёды дзейнічаць згодна з законамі і на карысць гміны і яе жыхароў, сумленна служыць інтарэсам сваіх выбаршчыкаў і не шкадаваць сілы дзеля працы на гміну. Клянуся!»

Апошняе слова ўсе прамовілі прачула і даволі голасна, так што прагучала яно зладжана і ўрачыста. Пана Райскага гэта вельмі задаволіла. Ён належным

чынам выканаў пэўную частку праграмы, але наперадзе было самае галоўнае: абранне войта. Райскі звярнуўся да грамады:

— Панове, я віншую вас. З сённяшняга дня гміна пачынае працаваць, дзейнічаць на карысць грамадзян. Але для таго, каб яе дзейнасць была выніковай і разумнай, нам трэба абраць войта, мудрага і адказнага чалавека. У гэтай працэдуры бяруць удзел толькі члены праўлення. Прашу падаваць кандыдатуры. Але паколькі я стаю перад вамі, дык я прапаноўваю кандыдатуру пана Бяляцкага, які ўжо добра выявіў сябе на гэтай пасадзе, мае пэўны вопыт працы і кіравання гмінаю.

Гардзей агледзеў сялян, якія панура маўчалі, але не адважваліся пярэчыць пану, падняўся са свайго месца, хоць унутры ўсё кіпела, спакойна сказаў:

— Я прапаноўваю сваю кандыдатуру. Думаю, што і ў мяне няблага атрымаецца кіраваць гмінаю, бо я з сялян і добра ведаю ўсе патрэбы працоўнага чалавека.

— Добра, запішам яшчэ адну кандыдатуру, як прозвішча пана? — спытаў Райскі.

— Рахуба, Гардзей Рахуба, мы яго падтрымаем, — адказаў адзін з сялян.

Ад гэтых слоў Гардзею зрабілася добра на душы. Упэўненасць запаланіла яго. Ён нават усміхнуўся таму селяніну, імя якога не ведаў.

— Якія кандыдатуры будуць яшчэ? — спытаў пан Райскі.

Людзі маўчалі. І зноў для Гардзея пачаўся час сумнення і няўпэўненасці. А тым часам пісар напісаў на палосках паперы прозвішчы кандыдатаў, раздаў членам праўлення. Тыя выкраслілі непатрэбную кандыдатуру і ўкінулі паперкі ў скрынку. Спатрэбілася некалькі хвілін, каб падлічыць галасы. Пан Райскі, не хаваючы расчаравання на паружавелым твары, абвясціў, што па выніках галасавання праўлення гміны войтам абраны пан Рахуба. Сяляне весела загаманілі, пачалі віншаваць Гардзея, пацiскаць руку.

— Во, цяпер і мы ў панах паходзім, — сказаў той селянін, прозвішча якога Гардзей не ведаў, і па-сяброўску ляпнуў будучага войта па плячы.

— Як цябе завуць? — спытаў Гардзей.

— Адам Ступа.

— Дзякую, брат.

— Панове, цішэй, — зазваніў у званочак пан Райскі. — Абранне пана Рахубы войтам трэба яшчэ пацвердзіць у пана ваяводы, а пасля радавацца.

Гэтая заўвага астудзіла Гардзееву радасць, аднак усё ў руках Бога. Толькі на яго трэба цяпер спадзявацца. Што ж, калі ваявода не зацвердзіць селяніна на пасаду войта, дык гэта толькі пакажа марнасць ідэалізму, а заадно і тое, што з акупантамі трэба змагацца іншым спосабам. Не хацелася думаць пра благое. Трэба было прыняць той дарунак, які паслаў лёс. І Гардзей ціха радаваўся, што дасягнуў таго магчымага, чаго прагнуў. Але больш трымаць у сабе гэтую радасць ён не мог, хацелася падзяліцца ёю хоць з некім, і ногі самі сабою панеслі яго на Кірылаў хутар. Дзень надарыўся дажджлівы, ветраны, але Гардзей быццам не заўважаў слоты, наадварот, яму было прыемна падстаўляць твар кроплям дажджу.

Абедзве Кірылавы дочкі былі дома. Каця, якая нешта шыла, седзячы за ручною машынкаю, узрадавана ўскінула на госця вочы і сказала:

— Зусім ты забыў да нас дарогу, Гардзей.

— Не забыў, проста быў вельмі заняты.

Ён зірнуў на маўклівую Зосю, якая вязала панчоху з шэрай воўны і, як яму здалося, нават ні разу не падняла галавы, спытаў:

— Як вы пажываеце?

— Без перамен. Бацька з Серафімам пайшлі да дзядзькі Карпа, у іх там нейкія свае мужчынскія справы, а мы дома, — адказала Каця.

— Ты ўсё шыеш?

— Трохі зарабляю шытвом. Але табе пра гэта лепш не ведаць. Ты ж цяпер радны гміны, яшчэ падаткам абкладзеш, — засмяялася Каця.

— Пашыеш мне які пінжак, бо я ўсё хаджу ў гэтым вайсковым кіцелі, і адкупішся, — весела адказаў Гардзей.

— Пашыю, — з гатоўнасцю паабяцала Каця. — Будзеш самы прыгожы радны ў гміне!

Зося злосна бліснула вачамі на сястру і падумала: «Бач, як падмазваецца! Ну і няхай! Ненавіджу яго! І яе разам з ім! Што я тут раблю? Трэба ісці!»

— А я, між іншым, ужо не радны, — загадкава сказаў Гардзей.

— Не радны? — расчаравана перапытала Каця. — А хто?

— Пан войт!

— Праўда? Цябе выбралі войтам!

— Выбралі, але маю кандыдатуру пакуль не зацвердзіў ваявода.

— Шчыра за цябе радуюся! — усклікнула Каця і ажно сціснула рукі перад грудзьмі, нібы ў маленні.

Зося паднялася, закінула на печ сваё вязанне і выйшла з хаты.

— Чаго гэта яна? — спытаў Гардзей.

— А хто яе ведае? Дзівакаватая яна ў нас нейкая…

— Можа, вы пасварыліся?

— Сёння сварак не было. Яна апошнім часам маўклівая. Аднойчы чула ноччу, што ўсхліпвае, плача. Пачала пытацца ў яе, што здарылася. А яна нічога не адказала, прыкінулася, што спіць… Дзіця горкае… — заспакоіла Гардзея Каця.

— А ты як?

— Цябе чакала, — прызналася Каця і сарамліва апусціла вочы.

— Калі была патрэба, прыйшла б.

— Што ты, Гардзей, кажаш? Ці ж можна? Людзі засмяюць, скажуць, што бегаю за табою.

— Добрая ты дзяўчына, Каця, але небяспечная, — засмяяўся Гардзей. — Вельмі ты любіш, каб усё было правільна.

— А ты што любіш?

— Я найбольш люблю волю! Яна адна мне — жонка, каханка, сястра і сяброўка.

— Бог нас рассудзіць. Я спадзяюся на Бога, — адказала Каця. — Ён нам дае надзеі і здзяйсняе іх.

— Я буду радавацца за цябе, як ты за мяне, калі ў цябе ўсё будзе добра, — усміхнуўся Гардзей, нахіліўся і пацалаваў Кацю ў круглую бледную шчочку.

Каця сумелася, а потым усхвалявана спытала:

— Чаму ты кажаш адно, а робіш процілеглае?

— Хачу, каб ты ведала, што мы з табою сябры. Нам не трэба крыўдаваць з-за нейкага неасцярожна вымаўленага слова.

— Я не разумею цябе, Гардзей, — бездапаможна сказала Каця.

— Я сам сябе не разумею. Бачу прыгожую дзяўчыну — і адна думка ў мяне ўзнікае, што трэба яе пацалаваць.

Каця на імгненне зніякавела, а потым разгублена спытала:

— Ніколі не думала, што ты такі ветраны чалавек.

— Я нават горш, чым ветраны, але гэта ўжо назаўсёды, — усміхнуўся Гардзей. — Рады быў сустрэцца, а цяпер пайду.

— Заходзь калі, — папрасіла Каця і ўстала, каб правесці хлопца да парога.

Гардзей абняў яе, пачаў цалаваць, адчуваючы трапяткое ўсхваляванае цела. Падхапіў на рукі, панёс на запечак, пытаючы на хаду:

— Твае не вернуцца?

— Не ведаю, — разгубілася Каця.

— Ну мы ж пачуем, — адказаў ён, кладучы яе на пасцель і загаляючы спадніцу.

— Не! Што ты! Што надумаў? — крыкнула Каця і з усяе сілы адштурхнула Гардзея.

— Нічога такога… А ты для чаго мяне запрашала? — у сваю чаргу запытаў ён.

— Грэх табе! Грэх!

— Вядома, грэх. Але ж без яго і людзей не было б на свеце.

Каця затуліла твар рукамі і заплакала.

— Прабач, — сказаў Гардзей. — Не хацеў цябе пакрыўдзіць. Жыццё і мары — рэчы розныя. Бывай!

Гардзей выйшаў з хаты, акінуў позіркам двор і ля клуні ўбачыў Зосю. Ён хмыкнуў сабе пад нос і весела падумаў: «Вось дзе ты схавалася. Ад мяне не ўцячэш…» Хлопец няспешна выйшаў з двара, нават не зірнуўшы на вокны, адкуль за ім магла назіраць Каця, накіраваўся ў бок вёскі, але як толькі дайшоў да кустоўя, адразу павярнуў да клуні.

## 26

Зося складвала дровы, якія ранкам насек Серафім. Раптам нехта моцна абняў яе за плечы. Яна ажно ўскрыкнула ад нечаканасці. Азірнулася, убачыла Гардзея, рашуча вызвалілася з ягоных абдымкаў.

— Ты чаму такая злосная? — спытаў хлопец, напускаючы на твар выраз крыўды.

— Чаго накідваешся, як галодны на сала? Я ж табе не жонка!

— Зоська, які дурань жонак абдымае? — засмяяўся Гардзей.

— Ага, вам абы запрэгчы, а пасля не да абдымкаў…

— Я так даўно цябе не бачыў, засумаваў страшэнна, а ты нават паглядзець на мяне не хочаш, — упікнуў дзяўчыну Гардзей і стаў таксама падбіраць паленне і складваць у касцёр.

Нейкі час яны працавалі моўчкі, як бы цалкам занятыя справаю. Але калі абедзве рукі пацягнуліся да апошняга паленца, а хлопец і дзяўчына сутыкнуліся лбамі і ледзь не зваліліся, Гардзей засмяяўся, падтрымліваючы Зосю пад локаць. І яна таксама не здолела стрымацца, залілася звонкім смехам. Тады Гардзей абняў яе і пачаў цалаваць. Так, цалуючы, і завёў у клуню, далей ад чужых вачэй. Зося раптам схамянулася, адштурхнула Гардзея і сказала з дакорам:

— Зноў за сваё?

— Пра што ты, Зоська? Няўжо я калі цябе пакрыўдзіў? Давай пасядзім, пагамонім. Я так даўно твайго голасу не чуў. Толькі ў хату зайшоў, дык ты адразу збегла…

Гардзей узяў Зосю за руку, павёў у глыбіню клуні, сеў на сена, пасадзіў дзяўчыну побач, палез у кішэню, дастаў загорнутага ў бліскучую паперку цукровага «пеўніка», даў Зосі са словамі:

— Частуйся.

— Вой, «пеўнік»! Такія на рынку ў Самары прадаваліся! — здзівілася дзяўчына і міжвольна пацягнулася рукою да ласунка, якога не каштавала ўжо шмат гадоў.

Яна разгарнула паперку, лізнула цукерку і з асалодаю прашаптала:

— Смаката! Здаецца, што смачней, чым было ў маленстве. Пакаштуй, — Зося працягнула «пеўніка» Гардзею.

Хлопец лізнуў і задаволена сказаў:

— Давай па чарзе.

Зося павярнулася да Гардзея тварам, з усмешкаю падносіла «пеўніка» да сваіх вуснаў, а потым падавала хлопцу. Так аддаюць пяшчоту і каханне, захапленне і таемныя пацалункі. Яны лізалі цукерку, пакуль тая не стала зусім празрыстаю, як пачуцці, што свяціліся ў маладых вачах. Тады Гардзей узяў гэтую смактульку і кінуў у дальні кут:

— Няхай мышкі пачастуюцца за наша здароўе. А я зліжу слодыч з тваіх вуснаў.

Гардзей пачаў цалаваць Зосю, навальваючыся на яе ўсім целам. Яна знясілена папрасіла:

— Не чапай мяне. Ты і ўявіць сабе не можаш, колькі ўжо гора мне прынёс!

— Якое гора? Я ж нічога не ведаю. Чаму ты са мною ніколі не дзелішся сваімі нягодамі?

— Як дзяліцца з хлопцам дзявочымі бедамі? Ты ж мне чужы чалавек!

— Не ведаю, мо я табе і чужы, але ты мая! Мая! — горача прашаптаў Гардзей ёй на вуха.

Ягонае дыханне раптам адгукнулася ў яе целе гарачым прылівам пяшчоты і жарсці. Прыйшло адчуванне, што ён кахае яе, але яна ўсё яшчэ не верыла свайму шчасцю і спытала:

— Чаму ты забываеш пра мяне, месяцамі не заходзіш, а потым раптам з'яўляешся, як снег на галаву? Я не разумею цябе і сябе! Зусім заблыталася. Не ведаю, як і чым жыць…

Ён усміхнуўся. Прыгладзіў яе валасы, што выбіліся з-пад хусткі. Яна скінула хустку і ўздыхнула вальней, як быццам толькі гэта і замінала ёй.

— Працей трэба жыць. Ты ж разумееш, быў я вельмі заняты: вяселле сястры, выбары ў гміну, гаспадарка і яшчэ шмат што. Прабач, калі цябе гэта крыўдзіць, але ж ад мяне таксама не ўсё залежыць…

— А што ад мяне залежыць? Задавальняць твае патрэбы?

— Зоська, Зоська, якая ж ты сур'ёзная! Мне ж нічога не трэба. Толькі слухаць твой голас, адчуваць тваё дыханне побач...

Гардзей заплюшчыў вочы, быццам задрамаў. Зося схілілася над ім, з любасцю ўзіралася ў прыгожы твар і міжвольна пацягнулася вуснамі да яго вуснаў. Ён быццам чакаў гэтага моманту, абняў яе, пачаў горача цалаваць, шаптаць нешта няўцямнае. Зосіна душа вырвалася з цела і безразважна паляцела насустрач каханню, якое лілося з ягоных вачэй, рук, наталялася, як жывою вадою, і не магла наталіцца. Бо каханне — гэта толькі фантом, што нечакана з'яўляецца і гэтак жа нечакана знікае, пакідаючы гарачы след. Гэтак маланка разразае напалам неба, здаецца, зараз дзве ягоныя палавіны са страшэнным грукатам зваляцца на зямлю. Але маланка знікае, а чорнае неба па-ранейшаму нерухома грувасціцца над зямлёю. Зноў і зноў маланка апярэзвае неба ў марным намаганні раскалоць яго, пакуль не аціхне навальніца і не прыйдзе час спакою. Тады толькі выяўляюцца расколатыя дрэвы, абабітая лістота, зламаныя галіны. Такое ж і чалавечае жыццё — з хваляваннямі, нягодамі, навaламі і часовым спакоем. Напэўна, трэба прымаць усё, што яно прыносіць, не палохацца, не хавацца, не адгароджвацца ад яго, каб пасля не шкадаваць пра няспраўджаныя спадзяванні, недасягнутыя мары, непадзеленае каханне. Зося была, як тая знічка, што губляе жыццё за адзін момант палёту. І, напэўна, гэта

была не легкадумнасць, а падсвядомая мудрасць яе чалавечай сутнасці, бо аддавала сябе таму, каго кахала. Дзеля яго была гатовая ахвяраваць жыццём, калі толькі гэта яму спатрэбіцца. Здаецца, вечна ляжала б побач, паклаўшы галаву на яго плячо, і больш нічога ў жыцці не трэба…

## 27

Радныя сабраліся на чарговы сход гміны. Сядзелі ў прасторным пакоі, дзе на сцяне вісеў бронзавы польскі герб у выглядзе арла з распасцёртымі крыламі і стаяў на стале бела-чырвоны сцяг. Сяляне абменьваліся вясёлымі позіркамі, спадзеючыся, што ўпершыню войтам стане чалавек з сялянскага асяроддзя. У Гардзеевай душы змяёй варочалася сумненне. Занадта ўрачыстымі выглядалі паны Райскі і Бельскі. Стваралася ўражанне, што яны ўжо адсвяткавалі перамогу.

Пан Райскі выйшаў да стала, накрытага зялёным сукном, з паперамі ў руках і звярнуўся да прысутных:

— Панове, маю гонар абвясціць вам, што ваявода зацвердзіў кандыдатуру войта нашай гміны. І ад сённяшняга дня ў нас ёсць усе магчымасці для таго, каб плённа працаваць, да каляд зацвердзіць бюджэт гміны і памеры збораў, вызначыць асноўныя напрамкі дзейнасці і супрацоўніцтва з прадпрыемствамі і ўстановамі…

Сэрца Гардзея сцялося ад напружання. Ён ледзьве стрымліваў сябе, каб не крыкнуць: «Годзе малоць пустое!» А пан Райскі не спяшаўся называць імя чалавека, прызначанага войтам, а ўсё балбатаў пра перспектывы і планы будучай працы, пра адкрыццё новай польскай школы і бібліятэкі, пра наладжванне кірмашоў, нават падлічыў, якія прыбыткі з гэтага можна мець, і запланаваў ураджай збожжавых на наступнае лета. Нехта з сялян не вытрымаў і сказаў:

— Каб гэтыя словы ды Богу ў вушы…

— Не бойцеся, Бог усё чуе і робіць так, як належыць, — строга азваўся пан Бяляцкі. — Майце гонар паводзіць сябе прыстойна, калі выступоўца трымае прамову.

Пан Райскі нарэшце зразумеў, што ён перабраў меру ў інтрыгаванні прысутных і сказаў:

— Прашу ўвагі. Настаў урачысты момант, я хачу абвясціць імя новага войта. Вось загад ваяводы, у якім гаворыцца наступнае: радны гміны пан Гардзей Рахуба не можа быць прызначаны войтам, бо з 1926 года лічыцца ненадзейным грамадзянінам, таму войтам прызначаецца пан Здзіслаў Бяляцкі, чыя кандыдатура таксама выстаўлялася на пасаду войта. Павіншуем жа пана Бяляцкага і пажадаем яму плённай працы на карысць гміны.

Пан Райскі запляскаў у далоні, але яго ніхто не падтрымаў. Сяляне незадаволена загаманілі. Гардзей падняўся і выйшаў, нікому не кажучы ні слова. Усе яго спадзяванні на тое, што з уладаю можна супрацоўнічаць, абрынуліся ў адзін момант. Акупанты ведалі сваю карысць і не жадалі адступаць ні на крок.

«Наіўны дурань, захацеў войтам стаць! Столькі часу дарма страціў! Столькі сілы і надзеі ўклаў! І ўсё сабаку пад хвост! — лаяў сам сябе Гардзей. — Ды хто ж табе дазволіць? Дзякуй богу, што яшчэ ў турму не загрэблі. А што? Да гэтага трэба быць гатовым. Сёння ж перагледжу літаратуру, усё лішняе прыхаваю, каб ні адна нюхаўка не знайшла. А камуністы мараць прайсці пятым спісам у сейм! Нічога ў іх не атрымаецца! Дарэмныя надзеі! Няўжо ўлады нам даюцца ад Бога? Можа, і так! У якасці пакарання і навукі!»

Гардзей разважаў сам з сабою, размахваў рукамі, нават час ад часу нешта прамаўляў услых. Ён і не пачуў, як яго дагнала фурманка.

— Здароў, Гардзей! — аклікнуў хлопца знаёмы голас. — Сядай, падвязу.

Гардзей зірнуў на фурмана. З воза прыязна ўсміхаўся Марк. Гардзей пацiснуў працягнутую руку, ускочыў на воз.

— Ты чаго такі змрочны? — спытаў Марк. — Ці заганарыўся, што ў начальства трапіў?

— Няма чым ганарыцца. Іду з гміны. Войтам абралі мяне, а прызначылі асадніка Бяляцкага.

— Хвароба ім у бок! Паны хітрыя, іх не абкруціш. Ну, нічога, у цябе і так пасада добрая. Радны — не апошні чалавек у гміне. Можа, і за мяне калі заступішся, — выказаў спадзяванне Марк. — Я вось ад сястры еду, маці пасылала праведаць.

— І як ёй там у замужжы? — спытаў Гардзей.

— Жывуць, хлеб жуюць. Сэрца забалела, як зірнуў на тое поле, што бацькі ёй аддалі ў пасаг. Пераарана абы-як! Зглумілі зямлю!

— Што пасеюць, тое і сажнуць. Чаго табе бедаваць?

— Ай-яй! Шкада зямелькі, — скавытаў Марк. — Яна ж жывая… Усё разумее… Мне здалося, што яна, як убачыла мяне, гэтак цяжанька ўздыхнула…

— Хто ўздыхнуў? — перапытаў Гардзей.

— Зямля па мне плача, што страціла гаспадара. Эх, мець бы столькі зямлі, як у асадніка!

— Для гэтага трэба быць асаднікам, — суха адказаў Гардзей.

Яны памаўчалі пад скрып колаў і тупат конскіх капытоў. Зямля ўжо ашэрхла, узялася марозам, але снегу яшчэ не было. Уздоўж дарогі цягнулася зялёная асаднікава рунь.

— Няма снегу. Азіміна памерзне, — сказаў Марк.

— То ж асаднікава! — з’едліва сказаў Гардзей.

— Жыта не вінаватае, яго ўсялякага шкада. Паслухай, Гардзей, які пасаг ты даў бы за Паўлінаю, каб я да яе пасватаўся?

— Табе што, няма да каго больш сватацца?

— Чаму? Ёсць. Але ж я выбіраю. Хочацца ўзяць дзяўчыну з добрым пасагам.

— Ведаеш, Марк, хлопец ты добры, але занадта скупы. Не аддам я за цябе Паўліну!

— Яна ж у цябе ўжо старая дзеўка! Хутка ніхто на яе не гляне!

— Яна мне самому трэба. Гаспадыня добрая. Дзе вазьму такую, як яна пойдзе замуж?

— Табе прымака ў хату трэба, тады Паўліна будзе дома.

— Ідзі ты… Знайшоўся мне дабрадзей! Сам разбяруся! — злосна адказаў Гардзей.

Аднак Марк не адступаўся. Пацягнуў лейцы, падагнаў каня і зноў запытаў:

— А малодшанькую таксама не аддасі?

— Прыйдзе пара — аддам добраму чалавеку.

— А мне аддасі? Я сватоў прышлю.

— Слухай, чаго ты да мяне прычапіўся? Калі хочаш ажаніцца, сам спачатку ў дзеўкі згоды папытай.

— Хто гэта і калі ў дзеўкі пытаўся? Як бацькі вырашаць, так і будзе. Ты старэйшы ў сям’і, таму ў цябе і пытаюся. А дзеўка што? У яе сем пятніц на тыдні. Сёння з адным польку паскача, заўтра — з другім. Сама не ведае, каго выбраць. Мне ўсё роўна з кім пабрацца, абы зямлі далі ў пасаг паболей!

— У мяне зямлі не шмат, Марк. Не аддам я за цябе сваіх сясцёр.

— А я падумаў: ты хутка з радных у пана перакінешся. Разумны, адукаваны, знойдзеш нейкую службу сабе ў горадзе. А нашы хаты побач, агароды можна з'яднаць…

— Як я пагляджу, дык ты, Марк, за мяне разумнейшы. Гэта табе трэба радным быць, — усміхнуўся Гардзей. — Не падмазвайся да мяне. Паўліна мне расказвала, як ты сваю сястру Антолю ледзь пад цягнік не кінуў. Ты ж за дзесяціну задушыць можаш. Навошта мне такі сваяк?

Марк з абурэннем паглядзеў на Гардзея, і крыкнуў:

— Ану, злазь! Прыгрэў гада, а ён яшчэ на мяне вярзе абы-што!

Гардзей саскочыў з воза, паглядзеў услед фурманцы, якая хутка патарахцела ўперад, і сказаў сам сабе: «І з гэтым пасварыўся. А навошта? На халеру ён мне трэба?»

Хлопец зірнуў у змрочнае неба, навіслае над зямлёю, на нізенькую хатку, урослую ў зямлю ледзь не па вокны, уздыхнуў і пайшоў шырокім размашыстым крокам па цвёрдай замерзлай дарозе. У Сцяблове Гардзей зайшоў да Маркевіча, застаў яго дома. Гаспадар не надта ўзрадаваўся, але не падаў выгляду, толькі сказаў з дакорам:

— Ты не павінен да мяне так часта наведвацца.

— Прабач, у мяне ёсць навіна. Мяне не зацвердзілі войтам.

— Чаму?

— Для гэтай улады я чалавек ненадзейны, зацвердзілі Бяляцкага.

— Ненадзейны? Значыць, ты ўжо пад каўпаком? Тым больш нам не трэба сустракацца на людзях.

— Цяпер я пераканаўся, што з гэтай уладай трэба змагацца сілай, а сілы ў нас малыя, — падвёў рысу Гардзей.

— У народа сіла невычэрпная, трэба толькі яго падняць. У хуткім часе адбудзецца чарговая канферэнцыя, чакай ад мяне сувязнога. Сам мяне не шукай. Гэта загад.

— Я зразумеў, — адказаў Гардзей, развітаўся і выйшаў у вечаровыя прыцемкі.

Змрок, які ахутаў зямлю, запаўзаў у душу, сеяў смутную трывогу, апаноўваў стомай і безнадзейнасцю. Гардзей шукаў адказ на пытанні, чаму нікому не патрэбны ні ягоны розум, ні здольнасці, ні імкненне зрабіць людзей шчаслівейшымі, і не знаходзіў ніякага тлумачэння. Міжвольна падумалася, што, мабыць, гэтак жа адчуваюць сябе тысячы іншых людзей, а нехта нават і не задумваецца, жыве, як набяжыць. Для нечага ж дае нам Бог жыццё. Трэба толькі разгадаць, зразумець, знайсці той адзіны свой шлях.

## 28

Апошнім часам Зося жыла ў трывозе і марных спадзяваннях. Штодня чакала Гардзея, думала, можа, сёння заявіцца пад вечар. Чым заняты? Няўжо так цяжка знайсці вольную гадзінку? Ён не прыходзіў. Не было ў яго патрэбы сустракацца з дзяўчынаю, якая яго кахала. Яна зноў адчула, што зацяжарыла, зноў у яе душы закаханасць пачала паступова выцясняцца нянавісцю. Праклінала сябе за даверлівасць і няўменне сказаць «не» гэтаму баламуту, які карыстаўся яе наіўнасцю і каханнем, праклінала яго і тое дзіця, якое ўжо завязалася і жыло ў яе целе. Колькі было ў яе душы цяпла і любові! Як бы адорвала шчасцем гэтае дзіця і ягонага бацьку! Але, калі няма бацькі, не павінна быць і дзіцяці! Гэта адвечны патрыярхальны закон вёскі, пераступаць які дзяўчы-

на не мае права! Пераступіш — і ганьба абрынецца на цябе і тваю сям’ю! З адчуваннем віны і сораму не кожны здатны выжыць. Некаторыя вясковыя дзяўчаты накладвалі на сябе рукі ці гінулі, спрабуючы забіць сваё дзіця. Зосі таксама іншы раз здавалася, што яна не хоча жыць. Лепш памерці, чым нарадзіць дзіця і зганьбіць сваю сям’ю. Але яна не магла памерці, не адпомсціўшы Гардзею. Таму доўга думала, як жа забраць яго з сабою на той свет, калі ім не пашчасціла быць разам на гэтым. Вырашыла схадзіць да цёткі Каваліхі, знахаркі, якая раней ратавала яе, можа, і цяпер што-небудзь параіць.

Зося выйшла з дому па абедзе ў змрочны дзень, калі здавалася, што святло вылучаў толькі снег, які шчодра выбеліў прастору. Зіма надарылася позняя, затое трывала ўсталявалася пасля першага снегападу. У гэтай аднастайнасці шэрага і белага колераў не было ніякай радасці воку. А, зрэшты, хіба магчыма знайсці радасць звонку, калі ў душы суцэльны смутак і страх перад будучыняй. Дарога падалася Зосі занадта доўгай. Пэўна, так яна стамілася душою, што і фізічныя сілы незаўважна пакідалі яе.

Цётка Каваліха сустрэла дзяўчыну прыязна, спытала ўсмешліва, ажно маршчынкі разбегліся ў куточках вачэй:

— Што з табою, дзіця? Ці не захварэла?

— Бяда ў мяне, цётачка.

— Я ж цябе ўжо вучыла…

— Не, не тое. Я тую навуку помню… Не хачу я жыць, але і паміраць адна не жадаю. Няхай і ён са мною ідзе на той свет.

— Што ты надумала, дзяўчына? — ажно пляснула ў далоні знахарка. — Грэх гэта вялікі! Выкінь з галавы дурноту.

— Не хачу жыць, не магу! І ён няхай не жыве!

— Я і слухаць цябе не жадаю! — замахала рукамі Каваліха, быццам адганяючы хмару камароў.

— Цётачка, дай мне якой атруты, але так, каб напэўна памерці, каб не пакутаваць. Усё ў мяне ўнутры выгарала!

— Бачу я, што ты зноў дзіця чакаеш.

— Яно памрэ разам са мною.

— А ты хлопцу казала?

— Ён не кахае мяне. Прыйдзе, пераспіць і знікае надоўга… На вочы не паказваецца. А праз паўгода раптам заявіцца, быццам нічога не здарылася.

— Забудзь яго.

— Не магу, цётачка. Гэта як насланнё нейкае. Я нічога не разумею. Як мне жыць? Чым? Дайце, дайце якой атруты…

Знахарка падышла да покуці, перахрысцілася на ікону, прамовіла:

— Даруй нам, Божа, грахі нашы свядомыя і несвядомыя.

Пакланілася Божай Маці, потым строга паглядзела на Зосю і сказала:

— Ніхто табе не вінаваты ў тваёй бядзе. Расплюшчы вочы, ты ж не адна на свеце. Вартых цябе хлопцаў шмат. А ты зацялася на няшчасным каханні і свету не бачыш. Сама кажаш, што не кахае ён цябе, значыць, не твой гэта лёс. Не твой! Нават калі ты прывяжаш яго да сябе, не будзе табе з ім шчасця. Асудзіш сябе на пажыццёвую пакуту!

— Я і так пакутую. Што ж мне рабіць?

— Ідзі дамоў і вазьміся за розум!

Каваліха пайшла проста на Зосю, быццам хацела хутчэй выпхнуць за дзверы. Дзяўчына адступіла да парога, націснула рукою клямку і выбегла з хаты. На дварэ пачынала цямнець, свет зрабіўся зусім бясколерны, у ім можна было схавацца ад чужых пільных вачэй, застацца сам-насам з сабою. Думкі ў галаве бязладна мітусіліся. Яна была расчараваная і пакрыўджаная, што

не здабыла атруту. А зрэшты, як і дзе яна здолела б яго атруціць. Хіба што пайшла б да яго дахаты? Дык на гэта, мабыць, ніколі не адважыцца. Пакуль не скончыцца Піліпаўскі пост, вячорак ніякіх не будзе. Ды і не ходзіць ён на вячоркі. Заняты надта ў гміне, мо падбірае сабе жонку з паненак. Ці пра яго трэба цяпер думаць? Яму што? Ён жывы і здаровы. А як і чым ратавацца Зосі? Нарадзіць дзіця? Людзі будуць пальцам тыкаць! А што скажа бацька? Каця наогул загрызе! Як бы добра было памерці, нічога не балела б і не турбавала б, а толькі ўсе шкадавалі б, што такая маладая і так рана загінула.

Зося ўявіла, як ляжыць яна ў белай сукенцы і вэлюме, а побач у другой труне Гардзей у сваім фрэнчы з бліскучымі гузікамі, невыказна прыгожы, што і вачэй ад яго немагчыма адарваць. Але вось труну накрываюць векам. І яна разумее, што іх пакладуць у розныя магілы. Страх агарнуў душу, быццам цемра апраметнай паглынула яе. Зося спалохана перахрысцілася, паглядзела па баках. Яна і не заўважыла, як выйшла за вёску. Было пуста і холадна. Усчаўся марозны вецер, але ён дзьмуў у спіну, быццам, як і Каваліха, праганяў дзяўчыну дамоў. Яна ўзіралася ўдалячынь, каб хутчэй убачыць агні роднага хутара. Само сабою прыйшло рашэнне: яна забудзе Гардзея назаўсёды. Ніколі нават не зірне ў ягоны бок! Так параіла цётка Каваліха, яна мудрая жанчына і ведае, што кажа. Ён здраднік, паскуднік, баламут… Колькі б яна ні была з ім, ён заўсёды будзе вось гэтак жа пакідаць яе адну ў бядзе. А цяжарнасць? Што ж, ад яе можна пазбавіцца зязюліным мылам…

Рэдкія сняжынкі закружыліся ў паветры. Зося прыспешыла крок, баючыся заблудзіцца ў кудасе. Прага жыцця паступова вярталася да яе праз смутак адзіноты, боль расчаравання і трывогу за заўтрашні дзень.

## 29

Гардзей заседзеўся ўвечары, доўга чытаў Біблію. Паўліна сварылася за дарэмнае, як лічыла, выпальванне газы, але і сама не клалася, вышывала ручнік. Калі ж брат нарэшце стаў уладкоўвацца на лаве, Паўліна хуценька згарнула вышыванне і, каб самой не тушыць лямпу, легла на запечку. Гардзей хмыкнуў сабе пад нос, маўляў, якая хітрая, прыўзняў пузаценькае шкло, патушыў цьмяны агеньчык, які трапятаў на язычку кнота, умасціўся на лаве, накрыўся кажухом, а заснуць доўга не мог. Усё ў галаве круціліся словы з Бібліі пра Ісуса: «Прыйшоў да сваіх, а свае Яго не прынялі». Ад Божага сына адмовіліся тыя, хто абавязаны быў яго пазнаць, прыняць і зразумець. Ён прыйшоў да сваіх, каб стаць для іх выратавальнікам і царом. Аддаваў ім сябе, рабіў усё магчымае, каб гэтыя людзі паверылі яму, палюбілі яго, пайшлі за ім. Але яны адмовіліся ад яго і асудзілі на смерць. Аднак нават смерць Хрыста стала сведчаннем ягонай любові да людзей. Падзеі жыцця Божага сына Гардзей пераносіў на сябе. Яму, звычайнаму грэшнаму чалавеку, таксама карцела нешта добрае зрабіць людзям, ды ягоныя парыванні былі адхілены людзьмі ад улады. Зрэшты, Гардзей пакуль знаходзіўся нават у лепшым становішчы. Свае ад яго не адвярнуліся, а жадалі бачыць войтам, іншая справа, што гэта не задавальняла палякаў. Па чыёй жа волі ён не стаў войтам? Па Боскай? Ці гэта здарылася з-за нейкай чалавечай прыхамаці? Калі Бог за мяне, дык хто супраць? Мне яшчэ раз нагадалі, што я беларус, залежны ад польскай улады. Каб змяніць становішча да лепшага, трэба дамагацца таго, каб у беларусаў была свая, беларуская, улада. Яму згадалася, як у час службы ў войску адзін з капралаў пры зручным выпадку называў беларусаў не інакш, як хамамі з крэсаў. Выходзіць, што мірным шляхам да ўлады прыйсці немагчыма. А іншы

шлях Бог не блаславуляе, бо гэта ён пасылае тую ўладу, якую мы заслугоўваем. Трэба пачытаць нешта пра нашу гісторыю, каб разабрацца, чаму ж мы дайшлі да такога жыцця…

З гэтаю думкаю Гардзей задрамаў. Прачнуўся ад моцнага стуку ў шыбу, сеў на лаве, зірнуў у акно, убачыў цёмную постаць. Мільганула думка: «Напэўна, Маркевіч прыслаў сувязнога». Аднак на ўсялякі выпадак спытаў:

— Хто там?

— Паліцыя!

Прачнулася Паўліна, перапалохана пачала бажыцца, шукаючы ў цемры вялізную канапляную хустку, каб захінуцца ёю ад чужых вачэй. Гардзей запаліў газніцу, ускінуў кажух, якім накрываўся, на плечы, пайшоў у халодныя сенцы, каб адамкнуць дзверы. У хату ўвайшлі тры паліцыянты і адзін чалавек у цывільным. Адзін з іх сказаў:

— Ну, што, Рахуба, даскакаўся?

— Да чаго? — спакойна спытаў Гардзей.

— Сам ведаеш. Зараз зробім вобыск, — папярэдзіў паліцыянт, позірк якога ўпаў на кніжку, што ляжала на стале.

Паліцыянт пагартаў яе і здзіўлена спытаў:

— Ты і Біблію чытаеш?

— Чытаю, гэта ўсім кнігам кніга.

— А што яшчэ чытаеш?

— Што трапіцца. На жаль, газеты дарагія…

Прыхадні пачалі заглядваць па кутках, нават пад печ зазірнулі, нехта пайшоў у камору. Чалавек у цывільным стаў на лаву, уважліва агледзеў ікону, што вісела на покуці, і задаволена дастаў з-за яе скрутак паперак, але разгарнуўшы іх, убачыў, што гэта квіткі аб выплачаных падатках, расчаравана кінуў на стол. У Гардзея ўсё кіпела ўнутры, але ён не падаваў выгляду і злосна радаваўся таму, што некалькі забароненых брашур добра прыхаваў у клуні пад сенам. Зараз прыкідваў, хто ж паклапаціўся пра тое, каб ён апынуўся ў руках паліцыянтаў? Бяляцкі з Райскім? А мо Марк адпомсціў? Ці, можа, Яўсей Пух? Нажыў ён сабе ворагаў за апошні час.

Сёстры назіралі за тым, што адбываецца, не хаваючы страху. Туліліся адна да адной, акрытыя вялікімі канаплянымі хусткамі, і дробна калаціліся.

— Збірайся, Рахуба, пойдзеш з намі, — сказаў пузаты паліцыянт, бліскучыя гузікі на фрэнчы якога, здавалася, гатовы былі паадлятаць, варта толькі набраць паболей паветра ў грудзі.

— Куды вы яго-о-о? За што-о-о? — раптам загаласіла Паўліна і ўпала на калені. — Паночкі, пашкадуйце на-а-ас. Мы ж бедныя сіроты-ы-ы! Ён жа нам і за бацьку, і за брата-а-а!

— Ціха! Чаго галосіш, як па нябожчыку? — прыкрыкнуў тоўсты на Паўліну. — Мазгі яму трохі прачысцім, адшліфуем, каб стаў добрым грамадзянінам нашай дзяржавы.

Паўліна замоўкла, хуценька зняла з бэлькі белую палатняную торбу, выбегла ў сенцы і, пакуль Гардзей няспешна апрануўся, вярнулася ў хату. Торба была поўная і цяжкая. Брат з удзячнасцю паглядзеў на сястру, зазірнуў у торбу, убачыў, што там ляжыць і ежа, і бялізна — усё неабходнае арыштанту.

— Спрытная ў цябе сястра, Рахуба. Не кожная жонка здольная даўмецца, што трэба чалавеку ў турме. Звычайна бегаюць, плачуць і не могуць сцяміць, што ім рабіць, — усміхнуўся чалавек у цывільным.

— Пайшлі, — сказаў тоўсты паліцыянт.

Мужчыны выйшлі з весніц. На вуліцы іх чакаў конь, запрэжаны ў сані. Усе селі, Гардзею таксама дазволілі сесці і пагналі каня ў пастарунак. Над

зямлёю вісела чорнае неба, на якім зіхцелі калючыя дзівосныя зоркі. Ад хуткай язды здавалася, што яны скакалі ў небе. Гардзей, узіраючыся ў гэты зорны карагод, на момант нават забыўся на сваю бяду.

— Што, Рахуба, на неба захацелася? — спытаў тоўсты паліцыянт. — Дык мы можам арганізаваць…

— Усё ў руках Боскіх, яму відней, каго і куды забраць, — спакойна адказаў Гардзей. — А зрэшты, каб ад жыцця была хоць якая карысць, трэба аддаць яго Богу.

— Вы паглядзіце на яго! Пся крэў! Проста святы анёл, а не чалавек! — абурыўся адзін з паліцыянтаў.

— Тыя, што ўмеюць прыкідвацца святымі, самыя небяспечныя! — сказаў таўсматы. — Для іх няма нічога святога, ім каб толькі здабыць якую карысць.

— Я звычайны чалавек. Вы ўварваліся ў мой дом сярод ночы, напалохалі сясцёр. Чаму не прыйшлі ўдзень? Напэўна, няёмка… Трэба ж нечым абгрунтаваць самаўпраўства…

— Не хвалюйся, усё абгрунтавана!

У пастарунку таўсматы паліцыянт і чалавек у цывільным з закручанымі вусікамі распачалі допыт. Яны расклалі перад арыштаваным дзесяткі два фотаздымкаў і спыталі, каго ён ведае. Гардзей абыякава паглядзеў на аблічча незнаёмцаў, аднак калі прыгледзеўся, пазнаў на фотаздымку таварыша Віктара, Захара Маркевіча, яшчэ некаторых людзей, якія сустракаліся яму на падпольных канферэнцыях.

— Вось гэтага ведаю, — сказаў Гардзей і паказаў на здымак Захара Маркевіча. — Мы з ім вучыліся ў школе ў адным класе.

— А гэтага? — таўсматы паліцыянт тыцнуў у фотаздымак.

— Не, яго не ведаю, — адказаў Гардзей.

— Гэта Сымон Свістун, тэхнік з Жабінкаўскага райкама. Ён сказаў, што ты ўзначальваеш камсамольскую ячэйку ў Крачках.

— Хлусня ўсё гэта, — як мага спакайней адказаў Гардзей.

— Ён даў нам спіс усіх сакратароў. Тваё прозвішча там ёсць таксама.

— Быў час, каля я трохі цікавіўся палітыкаю, аднак пасля таго, як мяне выбралі радным гміны, я адмовіўся ад гэтай справы. Магчыма, людзі з камункі мяне ўносілі ў якія перспектыўныя спісы, але мне пра гэта нічога не вядома. Я радны гміны і збіраюся сумленна і годна выконваць свае абавязкі.

— Ты думаеш, што мы будзем тут з табою разважаць, спрачацца, нешта даказваць? Памыляешся! — выкрыкнуў таўсматы паліцыянт. — Мы будзем выбіваць з цябе паказанні. Гэта больш дзейсны спосаб.

Паліцыянт схапіў гумавую палку і з усяе сілы апераззаў Гардзея — той цяжка прастагнаў і зваліўся з крэсла…

## 30

Кірыла доўга таптаўся ў парозе, страсаючы снег з шапкі і каўняра кажуха, пахвальваючы надвор'е:

— Добра снегу насыпала, пядзі на тры, азіміну акрыла, бы пярынаю.

— Затое з двара выграбаць той снег — мала радасці, — заўважыла Каця.

— У жыцці, дачка, наогул мала радасці. Век грабешся ў зямлі, свету не бачыш і не заўважыш, як старасць напаткае.

Зося быццам і не чула іхняй гаворкі. Увесь час яна думала пра Гардзея. Можа, пайсці і расказаць яму пра цяжарнасць? Павінен жа і ён адчуваць ней-

кую адказнасць, няўжо пасля таго, што ў іх было, яна па-ранейшаму застаецца яму чужою і непатрэбнаю? Не, так не павінна быць. Але чаму ж ён не прыходзіць? Чаму не цікавіцца, як яна, Зося, жыве? Ці жывая наогул? Колькі разоў на дзень думка пра самазабойства прыходзіць ёй у галаву! Дзяўчына пакуль упарта адбівалася ад яе. Бяда, што нідзе яго не відно. Колькі разоў Зося праходзіла па вёсцы ў надзеі спаткацца з ім. Усё дарэмна. Праўда, у хату да яго зайсці пакуль яшчэ не адважвалася, але ўжо рыхтавала душу да таго, каб здзейсніць гэты ганебны ўчынак. Дзе гэта бачана, каб дзяўчына сама да хлопца хадзіла?

— Што чуваць у вёсцы? — спытала ў бацькі Каця, якая таксама ўвесь час думала пра Гардзея.

— Дрэнныя навіны. Паліцыянты лютуюць. Арыштавалі Гардзея Рахубу і яшчэ некалькіх хлопцаў са Сцяблова. Кажуць, што і ў Жабінцы прайшлі арышты…

— Гардзея арыштавалі? — уражана спытала Каця. — А за што? Ён жа радны!

— Хто яго ведае, хіба паліцыянты будуць тлумачыць? Прыйшлі, забралі і павялі ў турму.

Тое, што гавораць пра Гардзея, быццам абудзіла Зосю. Яна перапытала:

— Каго ў турму забралі?

— Ты, я бачу, не толькі сляпая, але і глухая, — здзекліва заўважыла Каця.

— А ты злая, як сабака, — адказала Зося. -– Тата, каго арыштавалі?

— Хлопцаў са Сцяблова і Гардзея з Крачак.

Гэтая навіна ашаламіла Зосю. Яшчэ ёю валодала нянавісць, і яна помсліва сказала:

— Так яму і трэба!

— Што ты вярзеш? Здурнела зусім! Такому чалавеку зла жадаць! — абурылася Каця.

— Што ўжо ён за чалавек? За што ты ўпадабала гэтага баламута?

— Ціха, дзяўчаты! Змоўкніце! — прыкрыкнуў на дачок Кірыла. — Замуж вам трэба выходзіць, а не сварыцца. Нейкія знерваваныя вы ў мяне. Дземіха падыходзіла, нахвальвала вас, асабліва Кацю, за тое, што швачка добрая. Пыталася, ці ёсць жаніх, не супраць пасватаць за свайго Апанаса.

— Яшчэ чаго мне не хапала! Апанаса крывалапага! — абурылася Каця.

— Ну не такі ён ужо і крывалапы. Хлопец, як хлопец, здаровы, працавіты, — пачаў бараніць Апанаса бацька.

— І польку скача хораша, — заўважыла Зося, прыкідваючы, што ёй значна лягчэй жылося б, каб сястра пайшла замуж.

— Вось і выходзь за яго сама, будзеш з ім скакаць.

— Гэта ж не мяне сватаюць, а цябе, — агрызнулася Зося.

Бацька ўважліва паглядзеў на малодшую дачку і сказаў:

— Спачатку трэба, каб пашлюбілася старэйшая сястра, а потым ужо можна і малодшай думаць пра замужжа. Зося, калі табе падабаецца Апанас, дык я скажу Дземісе.

Зося на момант уявіла сябе побач з Апанасам, і ёй стала не па сабе. Немагчыма пражыць жыццё з чужым чалавекам. Пакуль ёсць Гардзей, яна нікога іншага побач з сабою ўявіць не магла.

— Не, тата, не трэба. Апанас хлопец добры, але ён чужы маёй душы, — запярэчыла Зося.

— Абедзве пераборлівыя. Глядзіце, каб не засталіся векавухамі, — прабурчаў Кірыла, сеў за стол. — І Серафіма трэба было б ажаніць з якою добраю

дзяўчынаю. Няхай прырастае да зямлі, заводзіць гаспадарку. Звалочыцца ён на гэтай чыгунцы. Адно адзенне рве жалязякамі, а заробку хапае толькі пракарміцца.

Каця дастала з печы чыгунок, па хаце паплыў апетытны пах. Перад калядамі Кірыла закалоў парсючка, цяпер можна было пацешыцца свежынoю. Дачка наліла паўнюткую міску капусты, забяліла смятанаю, паставіла перад бацькам. Ён перахрысціўся, узяў лыжку, але зірнуў на Зосю, ціха сказаў:

— Ідзі есці, Зоська. Нейкая ты сама не свая.

Зося моўчкі села да стала. Есці не хацелася. Глытала праз сілу і ўжо шкадавала Гардзея. Так дрэнна думала пра яго, а ён сядзіць у турме. На вуліцы вунь сонца выглянула, марозік невялікі, снег зіхціць дыяментамі, а яму, нявольніку, трэба сядзець за кратамі, падпарадкоўвацца турэмным законам, есці нейкую брыдоту. Божа, дапамажы яму хутчэй вызваліцца, паспрыяй ва ўсялякай прыгодзе, агарадзі яго ад злых людзей, іх нянавісці, зайздрасці і зладзейства. А што ж будзе са мною? Што рабіць? Ехаць да яго ў турму? А хто я яму? Ні сястра, ні жонка — ніхто… Мне ж нават спаткацца з ім не дазволяць…

Аднекуль здалёку пачула Кацін голас, якая, стоячы ля печы, спытала ў бацькі:

— А ці можна мне наведаць Гардзея ў турме?

— Здурнела дзеўка! — абурыўся Кірыла. — Чаго ты туды пойдзеш? Ды і куды? Невядома ж, дзе яго трымаюць да суда, ці ў Жабінцы, ці ў Кобрыне, ці ў Берасце завезлі. Яшчэ на цябе падумаюць, што ты яго паплечніца!

— Няхай думаюць, што хочуць, — абыякава адказала Каця.

— Не, даражэнькая, гэтак ставіцца да жыцця нельга, — запярэчыў бацька і адклаў убок лыжку. — Я не хачу, каб мая дачка па турмах цягалася. Вунь Серафімаў бацька як трапіў у Сібір, дык і прапаў. Ужо дваццаць гадоў ніхто не ведае, ці жывы ён, ці ўжо ў магіле і косці сатлелі. Сваім жыццём трэба даражыць. Яно адно!

— І што, нават родныя не ведаюць, куды павезлі Гардзея? — спытала Каця.

— Пойдуць у пастарунак і даведаюцца. Пакуль ідзе следства, пазней будзе суд. Потым яго могуць завезці куды заўгодна — у Польшчу ці на Украіну, каб родныя не надта турбавалі наведваннямі ды перадачамі.

— Які жах, — уздыхнула Каця. — І колькі ж яго там будуць трымаць?

— Як суд вырашыць. Хто ж ведае, у чым яго абвінавачваюць? Годзе байкі баяць, сядай абедаць, — сказаў Кірыла, зноў беручыся за лыжку.

Каця села да стала, утаропілася ў міску і сёрбала капусту. Зося раптам хуценька паднялася з-за стала і пабегла ў сенцы, затуляючы рот рукою.

— Што гэта з ёю? — устурбавана спытаў бацька.

— Зноў нечым атруцілася, — адказала Каця.

— Чым яна можа атруціцца? Мы ж усе разам ямо адно і тое ж — і здаровыя.

— Хто яе ведае? Нешта раптам цягне на ваніты, а потым само праходзіць.

— Мо да якой шаптухі звазіць? — спытаў Кірыла. — Каб не захварэла, крый божа. Помніш, як тады ў Карпа колькі хварэла…

Зося ўвайшла ў хату, выцерла твар ручніком, легла на запечку.

— Блага табе, дачка? — спытаў Кірыла.

Зосі так хацелася хоць з кім-небудзь раздзяліць бяду, але не магла яна нікому расказаць пра сваю ганьбу — цяжарнасць.

— Нічога, ужо адпускае, — адказала.

Кірыла падышоў да дачкі, паклаў руку на лоб, ці не гарачы, спачувальна спытаў:

— Што ў цябе баліць?

— Раптам жывот зарэжа. А потым выверне ўсё, што з'ела. І робіцца лёгка.

— Можа, да доктара цябе?

— Не трэба, трохі паляжу — і палепшае.

Зося адвярнулася да сцяны, каб схавацца ад бацькавых і сястрыных вачэй, падумала: «Адзін мой ратунак — зязюліна мыла… Запару, як усе павыходзяць з хаты, ды і пачну піць патроху. Колькі разоў выратоўвала ад ганьбы, а мо і ад смерці… Даруй, Божа, грахі мае цяжкія… Даруй і паратуй…»

## 31

Пасля трох дзён допытаў Гардзея перавезлі ў павятовую турму, але паколькі з-за пабояў дрэнна сябе адчуваў, яго адразу змясцілі ў турэмны шпіталь. Бадай, душа яму балела больш, чым цела. Такога прыніжэння, як у пастарунку, ён не перажываў нават у войску. Хоць там даводзілася адчуваць залежнасць ад самадураў-афіцэраў, але і яны асцерагаліся без дай прычыны зневажаць жаўнераў. Тут жа ніхто не лічыўся з чалавечай годнасцю і ніхто не турбаваўся, б'ючы арыштанта, за грэшнасць і агіднасць сваіх паводзін, за якія давядзецца адказваць на Страшным судзе. Бо, па глыбокім перакананні Гардзея, нават на судзе ніхто не мае права зневажаць чалавека, а тым больш не дазваляецца рабіць гэта да суда, калі віна чалавека яшчэ не даказана.

Разам з Гардзеем у палаце ляжала яшчэ пяцёра незнаёмых хлопцаў, насцярожана маўклівых, пэўна, баяліся здрады ці якога іншага паскудства. Бралі кніжкі ў шпітальнай бібліятэцы і чыталі. Паколькі гэтая турма і пры цары, і пры палякаx аддана служыла ўладзе, дык тут меліся кніжкі як на польскай, так і на рускай мовах. Не было толькі беларускіх кніжак, бо чужая ўлада пра гэта не клапацілася. Палата была невялікая, з закратаванымі вокнамі, за якімі на дзіва яскрава свяціла сонца. Пачынаўся новы 1928 год, у якім, як чакаў Захар Маркевіч, на выбарах у сейм перамогуць камуністы пад спісам № 5. Дзіўныя, наіўныя мары! Хіба ж могуць перамагчы камуністы, калі іх адлоўліваюць, як шалёных сабак, і саджаюць за краты? Гардзей быў перакананы, што і Маркевіч недзе ў турме. Проста арыштантаў, якія маюць дачыненне да камуністычнага падполля, развозяць па розных гарадах, каб разбіць іхнюю салідарнасць, парушыць напрацаваныя сувязі. А калі і ўдалося Захару пазбегнуць гэтае долі, дык, напэўна, ненадоўга. Ужо ходзяць шпікі па слядах, высочваюць, нібы дзікага звера.

У палату ўвайшоў доктар у такім жа шэрым халаце, як і ўсё ў пакоі — ад сцен да пасцелі. Гэта быў сталы чалавек з вялікімі акулярамі на мясістым носе, пад якім красавалася тонкая палоска вусоў над сухімі прывялымі вуснамі. Ён сеў на зэдлік каля Гардзея, загадаў падняць сарочку, памацаў жывот, паслухаў дыханне, нічога не кажучы і не пытаючы, падсеў да другога хворага. Гардзей паназіраў за доктарам, у твары якога не было ні спачування, ні цікавасці, нібы ён меў справу не з людзьмі, а з нежывымі рэчамі. Міжвольна падумалася, што дзяржава можа быць страшнай пачварай для сваіх грамадзян. А яны, між іншым, забяспечваюць яе існаванне і дабрабыт. За непаслушэнства падданых яна не проста моцна карае, а нават знішчае тых, хто парушае заведзены ёю лад. Дзяржаву не цікавяць здольнасці і памкненні асобнага чалавека, яна найбольш заклапочана ўласнымі мэтамі.

Доктар сеў да стала, моўчкі зрабіў запісы і пайшоў з палаты.

— Ні табе «добры дзень», ні «да пабачэння». На могілкі прыходзіш, дык і то вітаешся з памерлымі, а тут на жывых глядзіць і быццам не бачыць, — сказаў светлавокі хлопец, што ляжаў ля самага акна; сонца высвечвала ягоны твар, вочы мелі такі дзівосна блакітны колер, які бывае мо толькі ў анёлаў.

На ягоную заўвагу ніхто не адгукнуўся, адно Гардзей адказаў:

— Мы для іх як мерцвякі. Што хочуць, тое з намі і зробяць. Могуць забіць, і могуць дазволіць яшчэ трохі пажыць. Да наступнага арышту.

— Не, ужо другі раз я не дамся, — адказаў хлопец. — Хутка ім канец, ад страху і лютуюць.

— Калі тое свята будзе, — хмыкнуў Гардзей і ўнурыўся ў кніжку.

Ён чытаў падручнік гісторыі і прыходзіў да высновы, што ўсе дзяржавы з іхнім механізмам знешніх і ўнутраных зносін і рознаю ўладаю існуюць нібыта для абмежавання несправядлівасці, але адначасова самі няшчадна эксплуатуюць грамадзян. А варта якой краіне набрацца сілы, добра ўзброіцца, дык яна драпежна азіраецца па баках з намерам заваяваць суседні народ і ператварыць яго ў рабоў. Выходзіла, што свет стаяў на несправядлівасці. Для таго, каб дзяржава хутка развівалася, патрэбны былі рабы. Але паколькі яна, як пачварная маці-людаедка, знішчала сваіх падданых, дык урэшце і сама развальвалася. Гэтак здарылася з усімі імперыямі. Адпаведна, і Польшчу чакаў такі самы канец, але калі гэта здарыцца? Праз дзесяць гадоў ці праз сто, Гардзей не ведаў. І таму рабілася страшна за свой кароткі чалавечы век, за няспраўджаныя парыванні. Гардзей сеў на ложку, паглядзеў у акно, за якім была заснежаная чыстая прастора, абмежаваная высачэзным плотам, аблямаваным клубкамі калючага дроту. На снезе не было нават птушыных слядоў, быццам крылатыя істоты пазбягалі залятаць на гэтыя абшары, прапахлыя няволяю. Там, за плотам, было мноства шляхоў, былі свабодныя людзі, якія пакуль адчувалі сябе годна і, можа, нават шчаслівa. У ягоным уяўленні раптам выплылі родныя Крачкі, старая хата, што засталася пасля смерці бацькоў, якую трэба было б перасыпаць, а лепш пабудаваць новую. Згадалася Паўліна, якая з зацятаю ўпартасцю штодня займаецца гаспадаркаю, і раптам зрабілася яе шкада. Калі яны асіроцелі, сястра была яшчэ зусім малая. Колькі выпала на яе долю рознай працы, а выжыла, вырасла. Моцны, дужы род Рахубаў! Не, яны так проста не здаюцца! Яны выжывуць і пераживуць усіх сваіх ворагаў.

## 32

Праз тыдзень Рахубу палепшала, у яго з'явіўся апетыт, ажылі, засвяціліся вочы. Як толькі доктар заўважыў гэтую перамену ў свайго пацыента, адразу загадаў перавесці яго ў турму. У выніку Гардзей апынуўся ў вялікай камеры, дзе было ўжо трынаццаць вязняў. За ім праскрыгаталі жалезныя дзверы, і змрочнае памяшканне сустрэла яго непрыемным кіслым пахам і цікаўнымі позіркамі. Гардзей паўзіраўся ў твары, нікога знаёмага не ўбачыў, а гэта азначала, што і верыць тут няма каму. Месца на нарах яму дасталося ў самым кутку. Моўчкі лёг і павярнуўся да сцяны. Нехта патузаў за плячо і спытаў:

— Ты адкуль?

— А табе што? Шмат тут вас, цікаўных. Так і шукаеце, каб свае грахі на каго спіхнуць!

— За каго ты нас прымаеш?

— Ні за каго. Мне ўсё роўна, хто вы і адкуль.

Гардзея сапраўды разбірала злосць: мала таго, што следчыя душу вымотваюць, дык яшчэ і тут, у камеры, допыты ўчыняюць. Няма мяжы чалавечай цікаўнасці, усё хочацца ведаць. Мо і ёсць на свеце такія дурні, што пра сябе расказваюць, але толькі не Гардзей.

— За што цябе ўзялі?

— Я і сам хацеў бы гэта ведаць, — адказаў Гардзей, павярнуўся да хлопца, які надакучваў сваімі пытаннямі, убачыў вадзяністыя вочы пад светлай грыўкай.

— Мы тут усе палітычныя. Цябе нездарма да нас пасадзілі.

— Далі магчымасць пазнаёміцца з вамі бліжэй, — з'едліва заўважыў Гардзей.

— Пакінь яго ў спакоі. Бачыш, чалавек не ў гуморы, — сказаў нехта з другога канца пакоя.

Хлопец з грыўкай над вачамі адышоў ад Гардзея, сеў зводдаль,назіраў за новым вязнем. Усталявалася гнятлівая цішыня. Новы вязень не ўпісваўся ў прыняты ў камеры лад і быццам замінаў астатнім адчуваць сябе вольна і раскавана. Гардзей зноў лёг тварам да сцяны, заплюшчыў вочы, падумаў: «Тут я ўжо адасплюся за ўсе дні і ночы, калі губляў сілу ў цяжкай працы, на вайсковай службе ці мілаваўся з дзеўкамі. Хапіла ў жыцці ўсяго». Раптам згадаў, як карчаваў з Паўлінаю ў лесе пень на дровы. Такую працу не ўсякі здаровы мужык пацягне. Трэба абкапаць пень, абсячы тоўстае карэнне, вывернуць. Да крывавых мазалёў і знямогі працавалі, а свайго дамагліся. Адкуль і сіла ўзялася… «Эх, каб сюды дзеўку пад бок, дык можна было б і патрываць колькі месяцаў… Жарты жартамі, а хутчэй бы на волю. Ніводнай паперы не падпішу, ніякае віны не прызнаю...»

Час да абеду доўжыўся пакутліва яшчэ і таму, што сялянская душа не звыкла сядзець без працы, на гаспадарцы чалавек заўсёды знойдзе сабе занятак, а тут няма за што воку зачапіцца, не тое што рукам. Гардзей зірнуў на закратаванае акенца пад столлю, на лапік пахмурнага неба і ціха ўздыхнуў. Калі, нарэшце, забразгалі за дзвярыма апалонікам, Гардзей зразумеў, што прынеслі абед, падняўся і ўбачыў: усе сядзяць нерухома, не бяруць у рукі ні лыжак, ні місак. Смутная здагадка працяла яму сэрца: вязні абвясцілі галадоўку. Гэтага яшчэ не хапала.

— Вы чаго такія? — спытаў Гардзей у свайго суседа.

— Галадаем у знак пратэсту за забойства нашага таварыша, — адказаў той.

— А як яго звалі? — спытаў Гардзей.

— Нядаўна нас папракаў за цікаўнасць, а цяпер і сам туды ж...

— Ваш таварыш загінуў, вы і галадайце.

— Глядзі, каб табе тая ежа не стала ўпоперак горла, — папярэдзіў хлопец з грыўкай.

Гардзей не пайшоў з міскай да дзвярэй, дзе праз адкрытае акенца падавалі абед, а дастаў кавалачак сала і лустачку сухога хлеба, што клапатліва ўкінула на развітанне Паўліна, пачаў марудна жаваць. Ён адчуў, што не жадае падпарадкоўвацца гэтым людзям, з якімі яго аб'яднала сляпое ліха. Ён не жадае падпарадкоўвацца нікому! Але супраць сілы адзін не паваюеш, ёй трэба падначальвацца, каб не проста выжыць, але яшчэ і перажыць яе. Гардзей заўважыў на сабе асуджальныя позіркі, згарнуў торбачку, папіў вады і зноў лёг на пасцель, узіраўся ў столь, стараўся ні пра што не думаць і хутка заснуў трывожным і чуйным сном.

## 33

З-за таго, што вязні распачалі галадоўку, ім забаранілі сустрэчы з роднымі. Гардзей глядзеў на гэтых зацятых палітычных фанатыкаў і дзіву даваўся іхняй тупой упартасці. Ён не разумеў, навошта здзекавацца з уласнага цела, канчаткова псаваць сабе здароўе і без таго падарванае біццём і прыніжэннем, перажытым у час допытаў? Значна разумней было б перачакаць, выйсці на волю, а там ужо змагацца з акупантамі. Хоць скептычныя думкі ўзнікалі ў Гардзея і наконт змагання. З касою супраць дзяржавы не паваюеш. У яе зброя, сіла, войска, навучанае забіваць. Які сэнс у вывешванні сцягоў, раскідванні лістовак і падбухторванні людзей? Нікому ад гэтага не робіцца лепш. Дзяржава бязлітасна знішчае непаслухмяных. Не, ён канчаткова расчараваўся ў метадах падпольнай барацьбы. Не яго гэта шлях па-сабачы падбрэхваць з-за плота, а потым хавацца, каб не злавілі. Нічога няма вечнага на гэтым свеце. Скончыцца аднойчы і акупацыя, як гінулі ў свой час шматлікія імперыі: Рымская, Візантыйская, Асманская, шкада толькі, што жыццё чалавека кароткае, не кожны дачакаецца вызвалення.

Зусім разгневаўся Гардзей, калі яму прынеслі перадачу, але не далі магчымасці пабачыцца з сястрою. Ён, узбуджаны і знерваваны, распакаваў торбачку, агледзеў ладны кавалак сала, два клінковыя сыры, масла, хлеб, цыбулю, часнок, потым зноў ашчадна паскладваў усё ў торбачку. Пахам роднага дома павеяла ад харчоў, ажно сэрца затрапятала. Адрэзаў кавалак сала, узяў зубок часнаку. Духмяны водар разліўся па камеры. Людзі павярнулі галовы, пазіралі на Гардзея, быццам чакалі, што ён і іх пачастуе. Аднак хлопец жаваў сала, ціха пасопваў і па ўсім было відаць, ні з кім не збіраўся дзяліцца харчамі.

— Ці не разапрэ цябе, калі сам усё паясі? — спытаў хлопец з бяляваю грыўкаю.

— Ты за мяне не турбуйся, — абыякава адказаў Гардзей.

— Хутка нехта з нас таксама атрымае перадачу і тады…

— Я вашага не хачу і свайго не дам. Гідую есці чужое! Разумееш? Сваё пакаштую, вочы заплюшчу — і быццам дома пабыў!

— А што ты скажаш, калі мы табе байкот абвесцім?

— Гэта ваша справа! Вы ўмееце абвяшчаць байкоты, галадоўкі, лямантаваць, шмат гаварыць, толькі рабіць нічога не ўмееце! Хапаюць вас, як зайцоў, па адным, адстрэльваюць! А вам застаецца толькі хавацца. Вось і ўсе вашы справы!

— Усіх не пераловяць.

— Пажывём — пабачым.

— Слухайце, і хто нам гэтага штрэйкбрэхера падсадзіў?

— Ён проста несвядомы, — пачуўся голас старасты Якіма Гарошкі, які карыстаўся ў камеры аўтарытэтам.

— Можа, яму шыю намыліць? — спытаў хлопец з грыўкаю.

Гардзей падняўся, распрастаў плечы. Ён быў на галаву вышэйшы за белабрысага хлопца і па ўсім відаць, значна дужэйшы.

— Паспрабуй, — сказаў Гардзей.

— Ты не думай, што такі дужы, гуртам асілім…

Гардзей зноў сеў на пасцель, паглядзеў на хлопца са спачуваннем і сказаў:

— Ідзі далей ад граху. Няма ў мяне жадання біцца ні з табою, ні з кім іншым. У вас сваё жыццё, у мяне сваё. Можа, днямі адбудзецца суд, мяне ад вас, напэўна, некуды пераселяць, так што патрывайце мой індывідуалізм яшчэ трохі.

— Пакінь яго ў спакоі, Лёня. Гарбатага магіла выпрастае, — сказаў Якім Гарошка.

Белабрысы вязень пайшоў да гурту, дзе хлопцы гулялі ў карты, і хутка ўжо стуль пачуўся ягоны надакучлівы голас. Гардзей лёг на пасцель, задумаўся. Яго турбавала, які вырак вынесуць на судзе. У час аднаго з допытаў яму ўчынілі сустрэчу з тым самым чалавекам, які назваў ягонае прозвішча. Рахуба яго бачыў упершыню. Хлопец Гардзея таксама не пазнаў, бо чуў толькі прозвішча. Выходзіла, што хоць Гардзея і назвалі, але ці той гэта Рахуба, ніхто канчаткова не сказаў. Іншых сведкаў пакуль не знайшлося. Было відавочна, што зусім не Пух выдаў яго і не ад кіраўнікоў гміны пайшла ініцыятыва на ягоны арышт. Яго маглі выдаць Маркевіч або таварыш Віктар, яшчэ колькі чалавек. Але людзей гэтых было не так і шмат, яны, мусіць, заставаліся на волі. Гардзей, седзячы ў турме, пакляўся сабе, што больш ніколі не будзе ўвязвацца ў палітыку.

## 34

У ліпені Гардзея Рахубу судзіў Пінскі акруговы суд на выязной сесіі ў Брэсце, у выніку чаго вынесена была яму кара — два гады зняволення. У Брэсцкай турме і адбываў ён свой тэрмін. З людзьмі, якіх сустрэў у камеры, быў больш памяркоўны, чым у Кобрынскай турме. Нават пасябраваў з Антонам Клімчуком, настаўнікам з Федзькавіч, які апекаваўся Гардзеем, здабываў для яго кніжкі, з якімі можна было бавіць час і меней пакутаваць ад таго, што тваё жыццё нікуды не рухаецца, быццам тонеш у балотнай дрыгве.

Першае, што зрабіў Гардзей — намаляваў каляндар на той тэрмін, які яму належала тут адбыць, і пачаў выкрэсліваць дзень за днём. Быў удзячны Паўліне, якая здагадалася перадаць некалькі сшыткаў, ведаючы яго звычку запісваць назіранні за з’явамі прыроды, падзеі, што адбываюцца, ды ці мала што… Ён чытаў гісторыю, геаграфію, тое-сёе з мастацкай літаратуры, рабіў канспекты і кароткія анатацыі на прачытаныя творы. Дні ў турме цягнуліся аднастайна, але часам прыходзілі ў галаву думкі, якія хацелася занатаваць. Зрэдку ён перачытваў свой дзённік, згадваў пражытае і перажытае. На жаль, далёка не пра ўсё можна было пісаць. Ён пагартаў і перачытаў свой дзённік.

*29 сакавіка.* У камеры холадна. Але ўдалося пагрэцца ўласнымі рэсурсамі, бо з крымінальнікамі мыў падлогу. Гэтыя камяні, жалеза, бетон ледзяняць душу. Рукі ажно заходзіліся ад халоднай вады, у пальцы калола, як іголкамі, затое спіна была потная. Што ж, нехта павінен дбаць пра чысціню. Шкада, душы людскія гэтак не памыеш, не пачысціш. Вось і збіраецца там мноства хлуду і сажы, рады б чалавек узняцца і ўзляцець над сабою, але старыя грахі цягнуць уніз.

*10 красавіка.* Апеляцыя мне дадала яшчэ адзін год турмы. Няўжо дзяржава мае карысць ад таго, што трымае людзей у смярдзючых камерах, прывучае жыць, нічога не робячы, нават не зарабляючы сабе на хлеб. Ці не больш гуманна было б прымушаць людзей вучыцца, спасцігаць законы жыцця ў грамадстве, набываць прафесію. А пасля таго, як чалавек вызваліцца, дапамагчы яму знайсці сваё месца працы, занятак, які мог бы пракарміць бедака. А так атрымліваецца, хто сеў за крадзёж, выйдзе яшчэ большым злодзеем, бо пройдзе тут «турэмныя універсітэты». Мала дасканаласці і гармоніі ў жыцці, таму і турмаў шмат. Адна толькі прырода жыве ў харастве і замілаванасці.

Пачалася вясна. Зноў Паўліна будзе араць ды сеяць без мяне. Зямля паволі забывае мае рукі. А я люблю яе не толькі таму, што яна карміла мяне ад

нараджэння, а таму, што стварала мяне моцным і незалежным. Ужо падлеткам я ведаў, што няма ад каго чакаць дапамогі, акрамя як ад Бога і зямлі-карміцелькі.

*17 жніўня.* Перад сном чытаў геаграфію, дзівіўся разнастайнасці прыроды. Ніякі чалавек, нават самы разумны, не здатны стварыць тое, што зрабіў Бог. Ды і што стварае чалавек? Нейкую нягеглую хату, завод, чыгунку? Больш руйнуе ды спажывае і думае, што ўсё навокал існуе толькі для яго. Наіўны! Прападзі ён, а зямля ўсё роўна будзе красаваць дзікай незацуглянай красой. Зацягне, зашые маладою травою і кустоўем дарогі і сцежкі, старыя котлішчы і могілкі, равы і курганы. Зямля — вялікая майстрыца!

*21 кастрычніка.* Траіх палітычных перавозілі ў іншую турму, кажуць, у Седлец. Турма праводзіла іх песнямі. Ажно ў мяне ўсхвалявана закалацілася сэрца. А ці пра мяне хто-небудзь падумаў бы, праспяваў бы песню? Як заслужыць павагу і спагаду людзей? Чым? Дабрынёю? Ёю будуць толькі карыстацца. Сілаю? Дык заўсёды знойдзецца нехта дужэйшы. Каб схіляць людзей на свой бок, трэба мець нейкі асаблівы талент. Ці ёсць ён у мяне? Мабыць, нейкія здольнасці ёсць. Здолеў жа я падгаварыць людзей, каб абралі ў гміну. Але тады і Маркевіч добра пастараўся. Так, часам мне таксама хочацца шчырага сяброўства, павагі, любові. Але колькі разоў разбіваліся гэтыя пачуцці аб зрэбную будзённасць. Найчасцей схіляюся да думкі, што аднаму лепш. Сяброўства і сям'я забіраюць душу і волю. Зрэшты, вынік тых праводзін горкі: за спевы вязням забаранілі спатканні. Зноў Паўліна прывязе перадачу і не пабачыць мяне.

*8 лістапада.* Восень змрочная і халодная. Палітычныя наладзілі святкаванне. У час шпацыру адзін дзеяч расказваў пра поспехі Савецкага Саюза, пра бясплатныя школы і бальніцы, пра заводы і фабрыкі, пра спакойнае і шчаслівае жыццё. Проста рай на зямлі. Ад яго дазнаўся пра смерць З. Маркевіча, шкада хлопца, царства яму нябеснае. Лёс падпольшчыка — кароткі шлях на той свет.

*27 студзеня.* Дні марозныя. Здаецца, і сцены турмы прамярзаюць наскрозь. Сную па камеры цэлы дзень, каб сагрэцца. Прыходжу да высновы, што турмы існуюць не для перавыхавання, а для маруднага знішчэння людзей, якія не падабаюцца дзяржаве. Турма абмяжоўвае волю, рух, парыванні, гэта маруднае, загадзя разлічанае ворагамі забойства. Спачатку стамляецца і памірае душа, потым знясільваецца, самазнішчаецца цела.

*3 красавіка.* Снег растаў. Пацяплела, пасвятлела на свеце і на душы. Сёння пісаў паштоўку дадому вельмі дробнымі літаркамі і даволі шмат тэксту ўдалося змясціць. Доўга валаводзіўся, але праца атрымалася ювелірная. Сам залюбаваўся.

*12 ліпеня.* У час шпацыру пайшоў дождж. Палітычныя дзяўчаты не хаваліся ад дажджу, а бегалі пад ім, быццам умываліся, падстаўляючы твары і рукі, шчасліва смяяліся. Цікава, ці здолелі б яны адчуць такую асалоду на волі? Няволя — смерць душы. Рабы няздатныя ствараць, бо іхні дух заняволены. Яны жывыя мерцвякі.

*14 верасня.* Напісаў канспект па палітэканоміі. Цікава, ці дазволяць мне забраць з сабою дадому мае сшыткі? Я тут і сам сабе не належу. А калі належаў? Мяне могуць забраць у войска, на вайну, на прымусовую працу і не спытаюць згоды. Ненавіджу залежнасць ва ўсіх яе праявах… Сястра Маня выходзіць замуж. Што ж, гэта яе выбар, дай, Божа, ёй шчасця. Жанчыны лягчэй прыстасоўваюцца да жыцця і людзей. Але гэта так здаецца нам, староннім людзям.

*26 кастрычніка.* Пераглядаю запісы, днямі выклічуць на «цэнзуру». Калі ўсё забяруць, нешта застанецца ў галаве і сэрцы…

## 35

Восень, надзіва сухая і пагодная, не шкадавала апошняга цяпла. У мінулыя гады на Пакровы часам і снег выпадаў, а на гэты раз надвор'е трымалася, як летам. У Жабінку сабраліся людзі з навакольных вёсак на кірмаш, каб нешта прадаць ці купіць ды наведаць царкву. Гарадок стракацеў ад квяцістых хустак сялянак, ад іхніх паласатых андаракаў. Каля царквы і на кірмашы было шматлюдна, людзі сустракаліся, гаманілі, бедавалі ці радаваліся. Кірыла з дочкамі таксама прыехаў у Жабінку, каб прадаць колькі мяшкоў жыта. Каця засталася з ім, а Зося папрасілася ў царкву. Бацька і не пярэчыў, няхай дачка пабудзе сярод людзей, памоліцца за свой лёс і за ўсю сям'ю. Неспакойная Зося характарам, ці весяліцца не ў меру, ці панура маўчыць. Хварэе часта на жывот. Каця больш разважлівая, але ж, напэўна, яна сваё адхварэла ў маленстве. Рознай немачы набіраецца на чалавечы век, каб даймаць ды ўрэшце даканаць.

Кірыла прадаў збожжа і збіраўся ехаць да царквы па Зосю, а потым яшчэ меўся наведаць пляменніка, які працаваў на чыгунцы. Аднак Серафім сам вынырнуў з натоўпу.

— Малайчына, што сам знайшоў нас. Я збіраўся ехаць да тваёй гаспадыні, каб пакінуць табе сала ды хлеба, — узрадавана сказаў Кірыла.

— Дзякую, — сказаў, Серафім. — Толькі я ўжо там не жыву.

— Чаму? — здзівіўся дзядзька.

— Звольнілі мяне. Я з рэчамі, да вас сабраўся, — пляменнік паказаў на хатуль у руцэ.

— Чым жа ты цяпер будзеш займацца? — незадаволена спытала Каця.

— Не ведаю, — адказаў хлопец.

— Нічога, бывае і горш, — суцешыў пляменніка Кірыла. — Ці сказалі, за што звольнілі?

— Сказалі, толькі я ў тым не вінаваты. Нехта ўначы вывесіў на нашай канторы чырвоны сцяг. Начальства выбрала трох самых маладых дурняў і звольніла, маўляў, больш няма каму… А я ні сном, ні духам… Бажуся, дзядзька…

Серафім гаварыў шчыра, ажно слёзы на вачах выступілі. Кірылу зрабілася шкада хлопца. Цяжка цяпер маладым: няма дзе грошай зарабіць, няма за што зямлі купіць. Пры цары ўсё-ткі было неяк вальней. Хоць заўсёды для ўсялякай улады тутэйшы люд заставаўся недаверлівым.

— Што ж, справа зроблена. Звольнілі дык звольнілі. Паедзем дахаты, будзеш працаваць на гаспадарцы. Пасватаем, ажэнім, і зажывеш, як усе людзі, — разважыў дзядзька.

Серафім з палёгкаю кінуў свой хатуль у воз, сам скокнуў туды ж і павесялелымі вачамі паглядзеў на дзядзьку і стрыечную сястру.

— Ён цяпер будзе ўсю восень без работы сядзець з намі? — спытала Каця і нездаволена паморшчыла носік.

— На гаспадарцы працы хопіць яму і мне. Трэба дровы нарыхтоўваць, гной выкідаць, карова хутка да столі рагамі дастане, ды ці мала спраў?

— Але ж ён малады хлопец, мог бы і ў Берасці працу пашукаць, — запярэчыла дзяўчына.

— Жаніцца яму пара. Яму трыццаць гадоў. Трэба абрастаць сям'ёю, дзецьмі. Што ён адзін, як палец, на свеце будзе бадзяцца па гэтых чыгунках, — катэгарычна спыніў гаворку бацька. — Сядай на воз, паедзем.

Каця ўмасцілася на возе спінаю да Серафіма. Кірыла ўзяўся за лейцы і пагнаў гнядога коніка ў напрамку царквы. Колы затарахцелі па брукаванцы. Насустрач ішлі па-святочнаму апранутыя сялянкі, смяяліся, размаўлялі. Людзі

радаваліся магчымасці адпачыць ад будзённай цяжкай працы. Местачкоўцаў амаль не было відно, толькі хлапчукі снавалі паміж вазамі. Зосю Кірыла заўважыў не адразу. Яна стаяла пад высокімі дрэвамі і размаўляла з Гэляю, Карпаваю дачкою. Даўнейшае іхняе сяброўства і сумесная паездка ў Польшчу ўсё яшчэ звязвала дзяўчат цёплымі пачуццямі. Гэля радасна павіталася з родзічамі, кожнага абняла і тройчы расцалавала.

— Гэлька, ты такая круглая стала, — сказала Каця насмешліва.

— Выйдзеш замуж — і ты пакруглееш, — весела адказала Гэля.

— Як табе ў тым замужжы?

— Усяляк бывае, але ўжо дабудоўваем хату, дык хутка буду сама сабе гаспадыня.

— Чаму не заходзіш у госці? — спытаў Кірыла ў пляменніцы.

— Зайду, дзядзечка, на каляды. Абавязкова ўжо зайду. То ж былі дзеці малыя, прывязалі да хаты. А цяпер падраслі, дзякаваць богу.

— А колькі ж іх у цябе? — зноў спытала Каця.

— Чацвёрка, — весела адказала Гэля. — Як бобу ў хаце.

— Няхай гадуюцца здаровыя, — усміхнуўся Кірыла.

— Навошта столькі дзяцей? — грэбліва перасмыкнула плячамі Каця.

— Колькі Бог даў, столькі і добра. Яны ў мяне ўсе прыгожанькія, беленькія, як анёлы…

Кірыла ўсміхнуўся Гэлі, падбадзёрваючы ці падтрымліваючы яе, а потым звярнуўся да Зосі:

— Сядай, паедзем дахаты.

— Едзьце, я трохі пабуду з Гэляю. Вельмі ж даўно мы не бачыліся.

— А пасля пешкі будзеш тупаць з Жабінкі? — спытала Каця.

— Нічога, я люблю хадзіць. Ногі доўгія, данясуць…

— Паедзем, разам і паабедаем. Вось і Серафім з намі, — прапанаваў Кірыла.

— Не, я трошкі яшчэ пабуду. Заняла чаргу да споведзі. Людзей шмат.

— Ну, рабі, як хочаш, але асабліва не баўся. Асенні дзень кароткі, — папярэдзіў Кірыла, тузануў лейцы і паехаў па вуліцы, пакідаючы шумнае і святочнае мястэчка.

Гэля зазірнула ў вочы Зосі і спытала:

— А ты яшчэ замуж не збіраешся?

— Пакуль не. Прыслаў тут нейкі Кананчук ліст, хоча пазнаёміцца.

— А хто ён, адкуль?

— Жыве ў Берасці, нядаўна з Амерыкі вярнуўся.

— Дык згаджайся, — параіла Гэля. — Чаго ты чакаеш?

— Сама не ведаю, чаго чакаю. Не магу сустрэць чалавека такога, каб быў да душы.

— Дзе ты яго сустрэнеш, калі родзічы аднае крыві між сабою не ладзяць, а ты хочаш, каб табе чужы чалавек стаў радней роднага.

— А ты як са сваім? — спытала Зося.

— Дзе стрываю, дзе агрызнуся, дзе і гаўкну — так і жывём.

— А мне хочацца, каб жыццё было, як свята, у каханні і шчасці, — мройліва сказала Зося.

— Гэты вы з Кацяю ў кніжках пра такое чытаеце, а ў жыцці так не бывае. Перш чым ружа вырасце, трэба пад яе гною пакласці. Помніш, як мы ў пана графа вясной кветнік дагледалі?

Зося ўздыхнула, абняла Гэлю, сказала:

— Бывай, сястрычка. Радая была цябе пабачыць. Пайду паспавядаюся. Нешта душа не на месцы.

Сёстры развіталіся цёпла. Рознае цяпер у іх было жыццё, розныя турботы, якія разводзілі іх і не давалі глыбока зразумець душу адна адной, думкі і парыванні. І шчырасці ранейшае не было, паступова счужэлі душы. Зрэшты, хіба можна расказаць пра тое самае патаемнае, што атручвае душу, шчыміць і баліць? Чужая бяда староннябяму воку здаецца недарэчнай і смешнай.

Пасля споведзі Зося адчула сябе быццам вальнейшай і лягчэйшай. Калі бацюшка спытаў пра яе грахі, адказала, што грэшная. Ён заспакоіў дзяўчыну, што Бог даруе ўсім, хто пакаяўся, і бласлявіў яе. Зося выйшла з царквы, удыхнула на поўныя грудзі свежага паветра, спусцілася з ганка, выглядваючы аднавяскоўцаў, з кім можна было б ісці дахаты. На вочы ёй трапіўся Мікола Іванюк, які размаўляў з незнаёмым хлопцам. Дзяўчына падышла да іх.

— Зоська, пазнаёмся, гэта Міхась з Ракітніцы, мой далёкі родзіч і добры чалавек, — прадставіў Іванюк хлопца.

— Вельмі прыемна, — адказала Зося і падала руку незнаёмцу. — Дахаты пойдзеце, ці тут заначуеце?

— Пойдзем. Начаваць нас тут ніхто не запрашаў, — смеючыся, адказаў Мікола.

— Дык пайшлі, — прапанавала Зося. — Бо ў лесе ваўкі перастрэнуць.

— Зараз ваўкі сытыя, на людзей не накідваюцца, — заўважыў Міхась.

— Зося, гэтаму хлопцу можна верыць. Ён настаўнік, усё ведае, — папярэдзіў Мікола.

— Настаўнік? — здзівілася Зося.

— Так, быў настаўнікам у Расіі. А цяпер беспрацоўны. Мне ж ніхто не дазволіць у польскай школе працаваць…

— А дзе вы жылі ў Расіі?

— У Ноўгарадзе.

— А мы ў Самары.

Гаворка завязалася сама сабой, Зося з Міхасём згадвалі пра мінулае, якога Мікола не ведаў, але ён слухаў уважліва і зусім не адчуваў сябе лішнім. Незаўважна для сябе яны выйшлі з Жабінкі, пакрочылі па дарозе, дзе было не так шматлюдна, як у горадзе. Паціху пхаліся і рыпелі вазы, тупацелі конскія капыты, людзі вярталіся дахаты з кірмашу.

— Я нават царыцу бачыла. Яна наведала вайсковы шпіталь і сустракала эшалон з параненымі. Такая прыгожая! Уся ў бела-блакітным адзенні, у вялікім капелюшы! — з захапленнем расказвала Зося, жадаючы здзівіць новага знаёмага. — А потым, калі ўжо ў прытулку жыла, дык да нас на Каляды прыязджаў Ленін. Такі маленькі, рыжы, лысы. Ён мне здаўся вельмі непрыгожым.

— Затое які разумны! — сказаў Міхась. — Усю Расію дагары нагамі перавярнуў.

Зося нічога не паспела адказаць. Раптам нехта падхапіў яе пад руку і хутка-хутка павёў уперад. Яна зірнула ўбок, убачыла Гардзея і адчула млявасць ва ўсім целе, напэўна, каб не трымаў яе пад руку, знепрытомнела б, упала б тут проста пасярод дарогі. Але ён так моцна трымаў яе, што яна не змагла б ні ўпасці, ні вырвацца. Зося зноў паглядзела на яго, як бы не верачы сваім вачам, і раптам радасць запоўніла душу: Гардзей вярнуўся з турмы, жывы і здаровы. Усё здарылася так, як ёй марылася. Адчула, як ад хвалявання дрыжыць яго рука. Гэтае дрыжанне перадалося ёй. Так яны ішлі пад чужымі позіркамі, адкрытыя ўсяму свету. І нішто зараз не магло іх раз'яднаць. Староннi чалавек мог бы падумаць, што гэта ідуць муж і жонка, якія вельмі кахаюць адно аднаго, бо дзяўчатам і хлопцам гэтак хадзіць нельга.

Але Зосі было зараз усё роўна, што пра яе падумаюць. Яна была шчаслівая, што яе вядзе пад руку каханы чалавек. І няхай вядзе, куды хоча, каб толькі гэтая дарога не канчалася ніколі.

**36**

Незаўважна Зося з Гардзеем дайшлі да раздарожжа, дзе ёй трэба было зварочваць на хутар. Яна спытала:

— А цяпер ты куды?

— А ты як хочаш? Давай правяду цябе дахаты.

— Правядзі. Зойдзем да нас. Каця будзе радая, — сказала бесклапотна Зося, быццам выпрабоўваючы яго.

— Як яна?

— Звычайна. Шмат шые для людзей. Калі ёсць час, чытае. Пачала хадзіць да баптыстаў у Сцяблова.

— Да баптыстаў? — здзівіўся Гардзей. — Ніколі б не падумаў, што яна адмовіцца ад праваслаўя.

— Яна пакуль яшчэ не адмовілася. Проста ёй там больш падабаецца.

— Ну, ну, цікава будзе з ёю пагутарыць. Пайшлі да вас.

Гардзей павярнуў на сцяжыну, якая вяла да хутара, і пайшоў поруч з Зосяй.

— Як даўно я тут не быў! Ажно сэрца шчыміць.

Перад імі абапал сцежкі з сухою травой ляжала перааранае поле, быццам жыццё, на якім яшчэ трэба было нешта сеяць і чакаць ураджаю.

— Нават пах гэтай зямлі забыўся ў той смярдзючай турме.

— За што яны цябе трымалі?

— Сам не ведаю. Пэўна, уладзе трэба, каб частка насельніцтва сядзела за кратамі, тады ёй спакайней спіцца. Не будзем пра горкае.

Гардзей абняў Зосю, пацалаваў. Яна вырвалася. Адскочыла ад яго.

— Ты чаго такая дзікая? На дарозе былі людзі, а тут — нікога.

— Хто-небудзь з нашай хаты пабачыць…

— Добра, патрываю да вечара…

— Не ўпэўнена, што ўбачымся ўвечары, — адказала дзяўчына.

— Чаго гэта? Можа, ты зноў з Іванюком… Дык я яму…

— Ах, Гардзей, які ж ты… Так і будзеш мне галаву тлуміць… Не ведаю, што і думаць…

Каця, пабачыўшы Гардзея, ледзь не кінулася ў абдымкі, але, заўважыўшы яго спакойны позірк, так і засталася стаяць каля стала. Кірыла і Серафім моцна па-мужчынску паціснулі Гардзею руку.

— Вярнуўся-такі, — задаволена сказаў Кірыла. — Ну, сядай, раскажы, што чуў, што бачыў.

— А што, дзядзька, у турме пачуеш? Туды і саджаюць, каб вырваць чалавека са звыклага жыцця, прымусіць жыць, як жывёлу, у клетцы. Каб маглі падаіць, дык, напэўна, падаілі б, на іхняе няшчасце я не карова, — адказаў Гардзей, уладкоўваючыся на шырокай лаве.

Моладзь засмяялася. Кірыла паскроб патыліцу, сказаў:

— Дзіўна ты расказваеш. А што за людзі з табою былі?

— Трымалі мяне з палітычнымі. Гэта такія дзівакі! Увесь час нешта прамаўляюць, мараць свет захапіць, а самі нічога не робяць, толькі як сабакі з-за плота падбрэхваюць. Паспрабаваў, як яны, у мяне не атрымалася. Былі там і крымінальнікі. Наконт гэтых магу сказаць, што ў іх наогул нічога святога няма. Украў ці абрабаваў каго — ім шчасце.

— Цяжка табе там было?

— Няволя — самая агідная рэч на свеце. Што гэта ўсё пра мяне? Раскажыце пра сябе, як вы тутака?

— Дзякаваць Богу, усе жывыя і здаровыя, — адказаў гаспадар.

— А як дзяўчаты? Жаніхі ўсе парогі паабівалі? — весела спытаў Гардзей, пазіраючы на Кацю.

— Было, было, сваталіся людзі добрыя… Але адмаўляюцца мае дочкі, не ідуць замуж, — скрушна пахітаў галавою Кірыла.

Каця выхапіла з-за іконы ліст ад Кананчука і сказала:

— Вось тут адзін амерыканец з Берасця да Зосі сватаецца.

Гардзей узяў з Кацінай рукі ліст, сказаў:

— Не хацеў бы я, каб Зося мела што-небудзь агульнае з гэтым чалавекам.

— Ты яго ведаеш? — здзіўлена спытала Каця.

— Не ведаю і ведаць не жадаю, — нервова засмяяўся Гардзей і кінуў ліст у печ, дзе весела скакала полымя.

Зося, маўкліва назіраючы за тым, што адбываецца ў хаце, задаволена адзначыла сама сабе: Гардзей не хоча, каб яна ішла замуж за другога, значыць, жадае пакінуць яе для сябе. Няхай, няхай будзе так, як ён хоча.

— А ты як пажываеш? — спытаў Гардзей у Каці. — Зося казала, што да баптыстаў ходзіш.

— Хаджу. Там вельмі цікавыя людзі збіраюцца, мудра прапаведуюць, спяваюць малітвы.

— Калі так, вазьмі калі і мяне з сабою, — прапанаваў Гардзей, пазіраючы на Кацю з цікаўнасцю.

— З задавальненнем, — радасна адказала Каця.

Яна адчувала, што пачынае збывацца яе мара. Увесь час, пакуль Гардзей быў у турме, Каця марыла, што ён далучыцца да яе царквы. Такі разумны хлопец здолее атрымаць духоўную адукацыю і стаць пастарам. Разам яны могуць паехаць у Амерыку і там ладзіць сумеснае шчаслівае жыццё. Толькі Гардзея і больш нікога яна ўяўляла сваім мужам.

— Што ж там прапаведуюць?

— Нас вучаць, што трэба жыць адпаведна святому пісанню. Як сказаў святы апостал Якаў, будзьце ж выканаўцамі слова, а не толькі слухачамі, якія падманваюць саміх сябе.

— Каця, ды ты выдатная прапаведніца. Каб цябе залучылі да сябе камуністы, табе не было б там цаны.

— Табе абы пасмяяцца, а, між тым, усё вельмі сур’ёзна. Часам не ўсё ў нас атрымліваецца, як хочацца, таму што мы не чуем Бога, нешта робім не так, не па-хрысціянску. Трэба слухаць Госпада, не адступаючы ад яго, і тады здарыцца вялікі цуд.

Каця нешта казала і казала, Гардзей і ўсе прысутныя ўважліва слухалі. Зося адчула тут сябе непатрэбнаю, лішняю. Яна пашаптала бацьку на вуха, што пойдзе да дзядзькі Карпа, перадасць прывітанне ад Гэлі, і ціха выйшла з хаты з думкаю: няхай гутараць, няхай ім добра будзе. Гардзей нікога не кахае. Ён любіць толькі сябе і хоча, каб усе навокал захапляліся ім. Але сёння ён мяне не пабачыць, не знойдзе нідзе, няхай задавольваецца Кацінымі пропаведзямі.

## 37

Спала Каця трывожна. Абудзілася з пачуццём крыўды на Гардзея, а заадно на Зосю. Цяпер яе найбольш цікавіла, дзе сястра сустрэлася з ім, чаму яны прыйшлі разам, куды знікла Зося, што нават дома не начавала? Каця прыўзняла галаву, пабачыла, што бацька ўжо сядзіць за сталом і пацягвае сваю цыгарку.

— Дзе тая Зося валочыцца? Чаму ты, бацька, не пакараеш яе за гэтыя адлучкі? — раздражнёна спытала Каця.

— У Карпа яна начавала. Гэля папрасіла, каб Зося наведала яе бацькоў, перадала прывітанне, вось яна і пайшла.

У Каці ад пачутага трохі адлегла ад сэрца, бо яна ўжо ўявіла, што сястра знарок пайшла з хаты, каб падпільнаваць Гардзея. Бацькавы словы супакоілі дзяўчыну, яна хуценька апранулася, умылася, запляла касу, падхапіла чыстую даёнку і пабегла ў хлеў, а калі вярнулася, Зося ўжо была дома, варочала вялізныя чыгуны.

— Ты ўжо дома? Што чуваць у дзядзькі Карпа? — спытала Каця, цікуючы за выразам твару сястры.

— Усё добра. Цётка, праўда, трохі хварэе, нейкі кашаль усчаўся, але як пра Гэлю пачула, дык і пра хваробу забылася.

— Хто карову пагоніць на пашу? Я ці ты? — спытала Каця. — Потым зірнула на бацьку. — А мо Серафіма пашлём? Вунь ён яшчэ спіць, як пан вяльможны.

— Не, Серафім няхай застаецца мне за памочніка, — запярэчыў бацька.

— Ідзі ты, а я пайду лён церці, — прапанавала Зося сястры.

Пасвіць карову было працаю, якая звычайна даставалася хваравітай Каці. Яна ніколі не адмаўлялася, бо там можна было спакойна чытаць цэлы дзень кніжку, зрэдку адрываючыся на тое, каб паглядзець, дзе пасвіцца жывёла.

Каця пагнала карову пад лес, дзе быў выган для Сцяблова і Крачак. Здалёку заўважыла, што там пасвіцца некалькі кароў. Падышла да пастушкі. Убачыла прыгожую дзяўчынку з вялізнымі сінімі вачамі і тварам, як у таго анёла, што малююць на абразах, здзіўлена спытала:

— Ты чыя такая?

— Базылёва.

— Са Сцяблова?

— Я ж кажу Базылёва.

Каця мала ведала людзей з суседняй вёскі, таму і не стала распытваць, хто такі Базыль, аднак дзяўчына патлумачыла:

— Мой бацька памёр, калі я была зусім малая. Але нас па-ранейшаму называюць Базылёвымі.

— І з кім жа ты жывеш?

— З маці і жанатым братам. Цесна ў нас, дзеці малыя плачуць. Адна радасць, што сыду куды з хаты.

— Хлопец у цябе ёсць?

— Няма. Мой брат нікому не дазваляе на мяне нават паглядзець. Як яшчэ быў нежанаты, дык колькі разоў хадзіла на вячоркі разам з ім, а цяпер нікуды з хаты не пускае.

— А колькі ж табе гадоў? — спытала Каця, аглядаючы танклявую постаць дзяўчынкі.

— Шаснаццаць.

— Табе ўжо і замуж можна. Ці пайшла б, каб пасваталі? — пасміхнулася Каця, але дзяўчынка не звярнула ўвагі на яе з’едлівасць.

— Напэўна, пайшла б, бо дома проста невыносна. Маці хворая ляжыць. Нявестка адчувае сябе гаспадыняю, што хоча, тое і робіць…

Дзяўчынка апусціла вочы, глядзела туды, дзе кіёк упіраўся ў зямлю. Каця ўтаропілася ў гэты чысты анёльскі тварык з маленькімі вуснамі, ружовымі шчочкамі, ювелірна вытачаным носікам і міжвольна падумала: «Гэта ж трэба было нарадзіцца ў вясковай хаце гэтакаму хараству! А яна і сама не ведае, які скарб атрымала. Яшчэ трапіць замуж за якога нелюдзя, што будзе здзекавацца з яе ўсё жыццё».

— Чаго замаркоцілася? Як цябе завуць? — спытала Каця.

— Надзя…

— А мяне Каця. Вось і пазнаёміліся.

— Маю хросную маму таксама Кацяю завуць, — радасна сказала дзяўчынка, зірнула ў бок статка. — Вой, зараз ваша кароўка ўваб’ецца ў азіміну. Я збегаю і адганю.

Каця правяла пастушку вачамі і прыкінула, што з яе атрымаецца неблагая жонка для Серафіма, чулая, паслужлівая, спакойная. А што гэтаму слізняку яшчэ трэба? Зрэшты, ён не вінаваты, што давялося з маленства туляцца па чужых кутках. Вядомая справа, сірата. Зрэшты, хлопец ён не благі, паслухмяны, цярплівы. Добрая пара атрымаецца.

— А вы чыя? — нясмела спытала Надзя, калі вярнулася.

— Хутарская, Кірылава.

— Пра вас людзі хораша кажуць, што вы добра шыеце, а яшчэ чытаеце розныя кніжкі, — шчыра ўсміхнулася Надзя. — Я таксама вельмі люблю чытаць, але кніжак няма. Біблію чытаю па вечарах.

— Малайчына, — пахваліла Каця. — Хочаш, я табе дам гэтую кніжку пачытаць?

Каця дастала з кайстры раман Юзафа Крашэўскага «Графіня Козель», надрукаваны па-польску.

— Хачу, вельмі.

— Вазьмі. Я яго ўжо трэці раз перачытваю.

— А калі я вас зноў пабачу? — спытала Надзя.

— Хутка. Ведаеш, што я надумала: пасватаю цябе за свайго брата. Ён хоча ажаніцца, а такі нясмелы, што сам сабе жонку не можа выбраць. Пойдзеш за нашага Серафіма?

— Не ведаю, што брат скажа.

— Няхай, што хоча, тое і кажа. А будзе так, як ты вырашыш.

Увечары, калі ўся сям’я Кірылы сабралася падчас вячэры за сталом, Каця абвясціла дома, што знайшла добрую дзяўчыну для Серафіма. Хлопец занерваваўся, вочы ягоныя забегалі, ён бездапаможна зірнуў на дзядзьку.

— Чыя дзяўчына? — спытаў Кірыла.

— Базылёва са Сцяблова.

— Ну, нічога, гаспадарка з сераднячкоў.

— Ці хоць прыгожая? — спытала Зося.

— Чыста анёлак, — адказала Каця, а сама задаволена падумала: «Вось ажэнім гэтага дурня, не будзе ён блытацца ў мяне пад нагамі».

## 38

Гардзей назіраў за Паўлінаю, як яна снуе каля печы, ці ставячы на агонь патэльню з налітым цестам, ці дастаючы гатовы блінец, і думаў пра сваё далейшае жыццё. Зрэшты, турма нічога не змяніла, хіба толькі тое, што ён

больш не будзе радным. Давядзецца займацца гаспадаркаю і трохі гандлем — скупляць бычкоў у вяскоўцаў і перапрадаваць габрэям. Днямі заходзіў да яго Яўсей Пух з такім выглядам, быццам і не было паміж імі ніякае спрэчкі, быццам забыўся, што яны некалькі гадоў не віталіся, распытваў, як было ў турме, што збіраецца рабіць Гардзей далей. Прапаноўваў зноў распачынаць падпольную працу. Гардзей на гэта адказаў катэгарычнай адмовай:

— Я больш у такія гульні не гуляю. Бессэнсоўна змагацца з тысячагаловай пачварай, я не Пакацігарошак.

— А як жыць? Невыносна ж сядзець, склаўшы рукі, — прыгнечана сказаў Яўсей.

— Ты яшчэ турэмнага хлеба не каштаваў, не ведаеш, як пахнуць гумавыя кіі дэфы, табе здаецца, што можна ўладу падмануць. Згадай Захара Маркевіча. Арлом лётаў! А дзе ён цяпер? Я жыць хачу!

— Трэба змагацца за агульнае шчасце!

— Вось ты і змагайся, калі такі разумны! Набяры сабе падшыванцаў у ячэйку і гойсай па лясах, а мне гэта не падыходзіць.

— І як ты будзеш жыць? Грызці гэтую зямлю да самае смерці?

— Навучы мяне, як лягчэй хлеб зарабляць. Падзяліся мудрасцю, Саламоне! Я да гэтага часу не ведаю, за што сядзеў у турме і хто на мяне данёс. Я нікому не веру! Бо кожны дрыжыць за сваю шкуру! Ты ўявіць сабе не можаш, колькі «сыпакоў» бывае сярод палымяных барацьбітоў за народную волю! Пакуль не схопяць за жабры, скача пеўнікам. А як прыпруць да сцяны ды ўваляць, як каню, адразу язык развязваецца.

Яўсей Пух пайшоў ад Гардзея расчараваны, а гаспадар застаўся задаволены: не будзе гэтая няздара больш назаляць пустымі размовамі. Без войска ніякі ўрад скінуць немагчыма. Ніякае падполле і партызаншчына не дапамогуць, толькі прынясуць новыя ахвяры.

Паўліна паклала ў міску новы залацісты блінец. Гардзей міжвольна пацягнуўся да яго, адарваў кавалак, пачаў жаваць. Паўліна лагодна зірнула на брата, сказала:

— Снедай, не чакай мяне. Пасля таго, як Даша з Маняю павыходзілі замуж, я звыкла позна снедаць.

Гардзей наліў кубак малака, пачаў са смакам есці. Ці ж можна параўнаць гэтую смакату з тою бурдою, якую штораніцы прыносілі ў турме на сняданак і называлі па-панску каваю. Ды тое пойла не елі б нават свінні.

— Адкармлю цябе, падужэеш. Вярнуўся з турмы, бы з крыжа зняты, — лагодна сказала сястра.

— Годзе табе, пані-ахмістрыня, шкадаваць мяне, лепш раскажы, колькі ты грошай назапасіла.

— Не шмат, але заплаціць падаткі хопіць.

— Давай сюды свой скарб, — загадаў Гардзей.

— Навошта? — здзівілася Паўліна.

— Паеду ў Берасце, справы ёсць.

— Вох, Гардзей, глядзі, каб табе яшчэ і за нявыплачаныя падаткі не давялося сядзець, — Паўліна скрушна паківала галавою, выйшла ў сенцы, праз колькі хвілін вярнулася і паклала на стале перад Гардзеем грошы.

Ён зграб іх, не лічачы, пакуль не перадумала, бо яшчэ плакаць пачне.

У Берасці прайшоўся Гардзей па вуліцах, засыпаных апалым лісцем. Хоць дзень выдаўся засмужаны, аднак горад выглядаў ажыўленым і вясёлым. Ля вялікага асабняка спыніўся аўтамабіль, з яго выйшла гожая пані ў суправаджэнні маладога чалавека, які пацалаваў ёй руку. Гардзей ведаў, што тут жыве знакаміты доктар, у якога лячыліся толькі багатыя людзі. З зайздрасцю

паглядзеў на асабняк, адзін ганак якога выходзіў проста на вуліцу, другі — у двор. Пані з маладзёнам усё яшчэ гутарылі ля ўвахода. Гардзей міжвольна падумаў, што ён нічым не горшы за гэтага хлопца, толькі трэба набыць сабе цывільны гарнітур. Спярша накіраваўся на рынак да знаёмага габрэя, які трымаў бойню і прадаваў мяса ў сваёй лаўцы. Янкель у зашмальцаванай камізэльцы, чорным капелюшы, з-пад якога звісалі стручкі пэйсаў, шчыра ўзрадаваўся госцю, заклапочана спытаў:

— Зусім, Гардзей, да мяне забыў дарогу? Я ўжо думаў, ці не пакрыўдзіў цябе чым?

Гардзей не стаў палохаць Янкеля тым, што сядзеў у турме і не да бычкоў яму было, яшчэ пабаіцца супрацоўнічаць, таму сказаў:

— Апошнім часам знаходзіліся пакупнікі ў Жабінцы. Плацілі няблага, але ж рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе лепей. Вось я і прыехаў да цябе на разведку…

— Праўду кажаш, заўсёды трэба мець пэўную інфармацыю.

— Як жывецца, пан Янкель?

— Ат, перабіваюся з бычкоў на цялушак.

— У вёсках падрастаюць і бычкі, і цялушкі. Я гатовы накіраваць іх сюды, на бойню.

Янкель весела засмяяўся, агаліўшы шчарбінку паміж пярэднімі зубамі, а гэта азначала добры настрой і жаданне супрацоўнічаць. Гардзей сапраўды хутка дамовіўся аб цане з гандляром за кілаграм жывой вагі, прыкінуўшы, што з кожнага бычка ён можа мець неблагі прыбытак.

Развітаўшыся з Янкелем, Гардзей зайшоў у бакалейную лаўку, дзе старая габрэйка, хоць было яшчэ даволі цёпла, стаяла над гаршком з гарачым вуголлем: ці ў яе мерзлі ногі, ці мо якая немач прывязалася. Агледзеў вітрыну. Папрасіў зважыць ледзянцоў, засунуў невялікі пакунак у кішэню, папярэдне кінуўшы колькі цукерак у рот, з асалодаю пачаў смактаць. Пасядзеў на бульвары, назіраючы за панямі і паненкамі, потым накіраваўся на вуліцу Шырокую, дзе знаходзіўся будынак з чырвоным ліхтаром. Яшчэ здалёку ўбачыў жывы манекен — аголеную дзяўчыну, якая стаяла ахінутая празрыстаю тканінаю ў шырокім акне і ўсміхалася ўсім, хто праходзіў міма. Гардзей падняўся па прыступках на невысокі ганак. У вялікім пакоі з ядвабнымі фіранкамі яго прыязна сустрэла даўняя знаёмая Стэпка.

— Пан Гардзей! Я ўжо думала, што ты ў манахі запісаўся!

— Спрабаваў — не выйшла, — адказаў Гардзей з усмешкаю блазна.

— Да каго хочаш?

— Да панны Дароткі.

— Няма яе, звёз пан афіцэр у Варшаву.

— Тады да панны Люцыі.

— Шмат што змянілася ў нас, пан Гардзей. Пакінула нас панна Люцыя з панам адвакатам…

— Вядзі да якой хочаш, — весела адказаў Гардзей. — Я ўсіх на свеце дзевак люблю!

— Ну, ідзі ў гэтыя дзверы. Там цябе панна Марцэля сустрэне.

— Марцэля дык Марцэля, дзякую, Стэпка.

— Панна Эвеліна, — паправіла яго дзяўчына.

— Прабач, я памыліўся, — адказаў Гардзей і штурхнуў скрыпучыя дзверы, за якімі чакала яго асалода, купленая за невялікія грошы, усяго восем злотых за гадзіну, пасля якой можна адчуваць сябе ўпэўненым і вольным, дужым і адважным, быццам увесь свет ляжыць каля тваіх ног.

## 39

Каця настойвала, каб бацька з Серафімам хутчэй сваталі Базылёву Надзю, бо дзяўчына вельмі прыгожая, каб хто не перабег дарогу. Кірыла ўсё адкладваў, знаходзіў нейкую прычыну, спасылаўся на дрэннае надвор'е, на пост ці нейкія прымхі. Серафім таксама ўхіляўся ад сватання, баючыся перамен у жыцці. Яшчэ больш яго палохала, што, крый божа, давядзецца ісці ў прымы. Аднак пасля каляд усё ж сватаўство адбылося. Знешне Серафіму дзяўчына вельмі спадабалася, прыгожая, сціплая, сядзела і вочы баялася падняць на будучага мужа, але ж хто ведае, якая ў яе душа? Дзядзька разумеў пляменнікавы хваляванні і паабяцаў дапамагчы паставіць хату, дзе маладыя змогуць уладкаваць уласнае жыццё. А пакуль прапаноўваў пажыць з маладою ў яго дома. Такі план цалкам задаволіў Серафіма. Ён супакоіўся і пачаў па нядзелях ды святах наведваць сваю дзяўчыну. Каця асабліва старанна рыхтавалася да вяселля. Па-першае, яна пашыла новы каптан і сарочку Серафіму, які, апрануўшы абнову, нават папрыгажэў і зрабіўся самавіты, быццам пан. Пашыла Каця новыя строі сабе і сястры, каб выглядаць не горш за маладую. Зосі дасталася яркая чырвоная сукня, якая гарэла, бы мак, з невялікім каўнерыкам, паскам і рукавамі на манжэтах. Сабе Каця выбрала тканіну бэзавага колеру, якая пасавала да яе сініх вачэй.

Клапаціўся пра Серафіма і дзядзька Карп, адчуваючы сваю віну і абавязак перад бацькам пляменніка, які недзе згінуў у Сібіры. Аднойчы надвячоркам ён прынёс свой унёсак у агульную справу — трохі грошай. Абяцаў яшчэ і на вяселле падараваць злотыя.

— А дзе ж наш малады?

— Вядома дзе, у маладой, — засмяялася Каця.

— Гэта добра, што ён да яе прыляпіўся. Мо і шлюб будзе ўдалы.

— Дзе ты грошай набраў? — спытаў Кірыла ў брата.

— Бычка прадаў Гардзею.

— Навошта Гардзею твой бычок? — здзівілася Каця.

— Ён жа, як прыйшоў з турмы, заняўся гандлем.

— Галава ў гэтага хлопца працуе спраўна, — пахваліў Гардзея Кірыла.

Мужчыны селі за стол, сталі абмяркоўваць, як лепш зладзіць вяселле.

Каця паглядзела на Зосю, якая моўчкі прала кудзелю, мусоліла нітку, навіваючы яе на верацяно, шмыгала носам, прастудзілася, выбягаючы на холад распранутая, і падумала: «Дарэмна я раўнавала Гардзея да Зосі. Навошта яна яму, саплівая? З ёю і пагутарыць няма пра што». Каця ўзяла Біблію і палезла на печ. Пасля таго, як прыняла хрышчэнне ў баптыстаў, пастар дазваляў ёй прапаведаваць, таму яна старанна рыхтавалася да кожнага сходу вернікаў.

— Вось дзеўка, за кніжку — і на печ! — засмяяўся Карп.

— Каб замужняя была, дык не было б часу на чытанне, а так, што з яе возьмеш, — махнуў рукою Кірыла.

— Пара табе, брат, аддаваць іх замуж.

— Я і рады, дык не ідуць жа за тых, што сватаюцца, нечага чакаюць, а час ідзе.

Карп не заседзеўся ў брата. Зося зірнула на Кацю, якая сляпіла вочы на печы, і папрасіла:

— Пачытай услых.

— Не магу, пропаведзь рыхтую.

— Вазьмі мяне з сабою, я хачу цябе паслухаць.

— Добра, — неахвотна згадзілася Каця. — Пойдзем заўтра, але пры ўмове, што ты будзеш маўчаць як рыба.

— А што я магу сказаць? Я ж нічога не ведаю, — адказала Зося.

Ёй вельмі захацелася пайсці да незнаёмых людзей, пабыць у новым асяродку. Апошнім часам яна і на вячоркі перастала хадзіць. Зосіны равесніцы ўжо ўсе замужам. Выспеўваюць ды выскокваюць маладзенькія дзяўчаткі. Няёмка нея выбрыкваць сярод іх. Не было таго дня, каб яна не думала пра Гардзея. Але ж думай не думай, а калі ён не шукае з ёю сустрэчы, дык на тое ёсць свае прычыны. Можа, пакрыўдзіўся, можа, прыгледзеў іншую. Вырашыла для сябе: няхай будзе, што Бог дасць. Сваю долю і на кані не аб'едзеш.

## 40

Баптысты збіраліся на сходы ў прасторнай сялянскай хаце, дзе жыў прэсвітэр. Прыйшло чалавек трыццаць, расселіся на загодзя падрыхтаваных услонах. Кацю сустракалі прыхільна, віталіся з ёю, абдымалі за плечы, называлі сястрой.

Адна цікаўная жанчына змерала вачамі Зосю і спытала ў Каці:

— Гэта твая родная сястра?

— Не, гэта сяброўка, — паспешліва адказала Каця. — Прывяла яе паглядзець ды паслухаць, можа, і яна захоча далучыцца да нас.

— Добра, добра, — заківала галавою жанчына. — Трэба далучаць моладзь, накіроўваць на шлях ісціны.

Зосю балюча ўкалола тое, што Каця адцуралася ад яе. Чаму? Яна хацела адразу запатрабаваць тлумачэння. Але ў гэты час прэсвітэр устаў з-за стала, прывітаў усіх прысутных. Гэта быў чарнявы мужчына, гадоў сарака, прыемнай знешнасці, чыста паголены, з бліскучымі валасамі, зачэсанымі назад і быццам намазанымі тлушчам. Паступова голас ягоны з прыветнага зрабіўся ўрачысты, і ён загаварыў узнёсла, уздымаючы рукі ў неба, нібы просячы ў яго блаславення:

— Блаславёны Гасподзь, які суцяшае нас ва ўсялякім нашым смутку, каб і мы маглі падтрымаць тых, хто знаходзіцца ў жалобе. Калі на нашу долю выпадаюць нейкія выпрабаванні, мы абвінавачваем сябе саміх. Нам здаецца, што мы заслужылі гэта. Безумоўна, цвяроза ацэньваць сябе чалавеку на карысць. Але караць і знішчаць сябе за памылкі не варта. Яшчэ горш, калі ў сваіх няўдачах мы абвінавачваем іншых. Так, як рабіў гэта Еліфаз, сябар Іова, хоць быў чалавекам, які шанаваў Бога і Ягоныя запаведзі. Еліфаз упарта шукаў прычыну ўсіх бед Іова ў ягоных грахах і памыляўся…

Зося ўважліва слухала праведніка і думала: «Гаворыць, як пра мяне. Гэта я ўвесь час грызу сябе за тое, што даводзіцца піць зязюліна мыла, за тое, што не магу спадабацца Гардзею. А ці ёсць у гэтым мая віна? Калі б я яму падабалася, дык не шукаў бы нікога, даўно ажаніўся б са мною, а ён і на вочы не паказваецца. Вельмі заняты бычкамі! Ну і няхай! І на Кацю пакрыўдзілася, што ад мяне адраклася, а крыўдзіцца нельга, трэба ўсё дараваць…»

— А зараз прапаведаваць будзе сястра Кацярына, — сказаў прэсвітэр і шырокім жэстам рукі запрасіў Кацю да стала.

Зося захвалявалася, праводзячы вачамі невысокую ладную постаць сястры. Каця спынілася ля стала, абвяла вачамі прысутных, усміхнулася і пачала сваё казанне:

— Дарагія браты і сёстры, самы большы гонар, які нам дадзены, — гэта магчымасць размаўляць з Богам. Здавалася б, навошта? Ён жа і так усё бачыць. Дык для чаго маліцца? Адказ на гэтыя пытанні мы знаходзім у пісанні. Калі ёсць д'ябал, дык супрацьстаяць яму можна толькі малітваю. Бог так задумаў,

каб толькі з малітвамі сваімі мы атрымлівалі тое, што пажадаем. Нам дадзена малітва, каб мы, гаворачы з Богам і дзякуючы Яму, вызваляліся ад трывог і набывалі «мір Божы». Дастаткова прачытаць запаведзь «Няспынна маліцеся», каб зразумець: Бог хоча, каб мы з ім размаўлялі. Усе мы толькі тады пачынаем жыць па-сапраўднаму, калі звяртаемся да жывога Бога…

Кацін твар свяціўся, вочы гарэлі, голас гучаў пяшчотна і ўзнёсла. Слухаючы яе, Зося міжвольна падумала: «Напэўна, я мала малюся, што Бог не дае мне шчасця. Я буду маліцца і ўдзень, і ўначы. Якая ў мяне чыстая, светлая, разумная сястра, як хораша і проста ўмее гаварыць».

Каця скончыла прапаведаваць, вярнулася на сваё месца.

— Ну, ты і малайчына, — зашаптала Зося ў захапленні.

Вернікі маліліся, спявалі, шчыра прасілі ў Бога літасці і блаславення, а Зося вымольвала аднаго, каб знайшло яе шчасце. Сход скончыўся па абедзе. Людзі не спяшаліся разыходзіцца, нешта абмяркоўвалі, дзяліліся ўражаннямі. Калі сёстры Барэйшы ўжо выйшлі з хаты, знайшліся спадарожнікі, якія ішлі ў другі канец Сцяблова, і ўвесь час адзін перад адным выяўлялі веданне Бібліі. Зосі было сорамна, што яна амаль нічога не ведае. Нават адстала ад гурту і на сваіх доўгіх нагах ледзьве сунулася за людзьмі. Толькі за вёскаю Каця і Зося нарэшце аказаліся ўдзвюх, малодшая сястра папракнула старэйшую:

— Чаму ты схлусіла, што я твая сяброўка?

— Бо мы з табой па-рознаму верым у Бога. Ты толькі па крыві мне сястра, а па духу — не.

— Вось так ты ва ўсім! То ты мне, як маці родная, а раптам — як мачаха! Ніколі не ведаю, што ад цябе чакаць. Ты ж ад мяне адракліся, як святы Пятро ад Хрыста, — сказала Зося.

— Годзе табе! Разышлася! Пакаешся і цябе пахрысцім! І тады ты будзеш мне сапраўднай сястрою. Ведаеш, як Хрыстос сказаў: «Забудзь бацьку свайго, забудзь брата і сястру і ідзі за мною!» Зразумела? Ідзі за мною!

Каця пайшла па вузкай сцежцы паперадзе сястры.

— Не, я так хадзіць не магу. З тваёю курынаю хадою мне ніяк не сысціся! — сказала Зося, зрабіла два шырокія крокі, абагнала сястру і размашыста пакрочыла паперадзе.

## 41

Вяселле Серафіма і Надзі прызначылі на Масленіцу. Спачатку меркавалі пачастунак наладзіць у хаце Кірылы, а пасля прыкінулі, што надта малое памяшканне, і вырашылі ладзіць вяселле ў Карпа. Ён жа таксама родны дзядзька, да таго ж Агатэля як сталая жанчына, напэўна, лепш справіцца з абавязкамі названай маці, чым дзве сястры, равесніцы маладога.

У той самы час, калі малады выправіўся да маладое, каб разам ехаць у царкву вянчацца, усчалася мяцеліца. Завойкала Агатэля, пачала маліцца, стала казаць, маўляў, нешта благое здарыцца, хоць адкладай вяселле. Але адклад, як вядома, не ідзе на лад. А калі зазвінелі званочкі, пачуліся спевы, гаспадар і гаспадыня выйшлі з хаты, каб хлебам-соллю сустрэць маладых.

Зося, як толькі выбегла на вуліцу, сутыкнулася позіркам з Гардзеем, але зрабіла выгляд, што не заўважыла яго. Каця ж адразу кінулася яму насустрач, пачала нешта з усмешкаю прамаўляць. Зося тым часам схавалася ў камору, мыла посуд, насіла стравы на сталы. Прабягаючы міма Гардзея, Зося крадком кідала на яго позірк, хацелася глядзець на яго і глядзець. Такі ён быў прыгожы ў новым цёмна-сінім гарнітуры з гальштукам у чырвоную,

белую і блакітную палоску, зусім не падобны на вясковага хлопца. Быццам нейкі паніч завітаў на свята да сялян. Госці трохі выпілі, закусілі і пусціліся ў скокі проста ў хаце, аднак тут было цеснавата. Душы прасілі прасторы. Пачалі наладжваць скокі на вуліцы, хоць у гарманіста мерзлі пальцы, але ўсім астатнім было горача.

Незаўважна сцямнела, а моладзь усё весялілася, змалоўшы ступакамі снег на муку. Зося таксама не ўтрымалася, каб не паскакаць на вяселлі. Калі на імгненне змоўк гармонік, Гардзей адвёў Зосю ўбок, прапанаваў:

— Давай пройдземся трохі. Нешта галава ачмурэла.

— Дзе тут пройдзешся? Столькі снегу наваліла.

— Я люблю хадзіць пад снегам і дажджом!

— Дзівак! — засмяялася Зося. — Ты такі дзівак! Дзе твая шапка?

— Згубіў недзе! Ты не заўважыла: што я і галаву побач з табою губляю, — засмяяўся ён і пачаў цалаваць Зосю.

Ад гэтага мілавання і ў яе галава пайшла кругам. Да таго ж зmoраная была яна вельмі. Апошнія трое сутак амаль не спалі, зарэзалі вялікага парсюка, гатавалі пад кіраўніцтвам Агатэлі розныя стравы.

— Пайшлі ў хату, замерзнеш без шапкі, — прапанавала Зося.

— Не, у хату не пайду. Як ты жыла? Раскажы?

— Звычайна. Прала, вышывала, да вяселля рыхтавалася. А ты?

— А я таксама быў заняты. Гаспадарка апынулася ў заняпадзе, пакуль мяне не было. Трэба было пастарацца хоць нешта зарабіць.

— Пэўна, зарабіў? Я ўжо заўважыла, як ты апрануты. Прыгожа!

— Дзякую, што разгледзела. Для цябе стараўся.

Толькі цяпер Зося заўважыла, што Гардзей агародамі вядзе яе да клуні.

— А чаго мы сюды? — спытала ўстрывожана.

— А дзе ж яшчэ мы можам схавацца ад зімы? Пойдзем, пагрэемся трохі, сама ж казала, што галава мая адмерзне.

Зося правяла рукою па ягоных валасах, страсаючы снег.

— Ты проста Дзед Мароз, — засмяялася яна.

— А ты мая Снягурка.

Яны ішлі па цаліку, дзе снегу было па калена, але дзіўна, што Зося зусім не адчувала холаду. Сэрца яе ўсхвалявана калацілася, як у перапалоханай птушкі. Яна ведала, што гэты паход у клуню можа скончыцца новаю пакутаю, але зараз не ў стане была думаць пра наступнае, жыла толькі гэтым шчаслівым імгненнем, калі Гардзей быў побач і належаў толькі ёй. Дзверы клуні жалобна праспявалі, быццам шкадуючы дзяўчыну. Але дужыя рукі падхапілі ўжо Зосю і панеслі на сена.

Пасля мілавання, калі яны ляжалі стомленыя, Зося прашаптала:

— Я больш не хачу разлучацца з табою.

— Не будзем разлучацца. Я гатовы штодня хадзіць у гэтую клуню.

— А як я даведаюся, што ты прыйшоў?

— Зайду да вас у хату, пасяджу, пагаманю, а потым па адным выйдзем і сустрэнемся тут. Дамовіліся?

— А як хто даведаецца?

— А чаго нам саромецца? Мы ж нікому шкоды не робім…

Гардзей абняў Зосю, прытуліў да грудзей і яна падумала, што гатовая на ўсялякую ахвяру, толькі б ён заўсёды быў побач, і няма ёй чаго баяцца, пакуль адчувае абдымкі ягоных дужых рук, пакуль гараць ягоныя пацалункі на яе вуснах.

Раптам ён спытаў:

— Як Серафіму ўдалося такую прыгожую дзяўчыну сасватаць?

— Сасватаў бы ён! Гэта Каця вырашыла яго ажаніць, думаю, для таго, каб з хаты выжыць. Цеснавата ў нас… — засмяялася Зося.

— Няўжо яна такая хітрая?

— Кацю трэба ведаць. Яна ўсё пралічыць на чатыры крокі наперад. Ты думаеш, чаго яна да баптыстаў ходзіць?

— Чаго?

— Марыць з’ехаць за мяжу!

— Жаданне лепшага жыцця — рыса добрая. І калі чалавек усё робіць для таго, каб дасягнуць сваёй мэты, дык яго за гэта можна толькі пахваліць.

— А мяне ты калі-небудзь пахваліш?

— Пра цябе няма гаворкі! Ты лепшая дзяўчына Крачак, не сумнявайся! — весела сказаў Гардзей.

— Пойдзем адсюль. Крый божа, пазасынаем ды пазамярзаем.

Зося паднялася, пачала абтрэсваць салому, потым засмяялася і прамовіла:

— У мяне за пазухаю поўна саломы.

— Ах ты, мая красуня саламяная, дай павыграбаю, — адказаў Гардзей, абняў яе і зноў паваліў на духмянае і шапатлівае сена, падмінаючы пад сябе яе падатлівае гарачае цела…

## 42

Пасля вяселля Серафім і Надзя пасяліліся ў Кірылы. Маладыя сталі спаць на запечку, а Зося і Каця на лавах. Стары Кірыла звычайна ўладкоўваўся нанач на печы. Маладая жонка была не надта ўвішная, крыўдлівая ды слязлівая. Варта было зрабіць ёй якую заўвагу, як яе вялікія сінія вочы напаўняліся слязамі, яна хавалася ў куточак за печ і плакала, як малое дзіця. Кацю вельмі раздражнялі такія паводзіны нявесткі, і яна, як назнарок, заўсёды знаходзіла падставы для таго, каб дапячы маладзіцы. Сварка магла ўсчацца з нічога.

— Ты чаго павешала на бэльку свае транты? — злосна пыталася Каця ў Надзі.

— А хіба нельга? — здзіўлена пазірала шырока расплюшчанымі нябеснымі вачамі юная нявестка.

— Нельга! Да нас чужыя людзі прыходзяць, а тут розныя рызманы, як у цыганоў, вісяць!

Пад «чужымі людзьмі» Каця разумела не тых кліентаў, што прыносілі шыць адзенне, а Гардзея, які пачаў па вечарах наведвацца да Барэйшаў.

— У камору ўсё сваё хавай! Зразумела? Як вы мне ўсе абрыдлі! Ноччу шушукаюцца ды запечкам скрыпяць, удзень пад нагамі блытаюцца!

— Дык куды ж нам падзецца сярод зімы? — крыўдліва ўсхліпвала Надзя.

Серафім маўчаў, ніколі не бараніў маладую жонку, бо звык трываць у сваім сіроцкім жыцці ўсялякія крыўды і ўжо ніяк на іх не рэагаваў. Надзю гэта яшчэ больш абражала. Яна зрабілася непрыкметнаю, шэраю, сінія вочы патухлі, быццам набегла на іхнюю нябесную чысціню цёмная хмарка.

Кірыла часам абрываў Кацю:

— Чаго прычапілася да маладзіцы? Адной анучаю больш, другой менш, што з таго?

— Нічога! Толькі скажы, бацька, колькі яны тут будуць жыць?

— Вясной паспрабую купіць для іх якую хату, няхай і старую, падладзім тое-сёе і няхай жывуць. Праўда, Серафім?

Серафім згодна кіўнуў галавою.

— Навошта чакаць вясны? Вясна ўжо на носе. Хутка снег растане. Трэба дамаўляцца цяпер, каб вясною пачаць нешта рабіць, — сказала Каця.

— Можа, і так, — згадзіўся бацька.

На другі дзень ён пайшоў у Сцяблова, вярнуўся пад вечар з добраю весткаю: дамовіўся з адным чалавекам, што не дорага прадасць старую хату. Трэба будзе там падладзіць страху, зрабіць падлогу ды і можна жыць.

— А чыя хата? — усхвалявана спытала Надзя.

— І не ведаю, дзіця. Жыла там маці гэтага чалавека, памерла месяц таму, вось і асірацела хата.

— А дзе тая хата стаіць?

— Каля самага лесу.

— Ведаю, там старая Банадыся жыла, — здагадалася Надзя.

— Добрая мясціна, — сказаў Кірыла, — і карову ёсць дзе пасвіць, і качак можна развесці, побач азярынка невялікая. А тое, што хата стараватая, — нічога. Узаб'юцца нашы маладыя на дастатак, дык новую пастаяць.

Надзю вельмі ўзрадавала вестка пра тое, што хутка сама сабе будзе гаспадыняю. Яна быццам зацвіла, раскрылася і зрабілася прыгожаю, як тая кветка, што расцвітае нечакана на золку і радуе свет сваім хараством. Калі ўвечары зноў завітаў Гардзей, Надзя весела яму ўсміхнулася, засвяцілася ўся, ледзьве стрымалася, каб не падзяліцца радасцю.

— Ну і жонку ты сабе ўзяў, Серафім! — захоплена сказаў Гардзей. — Яна пакуль маладзенькая, як валошка ў полі, а калі набярэцца жаночай сілаю, аброць табе давядзецца на яе надзяваць.

Такое прароцтва не спадабалася Серафіму і, можа, упершыню ў жыцці ён агрызнуўся:

— Меней на чужых жонак заглядвайся. Ажаніся, дык дурныя думкі ў галаву не палезуць. Саракоўку размяняў, а ўсё па дзеўках шастаеш!

— Серафім, ты што, звар'яцеў! — накінулася на брата Каця. -— Як ты чалавека сустракаеш? Сядай, Гардзей, не слухай яго. Некаторыя хлопцы, як толькі ажэняцца, дык адразу пачынаюць жончыным розумам жыць.

Гардзей сеў на лаву, паглядзеў на Кацю, акінуў позіркам Зосю, што мітусілася каля печы: лінула на гарачае вуголле кубак вады, каб патушыць яго да рання і зачыніць бляхаю. Вада злосна зашыпела.

— Што чуваць у Крачках? — спытаў Кірыла.

— Нічога, дзякаваць богу, — адказаў Гардзей. — А вось каля Івацэвічаў, кажуць, нейкі чалавек аб'явіўся, называе сябе прарокам. Прозвішча яго Мурашка. Ён кажа, што хутка канец свету. Людзі ідуць, прадаюць усю маёмасць, а грошы аддаюць Мурашку і жывуць адной сям'ёю, як родныя людзі.

— Хапае прайдзісветаў на свеце, — хмыкнула Каця. — Толькі наша царква самая правільная. Калі ты, Гардзей, збярэшся да нас? Каб ты пабачыў, якія ў нас людзі далікатныя! Якія пропаведзі чытаюць мудрыя, заслухаешся!

— Кожны цыган сваю кабылу хваліць, — заўважыў Серафім.

— Нешта ты сёння разгаварыўся. Ці ўжо адчуў сябе гаспадаром някупленай хаты? Вось што з чалавекам робіць маёмасць!

— Серафім хату купляе? — перапытаў Гардзей і перахапіў радасны Надзін позірк. — Малайчына! Незалежнасць робіць раба чалавекам.

Зося тым часам завязала хустку і апранула паліто.

— Куды ты сабралася? — спытаў бацька ў малодшай дачкі.

— Пайду на вячоркі, — бесклапотна адказала дзяўчына.

— Такая цемра на вуліцы, пабыла б дома хоць вечар.

— Абрыдла слухаць вашы сваркі. Паскачу, паспяваю, адвяду душу…

З гэтымі словамі Зося выслізнула за парог у начную цемру і пайшла ў бок клуні. Над ёю было хмарнае неба. Ні адна зорка не магла прабіць шлях свайму святлу праз морак. Месяц і той заблудзіўся ў кудзелі аблокаў. Вясна змагалася з зімою за права ўладарыць светам, наталяць яго святлом і цяплом, упрыгожваць і вяртаць да жыцця. Ды ясней за ўсе зоркі свету свяцілі Зосі Гардзеевы вочы. Нават у цемры, калі ён нахіляўся над ёю, здавалася, што яна бачыць іх прытоены і спакушальны бляск.

**43**

Шчаслiва і бесклапотна пражыла Зося прадвесне, напоенае любасцю, пяшчотай і мілаваннем. Гардзей ставіўся да яе ўважліва і далікатна, папярэджваў кожнае яе жаданне. Хоць час ад часу прачыналася ў Зосінай душы прадчуванне, што можа здарыцца нешта нядобрае. Калі заўважыла, што зноў зацяжарыла, не спалохалася, вырашыла, як звычайна, папіць узвар з зязюлінага мыла. Хацела прыручыць каханага да сябе, прывязаць, а вестка пра цяжарнасць, як ёй здавалася, магла разладзіць іх добрыя адносіны. Гэта яна ведала на прыкладзе Марфы.

Аднак здарылася непрадбачанае. Дзіця, якое толькі завязалася пад яе сэрцам, не хацела вымывацца. Што Зося ні рабіла, і скакала з сена ў клуні, што ледзьве ногі не паламала, і падымала цяжкія чыгуны з бульбаю, і грэлася на чарэні — дзіця не хацела выходзіць. Калі жывот прыкметна акругліўся, Зося сказала пра сваю цяжарнасць Гардзею. Адбылося гэта ў клуні. Яны сустрэліся як звычайна, ён пажадліва колькі разоў пацалаваў яе, а потым нецярпліва папрасіў:

— Распранайся хутчэй.

— А нам цяпер нельга скаромнага, — засмяялася Зося.

— Чаму гэта раптам?

— У нас хутка будзе дзіця.

— Дзіця? — здзівіўся ён. — Якое ў цябе можа быць дзіця? Столькі гадоў сустракаемся — нічога не было, і раптам на табе — маеш!

— Гэта для цябе не было…

— Ты хочаш сказаць… Дык дзе яны?

— Што было, тое сплыло. Што мне рабіць цяпер?

— Пакуль Паўліну не аддам замуж, сам жаніцца не буду.

— Што ж, у такім разе тваё дзіця будзе расці бязбацькавічам. Я выгадую яго так, як захачу, а табе да нас няма ніякае справы, жыві сабе, радуйся.

— Яшчэ трэба паглядзець, якое ты дзіця народзіш. Ты ж падслепаватая…

Крыўда перахапіла дыханне, Зося ўсхліпнула і залілася слязамі. Плакала яна доўга. Усё чакала, што ён знойдзе слова, каб суцешыць, супакоіць. А калі падняла галаву, дык пабачыла, што Гардзея ў клуні няма.

Употай Зося яшчэ спадзявалася, што Гардзей адумаецца, прыйдзе, папросіць прабачэння, і ўсё ў іх будзе добра. Аднак ён больш ні разу не наведаў хату Барэйшаў. Нават Каця занепакоена аднойчы спытала:

— Нешта Гардзей не прыходзіць. Абяцаў пайсці са мною ў царкву…

— Скуль я ведаю? Ён жа да цябе хадзіў, — адказала Зося.

— Мо што чула пра яго?

— Не чула і чуць не жадаю, — адрэзала Зося.

— Ты чаго такая злосная! З Іванюком пасварылася? Нешта перастала на вячоркі бегаць.

— Пост цяпер. Няма ніякіх вячорак.

— І што табе замінае з ім сустракацца ў пост?

— Абрыдзеў ён мне, як вы ўсе, — злосна адказала Зося. — Чаго ты лезеш мне ў душу? Ідзі да сваіх баптыстаў.

Пачалася сяўба, поле забірала ўсе сілы. А ў перапынках паміж сяўбою, ладзілі Серафімаву хату. Зранку ўсе разыходзіліся, толькі Каця заставалася дома, каб даглядаць скаціну, палоць грады, варыць абед ды вячэру. Уставалі ўсе вельмі рана, звычайна снедалі кубкам малака ды лустаю хлеба. Асабліва стараліся Серафім і Надзя. Яны пазней за ўсіх прыходзілі з працы, кожную вольную хвілінку выкарыстоўвалі, каб нешта зрабіць у сваёй хаце. Вельмі ж хацелася хутчэй пераехаць туды. Хоць яшчэ жытло не зусім было гатовае, але пасля Пятроўкі мусілі перасяляцца. Ніякіх улазін не святкавалі. Сялянскія спрадвечныя клопаты наплывалі адзін за адным. Святы і будні падпарадкаваліся адной мэце — выжыванню. Зося, як магла, хавала сваю страшную тайну, туга перавязвала жывот, надзявала бацькаў стары каптан, імкнулася прыхаваць перамены ў сваёй паставе. Каця аднойчы нездаволена спытала:

— Навошта табе гэты падраны каптан? Яго толькі ў агародзе на пудзіла засталося надзець.

— Я і ёсць пудзіла. З ранку да вечара сяджу на градах ды ў бульбе. Дзіву даюся: на кожную карысную расліну па дзесяць каліў пустазелля вырастае. Дык якая ж тут можа быць праўда на зямлі?

— Праўда ёсць толькі адна — Боская, — адказала Каця, думаючы пра нешта сваё.

Зося разумела: Каця крыўдуе на Гардзея. Што будзе, калі яна даведаецца праўду? Не мела Зося ні мужнасці, ні сілы заглядваць у будучыню. Калі заставалася адна, клала руку на жывот, прыслухоўвалася да дзіцяці, шкадавала сябе і яго і маліла Бога, каб ён выратаваў яе ад ганьбы і знішчэння.

## 44

На пачатку лістапада Зося адчула: жывот яе быццам бы апусціўся ўніз, апаў. Зразумела, што, мабыць, хутка надыдуць радзіны, і тады ўжо не схаваешся ад чужых вачэй, ад плётак і асуджэння. «Ну, і няхай. Няхай гавораць! — у адчаі думала яна. — Нікому няма справы да мяне і майго дзіцяці. Калі яно ўтрымалася ў маім целе, дык гэтага хоча Бог. Можа, бацька не выганіць з хаты… А калі і выганіць, дык пайду ў свет жабрачкаю. Няўжо каханне — толькі пакута, якую я перажываю на працягу шматлікіх гадоў? Чаму мне было не пазнаёміцца з тым чалавекам з Берасця, як жа яго прозвішча: Кананчук ці Кананові́ч? Можа, ён быў не горшы за Гардзея? І жыла б я з ім, бяды не ведаючы. А вось Гардзей мне свет завязаў, і нічога не магу з сабою зрабіць…»

Гэтыя думкі яна бясконца пракручвала ў галаве і не знаходзіла адказу. Усё спадзявалася на нейкі цуд, на шчаслівы зыход, што з’явіцца Гардзей і вырашыць усе яе праблемы, адвядзе бяду. Але ён не прыходзіў, і цуд не здараўся.

У адзін з вечароў Зося адчула сябе зусім блага. Залезла на печ, моўчкі курчылася ад болю, які распіраў жывот, быццам дзіця хацела разарваць цела маці па жывому і выйсці вонкі. Калі ж боль паласнуў быццам нажом, яна прытоена прастагнала.

— Зоська, чаго ты там? — заклапочана спытаў бацька, заглядваючы на печ.

— Нічога… Жывот вельмі баліць… Падарвалася, мусіць, учора, як лён насіла.

— Не кіла, дык ураз, а ўсё не гаразд, — насмешліва сказала Каця.
Зося зноў цяжка прастагнала.
— Што з ёю рабіць? — бездапаможна развёў рукамі бацька.
— Тата, пакліч цётку Агатэлю. Яна мне паможа, — папрасіла Зося.
— Чым яна табе паможа? Яна шаптаць не ўмее, — сказала Каця.
— Хоць памоліцца нада мною перад смерцю.
— Няўжо табе так блага раптам зрабілася? — здзівіўся бацька. — Добра, патрывай, зараз паклічу братавую.

Кірыла хутка апрануўся — і за ім моцна грукнулі дзверы. Каця палезла да сястры на печ.

— Чаго ты пячэшся на чарэні, ідзі на запечак, там паветра больш.
Зося паслухмяна пачала спаўзаць з печы.
— Нейкая мажная ты зрабілася, як я раней не заўважала?..
Хутка Кірыла прывёў Агатэлю. Цётка кінула світку на лаву, развязала канаплянку, засталася ў паркалёвай белай хустцы. Хукаючы на замерзлыя рукі, падышла да Зосі, спытала:
— Што з табою, дачушка? Што ў цябе баліць?
— Жывот, — прашаптала Зося скрозь зубы, каб не закрычаць ад болю.
— Кладзіся на спіну… Пабачым, што там з тваім жыватом…
Агатэля схілілася над Зосяю і ціха прамовіла:
— Ах ты, дурнічка! Дабегалася-такі… Ну, дыхай вальней… Зараз мы твой жывот вылечым, як рукою здыме…
— Што там з ёю? — устурбавана спытаў Кірыла.
— Нічога, нічога асаблівага… Рыхтуйце вялікую міску і цёплую ваду. А яшчэ якую падраную сарочку. І нож дайце мне… Але папярэдне патрымайце над агнём…
— Нашто гэта? Яна толькі ўчора ў балеі мылася, — запярэчыла Каця.
— Учора было ўчарашняе, рабі, што кажу, — загадала старая.
Цётка нахілілася над Зосяю, гладзіла жывот, падводзіла плод да выхаду і шаптала на вуха:
— Тужся, тужся памаленьку, — шаптала Агатэля. — Не бойся, усё будзе добра… Як жа ты папалася, небарачка? Ну, нічога… З кім не бывае… Усё дрэннае праходзіць, а добрае застаецца… Дзеці на свет з’яўляюцца для дабра. Каб на старасці дагледзець бацькоў ды пацешыць унукамі… Тужся, тужся, не лянуйся…
Кірыла сеў каля стала. У душы варушылася нейкае нядобрае прадчуванне.
Каця прынесла з сяней вялікую медную міску, набытую яшчэ некалі ў Самары, дастала, крэкчучы, з печы вялікі чыгун гарачай вады, паставіла на прыпечку, пачала наліваць кубкам ваду, якая звонка білася ў дно і цурчэла.
— Пастаў міску на лаве, каля стала, — сказала цётка. — Нясі старую апранаху і нож.
— Вось, ужо ўсё ляжыць, — адказала Каця. — Нож — на стале, ануча на лаве.
Зося прарэзліва закрычала.
— Ды што з ёю? — не вытрываў Кірыла. — Агатэля, што ты ёй робіш?
— Нічога, нічога, усё будзе добра… Зоська малайчына… Здаровая, дужая…
Раптам хату напоўніў дзіцячы енк. Агатэля захінула малое ў палатняную латку, паказала сямейнікам.
— Во, глядзіце, якога Зоська волата нарадзіла! З першым унукам, Кірыла! Увосень нарадзіўся, багаты будзе…

## 45

Каця кіпела ад злосці, але маўчала, чакала, што бацька першы пачне гаворку пра ганьбу, якая раптам абрынулася на іхнюю сям'ю. Кірыла чакаў, калі Зося падужэе, дык сама сустрэнецца з бацькам дзіцяці. З разумным хлопцам можна неяк дамовіцца ды ўсё зрабіць па-чалавечы, запісаць немаўля, а мо і пабрацца. Кацю абурала, як асмелілася Зося гэтак легкадумна прыгуляць байструка. Цяпер уся вёска будзе пляткарыць і пра яе, Кацю, таксама нешта нядобрае плявузгаць. Не, тут заставацца нельга. Трэба тэрмінова пагутарыць з Гардзеем і схіліць яго да таго, каб ён прыняў хрышчэнне ў баптыстаў, а потым разам вырашаць, дзе і як жыць. Але ж і гэтай прыдуркаватай Зосі неяк трэба дапамагчы. Які ж ён хітры, Іванюк! За ўвесь час, пакуль з Зосяю сустракаўся, ні разу ў хату не зайшоў. Няхай бы паказаўся, я пaглядзела б яму ў вочы! Цяпер давядзецца бацьку ісці пытацца, што ён думае рабіць, калі ў яго нарадзіўся сын. Якое няшчасце! Гэта ж калі даведаюцца браты і сёстры па царкве, што скажуць? Родную сястру не ўберагла ад граху! Трэба як мага хутчэй аддаць Зосю замуж за Іванюка, каб змыць ганьбу.

Пасле вячэры Каця не ўтрымалася і сказала бацьку:

— Трэба нешта рабіць, тата.

— Ты пра што? — спытаў бацька, на яго твары было напісана: хто наламаў дроў, той няхай і разбіраецца.

— Ідзі да Міколы Іванюка, няхай варушыцца…

— Дык ты думаеш, што гэта яго работа?

— Ну, а чыя ж яшчэ? Зося мне колькі разоў казала, што з ім сустракаецца. Так, Зося?

Малодшая сястра нічога не адказала, ляжала і быццам не чула гэтае гаворкі. Каця наблізілася да яе, пaглядзела, што вочы Зосі заплюшчаныя, а з-пад павек коцяцца слёзы, здзіўлена спытала:

— Ты чаго, дурная? Што здарылася, тое здарылася. Цяпер гэтае дзіця назад не запхнеш. Не маўчы, скажы што-небудзь!

Зося не азвалася. Каця незадаволена махнула рукою, прабурчала:

— Яе лепш не чапаць, бо зноў у поле пабяжыць. Ідзі, бацька да Іванюка.

— Зося, ісці мне, ці што? — спытаў бацька ў малодшай дачкі.

— Не трэба, нічога не трэба…

— Як гэта не трэба? — узвілася Каця. — Ты тут будзеш разлежвацца, а я плёткі слухаць! Калі ты бацьку не дазваляеш, дык я сама пайду да твайго Іванюка.

— Гэтае дзіця не ад Іванюка, — слаба запярэчыла малодшая сястра.

— Не ад Іванюка? — здзіўлена запытала Каця. — А ад каго?

Зося нічога не адказала, адвярнулася да сцяны.

— Ад каго, я ў цябе пытаюся? — закрычала Каця.

— Не скажу, — буркнула Зося.

— Скажы, дачушка, — лагодна папрасіў бацька. — Неяк трэба вырашаць лёс дзіцяці.

— Зараз жа кажы, — настойвала Каця. — Таямніцу яна робіць ад сваіх! Можа, з якім жанатым прыгуляла, паскудніца!

— Не твая справа, — агрызнулася Зося.

— Як гэта не мая? Ты зганьбіла ўвесь наш род! Цяпер і пра мяне будуць людзі абы-што казаць!

— Абыдзешся, святая! Я тваёй чысціні не запэцкаю!

— Скажы, дачка. Рана ці позна, усё роўна даведаемся. Я схаджу да таго хлопца. Мо ён і неблагі чалавек. Чаго табе пакутаваць дарма? Пагутару з ім, мо дамовімся, каб ажаніўся, ды і ўся бяда на гэтым скончыцца.

— Кажы, чыё дзіця, бо зараз выкіну яго за лапы з хаты, — закрычала Каця, наліваючыся праз край гневам і сапраўды адчуваючы вялікую нянавісць да сястры і да пісклявага камячка, які час ад часу падаваў голас.

Зося раптам села на запечку. Нядобра паглядзела на Кацю і ціха сказала:

— Гэта Гардзееў сын.

— Што? Што ты сказала? — не паверыла сваім вушам Каця.

— Гэтае дзіця ад Гардзея, — паўтарыла Зося.

— Маніш! Такога не можа быць! — Каця схапілася за галаву, здавалася, што свет абрынууся на яе, прыдушыў, і яна ніколі не здолее падняцца.

— Схадзі ды сама ў яго спытай. Ён усё ведае.

— Як ты магла? Сучка, сама падаслалася пад яго! Я цябе ведаю! Так і круціла азадкам каля печы, калі ён прыходзіў!

— А што табе? Што хачу, тое і раблю!

— Паслухай, бацька! Паслухай яе! Яна што хоча, тое і робіць! — задыхалася ад гневу Каця. — Як я цяпер у вочы людзям буду глядзець? Я ўтаплю гэтага вылюдка ў сажалцы, каб не смярдзеў тут!

Зося схапіла дзіця і закрычала:

— На, ідзі тапі, святая душагубка! А я пагляджу на цябе! Табе твае браты і сёстры грэх адпусцяць! І зноў будзеш прапаведаваць і вучыць, як трэба жыць!

— Бацька, выгані яе з хаты! Няхай гэтая поскудзь не ганьбіць нашу сям'ю!

— Я сама пайду ад вас! Пайду назаўсёды! Жывіце! Няхай вам будзе добра! А я з сыночкам не прападу. Родныя не прынялі, чужыя злітуюцца і дапамогуць!

Зося паднялася з запечка, ліхаманкава ўхутала дзіця, апранулася сама і пайшла з хаты. Бацька ўскінуў на плечы світу і пайшоў услед за ёю. Дагнаў на двары, пачаў прасіць:

— Вярніся, Зося. Куды ты супраць ночы?

— Тапіцца…

— Не рабі глупства, не губі сябе і дзіця. Зараз я схаджу да Гардзея і ўсё вырашыцца. Ён хлопец разумны. Усё будзе добра…

Ці ад халоднага паветра, ці ад хвалявання Кірыла закашляўся.

— Не ведаю, тата. Мы з ім ужо тры месяцы не бачыліся.

— Ты ж казала, што ён ведае пра дзіця.

— Ён сказаў, пабачым, якое дзіця народзіцца…

— Дык дзіця ж нарадзілася добрае, чаго ты хвалюешся?

— Як мне не хвалявацца? Ён жа тры месяцы не цікавіўся мною. Можа, другую знайшоў.

— Няхай шукае, каго хоча. А ў цябе ягоны сын! Гэта важна. Не рабі нічога.

— Добра. Я пабуду ля сажалкі, — згадзілася Зося. — Калі адмовіцца, утаплюся ды і ўсё. Мне жыць не хочацца…

— Я прашу цябе, Зоська. Беражы майго ўнука. Ён вырасце і будзе мне памочнік. Не хвалюйся. Гардзей — чалавек добры. Чакай, я хутка вярнуся з ім. Чакай нас…

Бацька знік у цемры. Зося пайшла сцежкаю да сажалкі, села на бервяно, услухалася ў ноч, ціхую і цёмную. Пачыналіся першыя замаразкі. Наперадзе была яшчэ слота лістапада, а потым — зіма. Сажалка дыхала вільгаццю, але вада заставалася нябачнай у цемры. Недзе там, у глыбіні, жыла яе маленькая сястрычка русалка Любка. Толькі яна заўсёды радавалася Зосі, клікала да сябе і была гатова прыняць яе ў падводны свет, каб агарадзіць ад жорсткіх

людзей. Зося ўявіла, як яна ўвойдзе ў настылую ваду, як будзе курчыцца ад холаду і плакаць яе дзіця. Сэрца працяў боль. Стала нясцерпна шкада сына. Зося заплакала, малое таксама заенчыла, нібы прадчуваючы свой страшны скон. Каб уціхамірыць дзіця, яна расшпіліла світку, расхінула сарочку на грудзях і дала дзіцяці цыцку. Яно пачало прагна смактаць, пасопваючы носікам.

— Гаротнічак мой маленькі! Што ж нас чакае?.. Чаму нас ніхто не любіць?.. А ты ж так падобны на Гардзея. Вочкі такія ж чорненькія, і губка ніжняя адтапыраная… Божа, чаму ж я такая нешчаслівая?...

Зося залілася слязамі, яна ўсхліпвала, гледзячы на сына, тварык якога бялеў у цемры. Разам са слязамі выцякалі крыўда, страх, разгубленасць. І раптам яна адчула, што зусім не хоча паміраць, а хоча жыць, разам з Гардзеем гадаваць сына, што б ні крычала ёй у твар сястра, што б ні шапталі за спінаю людзі! Яна перамагла, нарадзіла здаровенькага хлопчыка, у яе ёсць Гардзеева дзіця, нават калі сам Гардзей адмовіцца жыць з ёю, яна выгадуе ягонага сына, плод кахання! На злосць усім яна будзе жыць!

## 46

Кірыла спыніўся каля Гардзеевых весніц, паглядзеў у асветленыя вокны, прайшоў у двор, ціха пастукаў у шыбу.

— Хто там? — спытала Паўліна.

— Кірыла Барэйша, — адказаў стары і цяжка ўздыхнуў.

— Заходзьце, дзядзька Кірыла, — пачулася з хаты, а праз хвіліну расчыніліся дзверы ў сенцы, з іх высунулася галава Паўліны, якая ўсё тым жа прыязным голасам запрасіла старога ў хату.

Кірыла ўвайшоў, зняў шапку, сеў на лаве. Гардзей павітаўся і ўтаропіўся ў госця, з насцярожанасцю чакаючы вестак ад яго.

— Як пажываеце, дзядзька? — спытала Паўліна.

— Ды нічога, жывём, хлеб жуём. Зрэшты, я прыйшоў пагутарыць па справе з Гардзеем.

— Што… Ужо?.. — спытаў Гардзей.

— Ужо…

— Ну і хто ж там у нас?

— Хлопчык… Сынок, значыць…

Паўліна пільна глядзела то на брата, то на госця, раптам раздражнёна спытала:

— Пра што гэта вы гаворыце? Які сынок?

Кірыла ўсміхнуўся і адказаў:

— Радасць у нас, Паўлінка, Гардзей мяне дзедам зрабіў.

— Ай, Божухна! — усклікнула гаспадыня. — Што ж гэта робіцца? Як жа так можа быць, каб не жаніліся-не вянчаліся, а дзеці нараджаліся…

— Іншы раз і так бывае, — адказаў Гардзей.

— Што ты такое кажаш, грахаводнік? — абурылася Паўліна.

— Памаўчы. З табою потым абмяркуем, дай з чалавекам пагутарыць, — катэгарычна сказаў Гардзей і зноў утаропіўся ў Кірылу.

— Разам з гэтай радасцю прыйшла ў хату вайна. Каця гоніць Зосю з дому. Што рабіць? Зося схапіла дзіця і пабегла да сажалкі тапіцца. Сядзіць там…

Гардзей падняўся, стаў апранацца.

— Куды гэта ты? — злосна спытала Паўліна.

— Куды трэба, — адказаў Гардзей.

— Не, ты пачакай. Толькі мы сталі абжывацца. Дзве кароўкі, цялушка, два кані, як нá табе — новая гаспадыня знайшлася! Божа літасцівы! Я цягнула, як вол, свету Божага не бачыла! І вось маеш!

— Сціхні, — злосна кінуў Гардзей.

Аднак Паўліна не сунімалася. Яна заламала рукі і загаласіла, як па нябожчыку:

— А хатачка мая родная! Цяпер мне тут месца не будзе-е-е! Выжывуць, выведуць…

— Не хвалюйся, я ў прымы пайду, калі табе каровы даражэй за роднага брата, — злосна сказаў Гардзей. — Пойдзем, бацька…

Яны выйшлі з хаты пад Паўлініна галашэнне. Кірыла дыхаў цяжка, час ад часу кашляў.

— Вось дыхавіца паскудная, адкуль і ўзялася…

— Не дзіва, з нашае сялянскае працы толькі хваробу нажывеш, — азваўся Гардзей.

— Але ж інакшага жыцця ў нас не будзе. Якое Бог даў…

— Бог шмат дае, ды ліхія людзі лепшае наша сабе забіраюць, а нас прымушаюць жыць па законах, якія яны напісалі…

— Што ж зробіш, сынок, улада і закон патрабуюць да сябе павагі, без гэтага яны існаваць не могуць. А хто ідзе супраць, таму галовы, як тым пеўням, скручваюць…

На самым падыходзе да сажалкі Кірыла паклікаў дачку:

— Зося, Зося, мы тут! Дзе ты?

Яна пачула «мы», узрадавалася, але не адклікнулася, а проста пайшла на голас.

— Зося, Зося, адгукніся, — гучней крыкнуў Кірыла і толькі тады заўважыў у цемры постаць дачкі.

— Замерзла? — спытаў Гардзей. — Дай дзіця.

Зося нічога не адказала, яна зусім не адчувала холаду. Жыццё быццам спынілася, а яна нібыта і не жыла зусім, а толькі сніла тое, што з ёю зараз адбываецца. Гардзей узяў скрутак з Зосіных рук, паўзіраўся ў маленькі белы тварык, усміхнуўся нечаму.

— Хадзем у хату, — прапанаваў Кірыла.

— Сапраўды, пойдзем, яшчэ, крый божа, дзіця прастудзіцца, — падтрымаў яго Гардзей.

— Куды пойдзем? — няўцямна спытала Зося.

— Дадому, — адказаў бацька.

— Як? Там жа Каця…

— Там не толькі Каціна хата, там і твая, а цяпер і Гардзеева, і вашага сына, — упэўнена адказаў Кірыла. — Мне халоднае паветра забівае дыхаўку.

Стары закашляўся і рушыў да хаты, за ім — Гардзей з дзіцем на руках, следам — Зося.

Каця сустрэла іх папрокам:

— Прыйшлі! Лепшага месца не знайшлі!

— І не збіраліся шукаць, — адказаў бацька. — Тут наша хата.

— Як ты мог, Гардзей? — абурана спытала Каця.

— Справа не хітрая, — з усмешкаю адказаў Гардзей.

— Ці ты хоць кахаеш яе?

— Для мяне галоўнае, каб яна кахала мяне, — адказаў ён з нейкай неўразумелай усмешкай.

— Не думала я, што ты такі…

— Які?

— Цяпер ужо ўсё роўна, — адказала Каця. — Але ты ж абяцаў пайсці са мною ў царкву.

— Абяцаў, а пасля перадумаў. Не хачу здраджваць сваёй веры.

— Вера ў нас адна, Гардзей.

— Не, не адна. Ці магу ўзяць цябе за куму? — спытаў ён, заглядваючы Каці ў вочы. — Не пойдзеш. Нельга табе…

З гэтага часу ў хаце Барэйшаў усталявалася гнятлівая цішыня. Усяго і гукаў было, што па начах глуха кашляў Кірыла, зрэдку плакала дзіця, ціха яго закалыхвала маладая маці. Зося з Кацяю не размаўлялі, быццам не бачылі адна адну. Кожная займалася сваімі справамі. Зося гатавала і даглядала скаціну, Каця звычайна нешта шыла на заказ для людзей — збірала грошы. Цяпер сястра мела сваю сям'ю, няхай яе забяспечвае муж. А пра Кацю думаць няма каму.

Зося саромелася пры родных выказваць любасць да Гардзея і гутарыла з ім толькі тады, калі яны заставаліся сам-насам. Яна толькі моўчкі назірала за ім і адчувала, што такога вялікага шчасця не перажывала яшчэ ніколі. Гардзей быў з ёю назаўсёды! У хуткім часе яны аформілі шлюб у гміне, пахрысцілі і запісалі сына, назвалі яго Орастам, у імя святога, імяніны якога прыпадалі на дзень нараджэння малога. За куму ўзялі Паўліну, каб улагодзіць сястру, якая асуджала грахоўны шлюб, а кумам стаў дзядзька Карп. Хрысціны і вяселле адзначылі разам у Гардзеевай хаце. Акрамя самых блізкіх сваякоў, запрасіў Гардзей па-суседску Марка, які пасля трэцяй чаркі ціха сказаў Гардзею:

— Ну і хітры ты! Ажаніўся — не зажурыўся. Сваю гаспадарку цэлую захаваў, а сам у прымы пайшоў ды яшчэ адну гаспадарку займеў! Я да такога не дадумаўся!

— Не зайздросці, Марк! Хопіць на наш век зямлі! Абы здароўе было…

— Не, ты не як усе, Гардзей. У цябе галава нейкая іншая! На цябе ўсё само валіцца. Вось табе адразу і жонка, і сын! А я трэці год жанаты, а дзяцей няма.

— Будуць у цябе дзеці. Ты, галоўнае, не будзь такі скупы. Усё вылічваеш, колькі дзіця твайго хлеба з'есць, вось яно і не ідзе да цябе…

— А скуль ты ведаеш? — пакрыўджана спытаў Марк.

— Дык у цябе ж на лобе напісана.

Марк выцер лоб, п'яна ўсміхнуўся:

— Хлусіш ты, не можаш ты нічога пра мяне ведаць. Хоць і хітры, як жыд.

— Гэта я хлушу? — абурыўся Гардзей, у якім хмель абудзіў агрэсіўнасць. — Ды ці ведаеш ты, паскуднік, што праўдзівейшага чалавека няма на свеце?

Гардзей узяў за грудкі Марка і панёс да парога. Іх разнялі. Так і скончылася гэтае вяселле-хрысціны. Людзі пачалі паступова разыходзіцца, жадаючы маладым доўгага сумеснага жыцця і шмат дзетак. Зося дапамагла Паўліне прыбраць, начаваць маладыя пайшлі ў Кірылаву хату, там цяпер быў іхні дом.

**47**

Каця пражывала пакутлівыя дні. Невыносна было назіраць шчасце сястры і толькі ў марах уяўляць сябе на яе месцы. Ёй здавалася, што заўчасна пачала старэць, ад няўцешных думак пралегла непрыгожая маршчынка ўпо-

перак пераносся. Чым жа яна горшая, што вымушана трываць адзіноту? Зося з Гардзеем занялі запечак. Каця спала на мулкай і вузкай лаве. Сон яе быў такі чуйны, што прачыналася ад кожнага гуку: шэпту, рыпення, уздыху. Ёй уяўлялася, як Гардзей у цемры мілуецца з Зосяю, і тады ад злосці і нянавісці ажно ў роце рабілася горка. Каця не знаходзіла для сябе суцяшэння ні ў чым. Той чалавек, якога яна шмат гадоў шчыра кахала, на якога спадзявалася, цяпер быў назаўсёды страчаны. Разам з ім яна згубіла мары і надзеі, не ведала, чым жыць далей. Калі Гардзей быў дома, Зося ні на крок не адыходзіла ад мужа, быццам баялася, што Каця можа звесці яго. Толькі аднойчы некалькі хвілін Каці ўдалося пабыць сам-насам з Гардзеем. Яна спытала:

— Ці шчаслівы ты, Гардзейка?

— Ведаеш, каб не нарадзіўся сын, я ніколі ні з кім не ажаніўся б, прабач, такі ўжо я…

— І ты ніколі і нічога не адчуваў да мяне?

— Ты прыгожая і разумная дзяўчына, а мужчыны любяць не надта разумных, але даступных. Я ж табе аднойчы прапаноўваў, ты адмовілася…

Каця грэбліва перасмыкнула вуснамі і пагардліва сказала:

— Не чакала, Гардзей, што ты такі цынічны.

— Я і сам не чакаў, але жыццё робіць сваю справу… Спакушае, наталяе, расчароўвае, зноў спакушае…

На парозе з'явілася Зося, і размова абарвалася. Каця пераканалася, што для Гардзея яна нічога не азначала. Але сама кахала яго, і гэтае пачуццё разбурала душу, размывала той моцны падмурак маральнасці, на якім яна трымалася апошнія дзесяць гадоў. Гардзей быў побач. Увечары ён распранаўся і клаўся спаць з сястрою, але Каця магла з жарсцю глядзець на яго. Яна ведала кожны мускул на ягоным целе, абдымала яго, цалавала, лашчыла позіркам. Гэта былі пякельныя пакуты. Яна дакраналася да ягоных рэчаў, удыхала пах ягонага цела, які заставаўся ў сарочцы, і ўсё ўбірала душою і памяццю. Страшныя думкі прыходзілі ёй часам у галаву. Яна думала, што, можа, трэба атруціць Зосю, і тады Гардзей застанецца з ёю. Разам яны будуць гадаваць асірацелага Ораста. Аднойчы, ідучы з поля, нарвала блёкату. Паклала ў падаткнуты фартух, адчула смяротны дух атрутнай травы і, здалося, нават супакоілася. Яна яшчэ не ведала, што будзе рабіць з атрутаю, але разумела, што гэта яе зброя ў барацьбе за шчасце.

Да вячэры крадком зрабіла моцны адвар атруты. Заставалася дачакацца зручнага моманту, каб уліць атруту Зосі ў страву. У сям'і крупнік усе сёрбалі з адной вялікай місцы. Труціць бацьку або Гардзея Каця не збіралася.

У час вячэры Каця сачыла за Зосяю, усё чакала, калі ж яна сядзе есці. А Зося тапталася ля печы. Звычайна за стол яна садзілася апошняю, быццам і не трэба была ёй тая ежа, жывілася каханнем. Заплакала дзіця. Зося адразу кінулася да яго, пачала карміць цыцкаю. Мужчыны пад'елі і пайшлі з хаты пакурыць ды пагутарыць. Каця зазірнула ў гаршчок з крупнікам, на дне якога заставалася трохі стравы. Яна дастала з судніка атруту і ўліла ў страву, потым спытала:

— Зося, будзеш есці крупнік ці свінні выліць?

— Няхай пастаіць, мо яшчэ паем.

Каці хацелася прыспешыць смерць саперніцы, і яна сказала:

— Давай я пабаўлюся з Орастам, а ты хоць раз паеш па-чалавечы.

— Не трэба з ім бавіцца. Пад'еў, дык няхай спіць.

Зося паклала дзіця ў калыску, прамовіла ласкава:

— Мы спаткі будзем, праўда? Каб заўтра прачнуцца здаровенькімі і вясёленькімі, — з замілаваннем прамовіла Зося і праспявала. — Баю, баю, песень-

ку спяваю, хлопчыку малому, каб ён жыў пры дому, не блукаў па свеце, як у полі вецер. Баю, баю, баю, песеньку спяваю…

Дзіця сапраўды сцішылася і заснула. Зося пачала прыбіраць са стала, паклала ў рот крошку хлеба, што адкацілася, калі кроілі хлеб, глынула глыток вады, недапітай Гардзеем. У Каці ажно мурашкі пабеглі па спіне ад зайздрасці, што сама яна ніколі не здагадвалася дапіць з Гардзеевага кубка.

— Што ты сёрбаеш пустую ваду, вось крупнік цябе чакае, — сказала Каця.

— Зараз, мусіць, з’ем крупнік ці што? Быццам і есці не хочацца…

Зося паскладвала лыжкі і кубкі ў вялікую міску, ставячы на прыпечак брудны посуд, незнарок штурхнула гаршчок з крупнікам. Ён перавярнуўся, і варыва вылілася на прыпечак.

— Ах, і разява ж я! — прамовіла Зося, схапіла анучу і пачала падціраць прыпечак і падлогу.

Каця паглядзела на яе і адчула палёгку, быццам камень зваліўся з душы. Ужо лежачы на лаве у цёмнай хаце, калі ўсе спалі, яна прасіла Бога дараваць ёй грэшныя памкненні. Ноччу прысніўся жудасны сон, быццам за ёю гоняцца нейкія пачвары. Выратавалася толькі таму, што прачнулася.

Каця адчувала, што часам губляе розум ад нянавісці і рэўнасці. Скрозь, дзе б ні ішла, трапляліся ёй на вочы брудна-белыя ў цёмных пражылках кветкі блёкату, быццам прасіліся, каб сарвала іх. Трэба было некуды ўцякаць, каб ратаваць сваю душу. Часцей, чым звычайна, яна стала хадзіць да баптыстаў, шчыра малілася, каб Бог паслаў ёй спакой. Тады і пачала прасіць прэсвітэра, каб пры магчымасці паслаў на вучобу, бо яна хоча цалкам прысвяціць сябе служэнню Богу.

— А ці гатова ты, сястра Каця, паехаць за мяжу? — спытаў пастар.

— Гатова, — адказала Каця.

— А калі раптам здарыцца так, што ты ніколі больш не здолееш вярнуцца на Радзіму?

У Каці ледзь не вырвалася, што яна і не хоча сюды вяртацца, бо невыносна тут жыць. Трэба раз і назаўсёды адрэзаць усё, што здарылася, забыць і пачаць новае жыццё, але яна спакойна і стрымана адказала:

— Усё ў руках Боскіх, калі на тое будзе Ягоная воля, я прыму гэта як падарунак.

— Добра, сястра, я буду мець на ўвазе тваю просьбу.

Праз тры месяцы пастар папрасіў Кацю затрымацца пасля служэння і сказаў, што ёсць магчымасць паехаць вучыцца ў Амерыку, даў польска-англійскі слоўнік і паабяцаў памагчы аформіць неабходныя дакументы. З гэтага дня Каця адчула сябе вальней. Наперадзе было новае і цікавае жыццё. Адно засмучала, што Гардзей заставаўся тут. А які з яго атрымаўся б выдатны святар: прыгожы, разумны, прыцягальны. Ды няма сэнсу шкадаваць няздзейсненую мару. Каця да апошняга тыдня трымала ў сакрэце тое, што збіраецца ехаць у Амерыку. Калі сказала бацьку, ён прыгнечана спытаў:

— Куды ты паедзеш у свет? Шчаслівага чалавека шчасце і на печы знойдзе, а няшчаснага і на бітай дарозе абміне.

— Не пра шчасце ўжо я дбаю. Як мне тут жыць? Сам падумай. Ні кала, ні двара, ні сям’і, ні заробку. Быць нянькаю Зосіных дзяцей — гэта мая доля? Дык яна мяне не задавальняе.

— Глядзі сама, дачка. У кожнага чалавека свой лёс. Можа, гэта твой шлях. Скуль жа я ведаю? Век наш кароткі, і той адпакутуе чалавек, напрацуецца ды і рукі складзе ў дамавіне. Можа, ты ў той Амерыцы паняю станеш. Дай божа, каб табе пашчасціла. Але я думаю, як жа ты будзеш адна сярод чужых людзей? Тут жа які-ніякі, а ў цябе ёсць дом.

— Усё ў Боскіх руках. Як ён пажадае, дык дасць мне ўсё, што трэба. Там таксама жывуць нашы браты і сёстры, людзі маёй веры, яны мяне сустрэнуць, дадуць прытулак. Два гады я буду там вучыцца, а пасля мяне накіруюць на працу.

— Куды?

— Пакуль гэта невядома.

— Я жадаю табе дабра. Калі там не спадабаецца, вяртайся дадому. Заўсёды буду рады табе, — сказаў бацька з жальбою ў голасе, з левага вока выкацілася слязіна, ён апусціў галаву і непрыкметна выцер шчаку.

**48**

У расстайны тыдзень Каця быццам прымірылася з доляю. Даравала Зосі яе здрадлівасць, а Гардзею неразборлівасць. Даравала і сабе паразу, якую давялося перажыць у першым вялікім каханні. Душа яе была вольная і чыстая для таго, каб перасяліцца ў новае жыццё, служыць Богу і людзям, несці святло Святога Пісання як яскравую паходню, каб ёю асвятляць сэрцы вернікаў. Менавіта ў гэты тыдзень маленькі Ораст, які сядзеў у калысцы, паказаў на Кацю пальчыкам і сказаў, быццам упершыню прызнаючы яе:

— Цёця, цёця, цёця…

Нешта цёплае разгарнулася ў Каці пад сэрцам, і яна прыняла ў сваю душу пляменніка, як родную і крэўную істоту, якая зусім не вінаватая, што з'явілася на свет, і гатовая любіць усё і ўсіх, нават яе, Кацю, якая так часта адчувала нянавісць да яго.

— Цёця, цёця, цёця, — зноў заціўкаў малы.

Каця падхапіла дзіця на рукі, прытуліла да сябе, адчула ягонае дыханне, стук маленькага сэрца і зрабілася так шкода і сябе, і яго, быццам яны адна істота, якую жывасілам раздзяляюць, разлучаюць назаўсёды. Такім, у лёгкай белай сарочачцы, і запомніла Каця свайго пляменніка на ўсё астатняе жыццё.

Паколькі грошай у Каці было мала, толькі на дарогу ды на першы абыходак у Амерыцы (нешта сабрала сама, трохі падтрымала царква, нават Гардзей даў дваццаць злотых і бацька — трыццаць), дык каб дарма не траціць грошы на цягнік да Берасця, Гардзей з Зосяй вырашылі падвезці Кацю на кані. Яна нават узрадавалася, што апошні раз праедзе па родных ваколіцах, надыхаецца родным паветрам.

На пачатку ліпеня 1937 года рушыла Каця з хутара ў невядомае новае жыццё. Абапал дарогі спачатку цягнуўся лес, прыдарожныя елкі і сосны чапляліся зялёнымі лапамі за воз, нібы хацелі затрымаць. Каця з жалем глядзела на іх. Бывай, лес, ці ўбачымся яшчэ калі? Потым расхінуліся палі. Жыта даспявала, быццам сонечнае святло разлілося па зямлі. Толькі зблізку паміж жоўтымі калівамі жыта можна было разгледзець сінія зорачкі васількоў, фіялетавыя кутасікі мышынага гарошку, а па межах рассыпаліся белыя рамонкі ды там-сям яскрава чырванеў мак-самасейка.

«Якая прыгожая наша зямля, чаму ж тады свет людзей такі недасканалы? Ты кахаеш, а цябе не кахаюць. Няўжо не можна зрабіць так, каб родныя душы не памыляліся і знаходзілі адна адну, — думала ў скрусе Каця, пазіраючы на шырокую спіну Гардзея, які сядзеў наперадзе і кіраваў канём. — Не, не можа зрабіць Бог так. Бо ён даў чалавеку волю, каб той сам выбіраў, з кім і як яму жыць. Чалавек захапляецца, спакушаецца, губляецца сам у свеце, і не знаходзіць тую адзіную дарогу, якая можа прывесці да шчасця. Ад таго і

пакутуе». Каця расчулена выцерла няпрошаныя слёзы, скоса зірнула на Зосю, якая сядзела да яе спінаю.

Малодшая сястра адчувала сябе ўзрушанай ад таго, што яе саперніца з’язджае за акіян, і адначасова вінаватай, бо разумела, чаго крыўдуе на яе Каця. Няхай едзе шчаслівая, няхай усё ў яе будзе выдатна, няхай вывучыцца і стане багатай паняй.

На вакзале яны развіталіся. Каця папрасіла Зосю і Гардзея не чакаць адыходу цягніка, бо гэта толькі наганяе лішні смутак. Гардзей пацiснуў на развітанне Каці руку, пажадаў шчаслівай дарогі і пайшоў да каня, якога пакінуў на прывакзальнай плошчы. Зося затрымалася каля Каці, гаворачы развітальныя зычанні.

І раптам спытала са спачуваннем:

— Не страшна табе адной выпраўляцца за свет?

— А чаго баяцца? Скрозь людзі жывуць.

— Але ж там іншая мова…

— Мову вывучу, а ўсё астатняе неяк утрасецца. Там жыве шмат беларусаў і ўкраінцаў. Еду я не адна, у Варшаве да мяне далучацца яшчэ тры чалавекі.

— Я б, напэўна, не адважылася.

Каця паглядзела на сястру прасветленымі вачамі і адказала:

— Адважылася б… Помніш, як ты ў Варшаву паехала?

Зося ніякавата ўсміхнулася. Не ведае Каця, што тады яна таксама ўцякала ад кахання да Гардзея.

— Я пакідаю цябе з самым найлепшым мужчынам на свеце, — сказала Каця на развітанне. — Будзь з ім шчаслівая. Інакшай з ім і нельга быць. Беражы яго. І няхай Бог дасць вам моцнага здароўя і доўгага веку. А цяпер ідзі! Ідзі, бо я заплачу!

Каця адштурхнула ад сябе Зосю, падхапіла валізку і пайшла ў памяшканне вакзала.

Праз тры месяцы з Амерыкі прыйшоў ліст, у якім Каця паведамляла, што вучыцца на пастара. Па нядзелях іх возяць на экскурсіі, паказваюць краіну. Людзі тут жывуць заможна. Калі чалавек працуе, сумленна выконвае свае абавязкі, дык можа купіць дом і мець усё неабходнае для жыцця.

Сям’ю Барэйшаў гэта суцешыла і трохі супакоіла. Бацька перастаў задумвацца і цяжка ўздыхаць. Ад Зосі адступіла пачуццё віны, што сястра вымушана была паехаць з дому з-за яе. Апошні ліст ад Каці прыйшоў летам 1939 года. Яна пісала, што вучоба заканчваецца і яе збіраюцца паслаць місіянерам у Індыю. Ехаць з Амерыкі ёй не хочацца, але на ўсё воля Боская.

З-за гэтага ліста Кірыла Барэйша зноў зрабіўся задуменны і сумны. А ў Зосіным жыцці нічога не змянілася, бо яна знайшла сваю долю, цяпер заставалася адно: берагчы шчасце ад нягод. Зося спявала, завіхаючыся каля печы; спявала і тады, калі палола бульбу ці грады; спявала, калі жала жыта ці зграбала сена, быццам у душы яе пасялілася вясёлая птушка радасці. Як кажуць старыя людзі, так спяваюць толькі на вялікую бяду, а яна ўжо была не за гарамі.





Уладзімір МАРУК

# «І ПЕРАЙСЦІ НЯБАЧНУЮ МЯЖУ...»

*У апошнія гады Уладзімір Антонавіч Марук натхнёна і плённа працаваў у жанры паэзіі. Падборкі яго вершаў рэгулярна з'яўляліся на старонках вядучых літаратурна-мастацкіх выданняў — часопісаў «Полымя», «Маладосць», штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», а таксама ў перакладах на рускую мову ў часопісе «Нёман», расійскай «Литературной газете».*

*Новыя вершы паэт прапанаваў і часопісу «Полымя», якія былі ўхвалены да друку і запланаваныя на красавіцкі нумар. Мы шчыра радаваліся іх мастацкай дасканаласці, глыбіні пачуццяў і думак, якія акрэслілі творчую спеласць паэзіі нашага намесніка галоўнага рэдактара, паставілі яго імя ў лік лепшых паэтаў Беларусі. І нават раптоўная смерць паэта (23 студзеня г.г.) не ўнясе свае карэктывы — яго паэзія, як нязгасная зорка, застанецца заўсёды прывабнай для шматлікіх прыхільнікаў роднага слова. Таму сведчанне і гэтая публікацыя — лебядзіная песня паэта.*

* * *

Вячэрні водар роснай мацыёлы
І я пачую,
бы залётны птах,
Што ведае,
калі не спяць анёлы
І цэлы свет іх крыламі прапах.

А я стаю ля кветкі нерухома,
Над намі крылы вольныя шасцяць.
І чую сэрца шэпт:
«Ты до-ма,
до-ма,
до-ма... —
У веч-нас-ці ў гас-цях...»

* * *

Медуніцу шукаюць чмялі, —
Свету ранняга пахкія сховы,
На сваёй неабдымнай зямлі
Неразгаданы колер ружовы.

Мерны зумкат прагнаў цішыню
За рачныя няспешныя хвалі...
Я цікаўнасць сваю прыпыню,
Хоць мяне тут даўно не чакалі.

Ды з-за мора прыплыў карабель,
Каб яшчэ раз паслухаць крыніцу,
Каб і я,
як натурлівы чмель,
Адшукаў хоць адну медуніцу.

І была яна лепшаю ў нас,
Самай пахкаю,
самаю цнотнай...
Каб на гэтакі зменлівы час
Я глядзеў,
як на час незваротны.

* * *

Як быццам дождж не йшоў, і не цвіла вясёлка,
І ліпеньскі прыпар паўдня не варажыў
На самых маладых,
зіркастых самых зёлках,
Што выйшлі пастаяць ля жыта на мяжы.

А варажбу стрыжы прыносілі на шалі,
І вецер пакрысе аблокам раздаваў...
Я быццам і не жыў,
калі дажджы спявалі,
А нехта,
ды не я,
ім ціха падпяваў.

* * *

А дзень прайшоў,
нібы не пачынаўся.
Здаецца,
што на ўзлеску —
дзень наступны,
Якому я яшчэ ні ў чым не кляўся,
Нібыта сведка ночы ці падсудны,

У тым,
што анізгадкі не мудрэю,

На ўсё забыўшы,
сам сябе мастачу...
А дзень мінуў,
як подых ветравею,
Якога аніхто яшчэ не бачыў.

* * *

На водмелі гуляюць печкуры, —
Хоць ты пакратай добраю рукою.
А свет,
да неспазнанасці стары,
Паблісквае прынаднаю лускою.

Калючым сонцам высвечана дно —
Да кожнае вяртлявае пясчынкі.
І з лёгкай плынню сёння заадно
Забытыя на небе аблачынкі.

А печкуры на водмелі снуюць
І ногі далікатныя казычуць,
Бы пра сябе забыцца не даюць
І ў нечаканы свет вось-вось паклічуць.

* * *

Не забытым,
а проста далёкім
Сам сабе я здаюся парою.
Паўтараюць мой голас аблокі,
Што спыніліся зноў над гарою.

Я здаюся сабе нецярплівым,
А наўколлю —
нязвыкла таропкім,
Быццам коней бяссонныя грывы,
Як вясло напалоханай лодкі,

Што раку пераплысці спяшае,
Каб за мной не паспелі сурокі,
Ды які мой жаданы,
не знае, —
Бераг блізкі ці бераг далёкі.

* * *

Пра што падумаў —
не збылося.
Але не думаць не магу,
Як вецер пра тугу калосся,
А я —
пра светлую тугу

Па першароднасці крынічнай,
Якую піў даўно-даўно
З маёю вернаю сінічкай,
Што з белым светам заадно.

Ты дзе,
сінічка?
Неба просінь
Цябе схавала,
бы смуга...
А мой далёкі голас просіць:
«Не пакідай мяне, туга».

* * *

Датляваюць позіркаў вуглі
На памежку ростані-сустрэчы.
Вусны не сказалі,
што маглі,
Хоць і не забыліся пярэчыць.

Паглядала птушка з-пад крыла
Ў нашы замаркочаныя вочы.
Моўчкі цемра блізка падышла,
Каб даверыць нам таемнасць ночы:

З роспачным кугаканнем савы,
На якое зоркі адгукнуцца,
З шэптам далікатнае травы,
На якой так хочацца прачнуцца.

* * *

Я стаміўся любіць зоркапад.
Не любіць —
гэта многа ці мала? —
Калі гэтулькі зорак упала
І не хочуць вярнуцца назад.

Ды чамусьці стаю між прысад,
Ля разлучніка лёсаў —
вакзала,
Дзе ты мройліва мне прашаптала,
Што не скончыцца наш зоркапад.

* * *

Прыпыніся,
самы летні чалавек.
Ці здалося,
ці напраўду самы летні?

Я,
  што збочыў ад няўдаліц і калек,
Адшукаць хачу ў душы сваёй твой кветнік,

Дзе настуркі расцвілі і касачы,
Ды святочныя і ў будні дзень вяргіні...
Прыпыніся і са мною памаўчы,
Бо на нас з табой глядзяць адны багіні.

І не хочацца прыцемніць іх пагляд
Нават словам,
                        нават думкаю пра лета...
Азірніся,
                як ідзеш за далягляд,
Назаўсёды развітаўшыся са светам.

* * *

Па разнатраўі напрасткі
Пабеглі дзеці,
Праз рэчку і яе масткі
Па белым свеце.

А разнатраўе адцвіло
Ды адбуяла,
І часам рэчку замяло,
Масткі зламала.

І рэчка ў сонных берагах
Хваль не калыша.
Тут несусветная туга —
Душы зацішак,

Што прычакае,
                          калі ў снах
Збягуцца дзеці...
А ў іх на скронях сівізна, —
Ім шлях асвеціць.

* * *

Колькі дажджоў пражыву,
Колькі сваіх навальніц?..
Падаюць хмары ў траву
Блізка —
                ля новых званіц.

«Колькі?..» —
                        спытаю не раз
Ціха —
            нібы закрычу,

Каб не дачуцца ў адказ
Тое,
    што хочаш пачуць.

* * *

Вось і дождж.
                    Нахапіліся хмары
Невядома адкуль і калі.
Непрывычна шумяць ясакары
На адно ім вядомай зямлі.

Я іх чую і сёння здалёку,
Дзе і дождж для мяне,
                              бы чужы.
Ды здаецца,
                што ступіш паўкроку —
Намакрэлыя ўбачыш крыжы.

Дождж і тут,
                  нібы час немінучы,
Незабыўна ў душы церусіць —
Ціхі-ціхі,
            ды самы балючы...
Ну а літасці нельга прасіць.

* * *

Я думаю,
            як вымавіць «ніколі»,
Каб страх свой непрытоены спатоліць
І перайсці нябачную мяжу,
Дзе распачаўся даўні шлях да волі,
Якой я не прыслужваю, —
                                    служу, —

Шукаю карані сваёй уроды
Праз гэты страх,
                        што вырастаў з нягоды,
Што думала і вольнага скарыць:
Казаць «ніколі»,
                        а пачуць «заўсёды»,
Каб сутнасць чалавечую забыць.

* * *

Узбоч жыцця мае маршчыны
Пагладзіць толькі вецер позні.
Пайшлі ў далёкі свет мужчыны,
А я адзін стаю на пожні,

Адзін —
            у вобліку знямогі —
Прашуся скрушна я да Бога...
Мае паколатыя ногі
Баляць,
            як у Яго Самога.

* * *

Імжыць,
            імжыць...
                        Вось так і сум находзіць
Нябачны,
            як імжынка на траве.
Ён ледзь чуцён,
                        як светлы параходзік,
Які насустрач вечнасці плыве.

Ён добры,
            сум,
                        як шчырыя далоні,
Што гойны час на скроні пакладзе,
Нібыта ад бяздумнага аслоніць
І ценю не пакіне на вадзе.

Ён дзіўны,
            сум,
                        бы тыя святлацені,
Калі ў святла і цемры на мяжы
Я перад вечным стану на калені...
Імжыць,
            імжыць...
                        Няхай яшчэ імжыць.





Язэп КРУПА

# ДВА БОХАНЫ ХЛЕБА

*Апавяданне*

## 1

— Віцька, го, Віцька! — паклікала Юзэфа Пятроўна сына. — Ты куды падзеўся?

У адказ маўчанне.

Маці зазірнула ў хляўчук, дзе рохкаў парсючок, уздыхнула, ужо сама сабе пачала выгаворваць:

— Ну, што ты будзеш тут рабіць? Толькі што быў побач, таптаўся, а цяпер знік, як май яго змаяваў… Носіцца па вёсцы з бэйбусамі, як і сам, а тут хоць ты разарвіся.

— Ды тут я, мамо, тут! — азваўся праз нейкі час Віця.

— Гэта ж трэба, — аглядваецца маці і не здзіўляецца, што ён так імгненна з'явіўся перад ёю, — зноў ногі мокрыя, зноў на рэчцы быў, а дома работы — не перарабіць. І чым яна, тая рака, так прыцягвае цябе?

— Як жа без ракі? Мы рыбу глядзелі...

— Якая рыба па вясне? Табе абы пагуляць, абібокам пашлэндаць. Ох, сыне, сыне, і ў каго ты такі ўдаўся? Бацька твой таксама — як сыдзе ў лес, так яго і бачылі, і галава яму не баліць за тое, што тут робіцца, яму «вшыстко едно»… Усё клёпачку сваю вырабляе-вычэсвае, то дубовую, то асінавую, ды самасад свой смокча, а ты тут хоць разарвіся…

Сын маўчыць, чакае, калі маці выкажа свой боль, не перабівае. Яму шкода яе, але як аблегчыць пакуты і засмучэнні, не ведае.

— У калгасе тым як наробішся, прыйдзеш дадому, не ведаеш, з якога боку падступіцца да сваёй работы, а сыночак мой цыцуляе па вуліцы, з сябрукамі рэчку топча…

---

**Крупа Язэп Адасьевіч** *нарадзіўся ў 1938 г. у в. Крушнікі Мазырскага раёна. Пасля заканчэння сельскай школы працаваў матросам на земснарадзе на р. Прыпяці, шахцёрам у Растоўскай вобласці. Пасля службы ў войску скончыў Мінскі электратэхнікум сувязі, вучыўся ў г. Сонечнагорску ў Іслытуце дакладных тэхналогій, пасля чаго доўгі час працаваў на Мінскім радыёзаводзе. Друкаваўся ў рэспубліканскім друку, у 2009 г. выйшла кніга паэзіі «Аўтабіяграфічныя вершы».*

Яна ўжо прытуліла да сябе сынаву галаву, рукой гладзіць па макаўцы. Ад матулінай пяшчоты Віцьку стала хораша, аж галава злёгку закружылася. Ён чуе, як б’ецца ў матчыных грудзях сэрца, ад яе сыходзіць Боскае цяпло, дабрыня. Так бы стаяў і стаяў, здаецца, усё жыццё, і болей яму ў жыцці нічога не трэба. Калі мама побач, да яго не прыстануць ніякія трывогі і засмучэнні…

Ён міжволі абдымае матулю за худыя плечы, і на яго вачах гатовы вось-вось паказацца слёзы, але ён стараецца стрымаць, як лічыць, душэўную слабасць, і ўжо вінаватым голасам прамаўляе:

— Мамо, хіба ж я табе не памагаю? Ну, адлучыўся на рэчку, а раніцай вады нанасіў, і за дровы хутка прымуся. Гультай я — так?

Маці ўсміхаецца:

— От ужо і не скажы нічога табе.

— А калі што трэба каля хаты зрабіць, дык мне памогуць Валік і Толя. Я ж ім даю пакатацца на лісапеце, учора яны па два кругі праехалі па вёсцы… Хоць яшчэ і гразка, не падсохла.

Юзэфа глядзіць на сына, у яе цяплее на душы, лагодная ўсмешка асвятляе твар.

Валік Юніцкі — стрыечны брат Віці, а Толік — круглы сірата, з роду Кашаедаў, таксама блізкі родзіч. Жыве ў хаціне адзін. Юзэфа шкадуе іх, як сваіх родных дзяцей. Калі ні забягуць да яе, стараецца хоць чым-небудзь пакарміць іх, ды і ў кішэню пакласці…

У вёсцы немагчыма без мянушак. І да іх прыклеіліся… Толік без дай прычыны мог сказаць «гум-гум», невядома што, і сябры далі яму мянушку Гум. Валіку дык проста скарацілі прозвішча: з Юніцкага зрабілі Уюна. А ў Віцькі прозвішча пайшло ад дзядоў, якія дралі крупы, дык і назвалі яго Крупадзёр.

Ніхто на мянушкі не крыўдзіўся, гэта было як запаснае імя, якім карысталіся, калі трэба было ўдакладніць, пра якога Віцьку ці Толіка гаворка ідзе…

— Сынок, — сказала Юзэфа. — У нас няма хлеба. І мукі мо жменя засталася.

— Мо пад Вялікдзень у краму прывязуць? — пагледзеў на маці сын.

— Хто павязе яго з Мазыра за пяцьдзесят кіламетраў у нейкую, Богам забытую, вёсачку. У Мазыры яго не хапае, а то і да нас яшчэ везці. І пазычыць няма ў каго ні хлеба, ні мукі. Ва ўсіх нястача. Калі ж хто ў госці зойдзе, чым пачаставаць яго? Зусім як жабракі якія...

Віця і сам ведаў, што ў хаце даўно не пахла хлебам, ён і пах яго забыў — нішчымніца ды нішчымніца. Бульба ды бульба. Добра, калі маці дастане са сваёй схованкі кавалачак здору ды заправіць ім суп ці капусту, — тады ў жываце не так скуголіць голад…

— Падгавары, Віцька, хлопцаў сваіх, ды схадзіце заўтра ў Скрыгалаў — кажуць, што там пякуць свой хлеб на ўсю вёску.

— А колькі да таго Скрыгалава — далёка?

— Ды кіламетраў пад дваццаць. Я некалі хадзіла з бацькам на ярмалак. Абутак сабе куплялі. Але то даўнавата было.

— Добра, пайду да хлопцаў — параюся.

Сяброў ён адшукаў на беразе ракі — дзе ж яны маглі быць яшчэ? Адразу і выклаў ім загад-просьбу маці.

— А што — разам весялей будзе! — адразу падтрымаў Віцю Толік-Гум. — Я згодзен.

Толік жыве ў хаце адзін. Быў у яго брацік Антон, ды аднойчы схапіў таго жывот, і ніхто не змог вылечыць яго, нават вясковая бабуля-шаптуха Настазя. Хлопец енчыў да раніцы, а потым і аціх, памёр.

Нейкая цётка прыязджала з Мазыра, прапанавала яму аформіцца ў дзіцячы дом, што знаходзіўся пад Петрыкавам, у Дарашэвічах, ды Толік адмовіўся… А жанчына і не настойвала асабліва, бо Толік быў сынам бацькі-дэзерціра.

— А ты, Уюн? Падтрымаеш кампанію?

— Падтрымаю, калі маці адпусціць.

— Але ж мы забыліся пра Толіка Кашэвіча і пра Валодзю Смалярова — мо і яны з намі пойдуць? — напомніў Віцька пра астатніх сяброў.

Цётка Людвіся, удава, маці Кашэвіча, сустрэла іх у двары.

— У Скрыгалаў? — перапытала. — Ды ён не дойдзе — дровы калоў, і нагу пашкодзіў.

— А дзе ён цяпер?

— З дзедам Міколікам у лесе. Дровы скончыліся, дык пайшлі ў Люхчэ, каб спілаваць колькі дзеравін…

Дзед Міколік жыў разам з дачкой і ўнукамі — Толікам, Стасяй, Яняй. Стафанія памёрла пад час вайны. Толікаў бацька — сяржант Станіслаў Кашэвіч — прапаў на вайне без вестак. А калі без вестак, то, згодна са сталінскім указам, мог быць і здраднікам, перабежчыкам. Таму ад дзяржавы сям’я не атрымлівала ніякай дапамогі.

Каб прывезці з лесу якое паленца, Міколік запрагаў у воз карову Маньку. Спачатку яна ўпарцілася, не хацела быць цяглавай сілай, але прывыкла, праз нейкі час і не брыкалася, калі надзявалі на яе ярмо. Міколік спецыяльна пад яе зрабіў вазок, каб Маньцы лягчэй было цягнуць груз…

У Валодзі Смалярова была ангіна, і ён, з высокай тэмпературай, не ўставаў з ложка.

Юзэфа разбудзіла Віцьку на золку, паставіла на стол шклянку малака. Паклала побач звараную звечара бульбіну. Есці з раніцы не хацелася, але ён ведаў, што наперадзе доўгая дарога, і таму трэба падсілкавацца.

Бацька корпаўся ў двары — нешта рамантаваў. Чулася, як ён грукаў сякерай па нечым металічным.

Маці дала Віцьку жоўтую вязаную сетку, развязала насавую хусцінку і выклала на стол дзесяцірублёўку.

— Сыночак, гэта апошнія грошы. Не згубі, барані божа, бо нават на чорны дзень няма. Але сёння на святы дзень даю іх табе. Пакуль ты спаў, я табе прышыла патаемную кішэньку ў нагавіцах. Пакладзі грошы туды і зашпілі кішэньку шпількай.

— Добра, мамо, не хвалюйся. Не маленькі…

Бацька адарваўся ад працы — збіваў цэбрык з клёпак, — падышоў да сына.

— Глядзіце там, — прамовіў, даючы незразумелую параду, — асцерагайцеся злых людзей.

— Добра, — кіўнуў хлопец галавой, — але як пазнаць іх, злых?

Бацька пацiснуў плячыма.

Хлопцы ўжо чакалі яго, як дамовіліся, каля Толікавай хаты.

Паручкаліся, як дарослыя, пераглянуліся, як папыталіся адзін у аднаго: «Рушылі?»

## 2

Ішлося лёгка, нават весела. Пачало ўжо віднець, добра праглядвалася дарога. У такую далеч Віцька адпраўляецца ўпершыню, таму трошкі хвалюецца, перажывае. Толік — старэйшы за сяброў. Летам ён хадзіў з калгаснымі касцамі касіць за Скрыгалавам лугавіну — траву па пояс, таму ведаў, як туды ісці.

— Мы дарогай не пойдзем, — рашыў ён, спыніўшыся, — дарогай — дужа далёка будзе, а напрамкі мы скароцім значна шлях.

І ён пакіраваў агародамі ў бок Чэрценя — так называлася ўрочышча з гіблым балотам. Але дарога ішла паўз яго, пятляла між верасоўніку і чарнічніку.

Босыя ногі халадзіла ранішняя волгласць, а гэта прыспешвала хаду. Першай была вёска Камень, далей — Турбінка, за ёй — Гін-Груд.

— А цяпер мы пойдзем прама на Рудню, — тлумачыў далей камандзір кампаніі, узяўшы сам на сябе абавязкі старшага. — Калі ўбачым высокі комін, то гэта і будзе цагляны завод. А за ім ужо і Скрыгалаў рукой падаць.

Але колькі хлопцы ні ішлі, не было відаць ні коміна, ні завода. Падумалі ўжо, што заблудзіліся, не ведалі, што рабіць.

Урэшце Віцька радасна ўсклікнуў:

— Вунь ён — комін! Які высачэнны!

Арыенцір Толік вызначыў правільны. У хлопцаў адразу ж падняўся настрой, загаварылі весялей, прыспешваючы крок. Патыхала ад лесу маладым лісцём, якое яшчэ не ўвабралася ў сілу, багуном, які спрэс рос каля дарогі.

Калі прайшлі некалькі кіламетраў, Віцька не вытрымаў, папытаўся ў Толіка:

— Гум, а калі ж Скрыгалаў будзе? Нешта доўга яго няма…

— Пацярпі трохі. Кіламетраў пяць яшчэ...

— Колькі? — перапытаў сябрук. — Пяць? А ўжо ногі баляць.

— Слабак, значыць, не прывык на такія адлегласці хадзіць…

Віця нешта хацеў сказаць, ды нечакана з кустоў выскачыў шэры заяц, спыніўся сярод дарогі. Нейкі час глядзеў недаўменна на хлопцаў, а потым, спружыніўшы, высока падскочыў і шуснуў у кустоўе. Гэта адбылося ў адно імгненне, сябры нават не паспелі здзівіцца. Хіба яны ніколі зайцоў не бачылі ў сваім жыцці?

Далей ішлі моўчкі. Не тое, каб весялосць прапала ці настрой, але дарога вымагала ашчаджаць сілы. Невядома, як яно яшчэ будзе наперадзе, як там атрымаецца з тым хлебам. Ды ці яшчэ і дастанецца ім той хлеб — не яны, мусіць, адны будуць стаяць за ім у чарзе…

— Мо пасядзім трохі, каб ногі адпачылі? — спытаў у сяброў Валянцін.

— Давайце пасядзім, — згадзіўся Толік, першым збочыў да тоўстага дуба.

— Глядзі там, каб на якую гадзюку не сеў, — папярэдзіў Валік, смеючыся, — іх усюды хапае.

Прыйшлося патаптацца на месцы, каб і сапраўды не мець сабе нечаканага клопату. Упалі на шорсткую траву, бо новая яшчэ не паспела адрасці.

Віцька лёг на спіну, прымружыў вочы.

Сонца яшчэ не выглянула з-за лесу, хаця было зразумела, што яно ўзнялося над гарызонтам. Іх акружаў высокі лес, таму промні не маглі прабіцца скрозь густыя зараснікі алешын ды асін.

У вершалінах дрэў гуляў вецер, маладое лісцё шаптала пра нешта, напамінала пра вясну.

— Пайшлі далей, — прыўзняўся першым Толік, — яшчэ адзін пераход — і будзем на месцы.

Бадзёрасць зноў вярнулася да іх, як і настрой.

Дарога была вузкая, сцежка, а не дарога, таму ішлі адзін за адным. Першым ішоў Толік. Сцежка пайшла між высокіх алешын, павяла некуды ўлева, а потым павяла ўверх, на пагорак. Калі ўзышлі на гару, перад імі адкрылася панарама наваколля.

— Ну, вось, здаецца, і прыйшлі.

Пад гарой пачыналася лугавіна і палі, а за імі ў дрэвах хавалася вёска — то і быў Скрыгалаў.

Ногі самі неслі наперад, уніз, як быццам хто штурхаў хлопцаў у спіну.

Толік ведаў, дзе знаходзіцца крама, таму адразу кіраваў туды па доўгай вуліцы. Вёска была нашмат большая за іх Крушнікі — у разоў пяць-шэсць, калі не болей. Хаты абгароджаны платамі, абавязкова веснікі, лаўкі перад уваходам.

— А вось і крама, — абвясціў, спыніўшыся, Толік.

## 3

Гэта была звычайная драўляная будыніна з закратаванымі вокнамі, з блакітнымі аканіцамі. Маці казала, што будзе вялікая чарга, таму ім прыйдзецца зараней заняць сваё месца. Але ніякай чаргі не было. Разабралі хлеб? Ці яго зусім не было?

Людзі заходзілі ў краму і выходзілі адтуль, але ні ў кога не было ў руках хлеба. Гэта здзівіла і насцярожыла падарожнікаў.

Дарогу сябрукі адолелі за гадзіны тры, гудзелі ногі, але сябры не звярталі на тое ўвагі, іншы клопат авалодаў імі.

Зайшлі ў краму. За прылаўкам стаяла сярэдніх гадоў жанчына, важыла на вагах крупу, сыпала яе коўшыкам у торбачку. Паставіла перад бабулькай мяшэчак.

— Чатыры пяцьдзесят, баба Сцепа.

Бабулька адлічыла грошы, паклала ў талерачку. Няспешна зняла пакупку з прылаўка.

— Дзякую, Клаўдзя, хай Бог памагае табе!

— І табе, баба Сцепа!

Хлопцы адчулі сябе ніякавата, зразумеўшы, што нешта тут не так. Паліцы, на якіх павінны быць боханы хлеба, былі пустыя. Ад іх толькі сыходзіў пах спечанага хлеба, кружыў голаву.

Ах, гэты пах хлеба! Нічога ў свеце няма саладзейшага за той пах!

Віцька памятае, калі маці пякла ў печы круглыя боханы хлеба. Яна яшчэ звечара замешвала муку ў дзежцы, ставіла на ноч, каб цеста паднялося, каб хлеб быў потым духмяны, «здаровы». Перад гэтым выпальвала добра ў печы, выграбала жар. Бацька адбіраў для гэтага добрыя бярозавыя паленцы, каб быў добры дух.

А потым, калі маці выцягвала з печы чатыры вялізныя патэльні з хлебам, па хаце плыў незямны водар. Хлеб маці выкладвала на палатняныя ручнікі, абмывала боханы вадой, зноў ручнікамі накрывала. «Каб хлеб ажыў, сілы набраўся», — тлумачыла яна, радасна ўсміхаючыся, выціраючы рукавом з ілба кропелькі поту, а сама свяцілася такім шчасцем і лагодай, што, здаецца, маладзела на гадоў дзесяць.

— Цётачка, — асмеліўся падысці да Клаўдзі Віця, — а што, хлеба сёння не будзе, ці яго раскупілі ўжо?

Клаўдзя паглядзела на хлопцаў, вызначыла, што яны не мясцовыя, амаль безуважна адказала:

— Пакуль хлеба няма. Калі яшчэ напякуць сёння, то прывязуць, і я буду прадаваць. Але ці спякуць яго, невядома…

Падыходзілі людзі да Клаўдзі і пыталіся пра хлеб. І ім гэтак жа адказвала, як і хлопцам. Усе хацелі хлеба. А яго не было.

Моўчкі выйшлі з крамы. Не ведалі, што рабіць. Не ведалі, у каго спытаць, дзе выпякаюць хлеб. Можа, яго пякуць у Мазыры і адтуль прывозяць у краму?

Прайшлі па вуліцы вёскі, завярнулі да Прыпяці.

Пасля паводкі яна зноў вярнулася ў берагі. Было відаць, куды даходзіла вада, дакуль падымалася шумавінне.

Сябры пахадзілі па халоднай вадзе, абмылі ад шэрага бруду ногі, — дарогаю яны не абміналі калюжыны, потым таптаалі пясок. Вада адразу зняла стому, надала добрага настрою.

— Хлопцы, што рабіць будзем — пойдзем дадому ні з чым, ці паспрабуем дачакацца хлеба?

Віцю ніхто не адказаў. Ніхто не ведаў, як лепей зрабіць у такім выпадку. Столькі кіламетраў прайшлі — і вярнуцца з пустымі рукамі? Але ці хопіць сілы прайсці зноў тую адлегласць без падмацунку?

Пасядзеўшы трохі ў нейкім чоўне, прывязаным да слупа, хлопцы падняліся і зноў пакіравалі да крамы. Нешта падказвала ім, што яны павінны да канца разабрацца ў той сітуацыі.

У краме некалькі чалавек занялі чаргу. І яны вырашылі трымацца той чаргі — сталі следам за людзьмі.

Перад імі стаяла маладзіца, трымаючы ў руцэ лазовую кашолку. Паглядзела на сябрукоў, зразумеўшы, што яны занялі за ёй чаргу, уголас абвясціла ім:

— А вы, хлопчыкі, гуляйце! Хлеб будзе не скора. Вунь толькі цяпер падвезлі муку ў пякарню. А потым пакуль тую муку замесяць, дадуць цесту падысці, а потым у формы накідаюць… І ў формах цесту трэба падысці… Ох, няскора тая песня будзе. А да гэтага часу павінна быць вытаплена печ. А потым з печы выграбуць вуголлі, попел выметуць, тады толькі паставяць формы на гарачы под. І толькі праз дзве-тры гадзіны хлеб можна будзе вымаць з печы. Я там працавала, таму ведаю, як робіцца хлеб…

Віцька і яго сябры, раскрыўшы рот, слухалі, як цікава расказвала жанчына ім пра выпечку хлеба. Цэлую лекцыю прачытала. А ўсё для таго толькі, каб супакоіць хлопцаў, каб яны ведалі, колькі трэба чакаць таго хлеба.

— Таму не хвалюйцеся, — супакоіла яна сяброў, — я ўсім скажу, што вы за мной чаргу занялі. А вы гуляйце, хіба ж вам можна выцярпець тут, стоячы і чакаючы. Пабегайце, костачкі маладыя разамніце… А заадно і паназірайце, як хлеб будзе нараджацца. Гуляйце!..

Весялей стала на душы, бо пачало праясняцца становішча з хлебам. Хлопцы выбягалі на вуліцу, зноў варталіся, па чарзе, а то і разам. Пазнаёміліся з мясцовымі хлапчукамі, якія таксама пачалі сачыць за тым, як ішла выпечка хлеба. Хлопцы аднаго з імі ўзросту, і яны даволі спакойна ўспрынялі з'яўленне «чужакоў» у сваёй вёсцы…

— А скуль вы будзеце, хлопчыкі? — пацікавілася жанчына, калі яны ўтрох зноў прыйшлі ў краму і сталі побач з ёю. — Штосьці я вас раней не бачыла.

— Ды з Крушнікаў мы, — адказаў за ўсіх Валік.

Ён вучыўся ў старэйшых класах, быў больш начытаны, чым яго сябры, быў больш гаваркі, умеў гаварыць з людзьмі.

— А дзе ж гэта? Не чула пра такую вёску…

— Адсюль каля дваццаці кіламетраў.

— Дык гэта вы адтуль прыджгалі па хлеб?

— Так…

Жанчына пахітала галавой, здзівіўшыся. Зразумела, што азначаў для хлапчукоў хлеб.

Мясцовыя хлапчукі растлумачылі, што калі перастаў ісці з коміна дым, то печ ужо гатовая для таго, каб у яе чэрава хлебапёкі засунулі формы з цестам. Так яно і сталася — двое мужчын выносілі вёдры попелу і высыпалі ў вялізную бочку. Пачалося! Цяпер толькі засталося сачыць, як будуць адбывацца падзеі далей.

— Хлеб ужо закладзены ў формы! — прыбеглі мясцовыя хлапчукі ў краму, далажылі радасна дарослым пра навіну.

— То ўжо мала засталося чакаць, — падвесяліла жанчына крушнічанаў.

Зноў выбеглі на вуліцу. Нецярпелася, хацелася, каб як найхутчэй выпякаўся той хлеб. Бо ўжо і палова дня праляцела, сонца схілілася з поўдня, а як яно далей пойдзе, невядома.

Дзесяткі хлапчуковых вачэй пільна сачылі за тым, што адбывалася на хлебапякарні. Здавалася, там нікога і не было, і ніхто не займаўся выпечкай хлеба.

— О, дзядзька Максім выйшаў, значыць, справы ідуць на лад…

— А вунь і Стафаня нешта гаворыць Максіму, ці не дае яму загад падрыхтаваць латкі для хлеба.

Мясцовая разведка неадрыўна сачыла за працэсам, ніводзін крок людзей пякарні не выпадаў з-пад іх увагі. Так, ужо латкі складваліся адзін на адзін, зносіліся некуды ў праёміну шырокіх варот.

— Ну, мусіць, астываюць буханкі, і іх пачынаюць складваць у драўляныя латкі.

А потым да дзвярэй пад'ехаў воз і спыніўся. Вазніца саскочыў на зямлю, пайшоў у прачыненыя дзверы.

— Рыгор пайшоў паглядзець, ці гатова ўсё. Пачнуць грузіць хутка…

— Так, вунь Максім падаў яму першы латок…

Хваляванне нарастала. Яно дасягнула свайго апагею. Хваляванне перамяшалася з радасцю, што хлеб выпечаны і яго хутка загрузяць на воз. Ёсць спадзяванне, што яго хутка прывязуць у краму.

— Грузяць! Грузяць ужо хлеб! — абвясцілі радасную вестку хлапчукі.

То амаль нікога не было, а то аднекуль у імгненне вока збегліся людзі, стоўпіліся, і не зразумець, ці то чарга ўтварылася, ці бязладна згрувасціўся натоўп, страціўшы пачуццё рэальнасці. Хлапцоў амаль адцяснілі ад гаваркой цёткі, але тут ужо і Толік праявіў настойлівасць — ухапіўся за парэнчу прылаўка і ніяк не хацеў адсоўвацца назад…

Людзі як быццам ператварыліся ў нейкіх злыдняў, напіралі і напіралі, нягледзячы на тое, што хвіліну назад усе добразычліва адносіліся адзін да аднаго. Магло здарыцца і так, што іх зусім маглі выпхнуць з чаргі, і потым не дакажаш, што яны амаль самыя першыя занялі чаргу…

Але як бы яно ні было, яны апынуліся непадалёк ад «сваёй» цёткі, недзе дзесятымі стаялі, а гэта ўжо давала надзею, што хлеб ім дастанецца, што ніякая сіла іх ужо не зрушыць з месца…

— Ды не піхайцеся вы! — крыкнула ззаду жанчына. — Як звар'яцелі сядно, пачуўшы пах хлеба…

— Сама не піхайся!

— Ну, не цісні мяне, задушыш…

Сонца, мусіць, даўно схілілася на другую палову дня, недзе набліжалася ўжо да гарызонту, а людзі, натоўп людзей, стаяў і чакаў, калі падвязуць да крамы доўгачаканы хлеб. Ніхто не ведаў, колькі і прывязуць таго хлеба, і ці хопіць на ўсіх.

Позіркі ўсіх скіраваны ў праёміну акна — калі ж пакажацца блакітны фургон з надпісам «Хлеб». А воза ўсё не было і не было. Людзі пачалі хвалявацца, піхацца, гаманіць уголас, выказваць нецярпенне.

Адна толькі Клаўдзя не глядзела ў тое акно, безуважна стаяла за прылаўкам, не выказваючы ні хвалявання, ні ўзрушанасці.

Здаецца, болей за ўсіх хваляваўся Віцька, гледзячы ў тое акно. Ён толькі цяпер успомніў, што не дастаў дзесятку з патайной кішэнькі, і цяпер не ведаў што рабіць — яго сціснулі так, што не магчыма дастаць грошы з кішэні. Сетачку ён трымаў у руцэ, а не ведаў — дзесяцірублёўку даставаць цяпер, ці пачакаць, калі падыйдзе да вагаў?

— Едзе! — нехта выгукнуў, хто стаяў бліжэй да акна.

І сапраўды, было ўжо бачна, як паказалася напачатку галава каня з хамутом і дугой, а потым і вялізная блакітная скрыня з белым надпісам «Хлеб».

Божа, ад аднаго толькі ўбачанага слова ў людзей мяняўся настрой, з’яўлялася ўзбуджанасць і нецярпенне, і ў кожнага, мусіць, у роце было поўна сліны… Людзі былі галодныя, людзі былі ўзлаваныя, яны гублялі пачуццё чалавечнасці і дабрыні. О, час, час нястачы і голаду, час крыўдаў, стратаў, бязвер’я ў сябе і ў Бога...

Клаўдзя другое акно расчыніла загадзя, стаяла каля яго, чакала, калі воз пад’едзе і пачнецца выгрузка.

Натоўп рабіўся ўсё больш шчыльнейшым і непахісным. Позіркі ўсіх былі скіраваны ў расчыненае акно.

— Тпру-ууу! — падаў голас align="left" возн

— Колькі латкоў прывёз, Міхал? — выглянула гандлярка ў праёміну акна.

— Дваццаць пяць, не больш і не менш. Усё ў накладной напісана.

— Ды бачу, бачу. І сёння мала прывёз, а людзей шмат, і цэлы дзень яго чакаюць.

Клаўдзя гаварыла ўголас, каб людзі чулі і ведалі, што і сёння на ўсіх не хопіць, каб не разарвалі яе на шматкі ад злосці.

Міхал падаваў ёй латкі з пахкім хлебам, Клаўдзя складвала іх адзін на адзін. Калі паклала наверх самы апошні, яшчэ раз пералічыла, і толькі потым аддала яму паперчыну — накладную.

— Усе чулі, што хлеба на ўсіх не хопіць? — спытала Клаўдзя ў людзей, там часам рэгулюючы на прылаўку вагі — «качачкі», каб дзюбкі іх стаялі роўненька адна супраць другой. — Таму буду выдаваць па адным бохане ў рукі.

Людзі маўчалі, уголас не абураліся. Іх абурэнне магло выглядаць абурэннем супраць Савецкай улады. Былі выпадкі, калі нехта выказваў сваю незадаволенасць уголас, дык яго потым доўга цягалі адпаведныя органы...

«Усяго па адной, — падумалася Віцю, — на ўсіх па адной… Але ж мы галодныя, як вытрымаць і данесці некранутым хлеб дадому?»

— Чулі, чулі, — адгукнуўся нехта з натоўпу.

Чарга стаяла шчыльнай сцяной. Першая дзесятка строга сачыла за тым, каб хто не ўплішчыўся да іх.

Дзюбка супраць дзюбкі, людзі бачылі, што ніякай падробкі не было, што вагі настройвала Клаўдзя пры ўсіх.

— Слухай, Клаўдзя, і слухайце, людзі, — нечакана звярнулася да ўсіх добразычлівая жанчына. — Нам можна адпускаць і па адной буханцы, а вось гэтым хлапчукам, што стаяць позаду мяне, выдай па дзве.

— А чаму гэта ім такая прывілея, Насця? — нехта паспрабаваў выказаць сваю нязгоду з натоўпу.

— Таму, што яны стаяць тут з самае раніцы, калі яшчэ тут нікога і не было. А ім яшчэ ісці больш чым дваццаць кіламетраў, — яны з Крушнікаў, галодныя і босыя. І ці дойдуць яны яшчэ да цемнаты, невядома…

Спачатку маўчанне. Людзі абдумвалі прапанову Насці, але рэзкай нязгоды не выказвалі.

— Ну, калі так, то яно, канечне… Няхай ужо.

Першай жанчыне, хаця яна прыйшла нашмат пазней за хлопцаў, Клаўдзя паклала на вагі бохан хлеба. Паклала гіркі на другі бок і, калі дзюбкі зраўняліся, абвясціла, колькі трэба плаціць.

Другая жанчына, трэцяя… Шостай стаяла Насця, за ёй усё ж убіўся маўклівы мужчына, а потым стаялі ўжо і хлопцы… Пасоўваецца чарга, адыходзяць людзі, узяўшы ў рукі яшчэ гарачы хлеб. Насця ўзяла свой бохан, але не пайшла да дзвярэй, стаяла побач з хлапчукамі, чакала, калі яны атрымаюць прызначаныя ёю па два боханы…

За гэты час Віцька дастаў з кішэнькі дзесятку, трымаў у спацелай далоньцы.

Ён падышоў да вагаў, чакаў, калі Клаўдзя пакладзе на вагі хлеб. Узважыўшы, гандлярка прамовіла:

— З цябе, хлопчык, дзевяць рублёў і шэсцьдзесят пяць капеек.

Віцька падае ёй скамечаную дзесятку, чакае, калі Клаўдзя аддасць яму рэшту. Насця не адыходзіла ад іх, чакала, калі ўся хлапечая тройца атаварыцца. Пасля яго атрымаў два боханы Валік, за ім і Толік.

Радасць аж распірала хлопцаў. Перад тым, як выбегчы на вуліцу, усе утрох, хорам, усклікнулі:

— Дзякуем! Дзякуем, цётачка Насця!

Жанчына ўсміхнулася, нават Віцьку пагладзіла па галаве, як матуля, прамовіла:

— Харошыя вы хлопцы! Спяшайцеся, бо дарога наперадзе далёкая. Памажы вам, Божа!

Вось толькі тады, як пачулі яе апошнія словы, хлопцы выслізнулі на вуліцу. Уздыхнулі вольна, на поўныя грудзі, усклікнулі амаль адначасова:

— Жывём, хлопцы!

## 4

Развіталіся з хапчукамі, якія стаялі каля крамы, чакаючы, калі пакінуць краму іх новыя сябры.

— Хапіла хлеба? — спыталі ў іх.

— Хапіла, ды нават па дзве далі нам. Нейкая добрая цётачка Насця папрасіла Клаўдзю…

Хлопцы нахмурыліся, растлумачылі:

— Пазалетась яе гаспадара Халімона варанок сярод ночы забраў. Так і не вярнуўся... Трое сыноў было ў іх. Дык усе трое, калі лавілі рыбу, трое і ўтапіліся… Ніхто не ведае, як тое адбылося. Вось яна, мусіць, і ўбачыла ў вас сваіх сыноў…

Іх словы ўразілі Віцьку і яго сяброў.

«А па выглядзе не скажаш, што ў жанчыны вялікае гора, — падумаў Віцька, — хавае яго, значыць, ад людзей…»

— Добрай вам дарогі, — паціскалі ім рукі скрыгалаўцы, — да ночы мо і зойдзеце.

— І вам усяго добрага, дзякуем, што і вы перажывалі за нас.

— Мы ўсе разам перажывалі і хваляваліся… За ўсіх хваляваліся.

А сонца ўжо хілілася да гарызонту, вось-вось кранецца брыжыка лесу.

— Якое яно чырвонае, — заўважыў Толік.

— Яно пачырванела таму, што ўбачыла нашую беднасць і гаротнасць, — прамовіў Віцька і сам здзівіўся, як ён змог дадумацца прамовіць такое. Сябры паглядзелі са здзіўленнем на яго, але нічога не сказалі.

Ішлі моўчкі, але кожны думаў пра адно і тое ж — пра цётку Насцю. Вочы яе помніліся, голас ласкавы, як быццам родзічка якая, што аберагала іх, памагала здабыць хлеб.

Выйшлі ўжо за Скрыгалаў. Калі падняліся зноў на той узгорак, з якога адкрылася панарама вёскі і яе наваколля, спыніліся. Агледзеліся. Моўчкі стаялі і глядзелі на вёску, позіркам шукалі тую высозную ліпу, пад якой і знаходзілася крама.

Кожны з іх адчуў, што ў гэты перадвелікодны дзень адбылося нешта значнае, адметнае ў іх жыцці. Яны і самі не маглі вызначыць, што менавіта адбылося, але адчулі ў сабе нейкія змены. Нешта зрушылася ў іх сэрцах, нешта перайначылася, акрэслілася. Так, спагада і прыхільнасць цёткі Насці — гэта галоўнае, што адбілася ў іх памяці. Але ж нешта і яшчэ, якое нельга адразу асэнсаваць, даць якую-небудзь ацэнку. Ёсць рэчы, якія нельга ацаніць ніякімі грашамі і словамі… І людская дабрыня ўплялася ў асацыяцыі пражытага дня, і скрыгалаўскія хлапчукі з іх шчырымі адносінамі да іх, і нешта ж яшчэ, няўлоўнае, нябачнае і шчымліва-трагічнае, — а што, выказаць не маглі.

— Ну, што, арыенцір — комін? — запытаўся камандзір каманды Толік-Гум. — Толькі ў адваротным кірунку? Рушылі?

Але Віцька не спяшаўся пакідаць узгорак, не мог адарваць позірк ад зялёнай азіміны, ад вёскі, у якой яны правялі дзень, — ён быў яшчэ ў палоне ўражанняў і эмоцый.

— Рушылі, — уздыхнуў хлопец.

Калі спусціліся ў лагчыну, калі прыспешылі крок, ідучы адзін за адным, амаль крок у крок, удыхнулі водар ляснога паветра, здзівіліся, што прывычны пах змешаны з нечым яшчэ, нечаканым ці даўно забытым, — пах жыцця, пах сілы і радасці.

Так мог пахнуць толькі хлеб. Яны пераглянуліся, зразумеўшы адзін аднаго, і рука міжволі пацягнулася да сеткі. Хаця б скарыначку, хаця б акрайчык пакласці ў рот. І толькі цяпер адчулі, які дзікі голад падкаціўся да іх. Агарнула слабасць, захісталася ўсё перад вачыма. Яны зразумелі, што іх сілы скончыліся, бо трымаліся да апошняга, не задумваючыся над тым, што яны галодныя.

Думкі пра хлеб захінулі ўсё астатняе. Яны пра ўсё забыліся. А калі іх мара здзейснілася, калі ў руках яны трымалі тое, з-за чаго і адолелі такі шлях, апамяталіся. Слабасць пачала перарастаць у галавакружэнне, іх пачало паднуджваць.

Не было ўжо сілы не толькі ісці далей, а і гаварыць — рот набрак ліпкай слінай. Не згаворчваючыся, збочылі з дарогі, селі, развязалі сетачкі, але не маглі дастаць адтуль хлеб. Яго яны павінны данесці дадому. Вочы неадрыўна глядзелі на карычневую, як малады баравік, скарыначку. Але рукі ўжо асобна

ад свядомасці дакрануліся да кулідкі хлеба. Пальцы адшукалі трэшчынку, адкалупнулі скарынку…

У грудзях у Віцькі зашчымела, запякло пякучкай, ударылі ў скроні тоненькія іголачкі. Скарынку як быццам адшчыкнуў не ён, а нехта іншы, невядомы чалавек… Паднёс да носа, каб напачатку, перад тым, як паспытаць, удыхнуць пах, адчуць яго сілу і магутнасць…

Віцька знаходзіўся ў бязважкасці і ў невядомасці. Ён не адчуваў, дзе ён і што з ім. Не бачыў ні сяброў, ні наваколля, нічога не чуў… Звінела ўвушшу, дрыжэлі рукі, калола ў скроні.

І нарэшце скарынка легла на язык. Спачатку ён не адчуў ніякага смаку. Як быццам паклаў у рот нейкую камлыгу. А калі сашчаміў сківіцы, калі сліна размякчыла хлеб, адчуў тады і смак.

Міжволі прымружыліся вейкі, абвяла ўсё цела, звон у вушах стаў яшчэ мацнейшы. Стала цяжка дыхаць, як хто сашчаміў з усіх бакоў грудзі. З цяжкасцю праглынуў тое, што было ў роце. Ад слабасці на ілбе выступіў пот, а потым халодныя струменьчыкі пацяклі па спіне.

Захацелася спаць, і Крупадзёр лёг на спіну.

Ён чуў, як побач ляжалі і дыхалі Валік і Толя, але не было сілы спытацца ў іх пра што-небудзь… Адчуванне было, што ён ляжыць у чоўне, а рака нясе яго некуды ў нязведаную далячынь, віхурыць на паваротах, на вірах кружыць човен, пагражаючы зацягнуць у глыбіню, а ён і рукой не мог пашавяліць. І яму ўжо было ўсё роўна, бо адчуў у сабе абыякавасць да жыцця, да таго, што робіцца наўкола…

Да пляча дакрануўся Валік, спытаў:

— З табой усё добра, Крупадзёр?

Хлопец расплюшчыў вочы, здзіўлена паглядзеў на сябра:

— Добра, а што?

— З Гумам нешта творыцца незразумелае…

Віцька падхапіўся з месца, зірнуў на Валянціна, потым на Толю, які ляжаў побач, не разумеў, чаго ўстрывожыўся сябрук.

— Ці то спіць, ці што іншае… Катурхаю яго, а ён як нежывы сядно.

Падобна было, што хлопец спаў. Але ў яго былі расплюшчаны вочы. Глядзеў ён некуды ў неба, не бачачы нічога.

Віцька дакрануўся да пляча, злёгку патармасіў. Хлопец скалануўся ад штуршка, але не адрэагаваў на дотык. Мацней штурхануў, але ён толькі захроп, і з яго грудзей вырваўся нейкі хрыплы стогн, і заклекатала нешта ўсярэдзіне…

— Што рабіць будзем? — устрывожана спытаўся Віця ў Валянціна. — Нешта здарылася з ім, нейкая хвароба прыкінулася…

— Не ведаю, што рабіць… Да вёскі ісці па дапамогу далёка, мо ён і сам прачнецца…

Сядзелі, маўчалі. Трывога закралася ў сэрцы. На іх вачах мог памерці Толік, а яны не могуць нічым памагчы.

— Вады б знайсці, ды даць яму папіць, — здагадаўся Валік. — Ты пасядзі тут, а я пайду пашукаю які раўчук.

— А ў чым ты прынясеш ваду? — спытаў Віця. — Ні кубка, ні бутэлькі мы не здагадаліся ўзяць з сабой…

— І то праўда.

Так і сядзелі бездапаможна побач, раз-пораз кідаючы позіркі на свайго сябра.

## 5

Яго заблажыла адразу, як толькі праглынуў хлеб — не трымаў нічога ў роце ўжо трэці дзень. Апошнюю бульбу, якая была ў падполлі, ён зварыў яшчэ на мінулым тыдні. Да бульбы наварыў шчаўя, якога нарваў каля рэчкі. Шчаўе не было чым заправіць, і ён сёрбаў адзін нішчымны кіслы ўзвар. Здавалася, што наталіў голад.

Калі Віцька прапанаваў схадзіць у Скрыгалаў па хлеб, вельмі абрадаваўся, адразу ж згадзіўся, бо не памятаў, калі еў яго. Некалі хлопца праведваў далёкі родзіч — стрыечны брат бацькі-нябожчыка Віталь, які жыў пад Лельчыцамі, ды пакінуў яму дваццаць пяць рублёў. Дзве дзесяткі і пяцёрку. Хлопец хаваў іх, ні на што не траціў, нават на цукеркі-падушачкі, якімі вельмі хацелася паласавацца, — іх прадавалі ў крушніцкай краме. А тут, калі адправіліся ў Скрыгалаў па хлеб, узяў дзесятку. Не болей. Бо ведаў, колькі каштавала буханка хлеба. Астатнія грошы пакінуў надалей, каб выкарыстаць іх, калі наступіць поўная нявыкрутка.

Яго пачало блажыць яшчэ тады, калі чакалі ў краме прывозу хлеба. А калі пачалі прадаваць, і пах разносіўся па ўсёй краме, не мог устаяць на месцы. Не чуў, пра што ў яго пыталася Клаўдзя-крамніца, як і не чуў, што гаварыла ім цётка Насця, якая памагла.

Пах хлеба з сеткі кружыў яму галаву. Ён аглух, а ногі здаваліся ватнымі, і ён ледзьве перастаўляў іх. Адказваў кіўком галавы, калі сябрукі пыталіся пра нешта, не ведаючы нават, што адказваў.

Калі ж Крупадзёр і Уюн дасталі з сеткі боханы хлеба і адшчыкнулі ад іх скарынку, міжволі зрабіў тое і сам. Калі пачаў жаваць, калі адчуў смак і пачаў душыцца слінай, страціў прытомнасць, — добра, што ў гэты час яны ўсе разам леглі на зямлю, таму ніхто не заўважыў, як ён праваліўся ў небыццё…

Ён нават не напалохаўся, не паспеў напалохацца, бо яму адразу ж стала хораша і спакойна. Толік ператварыўся адразу ў іншага чалавека, перайшоў у іншае вымярэнне, у іншы час… Голас бацькі пачуў, яго ціхі покліч.

## 6

…Калі яны выправіліся ў дарогу, першай абмінулі вёску Камень. Вёска стаяла ўдалечы ад дарогі, што ішла з Асаўца на Крушнікі. Пры самай дарозе брацкая магіла.

Помнілася, і потым чуў ад вяскоўцаў пра тыя трагічныя дні.

…Ішлі жорсткія баі.

Камандванне паставіла перад вайскоўцамі адказную задачу — вызваліць вёску Буйнавічы. Войскі ніяк не маглі прасунуцца далей, не заваяваўшы тую тэрыторыю. Наладжвалі адну атаку за другой, але безвынікова. А аднойчы ноччу немцы самі атакавалі і адсунулі баявыя парадкі далёка ад Буйнавічаў. Фашысты нанеслі Чырвонай арміі вялікія страты. Дывізія адступіла, і на вялікай пляцоўцы вырашана было размясціць перасоўны шпіталь. Наставілі шмат палатак, у якіх ляжалі параненыя байцы. У дзвюх вялікіх палатках знаходзілася аперацыйная…

Крушнічане былі адрэзаны ад усяго свету. Тыя мужчыны, якім па ўзросце трэба было ваяваць, не ведалі, што рабіць, як далучыцца да савецкіх войскаў,

бо дзе тыя войскі знаходзяцца… Калі ж яны паказаліся ў вёсцы, усе выйшлі іх сустракаць. Прыйшлі з лесу мужчыны і юнакі, абрадаваўшыся, што цяпер можна далучыцца да чырвонаармейцаў.

Вусаты капітан са злым позіркам, праз слова мацюк, скамандаваў мужчынам стаць у адзін рад. Перад гэтым ён, вызверыўшыся, заклаўшы рукі за спіну, уперыўся ў кожнага з іх, крыкнуў:

— Ну, што, адседзеліся пад бабскімі спадніцамі? Мы тут, панімаеш, кроў праліваем, а вы дзяцей стругаеце, гарэлку жлукціце…

— Мы хацелі і самі ўліцца…

— Малчаць! — з усіх сіл крыкнуў капітан, насупіўшы бровы. — Малчаць! Камандаванне расцэньвае вашы дзеянні як ухілянтаў і дэзерціраў. А гэта азначае, што вы падпадаеце пад расстрэльную стаццю.

— Мы не хаваліся, мы чакалі! — выкрыкнуў, не сцярпеўшы незаслужанай абразы, Мікола Кашаед. Побач з ім стаяў сусед Станіслаў, Адам, Лявон і іншыя.

Позаду яго стаяў Толік, усё чуў. І ён тады адразу ўзненавідзеў таго вусатага капітана, які так абражаў не толькі бацьку, а і ўсіх. Бо Толік сам не раз чуў, як бацька гаварыў маці, што хутка прыйдуць рускія і ён пойдзе ваяваць супраць немцаў. А злы капітан кажа, што яны ўсе хаваліся. Каб хаваліся, то не выйшлі б з лесу і не прыйшлі б сюды…

— Малчаць! — зноў крыкнуў вусаты. — Старшына, перапішы мне ўсіх дэзерціраў, і спіс падасі мне. Я вас навучу, як радзіму любіць, панімаеш!.. Вы павінны выкупіць сваю віну кроўю. Пагэтаму я ўсіх вас залічваю ў штрафны батальён. Праз тры дні вы павінны будзеце ўзяць Буйнавічы, адбіць вёску ў ворага.

У шарэнзе стаялі Юніцкія і Кашаеды, Фалінскія і Фіцнеры, Зданевічы і Крупецкія… Усіх перапісалі. Усіх уключылі ў штрафбат. У той жа дзень іх адправілі на перадавую…

Параненых прывозілі ў палаткі, а потым пераносілі ў палатку, дзе рабілі аперацыі. Каму ампутавалі нагу, каму руку, хто аслеп ад ранаў… Відовішча было страшэннае. Не спраўляліся санітаркі са сваімі абавязкамі, і тады хлапчукі прапанавалі сваю дапамогу. І яна была дарэчы.

Толік разам з другімі хлапчукамі з іншых вёсак памагалі абіраць бульбу, мылі бінты, пілавалі і калолі дровы. Кухар заўсёды выдзяляў ім па поўнай місцы кашы. Для падлеткаў гэта быў галоўны падмацунак…

Кожны дзень прывозілі на вазах параненых. Яны стагналі, енчылі, крычалі. Толік бегаў да кожнага воза, прыглядаўся да твараў параненых, плакаў, клікаў:

— Татачка, ты тут? Татачка, ты дзе?

А потым, праз некалькі дзён, прывезлі «штрафнікоў», якія ўступілі ў бой з фашыстамі. Казалі, іх кінулі на смерць, каб прыкрыць тых, хто наступаў ззаду…

Фашысты ўдарылі з усіх ствалоў… Мала засталося ў жывых.

Пазнаў Толік бацьку. Ён ляжаў на возе разам са сваімі аднавяскоўцамі. Бацька чамусьці ўсміхаўся, усмешка так і застыла на яго твары. Тую ўсмешку ён запомніў на ўсё жыццё.

Толік здзівіўся, калі бацька крануў яго за плячо, пачаў тармасіць:

— Уставай, сын. Табе ж яшчэ трэба да цемначы дадому зайсці. А за мяне не перажывай, нам тут з маці добра. Ты сябе глядзі, сын…

Бацька стаяў над ім і плакаў. Слёзы падалі на твар, але яны былі халоднымі, бы лёд. Тыя слёзы і абудзілі Толіка ад помараку. Аказваецца, то не бацька плакаў, а дождж абрынуўся на зямлю — халодны, красавіцкі, перадвелікодны дождж.

Спачатку ён нічога не зразумеў, чаго замест бацькі на ўсколенцах стаяць яго сябры — Віцька і Валянцін. Чаго радасна паглядаюць на яго, чаго ім так весела.

— Ачуўся, Толік? — усклікнулі сябры. — Доўга ж ты прападаў недзе…

Калі прыйшла да яго свядомасць, калі ён адчуў сябе лепш, адказаў:

— Я з бацькам быў...

Дождж быў і не моцны, але дажджавыя струмені сцякалі з іх галоў. Яны не хаваліся, не выціралі твары. Яны як быццам плакалі, як і Толік, які перажыў за нейкія хвіліны той час, калі бацька быў жывы…

Яны не вытрымалі, абнялі яго, прытуліліся тварамі адзін да аднаго.

## 7

Валік Юніцкі — бязбацькавіч. Ён жыве ў невялікай хацінцы, пры самай дарозе на Будкі — другой паловы Крушнікаў. Жывуць з маці — Альвінай і са старэйшай сястрой Броняй.

У сярэдзіне лістапада 1937 года прыехаў у вёску «чорны воран». Арыштавалі дзевятнаццаць чалавек. Усім было прад'яўлена адно і тое ж абвінавачванне — сувязь з польскай дэфензівай. У некаторых былі родзічы па той бок мяжы — у Давыд-Гарадку, і яны часам ездзілі праведаць сваіх. Гэтага было дастаткова, каб прызнаць вяскоўцаў польскімі шпіёнамі. А Яна Фіцнера назвалі чамусьці японскім шпіёнам.

Цяжка перажылі вайну. Вёску палілі некалькі разоў. Нішчымніца, голад. Валік хадзіў у лес і шукаў дзятлавы дуплы. Даставаў адтуль дзятлікаў. З імі потым варылі шчаўе ці капусту…

Калі сказаў маці, што Віцька прапаноўвае схадзіць па хлеб у Скрыгалаў, абрадвалася:

— Ото ж добра, сынок, а то да велікоднага стала няма ні скарыначкі хлеба. Схадзеце, схадзеце.

Хацела і Броня з ім пайсці, але ён адпрэчыў яе прапанову, не захацеў, каб яна далучалася да хлапечай кампаніі. Сястра не пакрыўдзілася, толькі паціснула няўцямна плячыма.

Хаця раніцай ён і паснедаў — маці дала яму да бульбы зваранае яйка і шматок здору, кубачак малака, — голад прачнуўся на сярэдзіне шляху да Скрыгалава. З сабой у дарогу ніхто нічога з яды не ўзяў. Не было чаго ўзяць.

І калі прыйшлі ўжо ў вёску, калі чакалі прывозу хлеба, калі неадрыўна сачылі за ўсім працэсам і дачакаліся ўсё ж, калі фурман прывёз блакітную скрыню з хлебам, — увесь час смактала пад грудзьмі. Вельмі ж праціўнае пачуццё, агіднае нават, злое, настырнае, і нічым яго нельга было сцішыць, здушыць…

Ведаў, што і ў сябрукоў «кішкі гралі марш», але ніхто не прызнаваўся ў тым, стараліся паказацца вясёлымі і гаваркімі. У Толіка вунь дык і зусім амаль голас прапаў — ад слабасці ледзьве язык паварочваецца.

І калі ён сядзеў, паспытаўшы першы кавалак хлеба, а потым упаў на спіну, закаціўшы вочы, не прыдаў таму значэння, — і самому было млосна. Таму верыў, што гэта часовы прыступ, які выкліканы толькі тым, што хлеб напомніў пра сваё існаванне.

Прыўзняўся ён першы. Паглядзеў на сваіх сябрукоў, якія ляжалі, стомленыя дарогай і голадам, не спяшаўся будзіць іх і не перапыняць іх расслабле-

насць… Але здзівіла найперш, у якой паставе знаходзіўся Толік. У яго былі расплюшчаны вочы, але ён нічога не ўсведамляў. Толькі скрыгатаў зубамі, шаптаў ці то «тата», ці то «вата»…

ТарганУў за плячо. Здаецца, ён не адчуў дотыку. Страсянуў мацней — той жа вынік. Рука ляжала на грудзях, пальцы моцна сціскалі акрайчык хлеба. Побач ляжала сетка з боханамі.

Толькі тады ён здагадаўся пабудзіць Віцьку. Ён прахапіўся адразу, сеў і паглядаў на сябра. Але колькі ні стараліся вывесці Толіка з таго незразумелага стану, нічога не атрымалася. Ні доктара, ні вады, ніякай ніадкуль дапамогі.

А вада з'явілася нечакана — паліў дождж. Ён і «вылечыў» хлопца, абмыўшы струменямі яго твар. І калі спыталі ў яго, што з ім сталася, адказаў:

— Я з бацькам быў…

Трывога і недаўменне змяніліся радасцю.

— Хлопцы, — Валік дастаў з сеткі хлеб, — самы час падсілкавацца… Толькі трэба есці не на поўны рот, а кавалачкамі, каб не пашкодзіць кішкі… Так мяне мама вучыла.

— Расседжвацца нам няма калі, — прамовіў Віця, — будзем ісці паціху і ласавацца хлебам.

Зноў наперадзе дарога, а цагельня яшчэ не паказалася. Кожны з іх адшчыпваў ад бохана і кідаў у рот. Зніклі слабасць і галавакружэнне, але на змену прыйшло адчуванне голаду.

— Хлопцы, гляньце, колькі кветак — цэлая паляна! — усклікнуў Толік. — Трэба нарваць.

— Для чаго?

— Я бацьку пакладу на магілу…

Валік пайшоў туды, дзе спрэс бялела паляна ад кураслепу. Як быццам снег выпаў, такой белай глядзелася палянка. Але калі ён хацеў прысесці і нарваць кветак, схамянуўся — каля ног быў жывы клубок, які варушыўся, жыў…

— Хлопцы, ідзіце сюды!

Яны ўсе бачылі і гадзюк, і вужоў, але такое сустракалі ўпершыню. Гадзюкі пасля зімовай спячкі прачнуліся, але яшчэ не мелі сілы поўзаць і рухацца, яны перапляліся адна з адной, стараліся выбавіцца з палону цеснаты і адпаўзці ўбок.

Яны, сагрэўшыся пад першымі красавіцкімі промнямі сонца, ажылі і выкаціліся з дупла старой алешыны, спрэс абвітай хмелем. Яны, мусіць, яшчэ не ачомаліся ад зімовай спячкі, не разумелі, што з імі адбываецца.

— Нічога сабе! — усклікнуў Віцька, гледзячы на цуд прыроды.

За гадзюкамі назіралі не толькі хлопцы. Знекуль зверху апусціліся ўніз шустрыя дзве вавёрачкі, цікаўнымі вочкамі глядзелі і на хлопцаў, і на гадзючынае зборышча.

І вавёркі для іх не былі дзівам — амаль у кожнай хаце крушнічан яны жылі круглы год. Рабіліся ручнымі, даваліся ў рукі, дурэлі з малымі дзецьмі, пераскокваючы з печы на жэрдку, з жэрдкі на паліцы…

— Хай жывуць, — прамовіў Валянцін, адыходзячы ад гадзюк, — мы не павінны іх забіваць — усё жывое створана Богам.

З ім згадзіліся Толік і Віця. А вавёркі не ўцякалі, назіралі за хлопцамі. Вострымі кіпцікамі ўперліся ў шурпатую кару алешыны, прыкрыўшы спіны пушыстымі жоўта-карычневымі хвастамі.

Ідучы далей па дарозе, не-не, ды і адшчыпвалі ад кулідкі хлеба, быццам цукерку, закідвалі кавалачак у рот. Смаката! Асалода! Адлегласць скарачалася

і скарачалася. Ужо і комін мінулі, пратэпалі яшчэ некалькі кіламетраў, а бохан хлеба «худзеў» з такой жа хуткасцю, як і меншала дарога.

А вось і Камень. Дакладней, брацкія могілкі.

Туды і павёў сваіх сяброў Толік Кашаед. Перад уваходам у загародку наклаў на сябе крыж, тое ж зрабілі Віця і Валянцін. Толік паклаў свае кветкі. Побач леглі і букецікі хлопцаў.

— Вось на гэтым месцы і быў шпіталь, — растлумачыў Толік, — і сюды прывозілі параненых і забітых. Сюды прывезлі і майго бацьку…

**8**

…Тым часам пачынала змяркацца. Да Крушнікаў заставалася паўтара кіламетра. Калі прыйшлі на сваю вуліцу, ужо добра сцямнела. У некаторых хатах цьмяна гарэла святло.

Развітваючыся, Віцька прапанаваў сябру:

— Толік, а ты заўтра прыходзь да нас на велікодны сняданак.

Калі Віця пераступіў парог хаты, у нос ударылі розныя пахі — смажаніны і варанага. З печы ішоў мясны пах, плыў па хаце. На стале стаяла міса з пафарбаванымі чырвонымі яйкамі.

Побач з яйкамі ён паклаў бохан хлеба.

— Сыночак! А дзе гэта ты так доўга забавіўся? — радасна паглядзела на яго маці. — Мы тут з бацькам месца сабе не знаходзім

— Ды ўсё добра, мамо! Нам траім далі па дзве буханкі. Добрая жанчына памагла.

— А дзе ж другая кулідка, сын?

Віцька вінавата апусціў галаву, не ведаў, што сказаць.

— З’еў, мамо… Мы ўсе з’елі па адной буханцы. Есці вельмі хацелася…

— Ну, то нічога, і добра, — заўсміхалася Юзэфа, прытульваючы ўжо да сябе сына, радуючыся, што трымае яго ў абдымках. — Нам і аднаго бохана хопіць, ды я яшчэ паскі трошкі спякла. Дзякуй богу, сустрэнем свята як людзі.

У гэты час расчыніліся дзверы, і ў хату зайшоў бацька:

— Вярнуўся? Дзе цябе гэта насіла цэлы дзень?

— Там і насіла, дзе нас цяпер няма, — адказаў з усмешкай Віцька, вызваляючыся з абдымкаў маці.

— Сын, я і забылася, то ж трэба Толіка запрасіць на велікодны сняданак.

— Я ўжо сказаў яму.

Потым Віцька расказваў пра іх дзённыя прыгоды, пра добрую цётку Насцю, якой яны спадабаліся, пра гадзюк, пра брацкія могілкі…

Пра нешта расказвала і маці. А калі адышла ад печы і падышла да Віцькі, убачыла, што ён, паклаўшы галаву на стол, спаў моцным сном. На стале, побач з ім, на кужэльным ручніку ляжаў бохан хлеба.





## Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

* * *

Спасціжэнне любові, кахання, віны,
Спасціжэнне сябе ў гэтым свеце шалёным...
Праз усмешкі і плёткі, бяду і праклёны
Я іду, а за мною — трывожныя сны.

Як хачу дабрыні, як хачу цішыні,
Як хачу я спагады і позіркаў шчырых!..
І лятуць мае птушкі праз ночы і дні
У далёкі, жаданы, засмужаны вырай.

Там ім добра і цёпла. І мне на душы
Стане раптам цяплей, і паверу я ў цуды.
«Добры дзень, — я скажу, — можна з вамі пабуду?»
І крыху памаўчу. І захочацца жыць.

---

**Гальпяровіч Навум Якаўлевіч** *нарадзіўся 14 студзеня 1948 года ў Полацку. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў грузчыкам на заводзе шкловалакна, карэктарам, літсупрацоўнікам полацкай газеты «Сцяг камунізму», рэдактарам радыёвяшчання наваполацкага вытворчага аб'яднання «Палімір». Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут імя С. М. Кірава (1979). Працаваў уласным карэспандэнтам Беларускага радыё ў Віцебскай вобласці, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык», намеснікам старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, галоўным рэдактарам каардынацыйнай дырэкцыі Беларускага радыё. Цяпер — галоўны дырэктар замежнага вяшчання Беларускага радыё.*

*Аўтар паэтычных кніг «Сцяжына» (1983), «Брама» (1990), «Востраў душы» (1995), «Струна» (1997), «Шляхі і вяртанні» (2000), «Святло ў акне» (2002), «Голас і рэха» (2004), «Гэта ўсё для цябе» (2006), «Насцеж» (2008) і інш.*

* * *

Чаму салодка цісне сэрца,
Калі праз восеньскі спакой
Жанчына зырка мне ўсміхнецца
Сваёй усмешкай маладой?

І ці не ў тым ізноў прычына
Таго сардэчнага біцця,
Што ёсць і восень, і жанчына,
Што ёсць яшчэ працяг жыцця,

Што ёсць чароўныя світанні
І светлы вечаровы сум...
І запаветныя жаданні,
Якія я праз лёс нясу.

* * *

Ты снілася перад дажджом.
Душы маёй было няўтульна,
Бо адчуваў, што сум атуліць,
Што выбухне туга, бы гром.

І ранкам мляваю рукой
Павольна адхіну фіранку,
Адчуўшы зноў сябе падранкам,
Падранкам без цябе.
З табой.

Як хочацца крыху цяпла,
Як хочацца святла і сонца!..
Як марыцца, каб ты бясконцай,
Нібыта гэты свет, была.

А што ў жыцці жадаць яшчэ?
І думкі да цябе імкнуцца,
І хочацца хутчэй прачнуцца
Пад позіркам тваіх вачэй.

* * *

Адпушчу я на волю самоту маю,
Хай блукае па выстылым полі.
І слязу па наіўным каханні пралью,
Бо я знаю, — не вернецца болей.

Толькі вецер і ноч, толькі вецер і ноч.
Ды знікае за лесам дарога.
Толькі думкі адны засталіся са мной
Пра Радзіму, пра маці, пра Бога.

А самота, нібыта стрыножаны конь,
Па жарстве асцярожна ступае.
І праз цемру начную цяпло і агонь
У таемнай надзеі шукае.

* * *

Што нам доля ці нядоля,
Што нам вечнасць і спакой?..
Толькі жаўранак над полем
І званочак пад дугой.

І матаюць кіламетры
Спіцы праз слату і ціш...
Захінаючы ад ветру,
Я спытаю: «Ты не спіш?»

Хай суцішыцца трывога,
Хай знікае боль і страх!
Бачыш, зноў вядзе дарога
На шчаслівы светлы шлях.

Там і сонца, там і воля,
Там і вербы над ракой...
Чуеш, як звініць над полем
Наш званочак пад дугой?!

* * *

Божа, толькі да Цябе
Без пасрэднікаў і сведак
Я нясу тугу і беды
У сівой сваёй журбе.

Зразумееш толькі Ты,
І параіш, і рассудзіш,
Ты адзін са мною будзеш
Як заслон ад нематы.

І падорыш мову зноў,
Чыстую, нібы крыніца,
І дазволіш далучыцца
Да вытокаў, да высноў.

Дай мне сілу несці крыж
І спагады, і любові,
Дай мне праўду ў кожным слове,
Што шапчу праз ноч і ціш.

* * *

Калі не пачуюць людзі,
Калі сябры не адкажуць,
Куды тады крочыць мне?

Да ціхіх магіл бацькоўскіх,
Да рэчкі майго маленства,
Да цэркаўкі на гары?

Да смутку вачэй зялёных,
Якія спаткаў аднойчы,
Да дотыку любых рук?

Да бараў і вуліц тлумных,
Да стуку колаў вагонных,
Да рокату хваль марскіх?

Да чыстых лістоў паперы,
Чый вабіць абсяг марозны,
Да пошуку і пакут?

А свечка пакуль не згасла,
А ноч пазірае ў вокны,
І ціха гадзіннік б’е.



## *Карса̀р памежжа*

Толькі ў апошнія дзесяцігоддзі айчынны чытач мае мажлівасць пазнаваць творчасць свайго слыннага земляка, шырокавядомага ў Еўропе ўжо ў даваенны час, імя якому — Сяргей Пясецкі (1901, Ляхавічы — 1964, Лондан).

Яшчэ ў сярэдзіне 1990-х на старонках «*Голасу Радзімы*» ў перакладзе Ф. Янушкевіча друкаваўся раман «*Каханак Вялікай Мядзведзіцы*» (*Kochanek Wielkiej Niedźwiedzicy*, 1937; асобным выданнем пераклад выйшаў летась; гэта найбольш вядомы твор празаіка, перад вайной вылучаўся на Нобелеўскую прэмію); напрыканцы 1990-х у часопісе «Спадчына» з'явіліся раздзелы з рамана «*Начныя багі*» (пераклад В. Арэшкі). Урэшце, часопіс «*Полымя*» ў 2001 г. друкаваў раздзелы з рамана «*Ніхто не дасць нам вызвалення*» (пераклад П. Рагойшы). І вось новая сустрэча…

Як пісьменнік С. Пясецкі сфарміраваўся… у турме. Яго кідалі за краты 6 разоў. За турэмнымі сценамі ён адседзеў 14 гадоў. З іх апошнія 11 — бесперапынку. З іх 5 гадоў — у адзіночцы…

Турэмнае зняволенне паспрыяла самаадукацыі. Чытаючы першы твор празаіка, выразна ўсведамляеш: да багатага жыццёвага досведу, да неўтаймаванай фантазіі сапраўднаму раманісту патрэбны яшчэ глыбокія веды. Сяргей Пясецкі не меў мажлівасці вучыцца ў маладым цывільным жыцці: рэвалюцыі, акупацыі, вызваленчыя рухі, жыццё за кавалак хлеба на ракаўска-менскім памежжы…

Чаму сярод двух дзесяткаў эпіграфаў, падабраных Пясецкім для свайго першага рамана «*Пяты этап*», неаднаразова сустракаюцца біблійныя? Тлумачэнне простае: там, у польскіх турмах (Равічы, Каранова, св. Крыж), па Бібліі і па газетнай перыёдыцы С. Пясецкі вучыў польскую мову. Паводле ўласнага прызнання, ён не сутыкаўся, ды і не ведаў, а тым болей і не вучыў яе да дваццаці гадоў. Аднойчы ў перыёдыцы вычытаў пра літаратурны конкурс. Вязень Пясецкі за некалькі месяцаў напісаў раман «*Каханак Вялікай Мядзведзіцы*» і… атрымаў першую прэмію! А потым і найдаражэйшы «ганарар» — датэрміновае вызваленне (дзякуючы заступніцтву слыннага раманіста Мельхіёра Ваньковіча, яшчэ аднаго нашага земляка, творчасць якога хто ведае на Беларусі?)…

Ужо ў тым першым апублікаваным творы С. Пясецкага сярод каларытных герояў-персанажаў, чытач сустрэў вызначальную згадку-апісанне: «Адхінуўшы з памежжа павалоку цемры, мы ўбачылі б акул граніцы: сялян з абрэзамі, карабінамі, рэвальверамі, сякерамі, віламі і каламі, якія цікуюць здабычу... Убачылі б незвычайную постаць... чалавека, які самотна перамервае пагранічча... Крочыць з рэвальверамі ў руках, з гранатамі за пасам, з кінжалам на баку. Гэта шпіён... Стары, загартаваны, цудам ацалелы ў дзесятках сутычак, рашучы, нібы д'ябал, да шаленства смелы пірат граніцы...»

Вось такі наскрозь аўтабіяграфічны герой, праўдзівы карсар памежжа Раман Забава і быў ужо створаны С. Пясецкім у найпершым (па часе напісання) творы «*Пяты этап*». Раман быў напісаны… за 4 тыдні. За 28 дзён! (2—29 красавіка 1934 г.)

Паказальна, калі 2 жніўня 1937 г. С. Пясецкі пакідаў турэмныя сцены, ён вынес з сабою не толькі зачытаны асобнік «*Бібліі*» і два чарнавыя рукапісныя зборнікі вершаў (не захаваліся), але таксама і даўжэзны (бо на 600 загалоўкаў!) спіс літаратуры, якой не было ў турэмнай бібліятэцы, але якую вязень самых суровых польскіх турмаў жадаў прачытаць.

Яшчэ да вайны раман пачаў распаўсюджвацца ў замежжы: спачатку на шведскай (1939), потым дацкай (1943) і іспанскай (1948) мовах. А ўлічваючы, што нейкі час «*Пяты этап*» друкаваўся як частка рамана «*Роўныя начным багам*», сюды належыць залічыць і выданні італьянскія (1955—1956 гг.).

Цяпер да гэтых перакладаў далучаецца і беларускі. Чытачу будзе цікава даведацца пра шмат якія рэаліі з кантрабанднага і шпіёнскага жыцця на памежжы і найперш Менска (так афіцыйна падавалі назву сталіцы БССР да 1939 г.).

Ужо на волі ў даваенны і паваенны час (пісьменнік жыў у Італіі, а пазней у Англіі, дзе і памёр), паўстаў дзесятак твораў, пераклад якіх на беларускую мову паспяхова працягваецца.

Так што айчыннага чытача яшчэ чакае не адзін этап пазнання творчасці нашага таленавітага земляка з Ляхавіч.

**Сяргей ПЯСЕЦКІ**

# ПЯТЫ ЭТАП

*Раман*[*]

***Памяці***
***Антона Невяровіча***
***і Яна Парахневіча***
***прысвячаю***

*І бачыў я, вось конь палавы, і на ім верхавец, імя якому смерць, і пекла ішло за ім; і дадзена яму было панаванне над чацвярцінай зямлі, — забіваць мечам і голадам, і пошасцю, і звярамі зямнымі.*

Апакаліпсіс, VI. 4, 8

## Уступ

### *Ружовы ліхтар*

У кожным слове — тысячы адценняў,
А ў тых адценнях — сотні летуценняў,
А ў летуценнях тых — мільён значэнняў.

*Ю. Валашыноўскі*[**]*. Эсэ «Славацкі»*[***]

**На** душэўнае развіццё Рамана Забавы вялікі ўплыў зрабіў ружовы ліхтар. Ён забыўся пра яго зусім, але тонкае, ружовае святло таго ліхтара не гасне і па-ранейшаму мігціць у далёкай клетцы мозгу, у плынях падсвядомага і часта мае вырашальны ўплыў на колер, характар і напругу ягоных пачуццяў, імкненняў і ўчынкаў…

Было гэта неўзабаве пасля рэвалюцыі 1905 года. Ромак меў тады сем гадоў і рос хлопчыкам надзвычай уражлівым, з багатай фантазіяй. Кожнае здарэнне рабілася важкай падставаю, каб снаваць бясконцыя мары… Аднойчы, на свята, бацька загадаў яму прыапрануцца і павёў яго ў кіно. Першае наведванне сінематографа зрабіла на Ромку незабыўнае ўражанне. Хлопчык

---

[*] Друкуецца з дазволу: 

[**] Валашыноўскі Юллян (1898—1977) — польскі пісьменнік і акцёр, аўтар літаратурнай біяграфіі «Славацкі» (1929) пра выдатнага польскага паэта XIX ст. Ю. Славацкага. (Тут і далей пераклад рыфмаваных радкоў (вершы, песні, эпіграфы) Я. Магера, камент. перакладчыка.)

[***] Славацкі Юліюш (1809—1849) — паэт, драматург, класік польскай літаратуры XIX ст. Паэма і аднайменная драма «Бянёўскі» паўсталі напачатку 1840-х гг. і прысвечаны праблемам здрады падчас барскай канфедэрацыі, дзе адным з галоўных герояў-здраднікаў быў літоўскі магнат.

апынуўся ў краіне цудаў, пра існаванне якой нават не падазраваў… На чарадзейным палатне, пад вытанчаныя адлегласцю і прыцемкам гукі скрыпкі і піяніна, пад размеранае туркатанне апарата праплывалі перад ім цудоўныя краявіды нейкай паўднёвай ракі, з маляўнічымі берагамі, прыгожымі наваколлямі. Фільм быў зняты не вельмі ўдала, у некалькі шэрых паўтонаў (якая ж тады была кінатэхніка), але для Ромкі гэта быў цуд, які ўзнёс яго ў найбагацейшую і найвышэйшую краіну мар, казак і сноў…

Кінатэатр, у які трапіў Раманік, зваўся «Увесь свет». Перад ягонымі параднымі дзвярыма, над шыльдай вісеў вялізарны ружовы ліхтар. Ён праменіў навокал мяккае святло, што мільярдамі каляровых іскрынак, блікаў і агнёў пераліваласся на снезе, якім была засыпана вуліца. Ліхтар той стаў для Ромкі знакам, нават сімвалам уцялесненых цудаў і ўвабраў у сваіх прамянях «увесь свет»: свет фантастычных прыгод, незвычайных людзей, геройскіх подзвігаў…

Міналі гады. Раманік рос. Зрабіўся палкім аматарам кіно… Пачасту расчароўваўся, калі ў гучна разрэкламаваных фільмавых хітах бачыў пыхлівую, пустую дзяшоўку. Але няспынна смактаў яго голад незвычайных уражанняў, якога ніколі не мог наталіць…

Часта, ужо вучнем, прыпыняўся на рагу цэнтральнай вуліцы места, адкуль можна было здалёк бачыць цудоўны ліхтар. Летуценна глядзеў у тым кірунку і, нібыта гэта быў няспынны боль ад нейкай хваробы, адчуваў у душы дзіўны неспакой, які рабіў яго абыякавым да рэчаіснасці, і нават раздражняльным.

Далейшае жыццё Ромака поўнілася незвычайнымі прыгодамі. Неаднойчы мог выбраць паміж выгодамі спакойнага, мяшчанскага ладу жыцця і цёмнай небяспечнай дарогай авантурніцтва. Калі апынаўся на ростані — куды ж падацца, тады непрыкметна ўсплывалі з падсвядомых куточкаў душы прыспаныя лагодныя прамяні ружовага ліхтара і казачна пераўвасабляліся ў сакавітыя колеры, бляскі і вясёлкі менавіта таго небяспечнага шляху, робячы яго неадольна прывабным… І Раманік ішоў па цаліку, да абяцаных цудаў, у краіну ружовых сноў. Ішоў, часта супраць уласнай разважлівасці, насуперак жаданню і наперакор волі…

## КАНЕЦ ЧАЦВЁРТАГА ЭТАПУ

«Я выпіла, таварышы, за здароўе мужных людзей моцнай волі. Вы чуеце? Я выпіла за здароўе неразважнага, які вырадзіўся ў сарэнцкага мяшчаніна Пешкова — я выпіла за здароўе той неразважнасці, якая давяла трыгладыта да стану элегантнага еўрапейца. Я выпіла за здароўе таго, што не ведае тупікоў і гарыць вечным агнём імкнення ў невядомыя краіны. Я выпіла за здароўе канквістадораў».

*Мікола Хвылёвы**.
*Раман «Вальдшнепы»*

* Хвылёвы Мікола (сапр. Фіцілёў Мікалай Рыгоравіч, 1893—1933) — украінскі пісьменнік, у якога бацька быў рускі, а маці ўкраінка. Яшчэ будучы ў царскім войску займаўся рэвалюцыйнай прапагандай, з канца 1917 г. актыўны прыхільнік бальшавікоў, пэўны час узначальваў ЧК Багадухаўскага раёна. Напачатку 1920-х гг. захапіўся літаратурай, актыўна падтрымаў палітыку ўкраінізацыі, выступаючы ў сваіх творах супраць русіфікацыі ва ўкраінскай культуры, аўтар папулярных клічаў «Далей ад Масквы!», «*Україна чи Маларасія*?» Раман «*Вальдшнепы*» (ч.1) напісаны ў 1927 г. Скончыў жыццё самагубствам 13.05.1933 г. у знак пратэсту супраць пачатку арыштаў украінскіх дзеячаў літаратуры і культуры.

## ДЗЁННІК РАМАНА ЗАБАВЫ

***Стоўбцы, 2 жніўня 1922 г.***

Мяне калаціла ад холаду. Сцены камеры, дзе я знаходзіўся, былі выкладзены з вялізных часаных валуноў. З такіх самых валуноў былі скляпенне і пліты на падлозе. Вакол панаваў прыцемак, у якім ледзьве мог адрозніць далоні сваіх рук на каленях. Яны выглядалі невыразнымі белымі плямамі. Я сядзеў на вузкім зэдліку, спінай да мураванай сцяны, убіраючы ў сябе яе холад і волкасць. Перада мною нібыта чорная заслона шчыльна загароджвае ўсю прастору паміж сценамі, столлю і падлогай. Прыцемак не быў аднастайны — месцамі радзеў, потым зноў гусцеў.

Пачуваўся быццам спавітым незвычайным жахам, якім поўнілася ўсё вакол мяне. Трывогу, якую адчуваў, магу параўнаць з трывогай асуджанага, які чакае расстайнай хвіліны, калі будуць выводзіць яго з камеры для выканання смяротнага прысуду. Пакута мая цягнулася доўга.

У нейкае імгненне заслона неўпрыкметку расхінулася. Перада мною адкрылася чэрава даўжэзнага калідора, які знікаў далёка ў цемры. Пра даўжыню таго калідора мог меркаваць па перспектыве зіхоткіх ліхтароў з нікелевымі рэфлектарамі, пастаўленых уздоўж сцяны праз некалькі крокаў адзін ад аднаго. У кожным ліхтары гарэла свечка. Першыя два ліхтары знаходзілася на адлегласці некалькіх крокаў ад мяне, і вышыня кожнага з іх была больш чым паўтара метра…

Як загіпнатызаваны, узіраўся ў глыбіню таго калідора… Удалечыні паказалася чорная пляма. Яна расла, расла і ўсё больш імкліва пасоўвалася да мяне. Спачатку гэтай плямай я проста зацікавіўся, але мяне раптам агарнуў страх. Зірнуў направа, налева: выйсця ніякага… Пляма штораз набірала акрэсленыя формы. Неўзабаве мог ужо адрозніць вострыя суглобы локцяў, абрыс галавы, плеч і чагосьці такога, што выпірала над галавой. Прывід той быў ахутаны чымсьці белым, нібы саванам. Калі гэтае нешта апынулася на адлегласці некалькіх крокаў ад мяне, я зірнуў уніз, на ногі і… ўбачыў дзве вялікія бярцовыя косці... шкілета. Ледзяная хваля дрыготкі пракацілася па спіне, скура на чэрапе сшэрхла, я пачаў уціскацца ў сцяну, нібы жадаючы схавацца ў ёй…

Смерць была ўжо блізка. Да яе заставалася некалькі крокаў. У роспачы кінуўся наперад. Не могучы абмінуць макабрычнай — звышжудаснага выгляду, — постаці, што загарадзіла мне дарогу, хапянуў яе за ногі, адчуваючы ў далонях цвёрдасць костак, рассунуў іх і... шмыгануў паміж імі ў калідор.

Я імчаў з усіх сіл, не азіраючыся. Калідор быў бясконца доўгі. Нібы эскорт, мяне сустракалі шэрагі ліхтароў і залатыя агеньчыкі свечак у іх. Дабег да канца калідора — куды далей? Ага, направа, у малую камеру, падобную да той, з якой толькі што збег, толькі святлейшую. У той камеры заўважыў невялікія прачыненыя дзверы. Над імі вісеў на сцяне карабін і кулямётная стужка патронаў. Сарваў са сцяны карабін і выслізнуў, асleплены дзённым святлом, на вуліцу.

Бег далей, уляцеў у нейкі завулак. Азірнуўся. За некалькі дзясяткаў крокаў ад мяне ішлі на ўсю шырыню вуліцы ўзброеныя людзі. Прылёг за падмуроўкай жалезнай агароджы і пачаў страляць у іх. Адказалі тым жа. Страляніна трывала доўга… Заўважыў незвычайнае, што моцна мяне здзівіла: кулі лёталі ў паветры гэтак павольна, што я мог сачыць за кожнай...

Далейшага працягу сну я не меў, паколькі прачнуўся ў сваім пакойчыку, у лядашчым габрэйскім гатэліку, у Стоўбцах, дзе спыніўся праездам да мяжы.

Не прыпісваю снам адмысловага значэння, як гэта робяць людзі забабонныя, але часта сню такія дзіўныя сны, што не магу ўстрымацца ад спакусы занатаваць іх у *дзённіку*. Мажліва, яны маюць нейкую блізкую сувязь з маім духоўным існаваннем, і дапамогуць у акрэсленні маіх псіхічных схільнасцей. Мажліва, старонні чалавек, калі даведаецца з *дзённіка* не толькі пра мае сапраўдныя перажыванні, думкі, учынкі, імкненні, пачуцці, але нават і сны — лепш мяне зразумее.

Некалі чытаў дзесьці, што ў чалавечым жыцці няважных рэчаў не існуе. Кожная мае свой уплыў і пэўнае значэнне, большае або меншае… Мне здаецца, што чалавеку могуць бачыцца ў сне толькі такія рэчы, якія знаходзяцца ў нейкай сувязі, хоць і далёкай, невыразнай і заблытанай, з яго фізічнай і духоўнай існасцю, з яго густам, летуценнямі і парываннямі.

Абудзіўшыся, не мог зноўку заснуць. Падняўся, запаліў свечку і пачаў занатоўваць у *дзённіку* гэтыя ўражанні.

Цяпер другая гадзіна ночы. Ціша. Нішто не перашкаджае мне працаваць. Ад нейкага часу прызвычаіўся запісваць у *дзённіку* сваё жыццё і думкі. Спачатку гэта нудзіла. Цяпер пішу з задавальненнем. Уяўляю, што дзялюся сваімі ўражаннямі з нейкім блізкім, спачувальным сябрам, з якім вольна можна гаварыць пра ўсё.

Думку весці *дзённік* падказаў мне сябар, якога, на жаль, ужо няма. Я часта распавядаў яму разнастайныя фрагменты свайго жыцця, багатага на незвычайныя прыгоды. Гэта быў чалавек значна культурнейшы, хоць усяго трохі старэйшы за мяне. Тут я дадам, што чалавек той аказаў на мяне вялікі ўплыў. Для яго я адважваўся на такія рэчы, на якія сам ніколі б не рашыўся. Менавіта ён навучыў мяне вучыцца, гэта значыць, мэтанакіравана фарміраваць самога сябе. Прачытаў, згодна ягоным падказкам, шмат навуковых і навукова-папулярных твораў. Нейкі час я чытаў «нудныя рэчы» не дзеля таго, каб вучыцца, а каб зрабіць яму гэтым прыемнасць, паколькі прыкмеціў, што, абмяркоўваючы са мною прачытаныя кнігі, быў вельмі задаволены, калі заўважаў, што лёгка разумею думкі аўтара і ўмею крытычна да іх ставіцца.

Неўзабаве адчуў, як шмат карыснага атрымліваю ад тых заняткаў, і сам пачаў гарнуцца да кніг… Калі я і пашырыў трохі свой інтэлектуальны далягляд, дык у тым найперш ягоная заслуга.

Я не любіў паэзію, пагардліва адкідаў у бок усё зрыфмаванае, бо цярпець не мог паэтычнай гіпербалізацыі і штучнасці. Мой сябар здолеў абудзіць ува мне калі не замілаванне, дык пэўную цікавасць да вершаванага радка і прызнанне несумненна выдатных паэтычных твораў. Аднойчы ён даў мне творы Славацкага. Заўважыў на маім твары грымасу нездаволенасці і непрыхільнасці.

— Паслухай, як гэта прыгожа! — сказаў з запалам. — Добрая паэзія звяртаецца не толькі да розуму, але і да пачуццяў. Яна багатая рытмам, рыфмай і нават колерамі і гукамі… Калі ласка! Паслухай!

Пачаў дэкламаваць, з вялікім пачуццём, амаль не гледзячы ў кнігу, паэму Юліюша Славацкага «У Швейцарыі»:

*Мае ночы з нудоты і дні з пустаты,*
*Калі знікла ты раптам, як сон залаты.*

Гэтыя радкі зачапілі мяне за жывое.

Потым чытаў мне розныя фрагменты і ўрыўкі з іншых твораў Славацкага. У тым ліку з «Бэнёўскага»:

*І бачу я, што гэта Бог багоў,*
*А не жукоў ды жаб, ды чарвякоў.*
*Захоплены нябеснаю пагоняй*
*Раскрыленых Ён не кілзае коней.*
*Ён злеплены з грымотнага агню,*
*Маланкамі сцябае Ён зямлю,*
*І, як сляза, што ўпала ў пыл дарог,*
*Я ніцма перад Ім, бо гэта — Бог!*

Гэта было нешта такое магутнае, незвычайнае, што я трымцеў у захапленні. Потым я чытаў ужо і паэзію, а некаторыя творы нават палюбіў. Наогул, пачаў чытаць уважліва і сур’ёзна. Я не чытаў усё, што трапляла пад руку або што зверне ўвагу кідкім загалоўкам, імкнуўся адшукаць творы найлепшыя, пра якія чуў ад знаёмых або даведаўся з прэсы. Не мог, праўда, усё ж адмовіцца зусім ад бульваршчыны. Была яна для мяне дэсертам, якім узнагароджваў сябе за чытанне сур’ёзных кніг. Выглядала гэта так, быццам пасля гутаркі з добра выхаванымі і разумнымі людзьмі ішоў да жанчын лёгкіх паводзінаў, каб пацешыцца і адпачыць. Час марнаваўся, што праўда, то праўда, але што зробіш.

Аднойчы ён сказаў мяне:

— Я заўважыў, што ты добра памятаеш перажыванні нават даўніх гадоў. А тыя перажыванні даволі цікавыя. Паспрабуй іх запісаць. Пішы проста, без нейкай устаноўкі, без перабольшвання і як найбліжэй да праўды. Натуральна, занадта далікатныя месцы можна абыходзіць або змякчаць.

Я адказаў, што гэта вельмі сумна, што лепш самому чытаць і забаўляцца, чым забаўляць кагосьці іншых. Наогул, — працягваў я думку, — гэта нецікава, бо тое, што адбылося, я ведаю дасканала.

— Добра — адказаў, — але мусіш пагадзіцца, што любіш апавядаць пра свае прыгоды. Найчасцей апавядаеш з запалам, і нават з захапленнем!

— Гэта нешта іншае! — адказаў я. — Тут не трэба думаць, як распавядаць. Валі з душы і канец!

Прыблізна гэтак адказаў яму. Забыўся пра іншыя, лепшыя і больш істотныя аргументы. Наогул я не ўмею спрачацца. Мушу заўсёды абдумаць тэму. Найлепшыя думкі, ёмкія і трапныя, прыходзяць мне ў галаву заўсёды пасля, калі троху зжывуся з тэмай дыскусіі.

Надышоў час, і я разлучыўся з маім сябрам, а потым даведаўся пра ягоную трагічную смерць у Саветах. Часта прыгадваў нашы размовы. Тады і ўзнікла жаданне пісаць *дзённік*. Можа, таму, што не стала гэткага выдатнага, як ён, сябра, суразмоўцы, не было з кім шчыра пагаварыць… Не раз назіраў, як малыя дзяўчынкі гуляюць у лялькі. Лялька ў маленькай смаркачкі абуджае большы давер, чым матуля, і яна распавядае ёй такія таямніцы, якія ніколі не расказала б бацькам. Можа, *дзённік* гэты заменіць мне сябра, можа, будзе для мяне «лялькай», якой можна ва ўсім даверыцца.

*Дзённік* я вяду ад жніўня 1921 года, або ад пачатку перыяду, які ў развагах пра сваё мінулае акрэсліваю як «пяты этап» майго жыцця. Пачынаючы з таго дня, гэта значыць — сённяшняй ночы, якую лічу канцом чацвёртага этапу і пачаткам пятага. Маю на гэта вельмі важкія падставы, якія цяпер выкладу, але перад тым невялічкае, надзвычай неабходнае адхіленне. Дадам яшчэ, што ўспаміны з папярэдніх перыядаў напішу, калі буду весці больш размераны, спакойны лад жыцця.

Некалькі гадоў таму быў я ў кіно, на шпіёнскім фільме, звычайным, але з ліха закручаным сюжэтам. Вайсковай выведцы адной еўрапейскай дзяржавы належала здабыць сакрэтныя дакументы іншай дзяржавы. З гэтай мэтай у

тую краіну камандзіравалі здольнага выведніка. Пачалося змаганне выведніка і ягоных калег з агентамі контрвыведкі. Героі фільма перажывалі незвычайныя прыгоды на зямлі, у паветры, на вадзе і нават пад вадой. Каб пераадолець найскладаныя перашкоды, былі ўжыты ўсе дасягненні сучаснай тэхнікі. На экране, як у калейдаскопе, мільгалі цудоўныя краявіды еўрапейскіх і іншых, экзатычных краін. Падзеі адбываліся аж у некалькіх частках свету… Палацы, вілы, раскошныя гатэлі, кабарэ, балі, дыпламатычныя прыёмы… Неверагодныя раскоша і камфорт паўставалі перад вачамі гледачоў, і на тым фоне адбывалася займальнае, складанае супрацьстаянне геройскіх мужчын-выведнікаў з удзелам фантастычных прыгажуняў. Найбольшае ўражанне зрабілі на мяне каркаломныя пагоні на матацыклах, маторных лодках, аўтамабілях і караблях…

Я заўсёды жыва цікавіўся фільмамі і авантурнымі раманамі, пераважна шпіёнскімі. Імпанавала мне напружанае жыццё агентаў, іх спрыт, хітрасць, энергічнасць і адвага… Часта ўяўляў сябе самога на месцы некаторых герояў фільма або рамана з жыцця шпіёнаў. Уступіць у ваенную выведку, каб знайсці прымяненне для сваіх сіл, адшукаць выйсце для сваёй энергіі, хоць нейкага асэнсаванага прымянення для свайго тэмпераменту, я не спрабаваў, бо лічыў гэта немагчымым. Меркаваў, што шпіёнамі могуць быць людзі з амаль звышнатуральнымі здольнасцямі, усебакова падрыхтаваныя і навучаныя. Лічыў, што гэтыя людзі павінны канчаць адмысловыя школы, трапіць у якія старонняму чалавеку цяжка ці проста немагчыма.

Усё тое не адпавядала праўдзе. Вядома, для гэтай справы — шпіёнства — пэўная кваліфікацыя ўсё ж патрэбна. Але выявілася, што я дастаткова падрыхтаваны да гэтага. Каб не расцягваць аповед, пяройдзем да справы. Ужо некалькі дзён я агент ваеннай закардоннай выведкі ў Расіі. Быў правераны, зарэгістраваны, сфатаграфаваны і гэтак далей. Падрабязнасцей не буду апісваць, бо тут справа ідзе не пра кавалак паперы, не пра фармальнасці, а пра жыццё — жыццё ваеннага шпіёна… Пра ягоныя сапраўдныя прыгоды і ўражанні. Найперш зазначу, што апісваю сваё жыццё ў лучнасці з жыццём іншых людзей, а не дзеля пыхлівай фармальнасці або ўслаўлення дзейнасці ўстановы.

Як шпіён я пачынаю пяты этап свайго жыцця, якое буду запісваць у *дзённіку* як мага падрабязней. А вы параўнайце гэтае сапраўднае жыццё агента ваеннай закардоннай выведкі з жыццём надзвычайных герояў, якімі захапляліся на белым экране і пра якіх чыталі ў сенсацыйных раманах. Я таксама буду параўноўваць. Буду самым уважлівым сваім гледачом і чытачом.

Пакуль што я трохі расчараваны. Нішто не нагадвае ні фільм, ні раман… Звыклыя фармальнасці, вакол звычайныя твары і словы, шэрае, беднае жыццё, мізэрныя хаціны, журботныя беларускія краявіды… Мая праца пачынаецца не вельмі весела, але суцяшаюся тым, што я яшчэ пачатковец і што фактычнай работы нават не распачаў. Зрэшты, лічу, што толькі ад мяне залежыць характар маёй будучай працы. А я прыкладу ўсе намаганні, завастру ўвесь свой талент, каб зраўняцца ў мужнасці, энергіі і спрыце з тымі героямі, на якіх хацеў быць падобны — праўдзівыя яны або выдуманыя…

Так павінна быць, бо так жадаю, а жадаць я ўмею моцна… Праца цалкам адпавядае майму характару, таму мушу яе трымацца.

Сёння скончу апошнія фармальнасці і выязджаю на мяжу. Ах, гэтая мяжа! Як яна мяне вабіць! Як мне не церпіцца! Не магу дачакацца моманту ад'езду! А сны мае гэткія дзіўныя… Апошні запісаў у *дзённік*. Павінен буду калі-небудзь прачытаць штосьці пра сны.

Я вельмі цешуся зменай, якая здарылася ў маім жыцці. Не пакідае мяне думка: я агент ваеннай выведкі… Я — агент!

Пазіраю людзям проста ў вочы і думаю: ці ведаеце, хто я?… Я агент… І так па чарзе, укругаля.

Прыгадаліся мне цяпер, не ведаю чаму, даўно, вельмі даўно чытаныя вершы Максіма Горкага пра аднаго маладзёна, Марку, які закахаўся ў русалку і загінуў з-за кахання да яе ў хвалях ракі ці возера. У перадапошняй страфе Горкі піша: «Пра Марка хоць песенька засталася», і заканчвае верш так:

*А іншыя вочы завяжуць*
*І вушы заткнуць, каб не чуць.*
*Ні казак пра іх не раскажуць,*
*Ні песень пра іх не складуць.*

(Вершы, тэрміны і расійскія звароты буду перакладаць на польскую мову, калі не літаральна, дык як найбліжай да арыгінала)*.

З нагоды гэтых вершаў збудзіліся ўва мне пэўныя думкі. Максім Горкі, мяркуючы па тых ягоных творах, якія я меў мажлівасць прачытаць, прыхільнік свабоды, прыгод і пясняр моцнага і непаўторнага чалавека. Паводле яго можна нават па-дурному загінуць з-за кахання да русалкі, абы не жыць як звычайныя «*хлебаеды*», «як сляпыя чарвякі», абы засталася пасля нас казка або песенька. Чуў я, што Горкі з'яўляецца прыхільнікам савецкага камунізму і бальшавіцкім пісьменнікам. Не магу гэтага зразумець. Ведаючы трохі савецкі лад (асабіста ад пачатку рэвалюцыі да жніўня 1919 года, а на падставе іншых крыніц нават дагэтуль), я маю ўласнае меркаванне, што там чалавек, як самастойная і творчая адзінка, канчаткова прыгнечаны. З'яўляецца не чалавекам, а пазбаўленым індывідуальнасці нумарам, абавязаным слепа падпарадкоўвацца ўладам. Ведаю, як «паглыблялі рэвалюцыю» бальшавікі ў 1917—1919 гадах, але як цяпер там, дакладна не ведаю. Мяне вось і цікавіць, ці там чалавек фактычна Чалавек ці толькі бязвольная прылада ў руках пануючых. Бо па-мойму, калі чалавеку даць нават найвялікшы дабрабыт і пазбавіць яго ўласнай ініцыятывы і ў працы, і ў жыцці, дык застанецца толькі добра дагледжанае быдла, баязлівае, гультаяватае і тупое.

Той самы Максім Горкі ў адным з першых сваіх твораў, «На дне», напісаў, калі не памыляюся, так: «Чалавек — гэта гучыць горда!» Тымі словамі Горкі сказаў найбольш, і гэта мне вельмі падабалася. Так: чалавек — гучыць горда! І нельга перамяняць яго ні ў каня, ні ў фабрычную шрубку, ні ў рэкламны плакат, ні ў блазна гарохавага! І тыя, хто гэта робяць, робяць злачынства!.. Таму смяяцца хочацца, калі гэта робяць «сацыялісты» або «камуністы».

Напрыканцы хачу дадаць, што менавіта пытанне: як жыве ў Саветах «чалавек» — найболей мяне цікавіць. Лепш за ўсё пераканацца самому, убачыць на ўласныя вочы: ці насамрэч там чалавек «гучыць горда», ці «вольнасць, роўнасць і братэрства» ёсць элементам жыцця, ці гэта з'яўляецца толькі блефам камуністычных маніфестаў. Цікава мне, няўжо пасля бліжэйшага знаёмства з Саветамі Горкі, адзін з маіх улюбёных пісьменнікаў, які па-ранейшаму такім і застаецца, страціць свой прэстыж і з песняра моцнага і прывабнага чалавека пераменіцца ў прапагандыста падазронай рэвалюцыі, у капрала бальшавіцкай агітацыі, служку на ўтрыманні Масквы. Так: Масквы. Тады гэты пралетарскі пісьменнік будзе для мяне толькі акцёрам, які спраўна выконвае ролю рэкламнага агента, што запрашае ў краму легкадумных мінакоў, каб яны там адведалі страву, якая ідэалагічна дрэнна пахне.

* Заўвага аўтара.

Не ведаю, ці хутка здолею сам сабе адказаць на гэтае пытанне. Можа, толькі напрыканцы пятага этапу… А якім доўгім будзе той этап і ці хутка прыйду да ягонага канца? Не ведаю…

Світае…

## ПЯТЫ ЭТАП

*А ноч на небе змрочная, глухая,*
*І дух жывы ў аблоках не лятае,*
*І хмары плачуць, і раса імжыць,*
*І цемра ў долах мёртвая ляжыць.*
*Не, не знайсці дарогі ў гэтай ночы,*
*Ні кроку прад сабой не бачаць вочы,*
*І ўсё наўкол нібыта незнаёма,*
*І лепш нікуды не выходзіць з дому.*

Ян Мазураніц.
Паэма «Смерць Агі Ізмаэля Чэнгіса»

## ДЗЁННІК РАМАНА ЗАБАВЫ

***Ракаў, 5 жніўня 1922 г.***

Дагэтуль усё складваецца дрэнна. Я быў змушаны, каб не вяртацца, зрабіць па чыгунцы, на ўласны кошт, вялікі круг, едучы са Стоўбцаў да Баранавіч, адтуль да Ліды і да Маладзечна, а потым да Аляхновіч. Усё гэта сталася з прычыны нядбайнасці тых людзей, абавязкам якіх было вызначыць мне дарогу. У мяне засталося ўсяго 5 тысяч марак, таму не стаў выдаткоўваць апошнія грошы на фурманку, пайшоў пехатою са станцыі Аляхновічы да Ракава — а гэта 21 кіламетр. Дарогаю адарваўся падносак і, як я прыйшоў у Ракаў, адразу зайшоў да шаўца. Ён агледзеў чаравік і стаў яго рамантаваць. Выгляд меў даверлівы. Каб выведаць хоць што-небудзь пра памежнае жыццё, я сказаў яму, што хачу з Ракава прабрацца праз мяжу ў Менск, дзе ў мяне жывуць сваякі і дзе жадаю ўзяць метрычнае пасведчанне, без якога ў Польшчы не магу атрымаць пашпарт.

Шавец трапіўся гаваркі. Шчыруючы ў працы, апавядаў шмат цікавых, невядомых мне падрабязнасцей пра мяжу і пра Саветы. Дэталёва расказаў мне пра дарогу да Менска. Гэта якраз мяне і цікавіла. З ягоных слоў даведаўся, што Менск ад Ракава аддалены на 33 вярсты, гэта калі ісці ўздоўж гасцінца. Ад Ракава да самой мяжы — усяго паўтары вярсты дарогай. Праз пяць вёрст ад мяжы першая вёска, Краснае. Далейшы шлях не буду апісваць, бо гэта нецікава.

Шавец, добры чалавечак, раптам не пажадаў узяць ад мяне платы за прыбіццё падноска, бо я напачатку сказаў яму, што з грашыма ў мяне дрэнна. Сказаў, што заплачу яму, як вярнуся з-за мяжы. На гэтым і дамовіліся. Я пакіраваў да камандавання 29-га мытнага батальёна.

Дарогу распытваў у мінакоў, якія досыць падазрона, і можа нават баязліва, пазірквалі на мяне. Нечакана ўбачыў шыльду казіно. Па нейкіх разгайданых, як клавішы раяля, прыступках я ўскараскаўся наверх і ўвайшоў у памяшканне... Казіно тое дакладней належыла б назваць адрынай. Гэта была вялікая, цёмная, бедна мэбляваная зала, з падлогай, заскарузлай ад бруду. Памяшканне падзялялі павапнаваныя перагародкі. Якраз за прылаўкам я заспеў уладальніка казіно, які быў адметны тым, што пры вельмі

малым росце і поўнай адсутнасці валасоў на галаве меў вялізазныя рудыя вусы. Побач з ім убачыў босую, неверагодна брудную дзеўку. За адным са столікаў заўважыў ваеннага капрала, які, паклаўшы на рукі ўскудлачаную галаву, хроп на ўсе завараткі.

— Можна папалуднаваць? — задаў я пытанне, набліжаючыся да буфета.

Гаспадар вырачыў на мяне вочы, адначасова варушачы вяхоткамі вусоў. Быў ён, не ведаю чаму, гэтак здзіўлены, быццам я папрасіў яго падсмажыць мне месяц. Дзявуля выставіла пышныя грудзі і разявіла рот, гледзячы на мяне бязвейкавымі свінымі вочкамі. Пасля працяглых перамоў для мяне падсмажылі кавалак мяса з бульбай і налілі шклянку гарэлкі…

Становішча маё было наступным: калі заплачу за ежу тысячу, застанецца 4 тысячы марак. Савецкіх грошай не маю зусім, таму буду змушаны ісці з польскімі; можа, у Расіі абмяняю іх на савецкія. Не ведаю, як мне пашанцуе далей і як выканаю выпрабавальнае заданне, якое ведаю напамяць… Нават зброі не маю. Што праўда, ёсць у мяне вялікі нямецкі «спружыннік», але гэта благая зброя там, дзе можна мець дачыненне з вінтоўкамі. Апрача таго маю 4 лісты і адзін фотаздымак.

Гэткія мае матэрыяльна-тэхнічныя «сродкі» для выканання задання!.. Як вам фільм, га? Нават адзежыны адпаведнай для Саветаў не маю. Яшчэ шавец звярнуў маю ўвагу, што: «То, тамака, не таго!» Але я… таго: пасвістваю на гэта. Неяк там будзе, ліха на яго!

## I. ПЕРШАЯ ВАНДРОЎКА Ў «ЧАЦВЁРТАЕ ВЫМЯРЭННЕ»

*Смяротная трывога ахапіла зямное жыццё,*
*паўсюль відаць сляды рабскага прыніжэння.*
*Надзея шуганула ўпрочкі, каханне перарасло*
*ў нянавісць, святыя алтары ляжалі ў друзе.*

А. Дыгасінскі* «З даліны Прондніка».

### 1

Дзяжурны малодшы камандзір адкашляўся, левай рукой абабіў ззаду мундзір, схіліў галаву направа і пастукаў у дзверы кабінета камандзіра 29-га мытнага батальёна.

— …эсьць! — пачулася з сярэдзіны.

Узводны ўвайшоў, выпрастаўся, адказыраў і службіста выдаў з горла складзеныя і некалькі разоў паўтораныя напамяць словы:

— Рапартую слухмяна, пан ма-ёр, што нейкі цывільны да пана ма-а-ёра!

— Што за цывільны?

— Кажа: у сакрэтнай справе да пана ма-а-ёра.

— Няхай увойдзе!

---

* Дыгасінскі Адольф (1839—1902) — польскі пісьменнік. Аповесць «*З даліны Прондніка*» аўтабіяграфічная. *Праднік* (інакш, *Прамень* а таксама *Бялуха*; *Бялка*), рака, левы прыток Віслы, якая свой пачатак бярэ сярод кракаўскага ўзгор'я, непадалёк ад Алькуша. *Праднік* — гэта таксама агульная назва абшару, размешчанага ў даліне аднайменнай рэчкі. На тым абшары шэраг вёсак маюць агульныя назвы з далінай і ракой.

Неўзабаве ў кабінет увайшоў высокі, сухарлявы малады чалавек. За ім у дзвярах стаяў узводны.

— Чэсць!

— Чэсць! Што вам патрэбна?

— У сакрэтнай справе … — цывільны змоўк і азірнуўся на ўзводнага.

— Калі ласка, праходзьце! — загадаў маёр.

Малодшы камандзір похапкам нырцануў у калідор і прычыніў дзверы. Забава (гэта быў ён) выняў з шапкі канверт і падаў маёру. Маёр разарваў канверт, уважліва прачытаў і зірнуў на Забаву.

«Шпіён, агент выведкі, — падумаў. — Можа нават афіцэр… Апрануты неяк дзіўна… Толькі клопаты з такім!»

— Сядайце, калі ласка, — сказаў, паказваючы рукой на крэсла.

Забава сеў.

— Пан жадае перайсці мяжу на адрэзку майго батальёна?

— Так.

— Калі пан жадае ісці?

— Сёння, калі сцямнее…

— Мае пан абраны пункт для пераходу мяжы?

— Не… Зрэшты, маю... Рэч пра тое, каб перайсці мяжу ў такім месцы, каб паблізу знаходзіўся гасцінец, што вядзе ў Менск. Было б добра пайсці па найкарацейшым шляху.

— Добра.

Маёр націснуў гузік званка.

У дзвярах вырас узводны.

— Па вашым загадзе...

— Папрасі да мяне камандзіра першай роты, — перабіў яго маёр. — І зараз жа!

— Ёсць!

Пасля таго, як узводны пайшоў, маёр пачаў разглядаць раскіданыя на пісьмовым стале паперы. Меў выгляд чалавека, які мае вялікае жаданне спытаць у шпіёна пра пэўныя рэчы.

«Чалавек, як-ніяк, цікавы… — думаў маёр, — але лепш: дыстанцыя… Можа таксама пачне пра штосьці распытваць або вось раптам праявіць якую нечуваную нахабнасць».

Праз нейкі час звярнуўся да Забавы:

— Ці пакіне пан у нас якія-небудзь паперы? Калі так, гэта найлепш зрабіць цяпер...

— Вядома…

Забава выняў з бакавой кішэні фрэнча стосік дакументаў, лістоў і здымкаў. Маёр уклаў усё гэта ў вялікі канверт, запячатаў і напісаў сённяшнюю дату.

— Калі пан вернецца, дык, калі ласка, прашу спаслацца на дату… А калі мяне не… Праз які час пан мяркуе вярнуцца?

— Залежыць ад акалічнасцей. Я магу зусім не вярнуцца! — весела адказаў Забава.

«Няварта было пра гэта пытацца. Не вельмі тактоўна», — падумаў маёр і дадаў гучна:

— На мяжы цяпер спакойна…

«Навошта я гэта кажу, — зноў падумаў маёр. — Супакойваю яго, а ён зусім не выглядае, каб баяўся».

У калідоры прагрукаталі крокі, у дзверы пастукаліся.

— …эсьць! —

У кабінет увайшоў высокі, малады паручнік. Ляснуў абцасамі.

— Пан маёр?…

— Так, я клікаў… Калі ласка, прашу заняцца гэтым панам… Палегчыць пераход на адрэзку вашай роты… З пропускам, як звычайна: нумары слупоў, гадзіна, прысутныя…

— Ёсць!

Маёр падаў паручніку пропуск і кіўнуў галавой Забаве:

— Шчаслівай вандроўкі!

— Дзякуй.

Паколькі паручнік меў нейкую «вельмі важную» справу ў мястэчку, таму перадаў Забаву каменданту менскай пляцоўкі, які, як паабяцаў паручнік, «дасканала ўсё зробіць». Камендант пляцоўкі, узводны, пачаў прамацваць Забаву здалёк:

— Калі пан жадае ісці?

— Ледзьве толькі сцямнее.

— Гм… «ледзь толькі сцямнее». Няўжо не лепш уначы?

— Не.

— Хм… «Не»? Як пан жадае, толькі я раіў бы пану ісці ўначы… Тыя, хвароба на іх, з вечара як ваўкі лазяць. Спачатку заўсёды мацней пільнуюць… Ведае пан што? — сказаў узводны пасля хвіліны маўчання. — Можа, пан пагадзіўся б, каб пана туды салдат перакінуў? Я маю ў мястэчку адну справу, вельмі пільную... Ну і таго… А пану ўсё роўна… Ну як?

Забаву гэта раззлавала, і адначасова бачыў у гэтым нямала смешнага.

«Цікава, каму жаўнер мяне перадасць? — падумаў. — Можа, якой бабе, а тая хлапчуку».

— Добра, — адказаў. — Толькі глядзі, пан паручнік, каб я апынуўся на той дарозе, якая вядзе да Менска…

Узводны ўзрадаваўся.

— Ну зразумела! Перакіне пана, дзе пан толькі пажадае. Бо мужык халерны! Мяжу ведае, як сваю кішэнь!

Нарэшце прыйшоў «халерны мужык». Гэта быў малы жаўнер, які накульгваў, у велізарных ботах. Меў задзёрты ўгару, пляскаты нос. Забаве ўвесь час здавалася, што жаўнер глядзіць на яго праз акно, прыціскаючыся да шкла канцом носа.

— Гэты? — нечакана грубым басам, што не пасаваў для маларослага выгляду, спытаў узводнага.

— Гэты…

— Добра. Шуруй сабе… Зраблю гэта, як бачыш! — цыркнуў праз зубы вузкім струменьчыкам сліны на сцяну будынка.

Засталіся адны. Сядзелі на даволі вялікай каменнай крушні пад высокай бярозай. Злева ад комплексу будынкаў батальёна было возера. У глыбіні далягляд, быццам рама, абрамляла чорная сцяна лесу. Жаўнер маўчаў. Забава быў стомлены доўгай вандроўкай і нядаўнім пешадралам. Цягам апошніх двух дзён не спаў зусім, таму вочы проста склейваліся.

Сонца хілілася на вечар. Стомленае і нібы выцвілае, яно ападала ніжэй да зямлі, залiваючы чырванню касых промняў мяккі, чысты, бледны блакіт неба. Зыркай чырванню запаліліся верхавіны дрэў і дахі хат. Завалакло золатам блакітную далеч. Атачыла сябе багатым, барвовым пасам, нядбайна раскінутым па-над зямлёй, далёка налева і направа. Стрэліла пурпурам высока ўгару. Сонца нібы булькнула за небакрай, яшчэ раз успыхнула, яшчэ і — патухла. Уздыхнуў вецер. Зашапталі трывожна чараты каля возера. Вада ў ім з чырвона-залатой зрабілася чорнай і пакрылася дробнай луской хваляў. Далягляд апрануўся ў жалобна-хаўтурны, цёмны фіялет…

Ноч крочыла па зямлі. Ішла, шырока раскідваючы шэрыя рызманы змяркання, пакрываючы ўсё мяккім, насычаным выпарэннямі, плашчом цемры.

Ціша…

— Можа, мы пойдзем? — спытаў Забава, будзячыся ад задумення. Ледзьве не заснуў, разамлелы цеплынёй і цішынёй вечара.

— Можна, — басам пагадзіўся жаўнер.

Ціха пасоўваліся наперад. Наблізіліся да лесу. Ішлі спачатку сцежкаю, а потым напрасткі. Жаўнер крочыў усё павольней. У адным месцы стаў. Азірнуўся.

— За-а-раз, — прашаптаў здушаным басам.

Яшчэ цішэй пайшоў наперад і спыніўся за густым кустом ляшчыны… Паблізу звінела рачулка, нібы крадучыся па каменні між дрэў. Павольна перайшлі праз ваду, паглыбляліся ў некаторых месцах па пояс. Потым узбіліся на стромкі груд.

Жаўнер паказаў рукой кудысьці ўніз.

— Тамака, — шаптаў, — дзе агні… млы-ы-н, бальшавіцкая застава… Тут, — выкінуў руку перад сабою, — дарога на Менск. Я вяртаюся…

Праз імгненне расплыўся ў цемры.

Забава нейкі час стаяў нерухома. Глядзеў у кірунку млына, агні якога, быццам вочы звера, прытоенага ў лясным гушчары, жмурыліся ўдалечыні і зіхацелі чырвонай раз’ятранасцю. Выняў з кішэні спружынны нож, расклаў яго; дакрануўся пальцам ляза… Паволі выйшаў на дарогу і ціхім, але ўпэўненым, засяроджаным крокам рушыў наперад, злёгку нахіліўшы галаву, выпрабоўваючы вачамі тую кароткую прастору, якую мог бачыць у цемры.

Нервы былі прыгатаваны да хуткага дзеяння, цягліцы напружаныя. Штохвілінна мог кінуцца наперад, каб ударыць нажом, або плітануць з дарогі ўбок і зашыцца, як звярок, у хмызняк…

Ішоў каля гадзіны. Дзівіўся, што дагэтуль не трапіўся ніводны мост. Памятаў, што ракаўскі шавец сказаў яму: «Да Краснага будзе пад вёрст пяць… А мастоў? Мастоў гэта мабыць з чатыры».

Забаве здавалася, што ён блукае, але ішоў наперад. Дзесьці здалёк да яготых вушэй далятаалі гукі песні. Напэўна, вясковыя дзяўчаты гулялі на вечарынцы, спяваючы свае бедныя беларускія мелодыі; бедныя, як іх лёс, сумныя і журботныя, як іх жыццё.

Быў у дарозе больш за дзве гадзіны, калі заўважыў, хутчэй інстынктам, чым зрокам, нейкі рух перад сабою. За некалькі скокаў апынуўся на раллі і кінуўся ў баразну, зліваючыся з зямлёй. Неўзабаве яго мінулі, размаўляючы, тры вясковыя дзяўчыны. Забава падняўся і рушыў за імі.

— Скажыце, *красоткі*, ці далёка Краснае? — спытаўся, набліжаючыся да іх ззаду.

Дзве завішчалі і адскочылі ў бок. Адна, смялейшая, сплюнула:

— Цьфу, цьфу, д’ябал!.. Спалохаў!.. Краснае далёка… Вёрст з дзесяць, а можа і болей…

Забава пахаладзеў. «Гэтулькі шляху надарэмна».

— А гэтая дарога куды?

— Гэтая… да Койданава…

— Вось табе маеш!.. Скажыце ж, дзяўчаткі, якой дарогай ісці, каб да Краснага патрапіць?

Дзяўчаты правялі яго з сабою больш як кіламетр і паказалі вузкую, палявую дарогу.

— Па той дарозе прыйдзеш да Ляхаў. З Ляхаў пойдзеш да Барсукоў, з вёскі Барсукі да маёнтка Барсукі, а там ужо рукой падаць да Краснага.

Падзякаваў ім і пайшоў, паддаючы кроку, па падказанай дарозе. Калі выйшаў з Ляхаў, дык зноўку заблудзіўся і ізноў прыйшоў да Ляхаў. Зноў распытваў дарогу, імкнучыся знайсці адзінокага чалавека на вуліцы або на панадворку.

У маёнтку Барсукі пастукаўся ў прыдарожную хаціну, бо заўважыў праз шчылінку ў акне запаленае ў пакоі святло. Спачатку не хацелі ўпускаць, а калі ўпусцілі, Забава пабачыў у змрочным, закурэлым пакоі дзвюх жанчын, што з недаверам пазіралі на яго. За перагародкай і на печы шапталіся нейкія людзі. У пакоі былі відаць параскіданыя ў бязладдзі рэчы. Усё гэта здалося яму падазроным. Спытаўся пра дарогу да Краснага і пайшоў далей.

У Красным, стаўшы на ганку першай хаціны, пастукаў доўгай, знойдзенай на падворку галінкай у акно.

— А хто тамака? — пачуўся голас з сярэдзіны.

— Ці далёка адгэтуль Краснае?

— Гэта і ёсць Краснае… А вы да каго?

— Да… *председателя.*

— *Прадсядацель* у другім канцы вёскі жыве… Трэцяя хата злева…

Забава абследаваў абодва канцы вёскі, але не знайшоў гасцінца. Не ведаў, што Краснае ляжала на адлегласці некалькіх соткаў метраў правей гасцінца. Быў вельмі стомлены. Вырашыў не адыходзіць далёка, каб зноў не заблудзіцца, а знайсці паблізу лес і трохі паспаць.

Пайшоў у поле… Лес знайшоў паблізу… Увайшоў далёка паміж велізарнымі хвоямі, шукаючы густога хмызняку. Разгроб у адным месцы мох і схаваў пад ім лісты і фотаздымак. «Каб не знайшлі пры мне… Усё можа быць!» — падумаў.

Успомніў жаўнера, які паказаў яму «дарогу да Менска». Плюнуў са злосцю і гучна прамовіў: «Свіння, псякрэў!». Лёг у кустах і неўзабаве заснуў.

Прыйшоў у лес як бедны і стомлены зяруга. І як звяруга прытуліўся даверліва да матухны-зямелькі, якая дае сілу, адпачынак і жыццё.

Абудзіўся ад холаду, на досвітку. Білі дрыжыкі. Выняў з-пад моху лісты, схаваў на сабе і пайшоў на ўзлесак… Заўважыў дзвюх жанчын, што працавалі ў полі паблізу нейкай дарогі. Наблізіўся да іх, добразычліва прывітаўся:

— Дабрыдзень!

Здзіўленыя жанчыны паднялі галовы. Адна выцерла нос даланёй і паправіла хустку на галаве.

— А чаго хочаце? — адазвалася па-беларуску.

— Скажыце, дзе дарога да Менска?

Жанчыны абмяняліся позіркамі, у якіх чыталася паразуменне. Пасля непрацяглага маўчання адна з іх паказала яму пальцам на дарогу, якую толькі што прамінуў, і неахвотна сказала:

— Тамака дарога…

— А колькі вёрстаў будзе адгэтуль да Менска?

— Не ведаю… Не лічыла. А людзі па-рознаму кажуць…

Забава выйшаў на гасцінец і прыспешаным крокам скіраваўся на ўсход па мала выезджаных утравелых каляінах.

Уставала сонца. Вясёлае. Усмешлівае. Вымытае ранішняй расой. Раса ззяла, кожная расінка была ў арэоле залатых промняў.

## 2

У Менск Забава прыйшоў, калі ўжо змяркалася. Прыйшоў без аніякіх прыгод, шчасліва абмінаючы ўсе небяспечныя месцы, пра якія пакуль і не ведаў.

Найперш жадаў аднесці ліст і фотаздымак да спадарыні Ядвігі Дваленскай. Даручыў яму гэта зрабіць яе муж, чыгуначны службоўца з Вільні. Ён дзеля гэтага і пазнаёміўся з Забавам праз пасярэдніцтва агульных знаёмых.

Раман лёгка знайшоў патрэбную яму вуліцу і прыбіты над варотамі бляшаны нумар хаты. Увайшоў на шырокі, патанаючы ў змроку, падворак. З брудных, смуродных сенцаў адчыніў дзверы ў пакой. Насустрач яму ў твар бухнула цёплая пара.

— Хто тамака? — раздаўся голас габрэйкі, якая мыла бялізну.

— Дзе жыве Дваленская? — спытаў Забава.

— Ідзіце на самы канец двара… Там стаіць маленькая хацінка… У ёй жыве Дваленская…

Неўзабаве Забава пастукаў у малое акенца побач з уваходнымі дзвярыма. Праз момант заўважыў за шклом невыразную, белую пляму твару.

— Хто там?

— Тут жыве спадарыня Ядвіга Дваленская?

— Тут. А чаго жадаеце?

— У мяне да яе ліст… Ад мужа…

— Ліст!.. Ад мужа!..

Неўзабаве Забава апынуўся ў малым пакойчыку. Памяшканне тое і спальня за перагародкай былі кватэрай трох дарослых людзей і дзіцяці. Умэбляваная бедна, але ўсюды панавала ўзорная чысціня. На стале гарэла лямпа. Бацька спадарыні Ядвігі, высокі, атлетычнага складу мужчына гадоў за пяцьдзесят, зацягнуў на вокнах фіранкі. Жонка ягоная спала за перагародкай. Спадарыня Ядвіга чытала ліст ад мужа. Была відавочна ўсхваляваная, на яе шчоках выступіла чырвань.

Бацька спадарыні Ядвігі панура маўчаў. Забаве здалося, што ён незадаволены, але з якой прычыны? Спадарыня Ядвіга прабегла вачыма аркуш і пачала ўважліва чытаць, засяроджваючыся над кожным сказам.

***Вільня, 28 ліпеня 1922 г.***

*Каханая Ядзенька!*

*Я вельмі непакоюся, не ведаючы, што з Табой. Год як я не атрымаў ад цябе аніводнага ліста. Я пісаў некалькі разоў, але аніякага адказу дагэтуль не маю. Я не магу здагадацца, што гэта значыць і што з Вамі сталася. Напішы падрабязна пра сябе, тады я адкажу Табе вычарпальна. Здароўе маё добрае. Працую і жыву ў дастатку. Засмучаюся толькі, што не маю ад Вас аніякай весткі. У галаву лезуць найгоршыя думкі. Як здароўе Андзі і бацькоў?*

*Цалую Вас усіх.*

*Кароль*

*P.S. Перадаўца ліста — мой знаёмы. Можаш яму ва ўсім давяраць.*

*P.P.S. Перасылаю разам з лістом свой фотаздымак.*

Спадарыня Дваленская адклала лісты ўбок:

— Пан даўно бачыў Караля?

— Тыдзень таму…

— Пан з Вільні?

— Не… жыву стала ў Ракаве, паблізу мяжы. Пачаў займацца кантрабандай. Маю некалькі лістоў і пэўныя свае справы, таму прыйшоў у Менск. Я жыў тут калісьці…

— Калі пан вяртаецца?

— Не ведаю пэўна… Праз некалькі дзён…

— Чаму пан жыве ў Польшчы?

— Я некалі не пайшоў у савецкае войска і быў змушаны потым эміграваць у Польшчу.
— Можа, пану прыкра, што так я распытваю?
— Але ж я ахвотна адказваю.
— Пан, пэўна, галодны? Можа, гарбаты?
— Ахвотна б напіўся, але маю пільную справу ў месце і хацеў бы выканаць яе з вечара. У вас можна хадзіць па месце без пропуска?
— Так, але ходзяць патрулі і трэба мець добрыя дакументы. Пан можа ў нас пераначаваць.
— Вядома, хацеў бы толькі папярэдне схадзіць у места.
— Калі пан вернецца?
— Праз… гадзіну. Найпазней праз дзве…
— Мы будзем пана чакаць.

* * *

Забава пашыбаваў па цёмных, брудных вулках места. Святло электрычных ліхтароў гарэла толькі на цэнтральных вуліцах. Рэшту места ахутвала цемра, у якой панура прытаіліся цёмныя камяніцы… Вокны ўсюды былі пазавешваны. Мінакоў сустракалася мала. Час ад часу з тарахценнем праязджалі аўтамабілі. Тады вуліца поўнілася ляскатам жалеззя і туркатаннем рухавіка. Жоўтыя языкі ліхтароў лізалі мокрыя камяні бруку.

Найболей здзівіла яго тое, што нават у цэнтры места, дзе панаваў адносна вялікі рух, не чуваць было людской гамонкі.

«Тут ніхто не гаворыць, не смяецца: нечага ўсе баяцца!» — зрабіў выснову Забава.

Пачуваўся, быццам нырцануў у ваду і паволі плыве ў ёй. Уражанне гэта ўзмацняў дробны дождж і бліскучыя кацiныя ілбы мокрага бруку… Вуліцы пакідалі ўражанне брудных каналаў, а людзі нейкіх фантастычных рыб… Здавалася, што не ішлі, а плылі, цёмныя, цяжкія, бясформенныя…

Забава ішоў у кірунку Залатой Горкі.

* * *

**1920 г.**
**Менск-Літоўскі, польская ўлада**

Электрычны ліхтарык, павешаны на іржавым кручку, убітым у сцяну склепа, кідаў бледны круг святла на жоўты пясок. У куце склепа Забава капаў нажом яму. Выкапаў яе глыбінёй з локаць. Потым паклаў на дно невялікі пакет і засыпаў яго пяском. Утрамбаваў зямлю вялікім каменем і шпурнуў наўскос, у тым кірунку, некалькіх жмень пяску, зграбенага ў сярэдзіне склепа, каб зрабіць паверхню аднолькавай. Паставіў на месца дошку, што прыкрывала кут склепа. Праца была скончана. Схованка — надзейная.

У пакеце быў наган, наладаваны сямю патронамі, і залаты бранзалет з трыма дыяментамі.

* * *

**1919 г.**
**Менск-Літоўскі, бальшавіцкая ўлада**

Другая гадзіна ночы…

Забава ляжаў у ложку і пры святле свечкі з вялікай цікавасцю чытаў «Таямніцы Парыжа». Дзесьці далёка за акном працягла і надакучліва галасіў міліцэйскі свісток. Забава падняўся з ложка, узяў на кухні сякеру, расчыніў рамы і аканіцы, вылез праз акно на вуліцу.

Было ціха і цёпла. Забава ў адной бялізне з сякерай у руцэ ішоў у кірунку свістка. На бакавой вуліцы ўбачыў міліцыянера, які няспынна свістаў, працавіта адтапырваючы шчокі. У правай руцэ трымаў наган з узведзеным курком. Руля рэвальвера была накіравана ў грудзі чалавека, які ляжаў у рыштку з паднятымі ўгару рукамі. Трохі далей ляжаў, перакулены ў канаве, воз.

— Што тут здарылася? — спытаў Забава, набліжаючыся з сякерай у руцэ да міліцыянера.

Ахоўнік грамадскага спакою, убачыўшы сякеру ў руцэ Забавы, падаўся назад, але, заўважыўшы лаяльны выраз на твары Забавы, сказаў:

— Таварыш, я арыштаваў злодзея, які хацеў збегчы, але ў яго перакуліўся воз… Свішчу, свішчу, а з камісарыяту ніхто не падыходзіць.

Забава згадаў доўгія спісы расстраляных, штодня друкаваныя ў газетах, і свой нядаўні арышт, калі ледзь не паклаў жыццё.

— Гэта злодзей?! — спытаўся пагрозліва…

— Так, таварышу…

— А што тут з ім бавіцца! Я яго зараз ліквідую… У нас нядаўна гэткія, а, можа, акурат і ён сам, кабана скралі. — Забава бліснуў лязом сякеры, падымаючы яе.

— Нельга, таварышу! — міліцыянер схапіў яго за руку. — На гэта ёсць следства і суд. Можа, яшчэ іншых выкрыем… ягоных хаўруснікаў. Ведаеце што? — дадаў неўзабаве. — Папільнуйце гэтага сукінага сына, а я прывяду з аддзялення падмогу, бо нельга фурманку тут пакінуць… Там шмат скрадзенай з вайсковага склада конскай збруі…

— Добра… — сказаў Забава, — толькі хутка…

— Мігам!

Міліцыянер ступіў некалькі крокаў, але зараз жа вярнуўся.

— Страляць умееце, таварышу?

— Вядома!

— Трымайце машынку… Як што — у лоб!

Забава ўзяў наган і заняў ваяўнічую паставу. Міліцыянер спехам падаўся да аддзялення, што месцілася на той самай вуліцы, праз дзесятак будынкаў. Над ягоным уваходам, наверсе, вісеў ліхтар, які асвятляў даволі вялікую частку вуліцы перад забудовай.

Калі міліцыянер апынуўся на такой адлегласці, што не мог іх чуць, Забава звярнуўся да злодзея:

— Я таксама *блатны*[*]. Збірай хутчэй *шмокты*[**] на *скамейку*[***] і *гвінтуй*[****]!

Злодзей пазіраў на яго з асцярогай.

— Ну, каціся! Раз, два! Чаго чакаеш?!

Забава нават дапамог злодзею сабраць вытрасеныя ў канаве рэчы, падняць воз і надзець кола…

Забава чакаў…

---

[*] Блатны — злодзей, свой.

[**] *Шмокты* — крадзеныя рэчы.

[***] *Скамейка* — воз.

[****] *Гвінтаваць* — уцякаць.

Міліцыянер, які хутка пасоўваўся на далёкім даляглядзе вуліцы, ужо наблізіўся да аддзялення. На момант паказаўся ў яркім святле электрычнага ліхтара і знік заараднымі дзвярыма камяніцы.

— Ну, зараз ірві кіпці! — скамандаваў Забава. — Жыва!

Злодзей хвастануў лейцамі каня, і воз хутка пакаціўся. Праз некалькі хвілін знік у цемры.

Забава пералез праз агароджу могілак, а адтуль кароткай дарогай трапіў дадому. Прыцягнуў на аборцы аканіцы. Зачыніў акно. Схаваў пад падлогу наган і лёг у ложак, раскашуючы над працягам «Парыжскіх таямніцаў».

Свісток міліцыянера цяпер яму не замінаў.

* * *

Вось гэты наган і закапаў Забава, разам з бранзалетам, у склепе.

* * *

З глыбіні падворка Забава прынёс драбіну і прыставіў яе да дзверцаў, што вялі на гарышча. У галаве праносіліся неспакойныя думкі: «Ці знайду ўсё?.. Два з паловай гады прамінула».

Яму цяпер было вельмі важна знайсці тыя рэчы, ад гэтага залежала наступнае, што магло адбыцца пасля выезду з Менска. Зараз яны здаваліся яму цэлым скарбам і найперш ад іх цяпер залежаў поспех усёй ягонай працы.

Стаўшы на апошнім прыступку драбіны, канцом нажа па-майстэрску адамкнуў спружыну навяснога замка… З гарышча злез у сенцы, дзе нейкі час прыслухоўваўся пад дзвярамі, што вялі да дзвюх кватэр…

Падняў дзверцы і ўлез у склеп. Рабіў усё спакойна, давяраючыся свайму спрыту, досведу і самай найлепшай памочніцы для нелегальнага чалавека: ночы. Але калі апынуўся ў склепе і пачаў раскопваць зямлю, трохі стаў нервавацца. «Можа, ужо няма?» — тахкала ў галаве трывожная думка.

Усё было на месцы. Забава выцягнуў са схованкі закапаны некалькі гадоў таму пакет. Атрос з пяску. Перарэзаў моцна завязаныя шнуркі. Разгарнуў даволі вялікі лапік прагумованага плашча, нейкія анучы, і, нарэшце, тоўстую, прамасленую паперу…

Бліснула матавае цела нагана. Радасць ахапіла Забаву. Узяў моцна, як далонь найлепшага сябра, ручку рэвальвера, зазірнуў у рулю, пакруціў пальцам маленькі барабан. Зрабіў рукой рух быццам страляе і засмяяўся… весела, шчаслівa. Рэвальвер быў у парадку.

Забава сцёр з яго насоўкай аліўкавы алей, якім калісьці змазаў, і паклаў рэвальвер у кішэню. Выняў з паперы бранзалетку і таксама схаваў яе. Астатнія паперы і анучы згроб нагой у ямку, засыпаў пяском і прытаптаў зямлю.

Ідучы назад цёмнымі вуліцамі места, выдатна сябе адчуваў. «Я маю машынку… маю… Сем пэўных стрэлаў», — праносіліся ў галаве вясёлыя думкі.

* * *

Была адзінаццатая гадзіна ночы, калі спадарыня Двалінская, пасля доўгай гутаркі з Забавам, пайшла адпачываць. Забава застаўся з яе бацькам.

— Ведаеце што, пан? — сказаў Юзаф. — Падабаецеся мне. Нам трэба наша знаёмства акрапіць. Маю ў запасе бутэлечку першаку, таму раздушым яе…

Неўзабаве на стале з'явілася літровая бутэлька самагону. Пан Юзаф падахвоціўся. Зрабіўся вясёлы і вельмі гаваркі.

— Я не маю адукацыі — сказаў ён, — але жыццё бачыў. Ой, пабачыў! Шчыра, паночку. Шэльму па вачах пазнаю… Так… У мяне: як чалавек чалавекам… душу аддам! Як хам — душу з яго вон!.. Вось што!.. У пану бачу чалавека. Так…

— Гэта мне вельмі прыемна, — адзначыў Забава, — што пан, так мала мяне ведаючы…

— Ціха!.. Не кажыце, пане, — перапыніў Юзаф. — Я тамака розных псіхалогій не вучыўся, але не аднаму з тых, што стос кніг згрыз, дам форы… Ён на паперы вучыўся, а я на людзях, у жыцці… Разумееш, пан? Ты ведаеш, пане, кім я быў? — Юзаф нізка нахіліў галаву, змятаючы са стала вялікай чорнай барадой крошкі. — Матросам я быў… Так, матросам! — сказаў з націскам. — Трыццаць гадоў па свеце бадзяўся, шчасця шукаў, ажно тут знайшоў! — тыцнуў шырока растапыранымі пальцамі дзесьці ўглыб пакоя.

Задумаўся.

— Хачу пану штосьці сказаць… — прамовіў пасля кароткага маўчання. — Толькі сакрэт. Разумееш?.. Бо гэта нібы няёмка…

— Добра — адказаў Забава.

— Дай руку!

Паціснулі рукі, як сябру сябра.

— Пан прынёс ліст для Ядзькі ад Караля. Яна ўзрадавалася, а я… зусім не! Бо ён, шчыра кажучы, смоўж. Гэта чалавек, паночку, які толькі сябе самога любіць. А калі жонку прыпомніў, дык не таму, што кахае, а проста: пра сваю ўласнасць нагадвае… Дбае, як пра карову або казу… Так... А нярвты яе, нярвты!.. Самалюб, недалуга, тонкая кішка… Яна ў мяне добра загартаваная, на ўсякую бяду! А якая працавітая, цярплівая, верная!.. Выхоўваў, навучаў, як мог, за апошні рубель, каб такому беларучку жыццё асалодзіла… Ну, прапала… А усё: бяда-нэндза!.. Точыць чалавека, як іржа жалеза!..

— Калі ласка, пан, — сказаў Забава, каб адарваць яго ад непрыемнай тэмы, — якія ў вас тут адносіны паміж грамадзянамі і… уладай? Гэтак даўно не быў у Расеі…

Спадар Юзаф усміхнуўся.

— Адносіны, адносіны?… Вельмі простыя адносіны: *Молчать и не разгаваривать*. Такія адносіны! Разумее пан: дыктатура пралетарыяту! Дык-та-ту-ра!!! А з гэтай прычыны кожны гнюс, уедлівы, які мае шмат спрыту і нахабства, атрымаў магчымасць прыгнятаць іншых, якія тых вартасцей не маюць… Калісьці ўлада служыла грамадзянам. Зараз грамадзяне служаць уладзе… Служаць са страхам… подлым, агідным, які зневажае чалавека… Страх ператварыў грамадзян у шпікоў… нават у сем'і ўвайшло шпіёнства… Пан ведае, у якой дзяржаве мы жывём, га?

— У Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы.

— Нічога падобнага! — грукнуў даланёй па стале Юзаф. — У ліпкай краіне, у ліпучай дзяржаве, паночку, у ліпучай… Тут усё ліпее і ўсё зліплена: расколатыя шыбіны — паперай, муры і платы — дэкрэтамі, паркеты і сцены — макроццем і брудам!.. Паветра ліпкае ад смуроду; рукі ліпкія — ад зладзейства; погляды ліпкія — падазроныя і баязлівыя; улада ліпкая — хабарыстая!.. У клеі, халера, мы жывём, у ліпкасці паміраем! Кожны сноўдаецца, як той журавель у балоце: нос з бруду выцягне — хвост ugraz, хвост выцягне — нос уграз і так кругом!.. Мая Ядзька (разумная гэта лабацінка) кажа, што мы жывём у чацвёртым вымярэнні. Нібы пазанармальным чалавечым жыццём. І гэта насамрэч так, бо нават час перасунуты на тры гадзіны.

У людзей дзевятая вечара, у тэатры ідуць ці на балі, а ў нас — дванаццаць уначы, даўно спаць вымушаны. Людзі на працу а восьмай раніцы ідуць, а мы а пятай уначы.

— Мяне цікавіць, як грамадзяне ставяцца да ўладаў?

— Не-на-відзяць! Стра-а-ашэнна! Да смерці, крадком ненавідзяць, са страхам… Ненавідзяць, ліслівячы! Ненавідзяць, працуючы! Тут няма анічога святога! Усё аплявана, высмеена, над усім здзек… з крывёй і слёзамі… Да прыкладу, дзяржава наша завецца скарочана: РСФСР. Скарот гэты служыць мішэнню да проста бясконцых высмейванняў таго, што лепш за ўсё сведчыць пра любоў і давер грамадзян да ўлады. У кожнай іншай краіне грамадзяне ганарацца сваёй прыналежнасцю да дзяржавы, а ў нас… Калі ласка, паслухайце, што робяць з таго прыгожага скароту: РСФСР. Першае: «*Редкий Случай Феноменального Сумасшествия Расы*». Другое: «*По краям Розы, по бокам Слёзы, а посредине Фига*» ). Трэцяе: «*два Ерики, два Серики, а посредине Фе*». Чацвёртае: «*Российский Социализм Форсит Своим Рылом*»... І гэтак далей бясконца!.. Тут я прывёў толькі некаторыя, мажлівыя да пераказвання. У ніякай дзяржаве, спадарочку, не можа выгадавацца гэткая нянавісць да ўлады, як у нас! І думае пан: ненавідзяць буржуі? Не… беднякі ненавідзяць! З буржуямі скончана… альбо выбіты, альбо павыміралі, альбо паўцякалі, а тыя што, засталіся — далі сабе рады… Добра абгрунтаваліся… Кажу ж, далі сабе рады... Можа, лепш, чым калі… Зрэшты, убачыць пан сам. Пан казаў, што жадае ехаць у Гомель, да знаёмых…

— Так, і з гэтай прычыны маю просьбу.

— Вельмі ахвотна…

Забава паказаў Юзафу бранзалет і папрасіў прадаць яго за савецкія грошы. Трэба ж на праезд. Той стаў уважліва разглядаць каштоўнасць.

— Вядома, зраблю, — сказаў. — Але я раю дыяментаў тут не прадаваць. У Польшчы пан напэўна даражэй яго абгрошыць. Я разбіраюся трохі ў гэтым. Дыяменты каштоўныя: вунь гэтыя два па тры чвэрткі карата, а той, што ў сярэдзіне, пад карат з ліхвой. Яны ўсе чыстыя, іх так і называюць — «чыстае вады». Каштуюць каля 250 даляраў. А золата пану заўтра ж прадам.

— Цудоўна!

— Можна зрабіць так: палову ўзяць лімонамі, а палову ў далярах… Ведае пан, чым я займаюся, з чаго жыву?

— ?..

— Перакупніцтвам… Гандаль у нас наогул забаронены, але то, паночку, хлусня. Усе гандлююць, чым хто можа… Нават улада... Яны дык першым чынам... Прыклад падаюць…

Доўга гаварыў Забава з Юзафам. Пачуў ад яго шмат цікавых рэчаў, атрымаў шмат інфармацыі. Цяпер збольшага арыентаваўся ў новых праявах савецкага жыцця і ў новых парадках.

Набліжалася трэцяя гадзіна ночы. Газа ў лямпе дагарала, бутэлька была даўно пустая. Юзаф пасцяліў Забаве на канапе…

Стомлены Забава адразу ж заснуў… Прыснілася яму дэманстрацыя абарваных, жудасных, знясіленых людзей… Ішлі панурыя, бязгучна сунучыся па сонных вуліцах места, напаўняючы яго бруднай хваляй целаў і лахманамі адзежын. Над той чорнай, жывой хваляй чырвонымі макамі квітнелі сцягі, з напісанымі на іх дзіўнымі заклікамі: «Няхай жыве чацвёртае вымярэнне!»

### 3

Пасля пяці дзён знаходжання ў Гомелі Забава вяртаўся ў Менск. «Працу» выканаў нечакана лёгка і добра; зрэшты, заданне ягонае выпрабавальнае, яно і не магло быць цяжкім. Так, паездзіць, паглядзець, паслухаць. Аднак Забава падмацаваў свае назіранні яшчэ і дакументамі, якія пацвярджалі трохі сумнеўныя звесткі вайсковага характару.

У Гомелі давялося перадаць ліст ад бацькоў, якія жывуць у Польшчы, аднаму чырвонаму афіцэру з 7-й кавалерыйскай дывізіі. Сустрэлі яго добразычліва. Лёгка здабыў патрэбную інфармацыю, і нават некаторыя матэрыялы (малакаштоўныя, але яны адкрывалі шырэйшую перспектыву на будучае). Акрамя таго, яму наладзілі знаёмства з «буйной рыбай» са штаба той 7-й кавалерыйскай дывізіі. Уласна, дзеля гэтага ён тут, у Саветах, і быў. Стомлены, не выспаны, але вельмі задаволены.

Звык у новым для сябе асяродку і пачуваўся, як рыба ў вадзе. Умеў лёгка прыстасоўвацца да любых нечаканых акалічнасцей і прызначанай ролі. Гэта быў яго талент, удасканалены доўгімі гадамі небяспечнага жыцця ў агні вайны, віры рэвалюцыі… Канспіратыўнае жыццё насычала яго радасцю. Любіў хавацца пад чужымі прозвішчамі, праслізгваць з горада да горада, адчуваць заўсёдную рызыку і напругу нерваў. Жыць даведзенай да дасканаласці вёрткасцю гнанага звера… Для яго гэта была тая стыхія, як для добрага плыўца вада: прыемная і — заўсёды небяспечная, няпэўная…

Меў спраўныя дакументы (зразумела: падробленыя). «Уліковая картка» і «працоўная кніжка», выдадзеныя «ў Маскве ў Арбацкім раёне». На першым дакуменце, у правым верхнім ражку, кідаўся ў вока выдрукаваны і тлуста падкрэслены лозунг: «***Нетрудящийся да не ест!***». Меў трохі клопату з грашыма, бо яму цяжка было прыстасавацца да грашовых знакаў, якія заўсёды азначалі нешта іншае, напрыклад: адзін рубель, выпушчаны ў 1922 годзе, быў варты 10 000 рублям, выдадзеным у 1921 годзе, і гэтак далей. Каб пазбегнуць памылак, заўсёды ў білетных касах плаціў буйнымі купюрамі і атрымліваў рэшту. Быў вельмі асцярожны, нават у дробязях, і гэта яго ратавала.

У вагоне ехалі пераважна вайскоўцы. Цягнік быў біткам набіты. Ішоў са звычайным спазненнем больш чым на дзесяць гадзін. Гэта здаўна ўсталявалася і было звычайнай з’явай на савецкіх чыгунках.

У Гомелі, беручы прыклад з іншых пасажыраў, пераважна салдат, Забава сеў у вагон праз акно. Месцы здабываліся пры дапамозе кулакоў. Крык, шум, праклёны чуліся наўкола… Вагоны выглядалі як фарты, атакаваныя вар’ятамі.

Быў у дарозе некалькі гадзін. Смурод і задуха запаўнялі вагон. У суседнім купэ ехала некалькіх чырвонаармейцаў, гарачых аматараў паспяваць. Дзёрлі горла не перастаючы, спявалі адну песеньку за другой і змаўкалі толькі на станцыях… Забава прыхіліўся спінай да перагародкі купэ, прыплюшчыў вочы і драмаў. Гучала прыглушаная пастукваннем колаў песенька:

*Мая мілка, як кабылка,*
*Грыва раскудлачана.*
*Ды не скача мая мілка,*
*Гэткая лайдачына!*

Перад вачамі Забавы ўзнік твар спадарыні Ядвігі. Прыгожы, вытанчаны пакутамі твар. Бачыў яе гэтак нядоўга, але зрабіла на яго глыбокае ўражанне: не пачуццёвае, а эстэтычнае… Любіў прыгожыя твары, а твар спадарыні Ядві-

гі быў незвычайнай пекнасці. Асабліва ўпрыгожвалі яе цудоўныя залацістыя вочы, казачная ўсмешка і багатыя валасы, нібы адлітыя з бронзы. Калі спадарыня Ядвіга ў гутарцы з ім смяялася, адчуваў, як яго быццам штосьці цёплае ахутвала ў грудзях, пераймала дыханне, і ён захоплена глядзеў ёй ў вочы.

А жаўнеры далей спявалі з жарсцю, якая выклікала ў іх «мілка-ўмілаваная», калі з'яўлялася на вуліцы:

*Збеглі свінні, качкі, куры,*
*І мароз бяжыць па скуры.*
*Коні ўсталі на дыбкі,*
*Лаюць коней вазакі.*

*Квокчуць куры, крэкчуць качкі,*
*Брэшуць злосныя сабачкі.*

Злева ад Забавы сядзеў армянін, які пры пэўных рэфрэнах песенькі гучна пляскаў далонямі па каленах і манерна голасна смяяўся:

— А-ха-ха-ха! Ма-а-ла-дзец!.. Нават коні!.. ха-ха-ха!.. Яшка! — крыкнуў у наступнае купэ, дзе ехаў «хор» і дзе меў кагосьці знаёмага. — А заспявайце ну, наш адэскі «Чайнік»!

— Добра!

І неўзабаве хор заспяваў «Чайнік». Пасля першай, запеўнай страфы надышла чарга другой, якую «ўсходні чалавек» успрыняў з асаблівым захапленнем, падпяваючы, свішчучы, цмокаючы вуснамі і б'ючы ў ладкі… Армянін тупаў у такт песенькі, жудасна вырачваў вочы і па-змоўніцку падміргваў да развяселеных пасажыраў, нібы прапаноўваючы ім далучыцца да ягонага захаплення…

*Браў цябе я босай,*
*Голай, безвалосай,*
*Паламанай браў*
*І рамантаваў…*
*Ца-ца!*

*Браў табе фальбоны,*
*З шоўку панталоны,*
*І парык купіў,*
*Тры рублі прапіў...*
*Ца-ца!*

*Ты маю маліну*
*Ела з кіслай мінай,*
*Хоць купіў не танныя*
*Чаравікі «танга» я…*
*Ца-ца!*

*Блузка вышываная,*
*А спадніца тканая,*
*Дзе для гэткай модніцы*
*Гэткі дурань знойдзецца?..*
*Ца-ца!*

У Жлобіне зайшоў чыгуначны кантроль — ЧК. Праверылі дакументы. Тры чэкісты абыходзілі купэ. Адзін браў дакументы і падаваў таварышам да прагляду. Тыя ўважліва глядзелі кожны дакумент, а некаторыя паперкі, сумнеўныя, нават глядзелі на святло. Калі прыйшла чарга Забавы, нядбайна падаў дакументы чэкісту. Той іх прагледзеў.

— Чаму вы, — звярнуўся да Забавы, — будучы сталым жыхаром Масквы, маеце ўліковую картку са смаленскага ваенкамата?

— Працоўная кніжка выдадзена мне была у 21-м годзе, а ўліковая картка ў 22-м. У маі гэтага года я выехаў на службу ў Смаленск як манцёр і тамака прымацаваўся ў ваенкамаце.

— Угум… — невыразна буркнуў чэкіст, беручы да праверкі дакументы ў наступных.

Забава заўважыў, што ў жаўнераў дакументы праглядаліся вельмі нядбайна. Затое дакументы цывільных падлягалі падрабязнаму агляду і вывучэнню. Аднаго цывільнага арыштавалі. Карыстаўся пасведчаннем, выдадзеным з *валіспалкама*, пячатка якога была вельмі невыразнай.

«Лепш за ўсё ездзіць у вайсковай форме», — падумаў Забава.

Хор спяваў далей:

*Троцкі — гэта вам не збродня,*
*Лёва Троцкі — гэта франт:*
*Галіфэ ён носіць сподняе*
*І на ім — чырвоны бант!*

Насупраць армяніна сядзеў малодшы камандзір з двума чырвонымі трыкутнікамі на рукаве. Вялі «палітычную» гутарку. Уласна гэта была не гутарка, бо гаварыў толькі малодшы камандзір, а армянін хітаў галавой і падтакваў яму. Відаць было, што ўсходняму чалавеку вельмі хочацца спаць, што гутарка жахліва яму надакучыла, але малодшы камандзір не ўлоўліваў тое і азартна выгалошваў:

— …Рэвалюцыя, таварыш, на месцы стаяць не можа і адступаць назад ёй нельга! Рэвалюцыйны фронт павінен увесь час пасоўвацца наперад і наперад, аж да перамогі!..

А хор роў частушкі:

*Здымайце, дзеўкі, панталоны — рэвалюцыя!*
*Расстаўляйце шырэй ногі — кантрыбуцыя!*

— Гэта правільна, да-а-ска-а-нала! — захапляўся, цмокаючы мясістымі, нібы наклеенымі вуснамі, армянін, пацвярджаючы невядома што — словы песенькі, ці прамову малодшага камандзіра.

— …У Польшчы, таварыш, паны рыхтуюцца знішчыць нашу свабоду!.. Паўмільёна працоўных канае ў турмах!.. Сяляне і працоўныя з голаду паміраюць, а буржуазія аб’ядаецца рознымі апельсінамі і разбіваецца на аўтамабілях! Культура падае! Масы паміраюць у жабрацтве, а панкі ад абжорства рыгаюць!..

*Мар’я валіць п’яная,*
*З перапою ўся дрыжыць…*
*Кашуліна падраная,*
*Лева вочачка крывіць…*

— Гэта сапраўды!.. — цмокаў армянін, утаропіўшы вочы на малодшага камандзіра.

Паблізу хтосьці распавядаў анекдот:

— …Такім чынам прыходзіць ён, вядома, да таго апошняга купэ (бо ўсе іншыя набіты), а ля ўвахода, вядома, габрэй вартуе і не ўпускае. «Заняты» — кажа. «А хто едзе?» — пытае. А ён і гяргеча: «Дзве Розы з Совнархозы, дзве Рывы з кааперацівы, адзін Іцэк з Цэнтроспіцэк, я і жонка майго брата, савецкага дэлегата».

Малодшы камандзір павярнуўся да цывільнага, які травіў анекдоты:

— Я вам забараняю, грамадзянін, распавядаць такія свінствы! Гэта антысемітызм!.. Там, дзе пануе чырвоная зорка інтэрнацыяналу, няма месца шавінізму, бо разам з шавінізмам ідзе рэакцыя! — казаў, паварочваючыся да армяніна, бо цывільны дзесьці знік, ледзь толькі звярнулі на яго ўвагу. — Гэта палітыка буржуазіі. Палітыка нацкоўвання адной класавай праслойкі насельніцтва супраць другой, каб адцягнуць увагу… — тут ён спыніўся, бо заўважыў, што ягоны слухач заснуў.

У Бабруйску Забава высунуўся праз акно і аддаў хлапчуку, які прадаваў газеты, ліст.

— Укінь зараз жа ў паштовую скрынку! — сказаў, даючы яму дробную купюрку.

Хлопчык укінуў ліст ў паштовую скрынку, павешаную на сцяне вакзала.

Забаве было вельмі неабходна, каб ліст прыйшоў у Менск з Бабруйскім паштовым штэмпелем, таму і скарыстаўся выпадкам.

Ліст гэты Забава напісаў яшчэ ў Гомелі, калі і намерваўся ехаць у Менск праз Бабруйск.

***Бабруйск, 10 жніўня 1922 г.***

*Шаноўная Соф’я Паўлаўна!*

*Прабачце, што так даўно не пісаў. Заўсёды спадзяваўся адведаць Вас асабіста і пісанне лістоў адкладваў на пасля.*

*Зараз я жыву ў Бабруйску, дзе працую на пошце тэлеграфістам. Неўзабаве прыеду ў Менск і абавязкова завітаю да Вас… Тады распавяду пра сябе болей падрабязна.*

*Пакуль што ўсё.*

*Прывітанне Марыі Дзмітрыеўне, Паўлу Аляксандравічу і Эльжбеце.*

*Раман Забава*

Ліст гэты Забава напісаў да сваёй былой нявесты, з якой калісьці развітаўся ў 1920 годзе, выязджаючы ўглыб краіны. Цяпер жадаў падрыхтаваць яе і ейную сям’ю, каб знянацку не застаць іх сваім нечаканым з’яўленнем. Слушна лічыў, што ў сям’і маглі адбыцца неспадзяваныя змены… Ліст павінен быў легалізаваць яго ў сям’і Брагіных… Дзеля гэтага прыдумаў ім складаную, добра абдуманую гісторыю свайго жыцця ад 1920 года. Што праўда, мог бы адмовіцца ад далейшага знаёмства з імі, але штосьці вабіла яго да іх, найперш да Зосі, якую дагэтуль не перастаў кахаць і ўспаміны пра якую часта наведвалі яго… Быў сентыментальны і любіў у «каханні» найперш яго ідэальны бок: самаахвяраванне, шляхетнасць, нават рыцарства… Зося была для яго калісьці выдатнай партнёркай у той гульні…

Вырашыў пайсці да Брагіных падчас наступнага задання. Яго планавалі закінуць у Саветы другі раз перад канцом жніўня. На тое была вельмі важная прычына…

У Менск Забава прыехаў без аніякіх прыгод, толькі ледзь не аглух ад песняў вясёлай кампаніі.

**4**

Забава пакінуў Менск пасля полудня. Яму належала як мага раней перайсці дзяржаўную мяжу. З вопыту ведаў, што зноў будзе блукаць. Вырашыў ісці гасцінцам як найдалей, а потым дачакацца прыцемкаў, пасля чаго ісці лесам,

трымаючыся дарогі, ажно да мяжы. Ішоў насцярожана, нават не маючы паняцця, што творыцца вакол. Толькі будучыня дала яму разуменне таго, на што тут, паміж Менскам і мяжой, мог напароцца. Людзі кажуць, што «дурням шанцуе»...

У пэўным сэнсе так было і з Забавам…

Дарога з Менска да Ракава падлягала ўзмоцненай ахове, паколькі гэта быў найкарацейшы шлях паміж сталіцай і мяжой. За прадмесцямі сачылі міліцэйскія пасты і ЧК, а саму дарогу, на ўсёй яе працягласці, пільнавалі *заградатрады*.

Каб прабрацца з Польшчы ў Менск, належала перайсці ўласна мяжу, потым яшчэ адну памежную лінію, паміж якімі кружылі пешыя і конныя патрулі. Акрамя таго, яшчэ былі межавыя пасты, а ў зручных мясцінах ладзіліся засады, часта з вывучанымі сабакамі. Бывала, што ў прыгранічную паласу ўскоквалі рухомыя кавалерыйскія патрулі. Дапаможную працу ў больш глыбокім тыле праводзілі мытнікі. Калі да ўсяго гэтага мы дададзім яшчэ працу памежнікаў, што звычайна вялася паводле ўласнай, ніяк не прадказальнай ініцыятывы, ды яшчэ і высілкі сексотаў, а таксама іх давераных асоб, якія паводле самых розных хітрых прычын карміліся на памежжы, дык зразумеем, як цяжка было прабрацца з-за мяжы ў Менск. Гэткае падарожжа я параўноўваю з вандроўкай па велізарнай шахматнай дошцы, у якой чорныя квадраты — гэта небяспека, і чалавек вымушаны перайсці з аднаго боку шахматнай дошкі на другі па белых клетках; пры тым дакладна невядома, дзе чорныя квадраты, а дзе белыя, бо яны ўвесь час змяняюцца.

Існавала яшчэ адна небяспека. Жыхары прыгранічча (сяляне) добра ведалі, што па дарогах, сцежках, палях, лугах і лясах часта праходзяць партыі кантрабандыстаў, таму збіраліся па некалькі, з агнястрэльнай зброяй або косамі і сякерамі, і, карыстаючыся выдатным веданнем мясцовасці, рабілі засады, каб рабаваць тых кантрабандыстаў… Ладзілі паляванні на людзей і часта добра на тым нажываліся. Нават аддавалі перавагу такому спосабу рабаўніцтва, чым самім «чэсна» займацца кантрабандай. За яе, кантрабанду, у Саветах вельмі сурова каралі.

Шматкроць здаралася, што такая кампанія «паляўнічых» лавіла партыю кантрабандыстаў, у якой крочыў за мяжу агент або некалькі савецкіх агентаў. Сяляне адбіралі ў схопленых «шмугляроў»* тавар і адпускалі іх. Тады агенты-выведнікі звярталіся ў ЧК. ЧК з уласцівай ёй энергіяй бралася за справу. А паколькі няма нічога лягчэйшага, чым выкрыццё злачынства, зробленага сялянамі, вінаватых хутка знаходзілі, прыпячатвалі ім бандытызм і «пускалі ў расход». Таму сяляне пасля некалькіх такіх выпадкаў кінулі гэты занятак, а тыя, што і надалей займаліся сабе ім, сталі дзейнічаць больш абачліва. Часта, каб знішчыць за сабою ўсякія сляды і мець абсалютную ўпэўненасць, што справа не выкрыецца, забівалі абрабаваных кантрабандыстаў, а трупы прыхоўвалі.

Вечарэла. Сонца хілілася да зямлі. Забава быў ужо паблізу мяжы. У адным месцы выйшаў з-за густога алешніку, што закрываў паварот дарогі, убачыў за сотню крокаў ад сябе будынак пры дарозе. Гэта была карчма, у якой несумненна знаходзіўся *заградатрад*. Вакол будынка мітусіліся чырвонаармейцы. Некалькі асядланых коней стаяла паблізу ганка.

Забава ўсвядоміў небяспеку, але падацца назад, каб схавацца, не мог, бо зразумеў, што яго ўжо бачаць. Уцякаць таксама не мог, паколькі найбліжэйшы

---

* Кантрабандыстаў (заўв. рэд.)

лес быў уласна за карчмой, на адлегласці больш кіламетра, а вакол цягнуліся голыя палі.

Пайшоў наперад. Памацаў у кішэні наган, а пакет з дакументамі і газетамі запхаў на грудзі пад кашулю. «У выпадку чаго пакраплю іх свінцовым кадзілам… ды ў лес», — думаў Забава, рашуча прастуючы насустрач невядомасці.

Гэта быў план, які яму падказаў мозг, а дакладней кажучы, інтуіцыя. Любыя іншыя дзеянні ў дадзенай сітуацыі былі пройгрышнымі. Гэты ж мог атрымацца… Перад карчмой мітусілася некалькіх чырвонаармейцаў; адны ўваходзілі, другія выходзілі. Пры выпадку Забава мог вельмі хутка, амаль імгненна расстраляць некалькіх з іх і, перш чым іншыя апамятаюцца, сігануць у лес. Бегаў ён шпарка, таму калі б у яго не пацэлілі з першага стрэлу, даімчаў бы да лесу, які ўжо ахутвалі вячэрнія прыцемкі. У лесе ж ён быў бы сам сабе гаспадар.

Крочыў ужо паблізу карчмы. Ішоў сярэдзінай дарогі, штосьці насвістваючы. Чырвонаармейцы глядзелі на яго. Забава, замест таго, каб абмінуць карчму, падышоў да ганка, дзе на лаўцы стаяла вядро вады і бляшанка ад кансерваў, якая замяняла кубак.

— Добры вечар! — сказаў, набіраючы ваду з вядра.

Зацікаўленасць чырвонаармейцаў ягонай асобай адразу знікла, і Забава, напіўшыся вады, пайшоў сваёй дарогай, ні пра што не пытаны. Было яму весела. Далонь моцна і ўпэўнена сціскала шурпатую рукаятку нагана. Пачуваўся валадаром жыцця і смерці. Нешто цёплае казытала яго ў грудзях і горле — як тады, калі бачыў цудоўную ўсмешку на твары спадарыні Ядвігі.

Датупаў да лесу. Пераскочыў канаву і ўвайшоў паміж высокімі хвоямі. Лёг на мяккім імху і запаліў цыгарэту… Неўзабаве зноў выйшаў з лесу і спыніўся пры дарозе. Перад ім рассцілася велізарная паляна, аточаная густым борам. Перасякала яе дарога, знікаючы за цёмнай сцяной лесу, які з малымі перапынкамі цягнуўся ажно да мяжы. Забаве было душна. Парыла, паветра было нібы насычанае электрычнасцю. Насамрэч дзеялася штосьці незвычайнае. Нерушная цішыня панавала вакол. Толькі птушкі, трывожна шчабечучы, кружлялі над самай зямлёй, але раптам і яны зніклі.

З захаду падыходзіла навальніца. Верхам гнала перад сабою статак парваных ветрам аблокаў… Усё замерла. Удалечыні, нізка над дрэвамі, паказалася чарада чорных хмараў. Паўзла павольна… цёмная, змрочная, жудасная… Раптам спынілася адразу над лесам. Збілася цясней, нібы збіраючы сілы да нападу, і… праз імгненне цяжка абрынулася на лес, як туша велізарнага звера на лугавую траву… Лес нібы вохнуў і задрыжаў… Нібы заслонай наваліўся змрок… Стрэлілі маланкі, белымі, блакітнымі і залатымі ніткамі працінаючы цемру… Цяжка ўздыхнулі перуны і з трэскам разарвалі паветра на тысячы шматкоў… Рыкнулі нізка, цяжка, глуха…

Бура шалела. А праз буру, лівень, віхуру няспынна цягнуўся наперад чалавек. У руцэ меў наган, у кожны момант гатовы страляць.

«Каб толькі не збіцца з дарогі», — трывожна думаў Забава.

Праз гадзіну бура мінула. Дождж сцішэў, а потым і зусім перастаў. Толькі па-ранейшаму валадарыла ноч. Ноч цёмная, непраглядная, ноч гэткая чорная, што, здавалася, можна па ёй, як па сажы, маляваць пальцам. Уласнай далані перад вачыма не было відаць. І чалавек у ёй быў быццам акунуты ў дзёгаць.

Ідучы па невядомай дарозе наперад, Забава часам напорваўся на дрэвы, некаторы час кружляў, мацаючы нагамі зямлю, зноў выходзіў на дарогу і цягнуўся… у цемру і невядомую далеч.

Дарога ішла і ішла, цягнулася і цягнулася. У адным месцы натыкнуўся на нейкі слуп. Абмацаў яго рукой. Быў чатырохкутны; стаяў на невялікім капцы. Зрабіў некалькі крокаў далей і зноўку ўспёрся на слуп… Тады яшчэ не ведаў, што гэта была мяжа з пагранічнымі слупамі. Сеў на капцы. Вельмі хацелася папаліць. З цяжкасцю здолеў запаліць цыгарэту, бо запалкі адмоклі…

Выпаліў цыгарэту і рушыў далей. Ступакі гразлі ў балоце. З намаганнямі пасоўваўся наперад. Ішоў яшчэ амаль з гадзіну, зусім ужо згубіў бадзёрасць і ахвоту ісці, што звычайна здараецца, калі чалавек не мае пэўнасці, што правільна ідзе. Вось пайшла высокая трава, стаў спатыкацца на нейкіх камянях. Нешта высокае перагарадзіла яму дарогу. Абмацаў далонямі перашкоду. Гэта быў вялікі, жалезны крыж. «Могілкі — падумаў Забава. — А дзе ёсць месца памерлых, там паблізу будзе места і жывых. Ці не Койданава гэта?»

Праваруч бліснула святло. Забава зрабіў у тым кірунку некалькі крокаў і ўбачыў яшчэ плямы святла… Яго раптам ахапілі два процілеглыя пачуцці: пачуццё радасці, што знаходзіцца між людзей, і страху, што мог заблудзіцца і зайсці далёка ўглыб савецкай тэрыторыі… Крочыў нейкай вуліцай. Паміж ім і святлом, што падала з акна нябачнай у цемры хаты, прасунулася нейкая постаць.

— Якая гэта вёска? — паспешліва спытаў па-расейску Забава.

Перапалоханая жанчына адсунулася ўбок.

— Гэта не вёска… гэта Ракаў… — даляцелі да ягоных вушэй кінутыя з цемры словы.

— Ракаў!.. — паўтарыў ашчасліўлены Забава і паклаў у кішэню наган, з якога сцякала вада.

Неўзабаве быў на Букраўцы. Знайшоў менскае прадстаўніцтва пэўнай службы. Сустрэў яго ўзводны, які добра насёрбаўся.

— Ну, што? Як там, пане, таго?…

— Выдатна.

— Я пану казаў… А, можа, таго? — зрабіў даланёй красамоўны, інтэрнацыянальны жэст, якім выказваецца прапанова выпіць чагосьці моцнага.

Неўзабаве Забава ляжаў у нядбайна збітым з габляваных дошак ложку. Быў накрыты некалькімі бруднымі і падранымі коўдрамі. Побач на стале гарэла лямпа, пры святле якой некалькі жаўнераў гуляла ў карты. Раз-пораз на стале з’яўлялася бутэлька гарэлкі. Калі яна пусцела, адзін з жаўнераў браў бутэльку за рыльца і што ёсць сілы шпурляў пад ложак аб сцяну, так што разляталася ў друз. Пры гэтым важна казаў:

— У яблычка!

Забаве было весела. Выпітая гарэлка агнём разлілася па целе. Вочы салодка клеіліся… Перад імі праплывалі розныя вобразы «адтуль»: пан Юзаф, ягоная дачка, пасажыры ў вагоне… У вушах гучала песенька: «*Браў цябе я босай, голай, безвалосай...*» і тут:

— У яблычка!

Забава заснуў і душой апынуўся ў «чацвёртым вымярэнні». Меў трывожны сон… Як душу страхотлівыя сны, гэтаксама ягонае цела, фізічную істоту апанавалі трывіяльныя вошы. Гэтыя істоты маюць у сабе нешта агульнае з людзьмі: цікавіць іх усё новае… Ці гэта адзежына, ці бялізна, ці плоць — іхная ежа. І Забава быў для іх менавіта такой навінкай…

— У яблычка!

* * *

Калі Забава паліў цыгарэты, седзячы ў начной цемры на капцы пад межавым слупам, у сутарэннях Чрэзвычайкі ў Менску капітан Антасевіч, абвінавачаны ў шпіянажы на карысць чорт ведама якой дзяржавы, другі тыдзень рабіў падкоп, хочучы выбрацца на волю. Працаваў вобмацкам, дзюбаў іржавым цвіком, выграбаў кавалкам жалезнага абруча і рыў уласнымі пазногцямі. Праца пасоўвалася наперад вельмі павольна, але працаваў упарта, з цяжкасцю адужваючы сантыметар глебы за сантыметрам.

Час ад часу рабіў перапынкі, прыслухоўваўся да крокаў жаўнераў-вартаўнікоў у калідоры. Вакол панавала непраглядная цемра.

* * *

## ДЗЁННІК РАМАНА ЗАБАВЫ

***Вільня, 14 жніўня 1922 г.***

Маёй працай усе задаволены, і гэта мяне вельмі цешыць. Заўсёды любіў выконваць даручаныя справы добра, нягледзячы якія яны: легальныя ці нелегальныя. Пра чалавечыя вартасці мяркую не паводле агульнапрынятых этычных правіл, а найперш на падставе таго, ці трымае той ці іншы чалавек слова, ці не. Калі так, вер ва ўсім, не… будзь уважлівым! Некалі я жыў на Каўказе, і заўважыў, што чэркесы, грузіны, чэчэнцы і іншыя горцы вельмі шануюць цвёрдае слова. Гэта ў іх прыроджанае. А ў нас калі нехта прызначае сустрэчу, напрыклад, на заўтра а восьмай вечара, то пытае: «Ты прыйдзеш?» «Ну, зразумела» — адказвае той. Пасля дадае: «Але ты абавязкова прыйдзі!» «Добра, — кажа сябар, — я прыйду». І гутараць сабе далей. Адзін зноў нагадвае: «Дык ты не забудзься прыйсці заўтра а восьмай!» «Не, я не забудуся». І так працягваецца, нібы ў зачараваным коле. Чаму ў нас, славян, так? Можа таму, што досвед наш паказаў, як цяжка верыць словам нашых блізкіх. Дзесяць разоў хтосьці нешта паабяцае і... забудзецца. З каўказскім горцам шматкратнае нагадванне пра дамоўленасць лішняе. Могуць нават пакрыўдзіцца.

Я намерваўся рапартаваць пра поўны бардак на мяжы адносна дапамогі агентам, помнячы пра сваё начное блуканне, але не хацелася гэтага рабіць, каб на мяне хтосьці меў зуб. Наважваюся ў будучым сам сябе забяспечваць інфармацыяй, не спадзявацца на чужы спрыт. Хіба не камічна: ракаўскі шавец даў мне лепшую наводку, чым людзі, для якіх гэта было абавязкам. Калі б не яго інфармацыя пра дарогу ў Менск, я мог бы зайсці невядома куды.

Атрымаў штабныя нямецкія карты свайго адрэзка мяжы і ўважна праштудзіраваў іх, убіваючы сабе ў памяць кожную дэталь дарогі, аналізуючы прычыны папярэдняга блукання.

Сёння прадаў выламаныя з бранзалета дыяменты. Атрымаў за іх 270 даляраў. Дыяменты напраўду былі «чыстай вады» і сапраўды пацягнулі больш за 3 караты. Замовіў дарагія і зручныя боты, якія сядзяць на нагах быццам улітыя. Гэта для мяне важная рэч — з ног я жыву… як воўк. Купіў выдатны рэвальвер-парабелум, да яго 6 запасных магазінаў і 100 патронаў. Вельмі люблю рэвальверы гэтай сістэмы. Пры беражлівым карыстанні яны надзейная зброя. А як зручна кладзецца ў далонь і з якой хуткасцю можна страляць і перазараджаць абоймы! Цудоўны «капыт». Дакладней: не капыт, а жаночая ножка. Апрача таго, купіў добры компас фірмы Бэзард. Вельмі зручны. Мае далікатную фасфарыстычную стрэлку і выразныя дзяленні. У дарозе яго можна павесіць на грудзі і мець вольнымі рукі.

Сёння быў я ў Кароля Фарбы (мужа Ядвігі Двалінскай) і аддаў яму ліст ад жонкі. Спадарыня Ядвіга дала мне ліст незаклееным. «Хай пан прачытае», — сказала мне. Я прачытаў. Хтосьці здзівіцца, што можна чытаць чужыя лісты, але тут іншая рэч: на выпадак правалу мне трэба ведаць, што я маю пры сабе.

Фарба толькі похапкам прабег вачамі ліст, напісаны добра вядомым яму почыркам.

***Менск, 9 жніўня 1922 г.***

*Каханы Каролю!*

*Чаму так даўно ты не пішаш? Знаёмыя часта атрымліваюць лісты з Польшчы праз Рэпатрыяцыйную Камісію і праз рээмігрантаў, а ты нічога не пісаў. Становішча наша вельмі цяжкае. Тата ледзь-ледзь сабе на кавалак хлеба зарабляе, а тут яшчэ я з Андзяй... Андзя мае ўжо 5 годзікаў, а выглядае на 3. Гэта таму, што дрэнна харчуецца. Не хапае нам самых неабходных рэчаў, не кажу ўжо пра хлеб. Ты, можа, гэтага не разумееш? Дапамагаюць нам трохі матуліны сваякі з вёскі.*

*Як найхутчэй паклапаціся пра наш выезд у Польшчу. Гэтулькі знаёмых ужо выехала, а мы ўсё чакаем.*

*Дзякуй за фотаздымак. Пішы, што ты надумаеш? Прывітанне ад таты, матулі і Андзі. Моцна цалую Цябе.*

*Ядзя.*

— Як яна выглядае? — спытаў мяне Кароль.

Гэта пытанне не пра здароўе, а толькі пра выгляд жонкі, нагадала мне словы пана Юзафа: «...проста пра сваю ўласнасць нагадвае… Як пра карову або казу». Таму я адказаў:

— Выдатна! Цудоўна! Упершыню ў жыцці бачыў такую красуню! Калі прыедзе ў Вільню і добра апранецца, дык усіх вільнянак зацьміць прыгажосцю…

Задаволеная ўсмешка загуляла на ягоных вуснах:

— А я… цешуся… радуюся… — муркатаў, ледзь не аблізваючыся.

Ні здароўем дачкі і іх матэрыяльным становішчам не пацікавіўся. «Добры з цябе гусак!» — падумаў я. Кароль пажадаў абавязкова пайсці са мной у рэстаран — пачаставаць за паслугу. Я адгаварыўся. Настойваў. Я сказаў: «Ужо і так пад градусам, а калі яшчэ дадам, дык магу каму-небудзь гарбуз бутэлькай раскроіць!» Усё ж на развітанне я паабяцаў яму перад ходкай за мяжу зайсці па ліст.

Дзіўная рэч: як некалькі трапных слоў могуць вычарпальна ахарактарызаваць чалавека. Гэта пра Юзафавы словы. Здавалася мне, што Фарба хвосцікам менціць. Нагадваў мне выпешчанага хатняга сабачку… Упэўненага ў доме, пры гаспадары, але хай толькі апынецца адзін па-за сценамі, хай пачуе паблізу ваўка, задрыжыць, запішчыць, хвост падтуліць: ратуйце!

Шкада спадарыні Ядвігі!.. А можа менавіта гэта ёй патрэбна?

***Баранавічы, 17 жніўня 1922 г.***

Я спыніўся не ў гатэлі, як звычайна гэта рабіў, а ва Уладка Каліса. Гэта мой сябар. Запрасіў мяне да сябе. Не ведаю, ці доўга ў яго буду жыць, бо не люблю быць звязаны. Але што нам будзе разам весела, гэта факт. А калі што не па мне, дык рэчы ў шкарпэтку, пашпарт, на фурманку — і зноў у гатэль.

Увечары прыйшоў Палкоўнік. Уласна кажучы, ён аніякі не палкоўнік, быў некалі капітанам у царскім войску. Капітанам, зрэшты, таксама стаў выпадкова, бо ледзь скончыў у 1915 г. скарочаны курс афіцэрскай школы, а капітана атрымаў за заслугі на фронце. Потым у адным з «белых» войскаў, што ваявала супраць чырвоных, быў ці то палкоўнікам, ці толькі выконваў абавязкі палкоўніка. З гэтай прычыны мы яго так і звалі.

Чалавек гэта вельмі цікавы, добры, зычлівы, толькі страшэнны антысеміт і п'янтос, якіх мала ў жыцці, хоць закладальшчыкаў за гальштук бачыў шмат.

Людзі — як кнігі: адна хараша пераплеценая, на добрай паперы, а пустая... Чалавек таксама быццам і прыгожа апрануты, і з добрымі манерамі, але з такой пацярухай у лабаціне, што ніводнай самастойнай думкі. Іншая кніга марная, старая, мятая, без вокладак, а праменіцца, нібы сонца, толькі што не кожны гэта разумее і бачыць… Кожная такая новая кніга — новае жыццё, арыгінальныя думкі, учынкі, пачуцці. Кожны новы чалавек, калі цікавы, дык быццам тая кніга, кніга рэальнага жыцця, запісаная на твары, вачах, рухах, гаворцы, нават маўленні.

Здаецца мне, што чалавека цяжэй спазнаць, чым увесь народ. Можа яно і памылкова, але ў гэтую хвіліну я менавіта так думаю, і дагэтуль не маю цвёрдага меркавання пра шмат якія рэчы і паняцці… Народ — гэта супольнасць, што месціцца ў пэўных вызначаных межах, у рамках тых традыцый, у якіх утвараецца культурна, і які праяўляецца пры пэўных умовах і пры пэўных акалічнасцях. Лягчэй вызначыць псіхіку англічан, чым асобнага англічаніна.

Палкоўнік бываў часам надзіва неглыбокі, недалёкі, занадта будзённы, амаль агідны, то зноўку выказваў такія прыгожыя думкі, што я шчыра дзівіўся. Рабіў ён усё гэта з блазенскім смехам. На сур'ёзную размову яго было не выцягнуць. Было відавочна, што ў пустэчы бессэнсоўнага жыцця хацеў утапіць нейкі вялікі, надзвычай вялікі боль… Калі выпіваў, дык ягоным апаведам і жартам не было канца. У ягоных апавяданнях і анекдотах фігуравалі пераважна габрэі. Калі з гэтай прычыны я спытаў яго, чаму ён гэтак любіць біблейскі народ, адказаў мне так:

— Наіўны ты. Чаму можна смяяцца з армяніна, цыгана, немца і кожнага іншага чалавека, але, барані Бог, не з габрэя? Во, талдычаць: антысемітызм, юдафобства... Чаму не смяяцца з іх, калі яны смешныя са сваёй богаабранасцю, шавінізмам, неталерантнасцю? Я для іх гой і акум* — я ведаю, што ў вачах габрэя найапошні недалужны аднапляменнік у тысячу разоў лепшы ад самага лепшага гоя. У нас такога няма. Габрэі самі адасабляюцца, замыкаюцца ў старых, дзівачных формах жыцця і яшчэ дзівяцца, што смешныя… Крылоў сказаў: «Смяяцца зусім не грэшна, калі нам што смешна».

— Пакінь ты габрэяў у спакоі, лепш вып'ем, — сказаў я. — Мы таксама з габрэяў паходзім, ад Іяфета.

І без лішніх слоў я кульнуў сваю немалую чарку.

— Якое марнатраўства! — раптам выкрыкнуў былы белагвардзеец. — Такім агідным спосабам марнаваць чароўны нектар можа толькі варвар. Хіба ты не ведаеш, вар'яцкі чалавек, што гарэлачка далікатная, як дзяўчына пасля трыццаці? Яна любіць, каб з ёй разумна абыходзіліся, а не такой дозай і так па-хамску: цап-хап і ў рот клац… Тэк-с, панове…

Мы зноў выпілі.

---

* Акум — чужы, варожы, паганец (заўвага аўтара).

— Палкоўнік, а ці ты ведаеш, што такое падводная вайна? — я спытаў яго. — Як камандзір, ты павінен ведаць.

— Чаму не? — адказаў. — Ведаю. Я ж, да д'ябла, сын Марса. Пяць гадоў на фронце… адзінаццаць ранаў…

— Дык што ж гэта за звер?

— Ну, вайна на моры… Пад вадой…

— Хопіць, далей не тлумач… У бальшавікоў гэта зусім нешта іншае — перапыніў я яго. — У іх «падводная вайна» вядзецца ў лясах, на палях і стэпах… Наогул на сушы… Садзяць салдат карнага атрада на п-а-а-д-в-о-о-д-ы і едуць ваяваць з дэзерцірамі, партызанамі, паўстанцамі і іншымі «контррэвалюцыйнымі элементамі», якіх абагульняюць калярова: «белыя або зялёныя бандыты».

— Цьфу, д'ябал. А ці вадзяра ў іх ёсць?

— Афіцыйна — не. Толькі самагонка, выпадковая, або паскуднае віно «дзеля лекавых мэтаў». А яно прадаецца па завоблачных коштах.

— Пагінуць яны, як рудыя мышы. І краіна адбрыкнецца. Ні за што. Бо калі чалавек алкаголем не дэзінфікуецца, дык можа падхапіць якую хочаш заразу… Супрацiўляльнасць знікае. Тэк-с.

Піў ён гарэлку маленькімі кілішкамі, але запар і часта. Я і Уладак пілі паўшклянкамі. Час праводзілі пераважна за выпіўкай. У Баранавічах не было дзе па-сур'ёзнаму развеяцца. Сумнае места, сумныя наваколлі, адзін кіназалік, тэатра зусім няма. Часам збіралася нас больш, тады выпіўка чаргавалася вясёлай гутаркай, у якой Палкоўнік вёў рэй. Ягоным анекдотам канца не было; з тых, што можна пераказаць, прывяду два:

— …Схапілі жандары ў лесе трох габрэяў, дэзерціраў. Два прызыўнога веку, — апавядае Палкоўнік, — а трэцяму за шэсцьдзесят. Жандары яго пытаюць: «А ты чаго ад войска ўхіляешся? Ты ж стары». А габрэй кажа: «А хіба я ведаю. А можа мяне хочуць генералам зрабіць?» Другі: аднойчы ўвечары на паліцэйскі пост уляцеў спалоханы габрэй. Без капелюша, адзежа расхрыстаная. «Ай-вай, — крычыць, — пан начальнік, вялікае забойства». — «Што, дзе?» — «На шашы двое забітых». — «Хто такія?» — пытае дзяжурны. — «Адзін я, — кажа габрэй, — а другі зараз прыйдзе».

Калі Палкоўнік напампоўваўся, тады браў гітару і спяваў куплеты, з вялікім майстэрствам імітуючы жэсты і гаворку габрэяў. Так весяліў кампанію.

Дзіўлюся, адкуль Палкоўнік мае гэтулькі запалу і весялосці, бо жыццё яго і становішча вельмі сумныя. Пасля рэвалюцыі страціў у Расеі ўсю сям'ю і, колісь заможны, стаў валацугам. Жылося яму кепска. Для ілюстрацыі прывяду такі факт. Не быўшы набожным, уступіў у секту баптыстаў, каб атрымаць новую вопратку, паліто і чаравікі, бо свае знасіліся. Пра гэта распавёў мне Уладак. Не меў ён анічога наперадзе, а за плячыма — адна чорная горыч. Засталася яму адзіная суцяшальніца засмучаных — гарэліца. Галодны быў, а піў. Прапіваў кожны здабыты выпадковай працай грош.

Мне шчасціць на п'яніц — любяць мяне і я іх люблю. Нераз глыбока задумваўся, чаму сярод п'яніц гэтак шмат добрых людзей: таварыскіх, зычлівых, шчырых, чулых на чужую бяду. Кажу такое пра п'яніц у вялікім маштабе, пра гэткіх расейскіх горкіх п'яніц. Можа яно таму, што каб стаць такім п'яніцам, чалавек павінен мець нейкія цяжэзныя перажыванні і збалелую душу. Гэта робіць яго спачувальным і адкрытым для іншых. Пераканаўся, што чалавек, які сам не бываў галодны, не зразумее галоднага. Які не цярпеў цяжкіх пакут і няшчасця, не зразумее бяды іншага. Разуменне чужой нядолі ў людзей шчаслівых бывае зазвычай штучным, хоць сам у гэта свята верыць. Найлепш зразумее злодзей злодзея,

вулічная дзеўка — прастытутку, а чалавека няшчаснага — чалавек сам няшчасны.

Мы сядзелі ўтрох: Палкоўнік, Уладак і я. У мяне былі падрыхтаваны два камплекты фальшывых савецкіх дакументаў. Адзін цывільны і адзін вайсковы: пасведчанне асобы і адпускны білет. На адпаведных бланках… Калі мы выпілі, я выняў з партаманета дакументы. Уладак, які меў прыгожы почырк, запоўніў іх паводле маіх указанняў.

— Ну, Палкоўнік, — сказаў я, — падмахні, як камісар, чырвоным чарнілам…

— Давай.

З вялікай сур'ёзнасцю падпісаў дакументы ўласным, добра вядомым у Саветах, прозвішчам контррэвалюцыянера. Пасля распісаўся, як сакратар, таксама сваім прозвішчам. Уладак падпісаў дакументы хімічным алоўкам (савецкая мода).

— Клёва — сказаў Палкоўнік, разглядаючы бланкі. — Як Расея вялікая і шырокая… вузкая, тонкая і глыбокая… худая, дурная і высокая, такіх «жалезных» дакументаў не знойдзецца… Абмыем на шчасце…

Мы пілі далей, на развітанне, бо сёння ўвечары я павінен быў выйсці ў дарогу. Спявалі «Інтэрнацыянал», перакручаны з адпаведнай расейцам злой вастрынёй:

*Паўстань, пракляты люд зямлі!*
*Саветы сёння правялі*
*З адным катлом на ўсіх іспыт,*
*А ў тым катле — адзін капыт…*

Уладак дзеля жарту праспяваў іншую, ужо тутэйшую пераробку таго ж «Інтэрнацыянала», мякчэйшую, але не меней дасціпную:

*Уставай, паедзем па салому,*
*Валы галодныя стаяць.*
*Снядання нам не дачакацца,*
*Сырыя дровы не гараць.*

Развіталіся мы позна ўвечары. Палкоўнік і Уладак расчуліліся. Уладак, п'яны, сціскаў мне далонь і ўсё крычаў штосьці бессэнсоўнае. Палкоўнік роў:

— Раманік, памятай, халера: усё, што на дарозе — вораг. Ну, давай напрыканцы… нашу, партызанскую… Згадаем даўніну…

*Збіраемся, браты, рыхтуем зброю,*
*Шыхтуемся да бою на зары,*
*І там, дзе камісары пад гарою,*
*Мы сцяг зялёны ўздымем на гары…*

Палкоўнік правёў мяне на вуліцу.

— Ромку! — крычаў стары ваяка. — Памятай. Яны не пашкадуюць. У іх сэрцаў няма… І-дэ-я-лі-сты-ы… Толькі моцнага баяцца… слабога задушаць… За ідэю маці роднай вантробы павыпорваюць… І ты не шкадуй… Глядзі…

Голас у яго, ускудлачанага, узбуджанага гарэлкай, быў нізкі, глухі і магутны, як іерыхонская труба.

***Вёска Воўкаўшчына, 21 жніўня 1922 г.***

Я ў Воўкаўшчыне. Спыніўся ў сям'і Каліноўскіх. Гэта згалелая да ўзроўню сялян шляхта, але жывуць на троху шырэйшую нагу, чым звычайныя сяляне. Прывёз для іх ліст ад стрыечнага брата з Вільні, майго сябра. Прынялі мяне добразычліва. Адпачываю тут душой і целам. Цішыня, спакой.

Выехаўшы з Баранавіч, адведаў у Лідзе свайго даўняга сябра, Яна Сноўскага, чыгуначнага электратэхніка. Быў і ў яго брата Уладка. Правёў час у іх весела і паабяцаў прыехаць наступным разам на даўжэй. Паеду абавязкова, калі пашчасціць вярнуцца «адтуль». З Ліды падаўся ў Вільню, адмыслова з той мэтай, каб атрымаць ліст для спадарыні Ядвігі ад Кароля Фарбы. Сустрэў мяне з манерным захапленнем. Замітусіўся па пакоі.

— Можа, папяроску, гарбаткі?

— Дзякуй. Наеты, а папяроскі куру свае, — адказаў яму.

З прыкрасцю зірнуў на мяне. У яго ўсё такое далікатнае, акругленае, прылізанае: папяроскі, гарбатка…

— Што пан раіць купіць для Ядзюні?

— Хлеба, сала, цукру, мяса…

— Як гэта?

— А вось так. Калі вернецца, дык патрэбна будзе з дзіцем, пасля галодных гадоў, добра ад'есціся.

Даў мне пакет, дзе былі крамніна на сукенку, дзве кофты і яшчэ штосьці. Адначасова паднёс мне заклееня ліст… Развітваючыся і выходзячы, я пакінуў ліст на стале…

— А лісточак, дабрадзею?

— Які лісточак?

— Ядзюні…

Прынёс мне ліст.

— Укінь, пан, сам у паштовую скрынку, — адказаў яму. — Я заклееных лістоў не бяру.

— Вінаваты! Думаў…

— Усе думаюць, нават каровы. Я не пошта. Перадаю лісты з ветлівасці і з-за спагады, таму хачу ведаць, што пішацца ў лісце… Маю на тое падставы. Не давярае мне пан — можна не пісаць.

— Але ж, даражэнькі, я не лічыў…

Пахапліва ўклаў ліст у іншы канверт… Упэўнены, што гэты чалавек уначы ў рэчку не палез бы ні за што. Што яму ахвяраваць сваёй асобай дзеля там некага. Але гэта… карысная адзінка грамадства.

У Воўкаўшчыну прыехаў учора ўвечары. Тры браты Каліноўскія: Юзаф, Бранiслаў, Адам і іх бацька, бадзёры яшчэ дзядок, з вялікай павагай слухаюць усё, што кажу, і назіраюць за мной з вялікім захапленнем і цікавасцю. Людзям не надта каб культурным вельмі імпануюць людзі добра апранутыя, упэўненыя ў сабе, а калі яшчэ і маюць нейкую ўладу або сувязь з уладай, то ўжо і пагатоў. Увесь час кормяць мяне смажанай на сале яечняй… На сняданак яечня, на полудзень яечня, на вячэру яечня, заўжды адна яечня. Збрыдла мне страшэнна.

Сёння ўвечары пайду ў Ракаў, і — за мяжу.

Папрасіў цёплай вады. Жонка Юзафа прынесла ночвы (у такіх абставінах яны замяняюць мне ванну) і выліла туды саган гарачай вады. Напакутаваўся, перш чым зрабіў яе прыдатнай, каб мыць ногі. Старанна вымыў ступакі, выцер іх дасуха, зрэзаў пазногці, злёгку нацёр скуру вазелінам, нацягнуў тонкія шкарпэткі, а на іх другія, таўсцейшыя… Толькі тады абуў боты. Гэтак абуўшыся магу шмат дзён прабыць у дарозе і не нацерці ног.

На тварах братоў Каліноўскіх блукалі ўсмешкі. Дзівіў іх такі клопат пра ногі. Не ведаюць, што танцорку, вулічную дзеўку, паштара, газетчыка, пасланца і чалавека фарту кормяць ногі, таму трэба пра іх клапаціцца.

## II. «ПАРТЫЯ ЛІЗКІ»

*Не на пошук праўды, а хутчэй на шэсце за памылкамі скіроўвала чалавецтва свае самыя лепшыя сілы.*
Густаў Ле Бон*

### 1

Ноч была ціхая і парная. Лес стаяў чорны, задуменны. Забава ляжаў на зямлі, гледзячы ў чорнае неба, абсыпанае, як луг праскамі, мільёнамі зорак, якія нібы з хітрынкай пераліваліся, гуляючы вясёлкамі самацветаў.

Быў за мяжой і за «другой лініяй». Ляжаў на адхоністым беразе ракі, якая ўласна і звалася «другой лініяй» і якую нядаўна перайшоў. Праваруч, за ракой, у недалёкай вёсцы чырвонаармецы спявалі папулярную цяпер у Саветах, як калісьці «Волгу», песеньку:

*Над Донам гуляе*
*Над Донам гуляе*
*Над Донам гуляе казак ма-а-алады…*

Просценькія словы песенькі набіралі незвычайнай сілы. Мелодыя плыла ў паветры шчыльнай, моцнай хваляй — павольна, урачыста. Узрушвала незвычайна і, здавалася, спыняла ў грудзях дыханне.

*А дзеўка лье слёзы,*
*А дзеўка лье слёзы,*
*А дзеўка лье слёзы ля чыстай ва-а-ды.*

Жаліўся чысты высокі тэнар, кідаючы ў прастору трапяткую хвалю голасу:

*Пра што дзеўка плача,*
*Пра што дзеўка плача,*
*Пра што дзеўка плача над быстрай вадо-о-й?*

Сакавітым голасам, які браў за душу, пытаўся тэнар. А хор стройнымі, кінутымі пад самыя зоркі акордамі паўтараў пытанне:

*Пра што дзеўка плача?*

Тэнар адказваў шчырай скаргай, ад якой патыхала болем, сумам і слёзамі:

---

* Густаў Ле Бон (1841—1931), французскі псіхолаг, сацыёлаг, антраполаг і гісторык, адзін з заснавальнікаў сацыяльнай псіхалогіі. Аўтар аналітычных прац: «Псіхалогія народаў і натоўпу (мас)» (1895), «Псіхалогія сацыялізму» (1908).

Навуковыя здабыткі французскага псіхолага пакладзены ў аснову сучасных рэкламных і палітычных тэхналогій.

*Была, мой казача,*
*Была, мой казача,*
*Была, мой казача, і я малад-о-о-ой.*

Забава ляжаў усхваляваны, заслухаўшыся песняй. Забыўся, дзе ён і куды кіруецца…

Песня скончылася. Стала ціха і тужліва. Толькі ноч абыякава глядзела чорнымі вачыма… Забава думаў цяпер пра людзей, якія спявалі песеньку. Ведаў, што гэта «зялёнкі» — пагранічнікі, — ягоныя ворагі.

«Сярод іх могуць быць добрыя людзі, а вымушаны мяне даганяць, страляць па мне і па іншых, бо я — вораг, — думаў Забава. — А хто зрабіў нас ворагамі?.. Усюды бяссэнсіца. Прырода гэткая багатая, цудоўная, а мы — як сабакі. Грызёмся з-за аб’едкаў ці самі не ведаючы, з-за чаго».

Устаў, прыслухаўся і з рэвальверамі ў руках, з пальцамі на курках, штохвіліны гатовы да бою, павольна і бязгучна, як здань, рушыў наперад… Пасігаў праз камлі, пні, хмызняк, лаўжы, канавы, нізіны, ручаіны, рэчкі… Быў увесь засяроджаны зрокава, слыхам і нават нюхам, бо ўночы інстынкт самазахавання абвастрае пачуцці надзвычай. Ішоў, адчуваючы ў сабе моц тытана. Гатовы быў выклікаць на паядынак любую сілу. Ноч, маці бедакоў і злачынцаў, была яго магутным хаўруснікам.

Калі часам выходзіў на гасцінец, звычайна шукаў «верставых» слупоў. Слупы тыя былі шыкоўным помнікам старой улады. Цяперашнія нават мастоў не папраўляюць, толькі аб’язджаюць сапсаваныя. Кожны такі слуп здаваўся Забаве таямнічым, даверлівым сябрам, што дапамагаюць яму ў дарозе… Былі старыя, напаўзгнілыя. Фарба з іх аблупілася. Пахіліліся; некаторых не хапала… Былі нямымі сведкамі мяжы, прыгранічча і той, багатай незвычайнымі прыгодамі, дарогі. Мачыў іх дождж, сушыў вецер, паліла сонца, сціскаў мароз, але яны нястомна выконвалі свой абавязак — сур’ёзна, задуменна ўзіраліся ў мінулае. Кожны новы слуп на той дарозе быў ягоным новым хаўруснікам, які прамаўляў без слоў: «Вітаю, дружа… Я 31-ы. Будзь уважлівы: зараз мяжа»… «Прывітанне... Я 17-ы. Увага. «Загараджальны атрад»… «Салют, я 19-ы. Цяпер Старое Сяло… Сыдзі з дарогі».

У Менск Забава прыйшоў без ніякіх прыгод, калі пачыналася раніца. Бакавымі вуліцамі ўвайшоў у горад і падаўся да кватэры Двалінскіх.

Спадарыня Ядвіга адчыніла яму дзвяры.

— Ах, гэта пан, — прывітала яго гэтак радасна, што зноў адчуў у грудзях казытлівую, цёплую хвалю…

— Часта пра пана думала, нават сніла. Тата таксама пана ўспамінаў… Я думала, — працягвала далей — што гэта матуля вяртаецца. Два дні таму падалася да сваякоў у вёску па харчы...

— Дзе пан Юзаф?

— Як звычайна, на рынак пайшоў… Сёння кірмаш…

Папярэдне Забава заўважыў, што ў Менск ехала шмат фурманак. Падумаў: «Лепш за ўсё ўваходзіць у места кірмашовымі днямі».

Скінуў старую ватоўку, якую ўзяў у Воўкаўшчыне ў Каліноўскіх, і пачаў здымаць з сябе рэчы, якімі быў абвешаны. Былі гэта падарункі Кароля Фарбы для жонкі і дачкі. Пані Ядвіга была вельмі задаволена. Перасланыя ёй рэчы мелі тым большую каштоўнасць, што ў Саветах лепшай тканіны нельга было зусім купіць, а тыя дрэнныя тавары, якія надаралася набыць незаконна, каштавалі вельмі дорага.

Пасля гарбаты пані Ядвіга сказала Забаве:

— Хачу пагаварыць з панам пра адну справу, толькі… каб гэта не было для пана непрыемна…

— Калі ласка, кажыце. Менавіта гэта самае лепшае.

— Гаварыла з татам. Зразумела, гэта нас не тычыцца, але пан не… кантрабандыст?

— Дык што? Не разумею, у чым справа.

— Прабачце! Я гэта таму, каб пан не падумаў, што мы баімся. Не… Я нават хачу прапанаваць: калі пану спатрэбіцца хадзіць па горадзе, дык найлепш са мной, як з жонкай або нарачонай — не так звяртаюць увагу… Калі трэба, калі ласка. Я смелая. Наогул калі што трэба дапамагчы, дык калі ласка. Я маю нават нейкія знаёмствы…

Пані Ядвіга, трохі збянтэжаная, з лёгкай чырванню на шчоках так хораша выглядала, што Забава з непрыхаваным захапленнем глядзеў ёй у вочы. Заўважыла гэта і змоўкла.

Забава моцна сціснуў яе далонь.

— Шчырае дзякуй, пані, — адказаў. — Для пані без розніцы, хто я. Можаце толькі быць упэўнены, што аніякай непрыемнасці вам ад мяне не будзе. А што да спрыяння мне, пакуль што нічога не патрабую, а калі ўзнікне неабходнасць, так і скажу…

— Добра… Забылася пра галоўнае: тата купіў для пана вайсковы шынель, амаль новы, шапку, мужчынскі гарнітур і значок… Усё, пра што прасілі.

— Хапіла грошай?

— Яшчэ засталіся. Зараз пакажу адзежу.

Выняла з куфра рэчы. Забава быў задаволены. У гэтай форме, са значком на шапцы мог паўсюль выдаваць сябе, маючы добрыя дакументы, за тэлеграфіста. Меў у гэтай галіне пэўныя веды, бо скончыў калісьці скарочаны курс наглядчыкаў тэлеграфа і тэлефона, адзін час працаваў, і такім чынам арыентаваўся добра ў ролі, якую пакуль што абраў для сябе.

— Дзякуй, пані, за ўсё, — сказаў усцешаны.

— Калі ласка, я хацела б для вас зрабіць больш. Гэта было б для мяне вельмі прыемна… Няхай пан верыць, што я мужная…

Забава засмяяўся, а потым спытаў сур'ёзна:

— Няўжо пані ведае, што гэта так ужо небяспечна? Вы не арыентуецеся ў справе, а я не жадаю мець маральнай адказнасці…

— Але, калі ласка, пан, я была б шчаслівая, калі б магла нашкодзіць тым «мухаморам»… Жах, як не люблю іх, можа нават больш за тату не люблю іх.

— Няўжо пані мае каго знаёмага з асяроддзя чырвонай арыстакратыі?

— Ведаю асабіста каменданта места.

— Крывашэіна?… Адкуль яго пані ведае?

— Заляцаўся да мяне на балі. У тэатры была з ім… Заўсёды магу абнавіць знаёмства.

— Каго пані яшчэ ведае?

— Ведаю некалькіх чырвоных афіцэраў з 4-й дывізіі.

— Гэта не тое, што трэба. А ці ведае пані каго ў Чрэзвычайцы?

Ядвіга задумалася. Праз момант радасна адказала:

— Ёсць, ёсць, і гэта нават наш далёкі сваяк…

— Як ён глядзіць на сваю службу?

— Працуе добра і на добрым уліку ў іх, але не фанатык. Наадварот… незадаволены і лічыць сябе пакрыўджаным. Жадаў бы быць кімсьці большым, бо мае талент, але з'яўляецца звычайным агентам…

— Ці пані ў ім упэўненая?

— Абсалютнай упэўненасці няма, але можна яго павывучаць… Калісьці размаўляла з ім. Казаў, што ахвотна кінуў бы, як сказаў, сабачую службу і выехаў бы за мяжу. Быў узлаваны. Зазначу між іншым, што ён какаініст…

— Какаініст? Гэта добра — сказаў Забава. — Няхай пані пры нагодзе пагаворыць з ім. Можа, мне спатрэбіцца…

Доўга яшчэ яны сардэчна і весела гутарылі, як двое добрых сяброў. Пані Ядвізе прыйшлася да густу роля змоўшчыцы, а Забаве — новы паплечнік. «Якая розніца паміж ёй і Каролем, — думаў Забава. — Трапілася ж цюхцяюнышку такая малайцаватая жанчына».

Гаспадар Юзаф вярнуўся з рынка позна. Убачыўшы Забаву, вельмі ўзрадаваўся.

— Ушанаванне. Як здароўечка? Што новага? —голасна вітаў ён Забаву.

— У мяне ўсё добра. Што ў вас?

— О, у нас вялікая навіна. Паставілі помнік Карліку Марліку.

— Не разумею… камісар нейкі?

— Які тамака камісар! — засмяяўся спадар Юзаф. — Гэта мая Марыся (жонка Юзафа) так Карла Маркса назвала. Кажа: «Кудлаты такі… Карлік Марлік… як сабака». Бачыў і я помнічак: трох рублёў не варты… Нізенькі пастаменцік, як пад гаршчок для кветак, а на ім бюст — у музеях экспанаты злачынцаў уздоўж сцен лепшыя стаяць. А што крыку нарабілі! Цэлая ўрачыстасць… Аркестры, шэсці, прамовы… Гэта як бы дзецюкі вясковыя: удзесяцёх бутэльку гарэлкі вып’юць і крычаць, равуць, усю вёску будзяць. Або курыца: яйка знясе, а накудахчыцца, быццам слана выседзела.

* * *

Калі Забава ляжаў над «другой лініяй», слухаючы песні савецкіх пагранічнікаў, у Менску, у першым сутарэнні ЧК, капітан Антасевіч ляжаў збіты, сплываючы крывёй, на бруднай падлозе. Збілі яго жаўнеры і чэкісты, якія выкрылі зроблены ім падкоп. Ад гэтага часу ўсе ў Чрэзвычайцы звалі яго «Кратом».

Ляжаў, а ў галаве снавалі сумныя думкі; ляжаў галодны, спаняверані, змучаны, але гатовы да ўцёкаў зноў, калі б на тое заставаўся хоць бы самы мізэрны шанец на поспех… За дзвярамі чуліся крокі жаўнераў і да ягоных вушэй далятала песенька:

*Цар з царыцай у карты гулялі,*
*а германцы выйгравалі...*

* * *

Таксама ў той жа самы час дыверсійная група «Мухі» — Міхальскага, якая вырушыла з Цімкавіч, з Пагранічнага атрада, чакала сігналу да пераходу на тэрыторыю Польшчы.

Было іх трыццаць шэсць. Мелі з сабою, акрамя рэвальвераў, карабінаў і гранат, яшчэ два лёгкія кулямёты… Ляжалі на лузе, за ракітнікам паблізу рачулкі, па якой праходзіла мяжа… Ніхто не размаўляў. Цішыню вечара парушала ўдалечыні песенька жаўнераў польскай пагранічнай аховы:

*А атрад наш вышуковы на пляцу стаіць,*
*На пляцу стаіць, на пляцу стаіць…*
*Троцкі піша зноў прамовы —*
*Будзем яго біць… Сюпай-да!*

* * *

Быў позні вечар. Забава вярнуўся з места. Сядзеў з гаспадаром Юзафам і размаўляў пра «палітыку». Гаварыў пераважна Юзаф, які ўжо пацягнуў даволі вялікую порцыю польскага спірту, і граміў, як зазвычай, бальшавікоў. Карыстаўся рэдкім выпадкам, каб выказацца, маючы лаяльнага і цярплівага слухача.

— Я, паночку, універсітэтаў не канчаў, вялікіх розумаў не з'еў, але абдурыцца не дамся. Мяне на прыгожае слоўца ніхто не возьме. Я, проша пана, мяркую, што прагрэс складаецца ў тым, каб чалавеку як лепш жылося. Цяпер у Англіі прафесійны работнік жыве лепш, чым калісьці кароль… Вось гэта прагрэс.

— Так, шляхам эвалюцыі дайшлі да… — пачаў Забава.

— Менавіта — перапыніў яго Юзаф. — А як тое лепшае жыццё назавуць: манархізм, дэмакратызм, сацыялізм — усё роўна, бо сутнасць не ў словах і лозунгах, а ў самім жыцці. І калі хтосьці, мой паночку, учыніць які галадамор, зробіць усіх жабракамі, беднякамі, пазбаўленымі ўсялякіх правоў, і скажа, што гэта вольнасць, роўнасць і братэрства, я скажу яму: ты хлусіш, гэта турма, гэта могільнік… Крычаць: буржуазія, буржуазія. А ў чым буржуазія правінавацілася? Англія культурная?… Так… Чаму?… Бо любіць працу. Кожны англічанін — чалавек слова і ўчынку. Я там быў; ведаю іх. Бельгія, Францыя, Швецыя, Нарвегія, Швейцарыя гэтаксама. Галандыя ў мора зямлю адваёўвае. Данія з ветравейных пяскоў ураджайную глебу стварыла. Альбо найбліжшы сусед наш, Фінляндыя: на скалах жывуць, у суровым клімаце, а параўнайце іх культуру з нашай… Пацеха… У нас еўрапейскай культуры ніколі не было і не будзе, бо людзі тут — гной, а гной толькі на тое варты, каб зямлю ўгнойваць, на працу ж інтэлігентную розум патрэбен… Дарма марнуюць найбагацейшую краіну ў свеце, з голаду канаюць і пры гэтым зайздросцяць буржуйскай манішцы, а не ведаюць, набрыдзь, што той немец, калі трэба, па 16 гадзін працуе ды яшчэ як працуе…

Пан Юзаф напоўніў кілішкі. Выпілі.

— Або грамадзянская свабода, — працягваў Юзаф. — Камедыя, паночку. Англія — манархія, а там грамадзянін карыстаецца найбольшымі свабодамі. Расея — дзяржава сацыялістычная, камуністычная, а ў яе найменшыя грамадзянскія правы. Але дзе там «найменшыя». Проста ўлады ставяцца да грамадзяніна горш чым да быдла … Не-на-ві-дзяць… Бо так падманваць, эксплуатаваць і катаваць могуць толькі садысты, якія ненавідзяць… шалёна… да смерці…

Маўчалі… Было ціха…

— Едзь, пан, у Польшчу, — сказаў праз некалькі хвілін Забава.

— У Польшчу… А навошта? З якой прычыны? Я тут 25 гадоў прапрацаваў. Тут маё месца. Я чалавек працы. Працу я люблю. Сам за пяцярых працаваў. Але цяпер… не жадаю і не буду. Няхай і са мною маюць клопаты. Я спецыяліст, цясляр; працу і цяпер магу знайсці — спецыялісты патрэбныя. А я не жадаю… Вось і далей як перакупшчык буду спекуляваць, але за фунцік солі ў год і двух фунтаў гароху рук сабе ўрываць не жадаю… Абыдзецца. А здохну… не шкада, хто ў пекле жыве, анічога згубіць не баіцца… Мне б яшчэ толькі дачку з Андзяй у Польшчу перавесці; даволі тут савецкага райскага міндалю наеліся… А з кожным годам усё горш. Ужо 5 гадоў гэтак мучымся і канца не відаць. Блага, паночку, блага…

За акном гойсаў вецер. Спрабаваў задубелымі пальцамі адчыніць аканіцы… Не здолеў і заплакаў... Па даху барабаніў дождж…

— …Блага, паночку, блага… — гучаў у вушах Забавы голас пана Юзафа.

***Працяг будзе.***

***Уступнае слова і пераклад з польскай***
***Язэпа Янушкевіча.***



**Уладзіслаў СЫРАКОМЛЯ**
**(1823—1862)**

*Творчасць Уладзіслава Сыракомлі грунтоўна ўвайшла ў гісторыю нашай літаратуры, паступова займаючы ў ёй адпаведнае месца. Праўда, напачатку трэба было прыйсці да ўсведамлення Сыракомлевай далучанасці да таго літаратурнага працэсу, які прадбачыў перспектыву ўласнага культурнага развіцця і непазбежна выводзіў усё большую колькасць пісьменнікаў да беларускай формы самавыяўлення. Таму білінгвальная беларуска-польская сітуацыя была заканамернай з'явай у развіцці беларускага пісьменства і так ці інакш уплывала на пашырэнне творчасці мясцовага прызначэння. Лірыка, гавэнды, паэмы, а таксама нарысы і допісы Уладзіслава Сыракомлі зыходзілі з тутэйшай ментальнасці і на яе арыентаваліся. Аднак да гэтага часу вельмі значная колькасць твораў паэта на польскай мове застаецца па-за ўвагаю беларускага чытача. Не закранута, па сутнасці, рэлігійная паэзія Лірніка вясковага, абыдзены, так бы мовіць, ягоныя «выбрыкі добрага гумару», не перакладзены многія гавэнды і паэмы, узноўлены пакуль адзін драматычны твор. Перакладное пашырэнне паэтычнага набытку Сыракомлі несумненна будзе весці да новага ўзроўню асэнсавання ягонай лучнасці з творамі беларускай культурнай сітуацыі як у сярэдзіне XIX стагоддзя, так і ў XXI стагоддзі.*

## НАД НЁМНАМ

Нёман выплыў прыгожа,
Палавы, залацісты.
Паспрыяй яму, Божа —
Хай плыве ён, іскрысты.
Ды пудлівая постаць,
Бо ён просты, вядома.
Ах, зрабіць бы мне плоскасць,
На ёй ехаць рухома!
Правіць лодку без вёслаў
У дарогі якія,
Праплываць міма вёснаў,
Куды б знесла стыхія!
Паміж зменамі хвалі
Нам бы йсці ў падарожжа…

Хвалі б нас не схавалі,
То й паплаваць бы, можа.
І вада ў нас такая,
З ёй пабыць бы на моры —
Хваляй лодку хістае,
Нібы птушку ў прасторы.

*1844*

## ДА…

*Адказ на просьбу напісаць гавэнду…*

Мне выбачай сягоння думак ход звычайны,
Я не ствару гавэнды й абразкоў нанова,
Мой розум, як пустая глеба, неўраджайны,
Не нараджае буйных плёнаў шматразова.

Маё мысленне, як зямля ў трайным падзеле,
Спачатку жыта ўродзіць, бы дабра прыкмета,
А потым ледзьве ярына, валошкі й зелле,
Затым я думкі на папар ганю ўсё лета.

Пра цуды пладазмену вашага я знаю.
Ды хто папару скібу зараз пераверне?
Трымацца буду старасвецкага звычаю.

Бо, мудраваўшы аграноміяй высокай,
Я глебу не палепшу і змарную зерне
І з голаду памрэ пегас-баранаўлока.

*1849*

## У ІМЁННІКУ СТАНІСЛАВА МАНЮШКІ

Калі тваё ўбачу натхнёнае вока
І песню пачую натхнёна,
Тады ганаруся, Вышэйшасць, глыбока,
Што іскры ўвайшлі ў тваё лона;
І што пра Літву у нябёсах ёсць весці,
Што з гэтым пясняр у нас будзе,
За імем тваім дзеля нашае чэсці —
Твой гонар пяройдзе на людзі.

Не толькі тут веліч твая многа значыць,
Тут лёс усталёўвае планы.
Бог даў табе творчасць, агонь даў спявачы,
Пяеш ты — на тое прысланы.
Цябе шчыра любім і плёну ўсе зычым:
Літве прысвяціў ты натхненне

І стаў як Арфей з інструментам музычным,
Змякчаючы скалы, каменне.

Я ведаў, што ў песні тваёй столькі сілы,
Каб камні змякчыліся самі,
А вочы, якія бяздумна свяцілі,
Пакрыліся раптам слязамі.
Пры людзях сярмяжных спяваў я, натхёны,
Пры хаце ліцвінскай ці ў полі —
І споўняцца любасцю нашы салоны,
А сэрцы — пачуццямі волі.

Табе чэсць пяснярская — й гонар спявачы
Разносяць браты, нібы цудам.
І хто раз пры песні народнай заплача —
Спыніце насмешкі над людам!
Ліцвіны саступяць пяснярскай увазе,
Са шчырасцю сыдуцца блізка.
Ці ў золаце будзе Ліцвін, ці ў сярмязе, —
У братніх абдымуцца ўцісках.

*1849*

## ДА ФЛЕЙТЫ

Мая дана, ой дана!
Мая флейта драўляна!
Спачываць лепш не дома, —
Бо ці ў полі, ці ў лесе
Песня наша знаёма
Узляціць ў паднябессе,
Узляціць па-над стрэхі
Ды абудзяцца рэхі —
Наша ж рэха разбудзіць
Тую песню, што ўмее
Выйсці заўжды на людзі
Словам братняй надзеі.
Хай жа ў сэрцах загосціць
Бы вястунка мілосці.

Мая дана, ой дана!
Мая флейта драўляна!
Хто стругаў яе з дрэва,
Тонаў даў ёй нямнога:
Ў адным голасе — спевы
У касцёле для Бога.
Потым — любасць зямліцы,
Яшчэ дзіўнасць дзявіцы.
Для славянскіх паэтаў,
Пэўна, гэтага досыць,

І яны ўжо за гэта
Праз усё разгалосяць:
Між сабой ягамосці,
То й жывём для мілосці.

Мая дана, ой дана!
Мая флейта драўляна!
Выступаць мы гатовы
І ўжо з песняю тою
Слухаць спеў песняровы
Прад усёй грамадою.
Прымем, прымем брат брата,
Чым жа хата багата.
Хай даруюць нам людзі,
Што слабая гасціна,
Тут нічога не будзе,
Ні віна, ні вяндліны.
Хай жа слухаюць госці
Спеў славянскай мілосці.

Мая дана, ой дана!
Мая флейта драўляна!
Да другога заходу
Госцю шчэ саладзей,
Хто старэйшы ад мёду,
Што меў Пяст-чарадзей:
Песня ў тым, што не гіне
Маладосць у княгіні.
І што ўсё-ткі старыя
Змаглі смока ў малітве,
Таму шлях перакрые
Смелы ворагу ў бітве.
Хто хвальбе пазайздросціць,
Хто ўмірае з мілосці.

*1851*

## ЛЕПШ ДАЎНЕЙ БЫЛО!

*Песня*

Колісь нашай вёскі хаты
    Іншы зналі рух:
І вясёласць, і дастатак,
Нібы кветкі, ўсе дзяўчаты,
    Кожны хлопец — зух!

Зараз людзі мысляць жвава,
Ды не йдуць штось лепей справы —
    Іншы час відзён!

Шэра ў полі і наўкола,
Змізарнеў жытнёвы колас,
Трацяць людзі сон!

Ці на восень, ці пад вёсны
Дзён такіх няма,
Ці працуем — нам мілосна,
Ці гуляем, то разглосна,
Аж дрыжыць карчма.

Людзі зараз не такія.
Пры гарэлцы гаваркія —
З імі я знаём!..
А бацькі даўно не госці,
Спачываюць на пагосце
Векавечным сном.

Да іх пойдзем — на магіле
З пляшкі вып'ю мёд,
Потым чарку зноў нахілім,
Ды паскардзімся праз хвілю
Людзям даўніх год.

*1856*

## ЗВАНЫ НА ГЛУХІХ

*Да…*

Звоняць званы для глухіх, як і ўчора,
Толькі не будзяць людскую глухоту;
Ці хоць святар кажа: трэба пакора,
Ці хоць мудрэц пабуджае на цноту.
Голас дарма іх, бо ціжба зблукае:
Мудрых не чуе, не чуе каплана!

Бог жа чакаў, што папpавяцца людзі,
Каб за віну племя людства не страціць,
Хай ад прарокаў шчэ праўда прыбудзе,
Каб распавесці яе сярод браццяў.
Мудры гаворыць, і братняе слова
Лепей да сэрца прабіцца гатова.

Звоны глухім жа… О, багаславёны
Той, каму Бог сваім рэхам дазволіў
Нат дазваніцца да тых, хто уснёны,
Пад самалюбствам людзям злое волі
Біцца ў прастору сілай бясконца,
Праз хмуры прымхаў — прабіцца да сонца.

Ў багаславёнай зямлі Палемона,
Дзе засталіся змагарныя людзі,
Нас прывітаюць капланы натхнёна,
І сваё слова азорваць Бог будзе.
Мыслі Літва ўчуе іх неблагія —
Бачаць сляпыя, пачуюць глухія.

*1859—1860(?)*

## ДА ПАННЫ ЗОФ'І МАНЬКОЎСКАЙ

Сённяшні дзень выглядае іначай,
Тлум кірмашовы ўсё больш нарастае:
«Што, — я пытаю ў людзей, — гэта значыць?» —
«Зоф'я Святая!»

Вось маршыруюць жаўнеры ў парадзе,
Кожны, бы кол глынуў, ногі стаўляе;
Людзі ж гавораць (святло ў іх паглядзе):
«Зоф'я Святая!»

Баба ў касцёле, рука яе ўзнята.
«Ойча наш», — шэпча і ціха пытае:
«Скажаце мо, што сягоння за свята?!» —
«Зоф'я Святая!»

Чую, але ў каляндар глянуць варта,
Што у друкарні шчэ Ром выпускае:
«Vivat» — крычу я. — Сягоння ў тэатры
«Зоф'я Святая!»

Музы!.. Пегасы!.. Спяшайцеся, трутні!
Будзе пісаць вершаплётная зграя!..
Хай Апалон паклікае да лютні!
Зоф'я Святая!

Музы з кашамі пайшлі да палатак,
А Апалон піва дзесь папівае.
Ці ж будзе ў рыфмах мне поўны дастатак,
Зоф'я Святая?

Здолеў Пегаса Ляскарыс пазычыць,
Бо гойсаць вершам надвор'е спрыяе, —
Хто ж мне дакладна склады ўсе палічыць?..
Зоф'я Святая!

Вось таму сёння кажу сам сабе я:
Проста пішы, калі час прамінае;
Заўжды ў нябёсах дабро зразумее
Зоф'я Святая!

О вінавайка! Увесь май пад ззяннем
Дрэвы зяленіць і ў квет прыбірае;
Хай цябе так акрыляе спрыяннем
Зоф’я Святая!

Неба ў хмурынах, бо лёс наш пануры,
Ды сонца воблакі ўжо прабівае:
Мольбамі хай пражане тыя хмуры
Зоф’я Святая!

Вынік найлепшы прыносіць маленне,
Джала атруты змяя паламае;
Хай жа пашле табе багаславенне
Зоф’я Святая.

Талент, які ў цябе, — гэта дар Божы,
Хай сябе ў песні радзімай яўляе,
Хай жа складаць табе песні паможа
Зоф’я Святая.

Мужа і грошай, дабротаў нарэшце,
Шчасця табе зычу я палымяна,
Доўга жыві ты, гадоў гэтак з дзвесце,
О, Зоф’я-панна!

*1862*

***Уступнае слова і пераклад з польскай Уладзіміра Мархеля.***



**Алена МАРЧАНКА**

# СПЕЦЫФІКА СТВАРЭННЯ МАСТАЦКІХ ВОБРАЗАЎ У ЛІТАРАТУРЫ І ЖЫВАПІСЕ

**Адносна** стасункаў літаратуры і жывапісу існуе некалькі пунктаў гледжання. Прыхільнікі аднаго з іх кажуць пра блізкасць гэтых мастацтваў, іншыя адстойваюць поўную самастойнасць кожнага з іх [4, с. 6]. Праблему глыбока вывучаў яшчэ Г. Э. Лесінг у сваім трактаце «Лаакаон, або Аб межах жывапісу і паэзіі» [8]. Кіруючыся яго развагамі, можна гаварыць пра розныя сувязі і магчымасці збліжэння мастакоў і пісьменнікаў. У аснове адных — падабенства матываў, агульная тэматыка, другія тычацца творчага метаду, спецыфікі бачання свету, трэція — колеравага вырашэння мастацкіх задач. На думку аднаго з даследчыкаў тэмы У. Альфонсава, сувязі літаратуры з іншым мастацтвам часам хаваюцца значна глыбей, у самой творчай задуме, калі важным паўстае не толькі тэматычнае падабенства і сюжэт, а падабенства суб’ектыўнае, паводле светаадчування, выяўленне поглядаў на рэчаіснасць і выяўленне самога духу часу праз асобу мастака і пісьменніка [1, с. 7]. Цікавасць уяўляе прачытанне літаратурнага тэксту ў якасці дыялога з творам выяўленчага мастацтва, створанага паводле аднаго і таго ж сюжэта, вобраза або матыву культуры, што дазваляе раскрыць выяўленчыя магчымасці кожнага віда мастацтва, інтэрпрэтаваць літаратурны тэкст праз кантэкст жывапіснага твора, і наадварот [3, с. 170]. Акрамя таго, супастаўленне розных відаў мастацтва дае магчымасць выявіць і асаблівасці нацыянальнага стылю ў адлюстраванні пейзажу ўвогуле. Для аналізу мы звяртаемся да твораў Якуба Коласа як выдатнейшага майстра прыродаапісанняў у беларускай літаратуры і яго сучаснікаў — майстроў пейзажнага жанру — Вітольда Бялыніцкага-Бірулі і Станіслава Жукоўскага.

Адной з сумежных з літаратурай галін мастацтва самі пісьменнікі называюць жывапіс. Так, Прышвін казаў, што толькі «жывапіс, праца мастака можа навучыць пісьменніка дакладна бачыць і запамінаць, а не толькі глядзець» [10, с. 226]. Такім талентам «бачыць» валодаюць лепшыя майстры слова, да якіх у беларускай літаратуры па праву належыць Якуб Колас.

Жывапіс вызначаецца асаблівай вастрынёй бачання самых складаных і тонкіх колеравых адносін. Мастакі ўмеюць перадаць іх з дапамогай фарбаў. Жывапіс як від мастацтва пабудаваны менавіта на адносінах колеравых тонаў і іх адценняў, пры дапамозе якіх творца адлюстроўвае рэчаіснасць і выяўляе сваё разуменне яе [12, с. 51]. Задача ж пісьменніка для дасягнення той жа мэты — падабраць такія словы, якія пры згадванні пэўнага колеру або яго адцення маглі б у свядомасці чалавека выклікаць дакладнае ўяўленне пра гэты колер.

На думку мастацтвазнаўца П. Суздалева, «успрыняцце рэчаіснасці ў вобразах, насычаных перажываннем, пачуццём, настроем, асабліва заўважаецца ў пейзажным жывапісе, што натуральна, паколькі народжана самой прыродай, дакладней, стаўленнем чалавека да прыроды» [12, с. 27]. Для Якуба Коласа-пісьменніка і беларускіх мастакоў найперш беларуская прырода стала крыніцай натхнення ў іх творчасці. Яны здолелі адшукаць тую эмацыянальную непаўторнасць, змястоўнасць, выразнасць і глыбіню беларускага пейзажу, якая засталася ў іх творах і зрабіла іх песнярамі роднай прыроды. Такая вялікая любоў да Радзімы, да сваёй зямлі вызначыла і характар творчасці вялікіх майстроў. Яны ніколі не шукалі чагосьці незвычайнага ў краявідах, а шчыра і пранікнёна перадавалі свае

ўражанні, у тым ліку — і колеравыя, ад сустрэчы з роднай зямлёй. Таму вобразы прыроды, у якіх затрымалася хваляванне, імгненнае эстэтычнае ўражанне вялікіх майстроў, нікога не пакідаюць абыякавымі [9, с. 5]. На карцінах Станіслава Жукоўскага і Вітольда Бялыніцкага-Бірулі прырода становіцца асабліва блізкай чалавеку, усёпаглынальна ўваходзіць у яго, у стасунках з ёй праяўляюцца і раскрываюцца найбольш прывабныя бакі чалавечай натуры.

Нярэдкае перакрыжаванне тэм, сюжэтаў у творах пісьменніка і мастака знаходзіцца, верагодна, у рэчышчы падабенства ў светапоглядных уяўленнях, светаўспрыманні, выражэнні канцэпцыі быцця. Напрыклад, у Якуба Коласа ўлюбёнай парой года была вясна, ёй у творах пісьменніка прысвечана найбольш апісанняў. Сярод карцін Бялыніцкага-Бірулі знойдзецца таксама вялікая колькасць работ, прысвечаных вясне: «Ранняя вясна» (1919), «Сакавіцкае змярканне» (1903), «Пачатак вясны» (1910), «Ранняя вясна» (1935), «Блакітныя цені вясны» (1920-я), «Блакітнай вясной» (1930-я) і інш.

Апісваючы вясну ў трылогіі «На ростанях», Якуб Колас з цёплынёй і пяшчотай прыкмячае ледзь улоўныя адценні колеру маладой травы: *«Там прабівалася густая жаўтавата-зялёная, яшчэ кволенькая мурожная траўка»* [7, с. 619]. Выкарыстоўваючы зялёны колер, Колас стварае адчуванне бязмежнай прасторы, у якую ператвараецца наваколле з надыходам вясны: *«Вузенькія зялёныя далінкі, утульныя і прывабныя. Багата і шчодра ўпрыгожыла вясна зямлю, адзеўшы зелянінаю <...> рассыпала па ей мільёны рознакаляровых кветак»* [7, с. 446]. У падобных танах створана Коласам і яшчэ адна карціна ранняй вясны: *«Жоўтыя пухаўныя каткі звісалі на вербалозінах <...> Зялёныя кветачкі павыбіваліся ўжо на свет <...> паважныя дубы <...> спяшаліся расчыняць свае покаўкі і выпускаць адтуль свежую зелень маладых лісточкаў»* [7, с. 153]. Дзякуючы сінестэзічным уяўленням, якія з'яўляюцца ў нашай свядомасці пасля прачытання гэтых радкоў, можна зрокава ўявіць вобразы, вельмі падобныя да тых, што адлюстраваў В. Бялыніцкі-Біруля ў карціне «Ранняя вясна» (1935). Сама мастацкая прастора, створаная пісьменнікам у згаданых вышэй урыўках, вельмі нагадвае вырашэнне прасторы на палатне мастака. Складваецца ўражанне, што пісьменнік і мастак бачылі перад сабой той самы краявід: раўніна, поле, якое змыкаецца з небам, пяшчотная кволая зеляніна веснавога лесу. Але звяртае на сябе ўвагу яшчэ і тое, што нават колераабазначэнні, якія выкарыстоўвае пісьменнік, і фарбы ў мастака — прыблізна аднолькавых таноў. У карціне жывапісец адлюстроўвае ўзлесак ранняй вясной. Бялыніцкі-Біруля карыстаецца некалькімі фарбамі — зялёнай, блакітнай, жоўтай, аднак уражвае колькасць іх адценняў. Напрыклад, паказваючы колеравае багацце зеляніны, ён выкарыстоўвае адценні ад жаўтавата-зялёнага да цёмна-зялёнага. Гэта дапамагае яму перадаць, на нашу думку, якраз тыя адценні зялёнага колеру, якія ў Коласа абазначаны як «зялёныя кветачкі», «свежая зелень маладых лісточкаў», «зялёныя даліны», «жаўтавата-зялёная кволенькая траўка» і г. д. Астраўкі з самай маладой зелянінай паказаны ў жаўтавата-зялёным, бліжэй нават да жоўтага, тоне, сярод яе — жоўтыя плямы-кветкі, сцежкі — больш насычанага зялёнага колеру, пад дрэвамі трава мае зялёна-карычневае адценне. Такім чынам, мастак на плоскасці стварае адчуванне рэальна існуючай прасторы, аб'ёмнай, рэльефнай. У адлюстраванні дрэў ён выкарыстоўвае кантрастныя магчымасці розных адценняў зялёнага колеру: ад нясмелага жаўтавата-зялёнага адцення колеру лістоты маладых бярозак да насычанага цёмна-зялёнага колеру елак. Дзякуючы гэтаму перадаецца і ўнутраны стан мастака, які, захапляючыся веснавым станам прыроды, імкнецца перадаць сваё адчуванне ад сустрэчы з пяшчотнай жаўтаватай зелянінай бярозак, што ўспрымаецца яшчэ больш маладой, свежай і крыху бездапаможнай на фоне старых мудрых елак. Акрамя таго, мастак дадае зялёнаму колеру карычнevата-чырвоныя адценні, а нам пры гэтым прыгадваюцца радкі Коласа: *«у зацішку зялёных хвой і чырванаватага маладога бярэзніку»* [7, с. 138]. Колеры некалькі разоў пераходзяць адзін у адзін, чаргую-

чыся паміж сабой, узмацняючы ўражанне ад багацця веснавога ўбору, суцэльнага кантрасту колераў у веснавым пейзажы, ды і ў прыродзе ўвогуле.

Традыцыйна лічыцца, што карціна сваімі межамі «замыкае» развіццё колеру [2, с. 43]. У літаратурным творы дзякуючы выяўленчым магчымасцям слова прастора можа ўспрымацца неабмежаванай. Аднак, на нашу думку, на карціне Бялыніцкага-Бірулі колеры пастаянна пераходзяць адзін у адзін, пераплятаюцца, даюць уяўленне, адчуванне больш шырокай прасторы, чым тая, якая непасрэдна адлюстравана на палатне. Неабходна адзначыць, што дакладнасць адлюстравання натуры сама па сабе не з'яўляецца яшчэ творам мастацтва. Ён узнікае толькі тады, калі адлюстраванне становіцца мастацкім вобразам, у якім прадмет або з'ява асвечаны думкай і пачуццём чалавека-творцы [12, с. 13]. Такую спецыфіку адлюстравання рэчаіснасці мы і заўважаем у радках Коласа або на карціне Бялыніцкага-Бірулі. Хоць пры гэтым майстры карыстаюцца рознымі сродкамі выражэння галоўных мастацкіх ідэй, сама ідэя ў выніку атрымлівае дакладнае і дасканалае выяўленне.

На нашу думку, вельмі блізкімі не толькі ў колеравым вырашэнні, але і ў агульнай эмацыянальнай напоўненасці паўстаюць апісанні ранняй восені ў творах Якуба Коласа і карціна Станіслава Жукоўскага «На верандзе. Восень» (1911).

Даспадобы мастакам і пісьменнікам тыя дні восені, якія ў народзе называюць «бабіна лета». На палатне С. Жукоўскага знайшоў адлюстраванне адзін з такіх дзён. Падлога на верандзе, лаўка, крэслы ўсыпаны чырванавата-залацістым лісцем. На падлозе доўгія восеньскія вячэрнія цені. Узнікае адчуванне ўсеагульнай сусветнай цішыні. Здаецца, ніколі ў свеце яшчэ не было такога спакою. На стале букет жоўтых, пад колер лісця і наваколля, кветак. За балясамі —цёмназялёныя елкі і бярозы, колер якіх ад чырванавата-жоўтага (месцамі — аранжавага) на пярэднім плане карціны даходзіць да залацістага ўдалечыні. Пейзаж у эмацыянальных адносінах і па колеравай гаме вельмі нагадвае наступныя радкі з трылогіі «На ростанях»: *«Толькі старыя людзі памятаюць такія прыгожыя дні. Цеплыня, цішыня, яснасць. У сіняй смузе песцяцца далі. Залатая чырвань лістоў нерухліва звісае на купчастых галінках высокіх вязаў. Цёмныя ночы тояць нейкі ўрачысты спакой, і ніжэй нахіляюцца да зямлі, каб паслухаць яе адвечную скаргу. Эх, пагодка, пагодка! Пачынаюць другі раз зацвітаць сады...»* [7, с. 285]. Карціна паўстае поўнай шчымлівага лірызму. Цёмныя вечна-зялёныя елкі кантрастуюць з яркімі залаціста-чырвонымі бярозамі, якія, быццам сабраўшы ўсю сваю моц, гараць багаццем фарбаў у апошніх праменнях цёплага вераснёўскага сонца, каб праз некалькі дзён згубіць гэтую раскошу назаўсёды. На думку даследчыкаў, такое моцнае ўздзеянне мастацкае палатно аказвае шмат у чым дзякуючы саюзніку колеру — святлу. Святло надае колеру новае гучанне, выяўляе яго тон, «тэмбр», унутраную прыгажосць, яшчэ больш паказвае спецыфіку ўспрыняцця свету жывапісцам. Яно не толькі выяўляе рэльефнасць у абмалёўцы фактуры прадметаў, не толькі падкрэслівае іх прасторавае размяшчэнне і сувязі, інтэнсіўнасць або прыглушанасць колеру, але шмат у чым фарміруе настрой, вызначае характар нашага ўспрыняцця [11, с. 11]. Усё гэта дакладна перадае карціна Станіслава Жукоўскага. Пісьменнік жа ў такіх выпадках, каб падкрэсліць насычанасць восеньскіх колераў, згадвае пра сонечнае святло (непасрэдна і ўскосна), на якім фарбы граюць сваімі найбагацейшымі адценнямі.

Карціна Жукоўскага, акрамя ўсяго, мае гарызантальны фармат, што дазваляе ўспрымаць сам пейзаж больш разгорнута, паступова адкрываючы для сябе тыя вобразы, якія здаюцца найбольш важнымі для свядомасці аўтара. За дрэвамі заўважаем поле з пажоўклай травой і далёкі сіні лес, што паўстае як неад'емная частка краявіду. Падобныя матывы сустракаем у пісьменніка: *«А надвор'е на здзіўленне ціхае, яснае і цёплае. Сіняватая смуга звісае над зарэччам. Журботналаскавая ўсмешка восені разліта па знямелых, як бы заснуўшых далях. Вынікае,*

*далёка-далёка, белаваты дымок рачных параходаў. Здаецца, ён стаіць на адным месцы — так павольна здалёк вызначаецца лінія яго руху. І доўга трэба сачыць, углядацца, каб заўважыць рух белаватага дыму над пабурэлымі ад часу чаротамі»* [7, с. 275]. На лініі далягляду лес на карціне змыкаецца з блакітным небам, на якім раствораны лёгкай павалокай белыя воблакі. Вельмі тонка ў эмацыянальных і колеравых адносінах падобную карціну класік апісвае ў наступных радках: *«Неба, злёгку агорнутае танюсенькаю павалокаю, як бы шоўкаваю кудзелькаю, здавалася, ніжэй нахілілася над гэтымі паземамі, каб папесціць іх пацалункамі сонечнага святла»* [7, с. 267]. І пісьменнік, і мастак здолелі ўлавіць адзін з самых лірычных матываў у прывабным восеньскім пейзажы, які ўражвае гучнымі яркімі танамі, і адлюстраваць яго кожны сваім спосабам, аднак захоўваючы падабенства якраз у асаблівасцях адлюстравання.

Зімовыя пейзажы як Коласа, так і мастакоў вызначаюцца разнастайнасцю колеравага вырашэння, а таксама тонкасцю выяўлення ў іх эмацыянальнага стану саміх творцаў. Звяртае на сябе ўвагу яркімі фарбамі карціна Жукоўскага «Зімовы пейзаж» (1929). Перад намі зімовы дзень, напоўнены сонечным святлом. Фарбы на карціне яркія і разам з тым знаходзяцца паміж сабой у кантрастных адносінах: ярка-белая альтанка, цёмна-зялёныя елкі, цёмна-карычневыя камлі дрэў, ярка-блакітнае неба. Пры такім кантрастным супастаўленні колеры сапраўды ўспрымаюцца больш насычана, мы маем магчымасць у гарманічным спалучэнні дакладна разгледзець кожны колер як самастойны, аднак пры гэтым нельга сказаць, што кожны жыве самастойным жыццём і выбіваецца з агульнай эмацыянальнай танальнасці карціны. Насычанасць і глыбіню колерам надае яркае сонечнае святло, якім наскрозь працята карціна. Яна нагадвае наступнае апісанне ў Коласа: *«Зусім іншы малюнак вынікаў перад вачамі павесялеўшага Лабановіча. Кругом было так чыста, такая бель, што сляпіла і адбірала вочы. Лес павесялеў, пабялеў і пазбыўся свае хмурай панурасці пад белаю чысцюткай посцілкаю <...> І нельга было ўтрымацца, каб не вымераць сваімі нагамі глыбіню снегавога пакрыва <...> Снег даходзіў амаль да калена»* [7, с. 590].

Асаблівае ўражанне на карціне Станіслава Жукоўскага выклікае колер снегу. Калі прыгледзецца да яго больш уважліва, то можна вылучыць не менш за дзесятак адценняў. Проста белым яго назваць нельга. Увесь сакрэт каларыту заснаваны на ўменні назіраць і вывучаць гульню фарбаў і святла.

Больш мяккімі ў колеравых і каларыстычных суадносінах з'яўляюцца пейзажы Вітольда Бялыніцкага-Бірулі «Зімовы сон» (1912) і «Зімовы пейзаж» (1912). На апошняй карціне адлюстраваны момант, калі над светам згушчаецца сутонне. Колер снегу змяняецца ад шэрага да ружовага. Але гэтыя фарбы не такія яркія, а больш лёгкія, мяккія. Мазкі розных колераў ствараюць адчуванне рэльефу на плоскасці. Можна казаць пра тое, што «мазкі-рысачкі надаюць жывапісу, яго структуры асаблівую выразную вастрыню» [13, с. 41]. Смуга зімовага сутоння адначасова стварае нейкую ўяўную празрыстасць вячэрняга паветра. А галоўнае, што з'яўляецца пасля сузірання гэтай карціны, — адчуванне агульнай усеабдымнай сусветнай цішыні. Колер неба і снегу аднолькавы. Адразу і не зразумееш: гэта снег афарбоўвае неба, ці неба адбіваецца ў снезе. На самым даляглядзе, дзе неба сыходзіцца з зямлёй, снег мае шэры колер з ружовым адценнем, чым далей ад далягляду — тым снег больш ружовы, і мастак у гэтую канву дасканала ўводзіць жаўтаватыя і чырванаватыя адценні. У Якуба Коласа снежнае покрыва пададзена ў якасці метафары белага святочнага абруса, колер якога пазначаны як проста «белы». Аднак дзякуючы такому нешматслоўнаму, але ў той жа час глыбокаму напаўненню вобраза, пісьменніку ўдаецца перадаць тое адчуванне цішыні і спакою, якое суправаджае надыход зімовага вечара. Гэтыя пачуцці вельмі падобны да тых, якія ўзнікаюць пры сузіранні карціны В. Бялыніцкага-Бірулі. *«Месцамі снег быў глыбокі, месцамі параздзімаў яго вецер <...> Дарога, здавалася, не адважвалася адыходзіць у поле, а тулілася бліжэй да горкі <...>*

*А можа гэта была і не дарога — хто яе тут разбярэ. Пад горкаю было зацішней. Снег тут ляжаў роўным белым абрусам, і Міхайла Іванавіч падаваўся наперад досыць шпарка, дзержачы кірунак на манастыр і не адыходзячы далёка ад горкі»* [5, с. 147].

Колеравае вырашэнне карціны Бялыніцкага-Бірулі і пейзажу Коласа звязана са спецыфікай кожнага з відаў мастацтва. Пісьменнік можа выкарыстаць толькі адно колераабазначэнне, але ў патрэбным слоўным акружэнні гэтага будзе дастаткова, каб перадаць свой эмацыянальны стан. Мастацтва жывапісу мае ў сваім арсенале толькі бясслоўныя фарбы з вялікай колькасцю адценняў, каб адлюстраваць усю глыбіню і эмацыянальную выразнасць вобраза. Звяртае на сябе ўвагу дакладнае адчуванне мастаком і пісьменнікам прыроды, пранікненне ў яе свет, тонкая назіральнасць творцаў — адсюль вынікае і падабенства ў спецыфіцы адлюстравання зімовага пейзажу, заснаванае не столькі на колеравым падабенстве, колькі на падабенстве ў спецыфіцы светабачання, гарманічнасці светаўспрымання мастака і пісьменніка.

Блізкасць падбору колеравай гамы ў паказе зімовага пейзажу мастакамі і Якубам Коласам назіраем на карцінах «Лясная рэчка зімой» (1920-я) і «Зімовы пейзаж» (1919) В. Бялыніцкага-Бірулі і С. Жукоўскага адпаведна, а таксама ў аповесці «Дрыгва». Магістральны тон расповеду ў мастацкім творы і эмацыянальнае ўражанне ад карцін робяць фактычна аднолькавае ўздзеянне на свядомасць чытача і гледача. На карціне Жукоўскага адлюстраваны пануры зімовы пейзаж. Заснежанае поле, невялікая рака, якая працякае праз яго, і лес на даляглядзе. Сумнае відовішча ўяўляюць аголеныя дрэвы, пакрытыя шэранню, парыжэлая трава, што паўсюль выбіваецца з-пад шэрага снегу, чорная вада ў рацэ. Некалькімі словамі Колас стварае такі ж настрой, што пануе на карціне: *«У аголеных кустах пашумліваў вецер, і маркотна шуршэлі **белыя** струмені снегу ў **парыжэлай** траве»* [6, с. 222].

Мастак, выкарыстоўваючы выяўленчыя ўласцівасці святла і ценю, змешваючы фарбы і надаючы аб’ектам наваколля дакладныя колеравыя адценні, вельмі ўдала перадае надыход зімовага вечара, які ўспрымаецца як працяг шэрага зімовага дня. На пярэднім плане карціны фарбы больш светлыя і чыстыя. Снег кантрастуе з чорным колерам вады ў рацэ і здаецца надзвычай белым. Так і ў рэальным жыцці — тое, што мы бачым непасрэдна перад сабой, мы успрымаем больш ясным і светлым, чым тое, што знаходзіцца на адлегласці. Калі мы скіроўваем увагу на аддаленыя аб’екты на карціне, то заўважаем, што фарбы набываюць шэрыя адценні, становяцца цёмнымі і густымі, а абрысы прадметаў, здаецца, робяцца менш выразнымі. Такое ж адчуванне пейзажу ўдалося дакладна перадаць Коласу ў наступным урыўку: *«На Палессе хутка насоўваўся зацяты ў сваёй маўклівасці вечар, прыводзячы безліч сваіх непадкупных вартавых і засцілаючы цямранаю посцілкаю лес, дальнія балоты і Сухое поле. Кусты і асобныя дрэвы на полі трацілі свае абрысы, пераходзілі ў постаці няясных расплыўлівых сілуэтаў»* [6, с. 238]. Нягледзячы на мінорны настрой, сум, які, пры першасным аглядзе, сыходзіць ад гэтых пейзажаў, нельга сказаць, што яны выклікаюць непрыняцце. Творцы паказваюць разнастайнасць прыроды ў розныя поры года, перадаючы пры гэтым вельмі каштоўныя ўласныя ўражанні ад сустрэчы з ёй. Тым самым, яны яшчэ і яшчэ раз сцвярджаюць у фарбах жывапісу і вобразнай мове мастацкага твора яе разнастайнасць і гарманічнасць.

У пейзажным жывапісе, як і ў літаратуры, знаходзяць адлюстраванне імгненныя станы, адценні інтымных пачуццяў, паэтычнага настрою. У першым — пры дапамозе «мовы» жывапісу — колеру і святла, у другой — сродкамі паэтычнага слова. Мастакі і пісьменнікі, сузіраючы родныя краявіды, умелі бачыць разнастайнасць праяў прыроды і перадаць сваё адчуванне праз словы і фарбы.

Падабенства ў паказе прыроды, выкарыстанне падобных матываў, сюжэтаў, нават колеравай гамы можа сведчыць пра падабенства і ў светапоглядных уяў-

леннях мастакоў і пісьменнікаў. Менавіта ў гэтай сферы і трэба шукаць карані ўнутраных, арганічных сувязей паміж літаратурай і жывапісам. Адлюстраванне прыроды рознымі сродкамі (у межах розных відаў мастацтва), але ў рэчышчы адной і той жа культурнай традыцыі, падобнай колеравай гамы, эмацыянальнага стану, выкліканага сузіраннем беларускага ландшафту, даюць магчымасць казаць пра спецыфіку нацыянальнага стылю ў апісанні прыроды.

Якуб Колас і беларускія жывапісцы ствараюць рэалістычныя пейзажы, якія суадносяцца менавіта з характарам той мясцовасці, дзе яны пераважаюць. Творцы паказваюць не экзатычны, абстрактны, а рэальны акаляючы свет. Яны паказваюць свет беларускай прыроды і тонка падкрэсліваюць пры гэтым нюансы свайго ўнутранага стану ў адлюстраванні асноўных матываў і вобразаў, якія падказаны самім наваколлем. У гэтай, на першы погляд, прастаце беларускія творцы і бачаць прыродную гармонію, пакідаючы ў сваіх творах адлюстраванне эталоннага беларускага пейзажу. Спецыфіка нацыянальнага стылю праяўляецца і ў колеравым каларыце жывапісных палотнаў, кампазіцыі малюнка. Колас-пісьменнік і жывапісцы ўжываюць тыя фарбы, якія найперш характарызуюць менавіта беларускую прыроду. Пры гэтым і ў мяккіх фарбах Бялыніцкага-Бірулі, і глыбокіх насычаных колерах Жукоўскага, і ў мастацкіх апісаннях Коласа па-рознаму перадаецца тая магутная станоўчая энергетыка, якая сыходзіць ад сузірання беларускіх краявідаў. У цэлым нацыянальны стыль можна назваць гарманічным па сваёй разнаколернасці і светаадчуванні, у аснове яго палягае глыбокая жыццесцвярджальнасць і суладдзе з навакольным асяроддзем.

Літаратура:

1. Альфонсов, В. Н. Слова краски: Очерки из истории творческих связей поэтов и художников / В. Н. Альфонсов. — М., Л.: Сов. писатель, 1966.

2. Волков, Н. Н. Цвет в живописи / Н. Н. Волков. — М.: Искусство, 1965.

3. Доманский, В. А. Литература и культура: Культурологический подход к изучению словесности в школе / В. А. Доманский. — М.: Флинта: Наука, 2002.

4. Зись, А. Я. Теоретические предпосылки синтеза искусств / А. Я. Зись // Взаимодействие и синтез искусств: Сб. статей / АН СССР, Науч. совет по истории мировой культуры, Комис. комплекс. изуч. худож. творчества; редколл.: Д. Д. Благой [и др.]. — Л.: Наука, 1978.

5. Колас, Я. Збор твораў: у 14 т. / Я. Колас. — Мінск: Маст. літ., 1972 — 1978. — Т. 5: Апавяданні паслякастрычніцкага перыяду. «Казкі жыцця». — 1973.

6. Колас, Я. Збор твораў: у 14 т. / Я. Колас. — Мінск: Маст. літ., 1972 — 1978. — Т. 8: На прасторах жыцця. Адшчапенец. Дрыгва: Аповесці. — 1975.

7. Колас, Я. Збор твораў: у 14 т. / Я. Колас. — Мінск: Маст. літ., 1972 — 1978. — Т. 9: На ростанях: Трылогія. — 1975.

8. Лессинг, Г. Э. Лаокоон, или О границах живописи и поэзии / Г. Э. Лессинг // Избранное / Г. Э. Лессинг / Вступ. статья и коммент. А. Гулыги. — М.: Худож. лит., 1980.

9. Музей В. К. Бялыніцкага-Бірулі = Музей В. К. Белыницкого-Бирули / Аўт. уступ. арт. і склад. Ю. А. Карачун. — Мінск: Беларусь, 1988.

10. Пришвин, М. М. Собр. соч.: В 8-ми т. / М. М. Пришвин. — М.: Худож. лит., 1982—1986. — Т. 8. — 1986.

11. Ракитин, В. И. Искусство видеть / В. И. Ракитин. — М.: Знание, 1973.

12. Суздалев, П. К. Основы понимания живописи / П. К. Суздалев. — М.: Искусство, 1964.

13.Федоров-Давыдов, А. А. Русский пейзаж конца XIX — начала XX века. Очерки / А. А. Федоров-Давыдов. — М.: Искусство, 1974.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 8 студзеня 2010 года.

Алена Марчанка

«Спецыфіка стварэння мастацкіх вобразаў у літаратуры і жывапісе»

**Рэзюме**

У артыкуле на матэрыяле творчасці класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа і класікаў выяўленчага мастацтва Вітольда Бялыніцкага-Бірулі і Станіслава Жукоўскага зроблена спроба параўнаць спецыфіку стварэння мастацкіх вобразаў у літаратуры і жывапісе. Праз супастаўленне колеравай палітры пісьменніка і жывапісцаў аўтар артыкула імкнецца вызначыць характэрныя асаблівасці нацыянальнага стылю ў беларускім мастацтве першай трэці XX стагоддзя.

Alena Marchenko

«Specific method of making the art images in literature and painting»

**The Summary**

The article deals with the comparison attempt of specificity of creation artistic images in literature and painting on the material of Yakub Kolas's, Vitold Byalynitsky-Byarulya's and Stanislau Jukousky's creative works. Through the comparison of the writer's and painters' colour palette, the researcher aspires to define the prominent features of the national style in Belarusian art of the first third of the XXth century.



# РОСТ ЯКАСЦІ АЙЧЫННЫХ ТАВАРАЎ — ШЛЯХ ДА СПАЖЫЎЦА

***26 студзеня ў Інстытуце эканомікі НАН Беларусі адбыўся «круглы стол» з удзелам рэдакцыі часопіса «Полымя», прысвечаны найбольш актуальным праблемам айчыннай эканомікі. 2010 год аб'яўлены ў нашай краіне годам якасці. Павышэнне якасці айчыннай прадукцыі, шляхі пашырэння попыту на беларускія тавары, развіццё банкаўскай сферы сталі асноўнымі тэмамі гаворкі.***

***Удзельнікі «круглага стала» не абышлі ўвагай і праграм антыкрызісных мерапрыемстваў, якія распрацоўваюцца ў нашай краіне.***

*Пасяджэнне «круглага стала» адкрыў* **НІКІЦЕНКА Пётр Георгіевіч,** ***дырэктар Інстытута эканомікі НАН Беларусі, доктар эканамічных навук, прафесар, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.*** *Ён акрэсліў сітуацыю, якая склалася ў сусветнай і айчыннай эканоміцы ў апошнія гады і вызначыў кірункі далейшага развіцця айчыннай сістэмы гаспадарання.*

**Якасныя** зрухі, якія адбываюцца ў сучаснай сусветнай эканоміцы, мяняюць характарыстыкі эканамічнага росту. У першую чаргу, гэта яго інавацыйная скіраванасць, калі тэхналагічныя, кіраўнічыя, сацыяльныя і іншыя інавацыі робяцца асноўным элементам сучаснага эканамічнага росту і развіцця. Перад Беларуссю стаіць задача павысіць якасць эканамічнага росту за кошт навукаёмістых фактараў, сфарміраваць эканоміку інавацыйнага тыпу і зрабіць інавацыі ключавым фактарам развіцця эканомікі.

Сусветны фінансава-эканамічны крызіс, з якім мы сутыкнуліся ў апошнія гады, уяўляе сабой далёка не шараговую праяву цыклічнасці эканамічнага развіцця. Гэта сістэмны крызіс, выкліканы «тэктанічнымі» зрухамі сусветнай сістэмы гаспадарання: змяшчэннем цэнтраў гаспадарчага развіцця, глабалізацыяй міжнародных валютна-фінансавых і інвестыцыйных адносін, а таксама немагчымасцю кіраваць імі ў планетарных маштабах, адрыве фінансавых і грашова-крэдытных рэсурсаў ад працэсаў, якія адбываюцца ў рэальнай эканоміцы, ростам фіктыўнага капіталу.

На сённяшні дзень Саветам Міністраў сумесна з Нацыянальным банкам і Нацыянальнай акадэміяй навук распрацаваны меры па зніжэнні пагроз і мінімалізацыі наступстваў сусветнага фінансавага крызісу для беларускай эканомікі. Разам з тым варта асабліва падкрэсліць, што для пераадолення крызісу набору антыкрызісных мерапрыемстваў ужо недастаткова. Яны не здольныя даць істотных станоўчых вынікаў, забеспячэння высокіх і якасных тэмпаў росту ВУП. Для Беларусі гэтыя тэмпы павінны быць не меншымі за 10—15 працэнтаў у год.

Як у тэорыі, так і практыцы неабходны новыя падыходы. Крытэрыямі паспяховага эканамічнага росту для развіцця краіны павінны быць не столькі колькасныя аб'ёмы, тэмпы ўзбуйнення вытворчасці і прыбытак, колькі ўдасканаленне асобы чалавека, рост і павышэнне якасці чалавечага патэнцыялу, захаванне прыроды для будучых пакаленняў. У сваю чаргу менавіта якасны эканамічны патэнцыял, а не доступ да танных рэсурсаў і атрыманне прыбытку з'яўляецца сапраўднай асновай устойлівага інавацыйнага развіцця. Галоўнымі стымуламі ў інавацыйнай эканоміцы павінны быць і ВУП, і зарплата, і пенсіі, і індэкс чалавечага развіцця, і ўмовы жыцця людзей.

Для ўсіх суб'ектаў гаспадарання мэтавым і галоўным паказчыкам эфектыўнасці дзейнасці павінны стаць дынаміка і аб'ём навостворанай вартасці, інакш кажучы — даходу, атрыманага пасля рэалізацыі прадукцыі, работы ці паслуг. Арыентацыя на максімізацыю даходу прымушае развіваць крэатыўную дзейнасць, сумесна імкнуцца да скарачэння затрат і павелічэння аб'ёмаў продажу, шукаць шляхі павышэння інтэнсіфікацыі вытворчасці, эфектыўнасці інвестыцый, праектаваць і вырабляць інавацыйную прадукцыю для айчыннага і сусветных рынкаў.

На сённяшні дзень у краіне наспела неабходнасць пераарыентацыі прамысловай палітыкі на інавацыйную аснову. Тым не менш існуе шэраг прынцыповых бар'ераў, якія перашкаджаюць павышэнню інавацыйнай актыўнасці прадпрыемстваў — асноўнаму інструменту рэалізацыі канкурэнтных пераваг.

Да фактараў, якія стрымліваюць інавацыйную актыўнасць рэальнага сектара эканомікі, можна аднесці эканамічныя фактары, абумоўленыя недахопам уласных сродкаў фінансавання і праблемамі прыцягнення грашовых сродкаў збоку для інвестыцый у высокатэхналагічныя сферы. Мае месца недастатковы ўзровень развіцця спецыялізаваных фінансавых інстытутаў, арыентаваных на ўзаемадзеянне з інавацыйным бізнесам. Асноўнымі праблемамі навукова-тэхнічнага сектара з'яўляюцца: старэнне навуковых кадраў, істотны маральны і фізічны знос навукова-вытворчай базы, недастатковая ўзаемасувязь вынікаў даследаванняў і распрацовак з наступнымі этапамі інавацыйнага цыкла, неэфектыўнасць механізмаў матывацый для ўкаранення навуковых распрацовак у вытворчасць і інш.

**МАРКАЎ Андрэй Віктаравіч, *намеснік дырэктара Інстытута эканомікі НАН Беларусі па навуковай рабоце, доктар эканамічных навук,*** *засяродзіў увагу на пытанні суадносін якасці прадукцыі, яе тэхнічных параметраў і кошту. Але для таго, каб забяспечыць рост паказчыкаў па ўсіх гэтых параметрах, неабходны інавацыйныя падыходы. Асаблівую ўвагу выступовец звярнуў на неабходнасць зніжэння затрат вытворчасці, што дазволіць адпаведна знізіць і кошт канчатковай прадукцыі.*

Нягледзячы на тое, што 2010 год аб'яўлены годам якасці, я не зусім падзяляю гэты лозунг. Справа ў тым, што паказчык якасці хоць і характарызуе пакупную здольнасць прадукцыі, але не з'яўляецца для яе поўнасцю вызначальным. У той жа ступені на яе ўплываюць тэхнічныя параметры вырабу і яго вартасць. Інтэгральнай характарыстыкай, што фарміруе попыт, у дадзеным выпадку выступае канкурэнтаздольнасць прадукцыі. А яе ўзровень прама залежыць ад тэхнічнага стану вытворчасці. Таму, на думку экспертаў Еўрапейскай Эканамічнай Камісіі ААН, дзеянні, скіраваныя на стымуляванне інавацыйнай дзейнасці, адэкватным чынам спрыяюць росту канкурэнтаздольнасці прадукцыі.

Акрамя таго, інавацыйная дзейнасць забяспечвае зніжэнне затрат вытворчасці і дазваляе прадаўцу «гуляць» цаной тавару на рынку і актыўна ўплываць на пакупныя перавагі спажыўца шляхам аптымізацыі прынятых і на абывацельскім узроўні суадносін цаны і якасці. Сказанае можна праілюстраваць з дапамогай наступнай структурна-функцыянальнай схемы, якая дэманструе ўзаемасувязь прыведзеных паняццяў (гл. дыяграму 1).

Як мы бачым з прыведзенай схемы, якасць вырабу з'яўляецца неабходнай, але не дастатковай умовай эканамічнага росту, у аснове якога ляжыць інавацыйная дзейнасць. Менавіта ад яе эфектыўнасці залежыць канчатковы вынік высілкаў грамадства ў сферы вытворчасці, што ацэньваецца канкурэнтнымі магчымасцямі як асобных суб'ектаў гаспадарання, так і эканомікі краіны ў цэлым на глабальным рынку.

Задача павышэння якасці не можа быць вырашана на якім-небудзь асобным часавым адрэзку — гэта бесперапынны працэс, які кіруецца і рэгулюецца пры




*Дыяграма 1. Роля якасці прадукцыі на таварным рынку.*

дапамозе механізмаў дзяржаўнай інавацыйнай палітыкі. Таму прыярытэты эканамічнага развіцця павінны звязвацца не з грандыёзнымі праектамі дэманстратыўнага характару, народжанымі ў выніку чыёй-небудзь «яркай ініцыятывы», а з доўгатэрміновай руплівай працай па ўдасканаленні нацыянальнай інавацыйнай сістэмы.

У дадатак хацелася б заўважыць, што разгледжаныя тут канцэптуальныя падыходы маюць дачыненне, у першую чаргу, да вытворчасці складанатэхнічнай, навукаёмістай прадукцыі, але менавіта яна ўяўляе сабой структурны падмурак сённяшняй эканомікі Беларусі і кладзецца ў аснову той новай парадыгмы айчыннага развіцця, пра якую Кіраўнік дзяржавы казаў яшчэ ў 2001 годзе на ІІ Усебеларускім народным сходзе. Калі ж разглядаць паняцце якасці ў больш шырокім сацыяльна-эканамічным кантэксце, дык яго рост павінен быць накіраваны найперш на задавальненне патрэб насельніцтва, якія ўвесь час пашыраюцца, на рост дабрабыту грамадства. Гэта адпавядае базавым палажэнням новай ідэалогіі цывілізацыйнага развіцця, згодна з якой чалавек у сістэме грамадска-эканамічных адносін разглядаецца ўжо не ў якасці неадушаўлёнага фактара вытворчасці, цэнтральнай фігуры быцця.

**ПЯКУЦЬКА Пётр Мікалаевіч,** ***навуковы сакратар Інстытута эканомікі НАН Беларусі, кандыдат эканамічных навук,*** *прысвяціў сваё выступленне аналізу шляхоў выхаду з крызісу, ад якога ў мінулыя два гады пацярпела сусветная эканоміка. Беларускія вытворцы таксама адчулі яго наступствы.*

З усіх галін рэальнага сектара менавіта айчынная прамысловасць (з прычыны скарачэння экспартных паставак амаль у два разы) аказалася найбольш адчувальнай да крызісу: у прыватнасці, рэнтабельнасць рэалізаванай прадукцыі па выніках студзеня — кастрычніка 2009 года знізілася амаль на 40 працэнтаў. У выніку прамысловасць выступіла правадніком крызісных з'яў у эканоміцы. У такіх умовах абдуманая падтрымка прамысловасці дзяржавай прынясе карысць не толькі ўласна гэтай галіне, але і дазволіць пераадолець крызісныя з'явы ў эканоміцы ў цэлым.

Варта, аднак, прызнаць, што зніжэнне экспартных паставак не ў апошнюю чаргу было абумоўлена адносна нізкай канкурэнтаздольнасцю беларускай пра-

дукцыі на знешніх рынках, што не дазваляе ва ўмовах падзення збыту перааryентаваць яе на рэалізацыю іншым групам спажыўцоў. У сувязі з гэтым у мэтах узнаўлення страчанага аб'ёму збыту на знешніх рынках неабходна значна ўзмацніць канкурэнтаздольнасць нацыянальнай прамысловасці. Рашэнне гэтай задачы немагчыма без павелічэння інвестыцый у актыўную частку вытворчых фондаў прамысловасці, у тым ліку за кошт дзяржаўных рэсурсаў.

Разам з тым адным толькі павелічэннем аб'ёмаў інвесціравання ў асноўныя фонды прамысловасці праблему канкурэнтаздольнасці галіны не вырашыць: для гэтага неабходна комплексна мадэрнізаваць саму сістэму кіравання эканомікай.

Нізкая канкурэнтаздольнасць прадукцыі беларускай прамысловасці звязана ў многім з перавагай у айчыннай практыцы рэгулявання эканомікі пры дапамозе адміністрацыйных рычагоў уздзеяння, а таксама з шырокім і працяглым выкарыстаннем у нацыянальнай эканоміцы падыходаў, накіраваных на стрымліванне і, больш за тое, скарачэнне ўзроўню канкурэнцыі на ўнутраным рынку шляхам прымянення комплексу мер, а менавіта:

дыскрымінацыі доступу многіх відаў замежнай прадукцыі на ўнутраны рынак праз выкарыстанне штрафных санкцый (высокія стаўкі мытных пошлін, ліцэнзаванне і кваціраванне ўвозу, патрабаванне аб неабходнасці сертыфікацыі кожнай партыі імпартнай прадукцыі, прымяненне інстытута спецімпарцёраў);

падтрымка існуючай манапольнай структуры сферы вытворчасці многіх відаў прадукцыі (у тым ліку праз жорсткую каардынацыю дзейнасці і стрымліванне канкурэнтнай барацьбы між шматлікімі прадпрыемствамі-канкурэнтамі);

рэгіянальны пратэкцыянізм (як правіла, негалосныя забароны рэгіянальных выканаўчых органаў улады гандлёвым арганізацыям прадаваць выраблены ў іншых рэгіёнах тавары, якія могуць канкурыраваць з мясцовай прадукцыяй, а таксама рэкамендацыі падначаленым арганізацыям выкарыстоўваць мясцовую прадукцыю). Гэтая праблема не была вырашана нават пасля ўвядзення практыкі тэндэрных закупак.

Акрамя таго, жорсткая рэгламентацыя айчыннай эканомікі, у першую чаргу — наяўнасць планавых заданняў, якія павінны быць выкананы абавязкова, захаванне празмернай падначаленасці прамысловых прадпрыемстваў галіновым і рэгіянальным структурам кіравання зніжаюць у кіраўнікоў прадпрыемстваў узровень самастойнасці ў прыняцці не толькі стратэгічных, але, нярэдка, і тактычных рашэнняў і зацікаўленасці ў доўгатэрміновым развіцці вытворчасці.

У выніку менеджмент айчынных вытворцаў арыентаваны ў большай ступені на лабіраванне прымянення дзяржаўнымі органамі адміністрацыйных метадаў падтрымкі. Вопыт пошуку, распрацоўкі і выкарыстання рынкавых метадаў арганізацыі працы на буйных айчынных прадпрыемствах яўна не дастатковы для самастойнага ўдзелу іх у канкурэнтнай барацьбе.

Стратэгічнаму развіццю беларускай прамысловасці перашкаджае і пераважная экспартная арыентацыя большасці галін прамысловасці на расійскі рынак (альбо, больш шырока — на рынак краін СНД), інакш кажучы, на адносна нізкапрыбытковы рынак, канкурэнцыя на якім адбываецца ў асноўным па коштавым фактары і які прад'яўляе не такія высокія патрабаванні да якасці прадукцыі. Дзеянне дадзенага фактару прывяло да таго, што на сённяшні дзень айчынная прамысловасць не можа перааryентавацца на іншыя рэгіянальныя рынкі: як з пункту гледжання вялікіх аб'ёмаў неабходнага перааryентавання, так і з пазіцый неадаптаванасці беларускай прадукцыі да ўмоў іншых рынкаў (у тым ліку і ў сувязі з тым, што нам невядомы параметры гэтых рынкаў).

Таму для павышэння эфектыўнасці дзяржаўных інвестыцый у айчынную эканоміку, стымулявання яе развіцця і стварэння доўгатэрміновых асноў для ўзмацнення канкурэнтаздольнасці беларускай прадукцыі неабходна рэалізацыя мер, накіраваных на:

садзейнічанне развіццю канкурэнцыі на ўнутраным рынку, у тым ліку праз развіццё канкурэнцыі ў сферы вытворчасці. Гэтая мера мае на мэце максімальна магчымае адмаўленне ад абароны ўнутранага рынку. Бо абарона ўнутранага рынку з-за нізкай самастойнасці кіраўніцтва прамысловых прадпрыемстваў у прыняцці стратэгічных рашэнняў аказваецца неэфектыўнай;

зніжэнне ўзроўню рэгламентацыі дзейнасці айчынных прадпрыемстваў, у першую чаргу праз адмену дырэктыўных абавязковых для выканання заданняў. Магчымы распрацоўка і выкарыстанне выключна якасных паказчыкаў, якія дазваляюць ацаніць эфектыўнасць менеджменту на дзяржаўных прадпрыемствах. Неабходна і змяншэнне празмернай падначаленасці прамысловых прадпрыемстваў галіновым і рэгіянальным органам кіравання, скарачэнне формаў справаздачнасці і іншыя меры;

прыватызацыю дзяржуласнасці ў прамысловасці;

рэфармаванне сістэмы ацэнкі выдаткаў прадпрыемстваў;

адаптацыю прадукцыі пад умовы рынкаў з больш высокімі патрабаваннямі да якасці і выхад на гэтыя рынкі.

*Развіццю інавацыйнай сферы прысвяціў свой даклад і* **ГАНЧАРОЎ Валерый Валер’евіч,** ***загадчык аддзела інавацыйнага развіцця эканомікі Інстытута эканомікі НАН Беларусі  кандыдат эканамічных навук.*** *Найбольш чаканым вынікам бягучага года — года якасці — выступоўца назваў прарыў у пабудове нацыянальнай інавацыйнай сістэмы. Аднак прарыў гэты не бачыцца магчымым без распрацаваных механізмаў тэхналагічнага і эканамічнага прагназавання.*

Году якасці ў пяцігодцы эканамічнага развіцця належыць асаблівая роля. Менавіта ў гэтым годзе мы падсумуем усё, што нам удалося сапраўды зрабіць па стварэнні новай, постіндустрыяльнай беларускай сацыяльна-эканамічнай мадэлі. Беларусь у прасторы СНД мае несумненны прыярытэт у свядомым выбары інавацыйнага імператыву. Аднак мала вызначыцца з напрамкам, важна яшчэ і дасягнуць пераканаўчых вынікаў у паступовым, пакрокавым працэсе набліжэння да краін-лідэраў.

Заўважым: знаходжанне ў групе лідэраў не абавязкова вымагае максімальных абсалютных паказчыкаў. Хутчэй за ўсё, гаворка павінна ісці аб суаднясенні выдаткаў рэсурсаў усіх відаў (людскіх, матэрыяльных, фінансавых) і эфектаў (сацыяльных, эканамічных, экалагічных), якіх можна дасягнуць. Простая логіка «грашовых» эквівалентаў тут непрымальная: вызначыць камфорт асяродку жыцця чалавека толькі праз ацэнку назіральнага дастатку і дабрабыту немагчыма. Дарэчы, як паказваюць міжнародныя даследаванні, краіны з найвышэйшым адчуваннем шчасця зусім не першыя, напрыклад, па велічыні валавога ўнутранага прадукту на душу насельніцтва.

Самым чаканым для нас вынікам бягучага года можа стаць якасны прарыў у пабудове нацыянальнай інавацыйнай сістэмы (НІС). Гэты прарыў будзе заключацца ў рэалізацыі пераходу ад «навукова-тэхнічнай» парадыгмы да сапраўды інавацыйнай. Сапраўдная інавацыйнасць азначае стварэнне цэласнай сістэмы ўзаемадзеяння базавых структур НІС, пераадоленне разыходжання паміж адукацыяй, навукай і вытворчасцю на аснове фарміравання сеткі рыначных сувязей між вузлавымі «кропкамі» — суб’ектамі інавацыйнай інфраструктуры.

Адзначым найбольш важныя ў гэты пераломны год напрамкі актыўнага мэтанакіраванага развіцця інавацыйнай сферы.

Па-першае, гэта **інстытуцыянальнае афармленне**, якое стварае рамачныя ўмовы, што зададуць адзіныя правілы для ўсіх ігракоў на інавацыйным полі. Прычым гэтая ігра заснавана не на бінарнай логіцы (калі адзін перамог — другі абавязкова пацярпеў паражэнне). Гэта ўзаемадзеянне новага тыпу: «кожны

перамагае, калі перамагаюць усе». Інакш кажучы, адносіны канкурэнцыі ў глабальным плане павінны саступіць месца адносінам супрацоўніцтва. Узведзеныя раней у абсалют канкурэнтныя падыходы з’яўляюцца адэкватнымі толькі ва ўмовах так званага «дасканалага» рынку, але даюць збой, калі праяўляюцца сілы, што ўпарадкоўваюць «рыначную стыхію». Трэба адзначыць: з цягам часу нават самыя рыначныя дзяржавы ўсведамляюць неабходнасць антыманапольнага заканадаўства, прымаюць аўтарытарныя (нярыначныя) меры, каб адсочваць цэнавыя змовы, змагацца з іншымі праявамі нядобрасумленнай канкурэнцыі. Таму ў новай мадэлі грамадскага ладу канкурэнцыя павінна датычыць максімальнага прыцягнення крэатыўнага патэнцыялу да забеспячэння агульнага дабрабыту. Знешні бок інстытуцыяналізацыі адбіваецца ў нарматыўнай сістэме. На жаль, нягледзячы на праведзеныя ўзгадненні і актыўную дапрацоўку ў 2009 годзе праектаў заканадаўчых актаў у інавацыйнай сферы, ні адзін з найбольш значных не быў прыняты. У першую чаргу гэта тычыцца дакументаў, якія павінны рэгуляваць інавацыйную дзейнасць у цэлым, венчурныя інвестыцыі, трансфер тэхналогій і абарот аб’ектаў інтэлектуальнай уласнасці.

Па-другое, неабходна **структурна-функцыянальнае забеспячэнне**. Яно павінна прадугледжваць удасканаленне арганізацыйнай структуры нацыянальнай інавацыйнай сістэмы на кластэрных прынцыпах, якія дазваляюць у эканоміцы адысці ад бесперспектыўнай галіновай структуры. На сённяшні дзень кожны орган дзяржкіравання дзейнічае ў сваёй «сферы кампетэнцыі» і адказвае за макраэканамічны вынік толькі ўскосна, у сваёй нішы. Таму да гэтага часу востра стаіць праблема «работы на склад», якая выклікана імкненнем большасці кіраўнікоў да выканання фармальных паказчыкаў. Відавочна: лозунг «Купляйце беларускае!» для такіх кіраўнікоў павінен гучаць «Зрабі як для сябе!». Асабліва важна прыступіць да мэтанакіраванага масавага стварэння суб’ектаў інавацыйнай інфраструктуры, якія б служылі пераадоленню раз’яднанасці базавых сфер НІС. Натуральна, гэтая масавасць павінна забяспечвацца сістэмай стымулаў, дастаткова важкіх, каб прыцягнуць увагу і вучоных, скіраваных на практычнае ўвасабленне ўласных распрацовак, і прадпрымальнікаў, якія змогуць знайсці камерцыйнае прымяненне назапашаным навуковым ведам, і арганізатараў, здольных аб’яднаць у адным праекце рэсурсы (улічваючы сродкі венчурных фондаў і так званых «бізнес-анёлаў») і людскі патэнцыял.

Дзейнасць суб’ектаў інавацыйнай інфраструктуры павінна ажыццяўляцца на сеткавых прынцыпах праз злучэнне ў адзіны ланцужок усіх зацікаўленых бакоў і такім чынам ствараць умовы для бесперапыннага інавацыйнага цыкла.

Паўнавартасны рынак аб’ектаў інтэлектуальнай уласнасці немагчымы без вырашэння пытанняў аб прыцягненні іх у камерцыйны абарот. Асабліва актуальна гэта для нематэрыялізаваных вынікаў даследаванняў, змешчаных, напрыклад, у навуковых справаздачах. Навукоўцы яшчэ павінны будуць вырашыць задачу ўстанаўлення «справядлівай цаны» за вынікі іх дзейнасці. Сапраўды, як карэктна вызначыць грамадскую карысць ідэй і спажывецкі кошт манаграфіі, а потым супаставіць яе вартасць, напрыклад, з праграмным прадуктам? Ці што больш важна для дзяржавы: навуковая справаздача па гісторыі культуры Беларусі або канструктарская дакументацыя на сеялку? Магчыма, вырашэнне падобнага пытання — у гарманічных стасунках духоўнага і матэрыяльнага складнікаў. А такая гармонія правяраецца навукай, яе сталай каштоўнасцю і агульнацывілізацыйнай вартасцю.

Трэці па парадку, але не па значнасці — **арганізацыйна-кіраўнічы напрамак**. Да гэтай катэгорыі можна аднесці ўдасканаленне праграмна-мэтавых прынцыпаў кіравання навукай (у тым ліку і фарміраванне інавацыйных праграм, якія маюць на мэце атрыманне выніковага рыначнага прадукту ў працэсе міждысцыплінарнай даследчай дзейнасці). У беларускай практыцы павінны знайсці сваё прымяненне распаўсюджаныя за мяжой сеткавыя віртуальныя лабараторыі і мабільныя даследчыя сістэмы. Другі аспект — павышэнне мабільнасці навукоў-

цаў, якія павінны атрымаць магчымасць (падмацаваную матэрыяльна!) свабодна абменьвацца новымі ведамі з замежнымі калегамі падчас асабістых сустрэч на навуковых форумах, а таксама права без перашкод прымяняць свае распрацоўкі ў вытворчай сферы, атрымліваючы паўнавартаснае ўзнагароджанне.

Асаблівую значнасць набывае прагнастычны складнік інавацыйнага развіцця. Традыцыйныя падыходы планавай эканомікі, заснаваныя на вузкай спецыялізацыі, павінны істотна змяніцца. Ва ўмовах глабалізацыі, калі абмежаванні на абмен інфармацыяй і рэсурсамі (асабліва фінансавымі) мінімальныя, няма ніякага сэнсу ў тым, каб вузкія спецыялісты абавязкова складалі міжгаліновыя балансы «ў інтарэсах усёй краіны». Нябачаная раней свабода перамяшчэнняў, адкрытасць, змястоўнасць і разнастайнасць інфармацыі ў глабальнай сетцы — усё гэта вымагае таго, каб пры вызначэнні перспектыў краіны ўлічваць працэсы, якія адбываюцца далёка ад нацыянальных межаў. Таму ў практыку развітых краін і краін, якія развіваюцца, усё шырэй укараняюцца метадычныя падыходы прадбачання (спачатку тэхналагічнага, потым — сацыяльна-эканамічнага). Яны прадугледжваюць узаемадзеянне многіх экспертаў і аўтарытэтных прадстаўнікоў розных зацікаўленых бакоў (насельніцтва канкрэтных рэгіёнаў, супрацоўнікаў СМІ, членаў урадаў, палітыкі). Мэта такога прадбачання — вызначыць мадэль будучага, якая максімальна адпавядала б грамадскім запатрабаванням, і супольна яе ажыццявіць.

Беларускі падыход да навуковага прадбачання не вымагае адмовы ад класічных агульнанавуковых прынцыпаў. Ён будзе развівацца на аснове інтэграцыі навуковых методык перспектыўнага планавання, уключаючы асновы тэорыі цыклічнасці развіцця, а таксама спецыяльныя падыходы ў даследаванні і рэгуляванні гуманітарных працэсаў.

**ПУПЛІКАЎ Сяргей Іванавіч,** ***супрацоўнік сектара валютна-фінансавых адносін і інвестыцыйных працэсаў аддзела знешнеэканамічнай дзейнасці Інстытута эканомікі НАН Беларусі, кандыдат эканамічных навук, дацэнт,*** *засяродзіў увагу на пытаннях фінансавага сектара. Асаблівую актуальнасць на дадзеным этапе набывае павышэнне каэфіцыента манетызацыі айчыннай эканомікі і ўвядзенне ў разлік рэсурснай базы беларускіх банкаў асноўных элементаў нацыянальнага багацця краіны.*

Узровень прыросту гадавога ВУП у нашай краіне на працягу бліжэйшых дзесяці год можа і павінен быць забяспечаны для паляпшэння дабрабыту грамадства і забеспячэння еўрапейскага ўзроўню заробку і пенсій за кошт нацыянальных рэзерваў фінансавых рэсурсаў на 10—15 працэнтаў у год.

І гэта не папулізм, а рэальная магчымасць назапашанага нацыянальнага патэнцыялу, але для гэтага неабходна перагледзець сённяшнія стэрэатыпы і змяніць фондаэканомны гаспадарчы механізм. У першую чаргу варта пераасэнсаваць падыходы ў арганізацыі фінансава-крэдытнага абслугоўвання нацыянальнай эканомікі.

На канец чацвёртага квартала мінулага года каэфіцыент манетызацыі беларускай эканомікі дасягнуў 35—40 працэнтаў у адносінах да ВУП. Палітыка «дарагіх» грошай, якую праводзіць Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь, стабілізавала ў кароткі тэрмін сітуацыю на фінансавым рынку краіны. Аднак, па ацэнках таго ж Нацбанка, сітуацыя ў айчыннай эканоміцы далёкая ад стабілізацыі і патрабуе больш кардынальных мер. На дадзены момант банкаўская сістэма адчувае недахоп ліквіднасці, што ў сваю чаргу можа адмоўна паўплываць на дакладнасць і бесперапыннасць плацёжнага абароту ў эканоміцы краіны, у тым ліку і на становішча на ўнутраным валютным рынку. У гэтай сітуацыі стаўка на замежныя крэдытныя рэсурсы, як паказвае аналіз знешніх пазык нашай краіны, толькі ў кароткатэрміновым плане можа стабілізаваць праблему ліквіднасці (на

канец мінулага года кароткатэрміновая знешняя пазыка дасягнула 50 працэнтаў ад агульнай сумы знешняй пазыкі краіны і склала каля 9 мільярдаў долараў ЗША тэрмінам вяртання 2010—2011 гады). Разам з тым аналіз гістарычнага вопыту фарміравання банкаўскіх крэдытных рэсурсаў у СССР, краінах з развітымі рынкавымі вытворчымі адносінамі дазваляе зрабіць выснову аб тым, што ў Рэспубліцы Беларусь у няпоўным аб’ёме задзейнічаны ўнутраныя крыніцы фарміравання нацыянальных банкаўскіх крэдытных рэсурсаў.

*Даведка. Банкаўскія рэсурсы — сукупнасць сродкаў, што знаходзяцца ў распараджэнні банкаў і выкарыстоўваюцца імі для крэдытных і іншых актыўных аперацый. Характар і склад крыніц крэдытных рэсурсаў банка вызначаецца прыродай сацыяльна-эканамічнай сістэмы грамадства.*

У СССР банкаўскія рэсурсы складалі агульнанародную ўласнасць, асноўнымі іх крыніцамі з’яўляліся ўласныя фонды банкаў, грашовыя рэзервы дзяржаўнага бюджэту, часова вольныя грашовыя сродкі сацыялістычных прадпрыемстваў, а таксама эмісія. Рэсурсы, прызначаныя згодна з планам для кароткатэрміновага крэдытавання, строга адмяжоўваліся ад рэсурсаў, якія выкарыстоўваліся для доўгатэрміновага крэдытавання і бязвыплатнага фінансавання. У СССР у банкаўскіх рэсурсах доля бюджэтных сродкаў вагалася ад 40 да 50 працэнтаў, і яны, як правіла, накіроўваліся ў прыярытэтныя галіны эканомікі (фундаментальная навука, развіццё Поўначы, пошук і здабыча карысных рэсурсаў, крэдытаванне калгасаў і вясковага насельніцтва — праз фонды доўгатэрміновага крэдытавання). У выпадку, калі расходы дзяржаўнага бюджэту перавышалі даходы, крыніцай бюджэтных сродкаў з’яўлялася бюджэтная эмісія. Эмісія ажыццяўлялася эмісійнымі банкамі ў форме банкнот альбо казначэйствам — у форме казначэйскіх білетаў. Эмісія банкнот па сваёй эканамічнай прыродзе ўяўляе сабой эмісію крэдытных грошай (забеспячэннем іх выступалі казначэйскія вэксалі і дзяржаўныя кароткатэрміновыя аблігацыі). У маштабе ўсёй краіны ліміт эмісіі зацвярджаўся Саветам Міністраў СССР. Фактычна забеспячэннем крэдытнай экспансіі выступала нацыянальнае багацце СССР[1].

У краінах з рынкавай сістэмай вытворчых адносін (на падставе рэкамендацый МВФ, Базельскага банкаўскага камітэта) банкаўскія рэсурсы — пазычаны капітал, рух якога ажыццяўляецца ў адпаведнасці з рынкавымі законамі (у тым ліку законам захавання кошту). Асноўныя крыніцы яго — уласны капітал банкаў, уклады, дэпазіты (прыцягненыя рэсурсы), сродкі, атрыманыя ад іншых банкаў. Адзначым, што ў структуры рэсурсаў гэтых банкаў прасочваецца тэндэнцыя да скарачэння долі ўласных капіталаў (у канцы XX стагоддзя доля прыцягненых і запазычаных рэсурсаў у адзначаных банках складала 90 працэнтаў ад агульнай сумы банкаўскіх рэсурсаў). Пры гэтым у структуры эмісійных банкаў побач з уласным капіталам дамінуюць запазычаныя рэсурсы (прыцягненыя ад банкаў і дзяржавы, уключаючы банкнотную эмісію). Рэсурсы іпатэчных банкаў фарміруюцца шляхам выпуску закладных лістоў пад нерухомасць, закладзеную крэдытаатрымальнікам банка.

У рамках Брэтан-Вудскай і Ямайскай валютных сістэм цэнтральным банкам краін, што эмітуюць асноўныя рэзервы валюты, фактычна нададзена права ажыццяўлення неабмежаванай эмісіі альбо пад забеспячэнне яе элементамі нацыянальнага багацця, альбо праз выкарыстанне элементаў нацыянальнага ВУП іншых краін, *ацэненых праз рэшткі грашовых рэсурсаў у замежных банках на*

---

[1] Упершыню ў сусветнай навуцы дадзеная праблема сістэмна разглядалася ў доктарскай дысертацыі П. Г. Нікіценкі «Эфектыўнасць сацыялістычнага накаплення і фондаэканомны метад гаспадарання», якая была абаронена ў 1991 годзе ў Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС з прызнаннем яе як новага накірунку ў эканамічнай тэорыі і практыцы.

*карэспандэнцкіх рахунках «ларо»*. Фактычна, калі беларускія банкі размяшчаюць свае грашовыя рэсурсы на карэспандэнцкіх рахунках кшталту «ностра» ў банках нерэзідэнтах, яны *крэдытуюць эканомікі гэтых краін*.

Краіны, валюты якіх не з'яўляюцца рэзервовымі, як правіла, прывязваюць узровень манетызацыі сваіх эканомік да аб'ёму ВУП. У Расійскай Федэрацыі ўзровень манетызацыі вагаецца ў межах 30 працэнтаў ВУП, а ў Кітаі каэфіцыент манетызацыі эканомікі перавышае адпаведны паказчык Расіі ў пяць разоў. У Японіі ён, па выніках мінулага года, складае 160 працэнтаў ВУП. У ЗША ж фактычна роўны 300 працэнтам ВУП (на фоне дастаткова нізкага ўзроўню інфляцыі і перыядычных карэкціровак узроўню самога ВУП). У краінах з развітымі рынкавымі вытворчымі адносінамі ацэнены элементы нацыянальнага багацця.

*Даведка. Да нацыянальнага багацця (у адпаведнасці з рэкамендацыямі ААН па стварэнні сістэмы нацыянальных рахункаў ад 1993 года) прынята адносіць:*

*нефінансавыя актывы, вытворчыя актывы — асноўныя фонды, запасы матэрыяльных зваротных фондаў. Да асноўных фондаў адносяцца нематэрыяльныя вытворчыя актывы-аб'екты, сутнасць якіх вызначаецца змешчанай у іх інфармацыяй. Напрыклад, вынікі росшуку карысных рэсурсаў, праграмнае забеспячэнне, арыгінальныя творы мастацтва;*

*нефінансавыя і невытворныя актывы (зямля, лес, даступныя месцанараджэнні карысных выкапняў, водныя рэсурсы).*

У Расійскай Федэрацыі грашовая ацэнка элементаў нацыянальнага багацця не вядзецца. Ажыццяўляецца толькі ўлік у натуральным выражэнні, што фактычна прыводзіць да заніжэння кошту падаткаабкладаемай базы натуральных манаполій.

ВЫСНОВЫ:

На сучасным этапе развіцця айчыннай банкаўскай сістэмы наспела радыкальная неабходнасць увядзення ў разлік рэсурснай базы беларускіх банкаў усіх асноўных элементаў нацыянальнага багацця.

1. Гэта дазволіць у рамках існуючай нарматыўна-прававой базы па рэгуляванні дзейнасці беларускіх банкаў давесці каэфіцыент манетызацыі беларускай эканомікі да 100 працэнтаў. У Інстытуце эканомікі ўжо распрацаваны механізм «звязанай» эмісіі. Прычым ажыццяўляемая крэдытная эмісія павінна накіроўвацца на прыярытэтныя напрамкі развіцця эканомікі (фундаментальная навука, імпартазамяшчэнне, развіццё экспартнага патэнцыялу, жыллёвае будаўніцтва, сацыяльная інфраструктура). Фактычна ствараюцца рэальныя перадумовы і канкрэтныя крыніцы грашовых сродкаў для фінансавання фундаментальнай навукі. На развіцці кластэрных, крытычна экспартаарыентаваных і імпартазамяшчальных тэхналогіях можа, па выніках даследаванняў Інстытута эканомікі НАН Беларусі, засяродзіць прагназаванне і прыярытэтную ўвагу ўся навука краіны. Сярод гэтых праектаў «Прырода — Чалавек — Грамадства», «Вада», «Зямля», «Лес», «Энергетыка», «Жыллё», «Дарогі», «Дрэваапрацоўка», «Угнаенні», «Соль», «Цукар», «Збожжа», «Мяса», «Малако», «Садавіна», «Бульба», «Лён», «Раслінаводства», «Тэкстыль», «Рыба», «Абутак», «Оптыка», «Лагістыка».

На павышэнне канкурэнтаздольнасці гэтых крытычных тэхналогій-кластэраў на айчынным і сусветным рынках тавараў і паслуг павінны быць накіраваны прагнозы і навуковыя даследаванні такіх тэхналогій шырокага прыкладання, як «Нафтахімія», «Машынабудаванне», «Электроніка», «Прыборабудаванне», «Станкабудаванне», «Інфарматызацыя і сувязь», «Парашкі», «Будоўля», «Матэрыялы», «Экалогія», «Інтэрнет», «Геалогія і картаграфія», «Космас», «Нанатэхналогія», «Біятэхналогія».

Развіццё ўсіх вышэйназваных тэхналогій шырокага выкарыстання павінна стаць мэтай такіх грамадска-функцыянальных кластэрных тэхналогій, як «Улада», «Навука», «Фінансы і крэдыт», «Адукацыя», «Рэлігія», «Дзяржаўнае будаўніцтва», «Культура», «Ідэалогія», «Ахова здароўя», «Мастацтва», «Архітэк-

тура», «Дызайн», «Спорт», «Эканоміка», «Паліталогія», «Сацыялогія», «Гісторыя», «Мова і літаратура», «Права», «Гандаль і паслугі».

2. Прыцягненне ў эканамічны абарот элементаў нацыянальнага багацця дазволіць поўнасцю вырашыць праблему забеспячэння недарагімі крэдытнымі рэсурсамі будаўніцтва жылля ў Рэспубліцы Беларусь, таму што грамадзяне Рэспублікі Беларусь будуць мець магчымасць:

атрымліваць льготныя крэдыты для будавання жылля ў рамках сацыяльнай чаргі (у Рэспубліцы Беларусь на 1 лістапада 2009 года ў чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў стаяла 260 тысяч сем'яў) тэрмінам пагашэння 25—30 год;

атрымаць іпатэчныя крэдыты для паляпшэння жыллёвых умоў пад залог зямлі, нерухомасці (з'явяцца кварталы нізкапавярховай, катэджнай забудовы ў межах, напрыклад, першага і другога кальца МКАД);

атрымліваць іпатэчныя крэдыты на развіццё жыллёвай інфраструктуры (гаспадарчыя пабудовы, гаражы) з тэрмінам вяртання не пазней чым 25—30 гадоў, як у ЗША, і пад працэнт, які нязначна перавышае стаўку рэфінансавання і ўліковую стаўку Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

**САЛАДОЎНІКАЎ Сяргей Юр'евіч,** ***загадчык аддзела комплексных праблем сацыяльна-эканамічнага развіцця Інстытута эканомікі НАН Беларусі, доктар эканамічных навук,*** *заўважыў, што глабальны эканамічны крызіс апошніх гадоў на самай справе адлюстроўвае працэсы разбурэння капіталістычнай сістэмы гаспадарання. Зразумела, што для нашай краіны бессэнсоўна пазычаць заходнюю мадэль, мы павінны шукаць свае падыходы, абапіраючыся на папярэдні вопыт, у тым ліку і напрацаваны сацыялістычным грамадствам.*

Свет у XXI стагоддзі кардынальна змяніўся. І справа не толькі ў парушэнні геапалітычнай раўнавагі, фарміраванні аднапалярнасці і ўзмацненні барацьбы за ўсе віды рэсурсаў, але і ў тым, што чалавецтва пачынае па-новаму глядзець на мэты і крытэрыі грамадскага прагрэсу. Зразумела, што такія глабальныя цывілізацыйныя трансфармацыі знайшлі сваё адлюстраванне і ў эвалюцыі прадмета эканамічнай тэорыі. Паступова, спачатку незаўважна, а пасля і ўсё больш яўна на змену вузкаэканамічным канцэпцыям, якія разглядалі асобныя сацыяльныя фактары як дадатковыя трансакцыйныя выдаткі, а дзяржаву як «нябачную» альбо «варожую» руку рынку, прыходзяць сацыяльна-інстытуцыянальныя канцэпцыі. Яны дазваляюць убачыць у сацыяльных эканамічных адносінах аснову фарміравання любой нацыянальнай эканамічнай мадэлі. Фарміруецца разуменне дзяржавы як складанага грамадскага і сацыяльна-эканамічнага феномена, які выконвае ролю канфігуратара сучаснага рынку.

Рэспубліка Беларусь — маладая дзяржава, якая дынамічна развіваецца, і эканамічная сістэма яе функцыянуе ва ўмовах дыялектычнага адзінства агульнага і прыватнага. Рэальныя эканамічныя адносіны ў нас развіваюцца пад уздзеяннем універсальных эканамічных законаў і заканамернасцей, якія трансфармуюцца пад уплывам унікальных беларускіх інстытуцыянальных асаблівасцей. Адсюль відаць, што для нашай краіны немагчымае сляпое капіраванне тэарэтычных падыходаў і практычных механізмаў, што выпрацаваліся і выкарыстоўваюцца ў іншых соцыумах.

Перад беларускай палітычнай эканоміяй сёння стаіць задача прапанаваць канцэпцыю забеспячэння інавацыйнага развіцця краіны, арыентаванай на глабальныя цывілізацыйныя тэндэнцыі ў кантэксце планетарных фінансавых, эканамічных, палітычных, экалагічных і іншых крызісных з'яў. Пры гэтым сёння ўяўляецца сацыяльна безадказным проста дэклараваць неабходнасць павышэння затрат на навуку, справядліва заўважаючы, што гэтыя затраты акупяцца. Так, яны акупяцца, але ў планетарным маштабе...

У прымяненні ж да асобна ўзятай краіны акупнасць падобных выдаткаў бачыцца дастаткова праблематычнай. Тут варта прыгадаць высокі ўзровень развіцця савецкай навукі ў 70—80-я гады мінулага стагоддзя, эканамічны эфект ад якога ў асноўным прысвойвалі замежныя суб’екты гаспадарання. Ці можа Рэспубліка Беларусь дазволіць сабе такія марнатраўныя паводзіны сёння? Відавочна, не!

Варта таксама разумець, што любыя інавацыі самі па сабе далёка не заўсёды ідуць на карысць. Дастаткова прыгадаць, як інавацыйныя (рэвалюцыйныя) формы сацыяльнай арганізацыі расійскага грамадства, якія разбурылі трывалыя сацыяльныя сістэмы Расійскай імперыі ў 1917 годзе, прывялі пазней да буйнейшай геапалітычнай катастрофы XX стагоддзя — развалу СССР.

Інстытуцыянальны крызіс капіталістычнага сацыяльна-эканамічнага ўкладу (для якога характэрны арыентацыя на індывідуальны і групавы эгаізм, імкненне да максімізацыі прыбыткаў любой цаной, перавага індустрыяльных тэхналогій і ўкараненне грамадска-функцыянальных інавацый без уліку іх сацыяльных і экалагічных наступстваў) патрабуе вярнуцца ў палітычнай эканоміі да асэнсавання не толькі мэт грамадства, значэння ў эканоміцы маралі, але і да таго, як звязаны навукова-тэхнічны прагрэс з трансфармацыяй сацыяльна-эканамічных інстытутаў.

Глабальны інстытуцыянальны крызіс 2008—2010 гадоў адкрывае эпоху заняпаду сучаснага капіталізму, які непазбежна будзе суправаджацца нарастаннем міжнародных супярэчнасцей, што сыходзяць ад краін «залатога мільярда», і нежаданнем большасці жыхароў планеты мірыцца з сучаснымі формамі капіталістычнага пераразмеркавання матэрыяльных, інтэлектуальных і культурных даброт. Варта па-новаму, без палітызацыі пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя звярнуць увагу на саму ідэю сацыялізму.

З улікам сучасных глабальных тэндэнцый і выклікаў неабходна фарміраванне новай сацыяльнай парадыгмы інавацыйнага развіцця краіны, для чаго патрабуецца:

каб у цэнтры ўвагі ўсёй прыкладной навукі знаходзіліся патрабаванні рэальнага сектара эканомікі — ядра эканамічнай сістэмы грамадства, што патрабуе распрацоўкі сістэмы крытэрыяў для высвятлення сацыяльна-эканамічнай эфектыўнасці імпарту той ці іншай тэхналагічнай інавацыі альбо распрацоўкі яе айчыннымі спецыялістамі. Пры гэтым варта поўнасцю спыніць фінансаванне прыкладных даследаванняў за кошт дзяржбюджэту, бо гэтыя даследаванні мэтазгодныя толькі ў тым выпадку, калі на іх ёсць попыт з боку рэальнага сектара эканомікі. Калі ж попыту няма, дадзеная распрацоўка не патрэбная. Зразумела, што перапыненне фінансавання прыкладных даследаванняў павінна суправаджацца развіццём інстытуцыянальнага інавацыйнага рынкавага механізму камерцыялізацыі айчынных распрацовак, у прыватнасці, за кошт венчурных прыватных і дзяржаўных фондаў;

забяспечыць захаванне ўсіх існуючых сёння фундаментальных навуковых школ — адзінай асновы для аб’ектыўнай і комплекснай ацэнкі тых навуковых распрацовак, якія могуць — і будуць — трапляць да нас з-за мяжы;

распрацаваць крытэрыі комплекснай сацыяльна-эколага-эканамічнай эфектыўнасці ўсіх інавацыйных праектаў для Рэспублікі Беларусь, у тым ліку і зыходзячы з панесеных на сённяшні дзень страт;

выбіраць дзяржаўную стратэгію развіцця прамысловасці. Інакш кажучы, неабходна сфарміраваць сучасную прамысловую палітыку, арыентаваную на паскарэнне назапашвання чалавечага і сацыяльнага патэнцыялаў. Менавіта яны з’яўляюцца важнейшым кампанентам павышэння эканамічнай эфектыўнасці індустрыяльнага тэхналагічнага ўкладу, які дамінуе сёння ў гаспадарцы Рэспублікі Беларусь. Дзяржаўная стратэгія прамысловага развіцця павінна ўключаць механізмы пераразмеркавання бюджэтных сродкаў для хуткіх структурных трансфармацый айчыннай індустрыі. У тым ліку, калі гэта спатрэбіцца — за кошт сацыяльных праграм, выдаткаў на дзяржаўнае кіраванне і бяспеку;

перагледзець дзяржаўную парадыгму развіцця грамадскіх навук з улікам сённяшніх глабальных тэндэнцый, калі рэальнасцю робяцца інтэлектуальна-ідэалагічныя войны, а прынцып «хто не корміць сваіх гуманітарыяў, той будзе карміць чужых гуманітарыяў і чужую армію» перастае быць перабольшаннем. Пры гэтым варта рабіць упор на захаванне і развіццё, а ў асобных выпадках — на стварэнне нацыянальных навуковых школ фундаментальнай накіраванасці, якія б дазволілі крытычна ацаніць дасягненні замежнай тэорыі і выпрацаваць новыя метадалагічныя падыходы для далейшага канфігуравання беларускай інстытуцыянальнай мадэлі гаспадарання. Неабходна адрадзіць значэнне сацыяльнай філасофіі і палітычнай эканоміі як навук не толькі прагматычных, але і апалагетычных. Рэалізацыя названай дзяржаўнай парадыгмы павінна суправаджацца абавязковай незалежнай экспертызай усіх падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў (для школ, ВНУ і г. д.) па гуманітарных і эканамічных дысцыплінах на прадмет адпаведнасці іх беларускай дзяржаўнай ідэалогіі, сацыяльным і гаспадарчым рэаліям нашага камунальнага матэрыяльна-тэхналагічнага асяродка. Гэта не толькі павысіць узровень бяспекі краіны, але і будзе садзейнічаць росту сацыяльнага патэнцыялу Беларусі — важнага фактару ўстойлівага эканамічнага развіцця;

паскорыць далейшую трансфармацыю беларускай інстытуцыянальнай эканамічнай мадэлі ў напрамку росту самастойнасці суб’ектаў гаспадарання. Пры гэтым будзе ўзмацняцца сацыяльнасць, экалагічнасць і маральнасць эканамічнай сістэмы грамадства. У якасці адной з мер у гэтым напрамку можна разглядаць адмаўленне дзяржаўных прадпрыемстваў ад росту прыбыткаў як галоўнага паказчыка ацэнкі эфектыўнасці работы і пераарыентацыя іх на паказчыкі дадатковага кошту і даходу, што будзе ствараць дабратворныя ўмовы для росту заробкаў, а значыць і для пашыранага ўзнаўлення чалавечага патэнцыялу;

у мэтах павелічэння росту эканамічна актыўнага насельніцтва краіны, павелічэння колькасці насельніцтва і такім чынам — павышэння плацежаздольнага попыту варта распрацаваць дзяржаўную праграму па шырокім прыцягненні працоўных мігрантаў з краін гістарычна і ментальна блізкіх да Беларусі, якія на сённяшні дзень перажываюць моцныя сацыяльныя і палітыка-эканамічныя патрасенні. Напрыклад, з Украіны. За кошт гэтых мігрантаў ужо сёння можна вырашыць дэмаграфічныя праблемы вёскі і малых гарадоў, а таксама забяспечыць краіну неабходнымі рэсурсамі для доўгатэрміновага захавання высокіх тэмпаў эканамічнага росту і павышэння ёмістасці ўнутранага рынку.

***Загадчык сектара грашова-крэдытнага рэгулявання Інстытута эканомікі НАН Беларусі, кандыдат эканамічных навук* МАРКУСЕНКА Марына Віктараўна** *разгледзела ў сваім выступленні пытанні развіцця фінансавага рэгулявання ў нашай краіне.*

1. Па стане на 1 студзеня 2010 года курс беларускага рубля ў адносінах да карзіны валют склаў 1036,44 рубля, кошт яго зменшыўся ў параўнанні з першапачатковым узроўнем (на 2 студзеня 2009 года — 960 рублёў) на 7,96 працэнта, інакш кажучы, застаўся ў межах прызначанага 10-працэнтнага калідора. У 2010 годзе курсавой палітыцы па-ранейшаму будзе адводзіцца роля інструмента дасягнення знешняй і ўнутранай стабільнасці беларускага рубля. Вызначаны на 2010 год 10-працэнтны дыяпазон ваганняў абменнага курса адпавядае прагнознаму ўзроўню інфляцыі (на 2010 год змены індэкса спажывецкіх коштаў прагназуюцца на ўзроўні 108—110 працэнтаў гадавых), іншымі словамі, намінальны абменны курс беларускага рубля будзе абясцэньвацца ў рамках зададзенага калідора. Акрамя таго, рэальны эфектыўны абменны курс павінен таксама абясцэньвацца, каб кошты на экспартную прадукцыю ў доларавым эквіваленце не павялічваліся

і не зніжалася канкурэнтаздольнасць беларускіх тавараvытворцаў, інакш кажучы, павышалася эфектыўнасць экспарту. Гэта звязана з тым, што канкурэнтаздольнасць беларускіх тавараў на знешніх рынках вызначаецца не толькі якасцю тавараў, але і іх коштам.

2. Пры змяненні рынкавай кан'юнктуры і скарачэнні паступлення ў 2009 годзе валюты ў краіну затармазілася рублёвая эмісія. За кошт памяншэння тэмпаў экспарту і паступлення валюты ў краіну скарачаецца крыніца рэсурсаў, якія дазваляюць камерцыйным банкам выдаваць рублёвыя крэдыты (гэта валютныя сродкі, выкупленыя ў экспарцёраў цэнтральным банкам у свой рэзерв). Хаця павялічылася рублёвая падтрымка банкаў па іншых каналах — праз інструменты рэфінансавання.

Для захавання стабільнасці ў грашовай сферы вельмі важным з'яўляецца ўзровень забеспячэння грашовымі сродкамі здзелак у рэальным сектары эканомікі. Нягледзячы на тое, што ў 2001—2009 гадах у нас у краіне назіралася павышэнне каэфіцыента манетызацыі эканомікі па рублёвай грашовай масе з 4,8 працэнта ў 2001 годзе да 15,2 працэнта ў 2009, яе значэнне ўсё роўна застаецца нізкім.

Табліца. Дынаміка асноўных макраэканамічных паказчыкаў.

| Паказчыкі | 2001 | 2002 | 2003 | 2004 | 2005 | 2006 | 2007 | 2008 | 2009 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ВУП у бягучых коштах, мільярды рублёў | 17173,2 | 26138,3 | 36564,8 | 49991,8 | 65067,1 | 79267,0 | 97165 | 129790 | 136800 (ацэнка) |
| Індэкс спажывецкіх коштаў да адпаведнага перыяду мінулага года | 1,6 | 1,4 | 1,3 | 1,18 | 1,1 | 1,07 | 1,086 | 1,148 | 1,113 (ацэнка) |
| ВУП індэкс, папярэдні год = 100 % | 104,7 | 105,0 | 107,0 | 109,4 | 111,4 | 110,0 | 108,6 | 110 | 100,2 |
| Рублёвая грашовая маса, М2, у мільярдах рублёў (на канец года) | 827,4 | 1488,8 | 2430,7 | 4043,9 | 6451,7 | 10218,9 | 15732,5 | 19836,3 | 20737 |
| Шырокая грашовая маса, М3, у мільярдах рублёў (на канец года) | 1984,3 | 3168,1 | 4819,7 | 7159,5 | 10209,1 | 14779,8 | 24506 | 30961,1 | 38107,1 |
| Каэфіцыент манетызацыі (М2/ВУП, %) | 4,8 | 5,7 | 6,6 | 8,1 | 9,9 | 12,9 | 13,4 | 14,4 | 15,2 |
| Каэфіцыент манетызацыі (М3/ВУП, %) | 11,6 | 12,1 | 13,2 | 14,3 | 15,7 | 18,6 | 19,7 | 21,3 | 27,9 |

*Для параўнання: у Расіі каэфіцыент манетызацыі эканомікі па агрэгату М2 у снежні — верасні 2009 года склаў 33 працэнты. У развітых краінах дадзены паказчык складае не менш як 50 працэнтаў, у краінах Еўразоны — 80 працэнтаў.*

У 2009 годзе рэальны рост ВУП у нас складае 100,2 працэнта, рост грашовай масы (М2) — 101,8 працэнта. Інакш кажучы, да канца года за кошт тэрміновых дэпазітаў фізічных асоб у нацыянальнай валюце (з 5,8 мільярда рублёў на пачатак 2009 года да 5,9 мільярда на 01.01.2010, у тым ліку за студзень — 2 працэнты) назіралася прыблізная роўнасць паміж прыростам грашовай масы і прыростам рэальнага ВУП (табліца і дыяграма 2).

У 2010 годзе колькасць грошай у абароце павінна вырасці не менш як рэальны ВУП: павінна назірацца прыблізная роўнасць паміж прыростам грашовай масы і прыростам рэальнага ВУП.




*Дыяграма 2. Дынаміка асноўных макраэканамічных паказчыкаў Рэспублікі Беларусь у 2001—2009 гадах.*

3. Адным з істотных накірункаў грашова-крэдытнай палітыкі ў год якасці павінна стаць развіццё механізму рэфінансавання камерцыйных банкаў, што будзе спрыяць вырашэнню праблемы дэфіцыту інвестыцыйных праектаў і выдачы пад іх інвестыцыйных крэдытаў прамысловым прадпрыемствам, наладжванню эфектыўнага грашовага абароту ў інтарэсах развіцця нацыянальнай эканомікі, а таксама памяншэнню ўплыву валютнага фактару на рэгуляванне грашовага абароту.

У 2009 годзе тэмпы росту індэкса спажывецкіх коштаў склалі 110,2 працэнта адносна снежня 2008 года. Для выканання ў 2010 годзе прагназнага параметра па інфляцыі павінна забяспечвацца адпаведная якасць эмісіі. У сувязі з гэтым неаб-

ходна дакладна вызначыць прыярытэты дзяржаўнай інвестыцыйнай палітыкі: імпартазамяшчэнне, інавацыі, стварэнне новых рабочых месцаў у адпаведнасці з інавацыйным накірункам развіцця краіны і інш. У сённяшняй сітуацыі неабходна прадаставіць дзяржаўныя гарантыі па крэдытах тым вытворцам, якія ўкараняюць інавацыйныя тэхналогіі. Мэтазгодна спрашчэнне працэдуры атрымання дзяржаўных гарантый па грашовых крэдытах прадпрыемствам рэальнага сектара эканомікі, з субсідзіраваннем працэнтных ставак па такіх крэдытах. Працэнтная палітыка павінна стымуляваць уклады ў нацыянальнай валюце і паслядоўна прывесці да больш нізкіх працэнтных ставак па дэпазітах і крэдытах у беларускіх рублях (з 1 снежня 2009 года стаўка рэфінансавання была зніжана да 13,5 працэнта).

4. Высакаякасныя тавары не могуць выпускацца на маральна і фізічна састарэлым абсталяванні. Адна з прычын недастатковага развіцця інвестыцыйнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь заключаецца ў нізкай ліквіднасці акцый прадпрыемстваў, дзе працягваецца эксплуатацыя асноўных сродкаў з высокай ступенню зносу (70 працэнтаў і вышэй). Акцыі, эмітуемыя пад сродкі, рынкавы кошт якіх практычна роўны нулю, ніколі не будуць мець попыту на фондавым рынку.

Неабходным бачыцца ўзмацненне ролі дзяржавы ў акумуляцыі доўгатэрміновых фінансавых рэсурсаў з выкарыстаннем інструментаў фондавага рынку для павышэння ліквіднасці акцый дзяржаўных прадпрыемстваў рэальнага сектара эканомікі. У гэтым выпадку:

сродкі ад продажу дзяржаўных каштоўных папер у большай частцы павінны накіроўвацца на інвестыцыі ў «лакаматыўныя» аб’екты эканомікі;

прадпрыемствы, у якія дзяржава інвестуе атрыманыя з азначанай крыніцы фінансавыя рэсурсы, пасля абнаўлення асноўных фондаў могуць быць прыватызаваны. Атрыманыя ад продажу акцый грашовыя сродкі павінны накіроўвацца:

на пагашэнне пазык па дзяржаўных каштоўных паперах;

на рэканструкцыю і расшырэнне існуючых вытворчасцей на новай тэхналагічнай аснове і новае будаўніцтва.

***Падрыхтавала Марыя Шамякіна.***



**Валянцін БАРАНАЎ**

# ПОПЕЛ ЧАРНОБЫЛЯ

26 красавіка 1986 года... Гэты дзень назаўсёды ўвойдзе ў гісторыю чалавецтва той страшнай памяццю, якая будзе кожны раз прымушаць уздрыгваць пры ўспамінах. Катастрофа на Чарнобыльскай АЭС горкай трагедыяй увайшла ў жыццё і сэрцы жыхароў Хойніцкага раёна, маіх родных і блізкіх, знаёмых і сяброў, таварышаў па працы, многіх мільёнаў людзей. Чорным крылом апусцілася бяда, раздзяліўшы наша жыццё на два перыяды: дачарнобыльскі і паслячарнобыльскі.

Буйнейшая тэхнагенная катастрофа XX стагоддзя крута змяніла нашы лёсы, уклад жыцця, унесла карэктывы ў далейшае развіццё Хойніцкага раёна, ды і рэспублікі ў цэлым. Яна аказала ўплыў і на жыццё нашых суседзяў — народаў Расіі і Украіны, якія таксама пацярпелі ад вынікаў Чарнобыля.

З-за трагедыі на ЧАЭС з нашага раёна было эвакуіравана і адселена толькі ў першыя месяцы каля 20 тысяч чалавек, амаль у палавіне населеных пунктаў перастаў гучаць дзіцячы смех. Не стала 6 сельскіх Саветаў, ліквідаваны 7 калгасаў і саўгасаў, закрыты 10 агульнаадукацыйных школ, 20 устаноў медыцыны і культуры, выведзены з карыстання 88 тысяч гектараў зямель. Гэта для маіх землякоў памяць Чарнобыля, яго жорсткая спадчына!

У той час я працаваў загадчыкам арганізацыйнага аддзела Хойніцкага райкама КПБ, з’яўляўся членам бюро райкама. Мне давялося быць непасрэдным удзельнікам і сведкам тых падзей, займацца эвакуацыяй насельніцтва з так званай 30-кіламетровай зоны, рашэннем іншых неадкладных задач, выкліканых катастрофай на Чарнобыльскай АЭС.

Разам са мной ліквідацыяй вынікаў катастрофы ў першыя яе дні і тыдні займаліся калегі па працы, работнікі райкама партыі і райвыканкама, кіраўнікі гаспадарак, галоўныя спецыялісты і кадры сярэдняга звяна. Менавіта яны былі прамымі арганізатарамі і выканаўцамі мерапрыемстваў, якія вызначаліся рэспубліканскім і абласным штабамі па ліквідацыі вынікаў трагедыі на атамнай станцыі. Менавіта яны знаходзіліся на пярэднім краі цяжкай, знясільваючай працы, рызыкавалі сваім здароўем, не думаючы пра вынікі шматгадзіннага знаходжання ў зоне пад уздзеяннем радыяцыі. А месцамі ўзроўні выпраменьвання даходзілі там да 600 мілірэнтген і больш. Ніхто з іх не думаў тады аб узнагародах, льготах, нейкай выгодзе. Так трэба было! Такімі нас выхаваў час, у якім мы жылі.

З асаблівай цеплынёй праз гады я ўспамінаю тых, хто ў красавіцкія — чэрвеньскія дні 1986 года разам са мной не ў кабінетах, а на месцах вырашаў пытанні, якімі да гэтага часу не займаўся ніхто. Гэта Аляксандр Дзяйкун, Віктар Васькевіч, Мікалай Вашчанка, Алег Яўстратаў, Сяргей Жыляк, Іван Васюк, Пётр Краўчанка, Арсен Сакун, Анатоль Ткачэнка, Георгій Хліманкоў, Аляксандр Каюда, Вячаслаў Курэнь, Мікалай Сацура, Іосіф Азаркевіч, Іосіф Грыгаровіч, Міхаіл Малец, Пётр Лекаркін, Іван Цішкевіч, Мікалай Бельчанка, Анатоль Шарапа, Аляксандр Краўчанка... Гэты пералік можна працягваць і далей. Няхай не будуць на мяне ў крыўдзе тыя, каго не назваў. Лепшая падзяка ім за іх подзвіг — памяць жыхароў Хойніцкай зямлі.

Ляцяць гады. Ім уласціва сціраць з памяці самае радаснае, самае сумнае і самае значнае. Праз гады мы і самі часам глядзім на падзеі, удзельнікамі якіх былі, некалькі інакш — так пабудавана жыццё.

Усё гэта і змусіла мяне ўзяцца за пяро, каб пакінуць успаміны і ўражанні аб першых днях жыцця пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, аб тым, якія

выпрабаванні выпалі, што перажыта. Гэта маё асабістае: і погляд на падзеі тых далёкіх дзён, і іх ацэнка, дзе давялося быць у тыя дні, чым займацца. Дык вось...

26 красавіка дзень выдаўся ясны, сонечны. Напярэдадні, у пятніцу, я з сям'ёй прыехаў да бацькоў у пасёлак імя Леніна. Збіраліся ў выхадныя пасадзіць бульбу. Раніцою ў суботу хутка развезлі і раскідалі на агародзе гной і прыступілі да пасадкі.

Нішто не гаварыла пра бяду, праца спорылася. З паўднёвага ўсходу дзьмуў цёплы вецер. Дзеці, шасцігадовы сын Ігар і дачка Лена (ёй у той дзень споўнілася 4 гады), гулялі на вуліцы.

Недзе к дзесяці гадзінам з боку Хойнік над намі ў напрамку вёскі Пагоннае (а гэта якраз у бок Чарнобыля) сталі пралятаць вялікія ваенныя верталёты. Ляцела многа. Мы моўчкі праводзілі іх вачамі. Бацька, праўда, выказаў меркаванне, што, мусіць, ідуць вучэнні. Я не згадзіўся, бо ніякага паведамлення ў прэсе аб вучэннях на тэрыторыі Беларускай ваеннай акругі не было. А верталёты ўсё ляцелі.

У канцы дня мы вырашылі з'ездзіць да жончыных бацькоў у вёску Лясок, якая знаходзілася за паўтара кіламетра ад Пагоннага. Выйшлі на шашу, сталі чакаць маршрутнага аўтобуса. Пачаў накрапваць дожджык, па-ранейшаму дзьмуў цёплы вецер. З боку Бабчына паказалася аўтамашына. Спыніўся знаёмы вадзіцель, і жонка вырашыла ехаць з дзецьмі ў Хойнікі. Я застаўся адзін.

Праз некаторы час паказаўся зноў аўтамабіль. Гэта быў малакавоз, які дастаўляў малако з калгаса «Новае жыццё», што знаходзіўся ў непасрэднай блізкасці ад Чарнобыля. Прагаласаваў. Вадзіцель, малады мужчына гадоў трыццаці, расказаў, што ў тым баку (ён меў на ўвазе Прыпяцкую зону) адбываецца нешта незразумелае, з-за ракі ў нашы вёскі Уласы, Радзін, Баршчоўка пераязджаюць людзі, у асноўным жанчыны і дзеці. І ўсе гавораць аб нейкім выбуху на атамнай станцыі.

За размоваю не заўважылі, як прыехалі ў Хойнікі. Такім чынам, ад вадзіцеля малакавоза я і пачуў упершыню пра выбух на Чарнобыльскай АЭС. Ужо дома расказаў жонцы аб гэтым. Мы зачынілі фортачкі ў кватэры, паклікалі дзяцей з вуліцы. Я пазваніў у прыёмную райкама партыі. Дзяжурны паведаміў, што члены бюро запрашаюцца на 18 гадзін да першага сакратара райкама КПБ. 26 красавіка 1986 года ў 18 гадзін першы сакратар райкама партыі паведаміў членам бюро пра тое, што на Чарнобыльскай атамнай станцыі адбылася нейкая аварыя, падрабязнасцей аб якой пакуль ніякіх няма. Ён папрасіў усіх весці сябе адпаведна і дзейнічаць так, каб не было панікі, працягваць комплекс веснавых палявых работ, рыхтавацца да першамайскай дэманстрацыі. Так пачалося наша жыццё пад Чарнобылем.

У наступныя дні асаблівага напружання ў рабоце райкама партыі, райвыканкама не адчувалася, усё было, як звычайна: ішла вясенняя пасяўная кампанія, жыхары раёна працавалі на сваіх прысядзібных участках, рыхтаваліся да 1 Мая і Дня Перамогі. Адно, што адрознівала жыццё раёна, — гэта прыезды розных камісій і дэлегацый вучоных з Мінска, Масквы, Ленінграда, іншых месц. Усе яны імкнуліся пабываць у населеных пунктах, размешчаных бліжэй да Украіны.

У адзін з красавіцкіх дзён мяне запрасілі ў кабінет да першага сакратара. Ён прапанаваў выехаць з групай вучоных у вёску Пагоннае і суправаджаць іх да мяжы Брагінскага раёна. У кабінеце першага сядзелі тры сівавалосыя, прадстаўнічага выгляду мужчыны. Ці прадставіліся, хто і адкуль яны былі, цяпер не памятаю. Удакладніўшы асобныя моманты даручэння, стаў збірацца ў паездку.

Райкамаўскі ўазік праз гадзіну з невялікім даставіў нас у вёску Дронькі.

На вуліцы мы нікога не сустрэлі, бо людзі былі на працы, многія шчыравалі на сваіх агародах.

Адразу за гэтай вёскай каля дарогі на Пагоннае ўбачылі статак кароў, жыхары адбывалі радоўку. Госці папрасілі мяне спыніцца. Выйшлі з машыны і накіраваліся да пастуха. Яны пыталіся ў яго, ці ведаюць у вёсцы, што здарылася ў Чарнобылі. Атрымаўшы на гэта станоўчы адказ, вучоныя заявілі, што нічога асаблівага не адбылося на станцыі, звычайная непаладка. Таму трэба пасвіць жывёлу, засяваць агароды, але пры гэтым менш бываць на сонцы. Пагутарыўшы яшчэ крыху пра вясковае жыццё, мы паехалі далей.

Усе гады пасля той паездкі я часта ўспамінаю тую размову і не знаходжу для сябе адказу на адно пытанне: або вучоныя сапраўды не ведалі стану спраў на станцыі і як паводзіць сябе ў падобнай сітуацыі, або яны ўжо тады выконвалі пэўны заказ? І ў першым, і ў другім выпадку, думаю, няхай Бог ім будзе суддзёй.

У Пагонным у канторы саўгаса «Перамога сацыялізму» нас чакаў яго дырэктар Пётр Краўчанка. Ён расказаў пра стан спраў у гаспадарцы, як ідуць палявыя работы. На яго пытанне, што рабіць у сувязі з абстаноўкай на станцыі, пачуў параду, што трэба працаваць у ранейшым рэжыме, бо прычын для іншых дзеянняў ніякіх няма.

Далей наш шлях ляжаў у калгас «Новае жыццё». Кіраўнік гэтай гаспадаркі Іван Васюк, мой зямляк, таксама праінфармаваў аб клопатах вяскоўцаў. Іван Мікалаевіч паведаміў і пра тое, што ў вёскі, якія ўваходзяць у калгас, усё больш пераязджае людзей з украінскіх вёсак, размешчаных каля станцыі (тэрыторыя калгаса межавала з Украінскай ССР, непасрэдна прылягала да чарнобыльскіх земляў). На сваё пытанне, як дзейнічаць у той сітуацыі, што склалася, Васюк пачуў амаль такі ж адказ, як і яго сусед-кіраўнік.

Праз некаторы час маскоўскія госці падаліся на тэрыторыю Брагінскага раёна, а я, развітаўшыся з Іванам Мікалаевічам, вярнуўся ў Хойнікі.

1 мая ў горадзе прайшла першамайская дэманстрацыя. Ішлі ў калонах працоўныя калектывы, як гэта было прынята, з лозунгамі, транспарантамі і, безумоўна ж, з партрэтамі правадыроў. Члены бюро райкама партыі, у тым ліку і я, члены выканкама стаялі на трыбуне каля помніка Леніну і віталі дэманстрантаў, а тыя ў калоне — нас. З бацькамі ішлі і дзеці. Праўда, было прынята рашэнне, каб вучні школ і навучэнцы вучылішча горада ў першамайскай дэманстрацыі не ўдзельнічалі.

Народ святкаваў Першамай, не ведаючы пра тое, што ўся Хойнікаўшчына і іншыя тэрыторыі засыпаны радыеактыўнымі элементамі, што праз некалькі дзён у нашым жыцці адбудуцца падзеі, вынікі якіх расцягнуцца на вякі.

Да таго часу з населеных пунктаў Аравіцкага і Радзінскага сельскіх саветаў былі вывезены дзеці і цяжарныя жанчыны. Іх размясцілі ў гарадскіх школах і бліжэйшых да Хойнік вёсках.

Увесь гэты час з намі ў раёне заставаліся і нашы дзеці, хаця многія і вывезлі сваіх за межы вобласці і далей. Памятаю, той жа сакратар райкама прахаджваўся ў тыя дні па вуліцах горада са сваёй малой дачушкай, тым самым, як ён лічыў, не даваў падстаў для панікі. Адэкватныя дзеянні патрабаваліся і ад камуністаў, кіруючых кадраў раёна. Усё было скіравана на тое, каб прадухіліць паніку сярод насельніцтва.

2 мая я зноў быў у населеных пунктах Аравіцкага і Радзінскага сельскіх саветаў. Разам са мной знаходзіліся старшыня райкама прафсаюза работнікаў АПК Георгій Хліманкоў і галоўны інжынер РАПА Анатоль Ткачэнка. Мы пабывалі ў вёсках Пагоннае, Лясок, Радзін, Уласы, Сінцы, Чамкоў, дзе сустракаліся з жыхарамі, імкнуліся іх крыху супакоіць, запэўніваючы, што ніякай небяспекі для пражывання тут няма, патрэбна працягваць веснавыя работы. На іх пытанні, чаму ж вывезлі дзяцей і цяжарных жанчын, я адказваў, што дзеці ўсё-такі ёсць дзеці і іх патрэбна аберагаць нават ад малейшага ўплыву таго, што здарылася на станцыі. Людзі верылі, бо многія ведалі, што мая жонка з гэтых мясцін, і тут жа

ў вёсцы Лясок жывуць яе бацькі і блізкія родзічы. Ды і сам я верыў у тое, што тады гаварыў, бо іншага адказу проста не ведаў.

А ўзровень радыяцыі быў там унушальны! Да прыкладу, недалёка за Чамковым ёсць горка, з якой адкрываецца від на станцыю. Мы пад'ехалі, падняліся наверх. Надвор'е стаяла сонечнае, яснае. І было відаць, як над кратэрам чацвёртага рэактара адзін за адным завісаюць верталёты, нешта аддзяляецца ад іх і падае ўніз. Гэта сёння, праз многія гады пасля таго дня, мы ведаем, што верталётчыкі цаной свайго жыцця і свайго здароўя тушылі атамны агонь, утаймоўвалі смяротную стыхію.

Затым мы накіраваліся да старшыні калгаса «Новае жыццё» Івана Васюка і расказалі яму пра ўбачанае. Ён паведаміў, што па замерах узровень радыяцыі на гэтай горцы на схілах 400—500 мілірэнтген, а на яе вяршыні — усе 600. Але мы тады пра гэта нічога не ведалі, як і не ведалі пра ўплыў радыеактыўнага выпраменьвання.

Недзе ў канцы таго дня з кабінета дырэктара саўгаса «Перамога сацыялізму» Пятра Краўчанкі я пазваніў першаму сакратару райкама партыі. Далажыў яму абстаноўку і запытаў, што маёй групе рабіць далей. У адказ пачуў, што да нас выехаў намеснік старшыні райвыканкама Мікалай Вашчанка, з ім многія работнікі райкама і райвыканкама, па прыездзе ён раскажа, што рабіць далей.

З групай я выехаў за Пагоннае, па шляху завітаў да жончынага стрыечнага брата Пятра Грамыкі. Яго жонка Зіна сабрала нам перакусіць. У хуткім часе аўтобусам пад'ехалі Вашчанка, іншыя адказныя работнікі райкама і райвыканкама. Мікалай Аляксандравіч паведаміў, што на высокім узроўні прынята рашэнне эвакуіраваць усіх жыхароў Аравіцкага і Радзінскага сельскіх саветаў, вывезці з гэтай мясцовасці жывёлу прыватнага і грамадскага сектараў, спыніць часова тут усялякую дзейнасць.

Мікалай Аляксандравіч як старшыня эвакуацыйнай камісіі і я размеркавалі работнікаў па населеных пунктах, яшчэ раз растлумачылі, што гаварыць жыхарам: адсяленне ўсяго на некалькі дзён, з сабой узяць толькі дакументы, грошы, крыху прадуктаў харчавання. Пасля чаго ўсе раз'ехаліся па месцах апавяшчэння аб эвакуацыі.

Я выбраў сабе вёску Уласы. Увесь вечар да позняй ночы хадзіў з Анатолем Ткачэнкам па дамах, папярэджваючы жыхароў пра заўтрашні ад'езд. Было ўсё: пытанні, на якія не знаходзілася адказаў, слёзы і не вельмі прыемныя выказванні, як у наш адрас, так і ў адрас улад Масквы і Мінска. Жыхары Чамкова і Сінцоў, у якіх я быў днём і гаварыў ім аб магчымасці пражывання, пыталіся з недаўменнем: як так, якая эвакуацыя? Дзе Баранаў? Ён жа гаварыў, што тут можна жыць! Пытанні, пытанні...

Глыбокай ноччу з 2 на 3 мая я вярнуўся дадому ў Хойнікі. А ўжо ў 7 гадзін раніцы зноў быў у канторы саўгаса «Перамога сацыялізму», дзе сабраліся члены парткама, галоўныя спецыялісты. Пытанне стаяла адно: эвакуацыя насельніцтва і спыненне ўсёй гаспадарчай дзейнасці. Былі вызначаны меры па зладжаным правядзенні звязаных з гэтым комплексам мерапрыемстваў, прызначаны адказныя асобы. Агульнае кіраўніцтва ўсімі работамі па гэтым саўгасе, як член бюро райкама партыі, я ўзяў на сябе.

Раніцай таго ж дня, прыехаўшы ў Дронькі, мы спыніліся каля разгорнутай паходнай палаткі. З яе выйшаў падпалкоўнік медыцынскай службы. Пагутарыўшы некалькі мінут каля машыны, ён запрасіў мяне ў палатку. Маладзенькая медсястра па яго прапанове наліла ў дзве гранёныя шклянкі грамаў па 120 спірту. На мой недаўменны позірк падпалкоўнік заявіў, што ў гэтай мясцовасці цяпер трэба пакрыху прымаць спіртное і запрасіў выпіць, што мы і зрабілі. Замест закусі прапанаваў цыгарэту, а з-за таго, што я да таго часу ўжо кінуў курыць, давялося закусіць «рукавом». Праз некаторы час, развітаўшыся з ваенным медыкам, мы паехалі далей, у вёску Пагоннае.

Па заканчэнні пасяджэння парткама саўгаса «Перамога сацыялізму» заехаў да жончыных родзічаў у вёску Лясок. Цесць, Аляксей Міхайлавіч, добрай душы чалавек, зараз нябожчык, пабачыўшы мяне так рана, неяк перамяніўся ў твары і запытаў, што ім рабіць далей.

Увайшлі ў дом. Маці гатавала сняданак. Завітаў дзядзька Піліп і іншыя суседзі. Усе чакалі, што скажу ім. Я паведаміў аб прынятым рашэнні наконт эвакуацыі, расказаў, як усё гэта будзе адбывацца: жывёлу, якая знаходзіцца ў насельніцтва, закупіць дзяржава, людзі возьмуць з сабой толькі дакументы, грошы, нешта з прадуктаў харчавання. Жыхары Пагоннага і Ляска пераселяцца ў Тульгавічы, там жа будзе знаходзіцца і кантора іх саўгаса. Той, хто жадае, можа ехаць да родзічаў і знаёмых.

Жанчыны, пачуўшы сказанае, — у слёзы, а цесць распарадзіўся накрыць стол, у апошні раз пасядзець з аднавяскоўцамі, выпіць па чарцы-другой: калі Бог дасць яшчэ пабачыцца?

Вёсачка была невялікая, і яе жыхары жылі як адна сям'я. Праз некаторы час у доме Аляксея Міхайлавіча Балянка, майго цесця, сабраліся многія вяскоўцы, кожны нёс з сабой нешта на стол. Разам з імі пасядзеў за сталом і я, пасля чаго вярнуўся ў Пагоннае.

А там поўным ужо ходам ішла эвакуацыя. Жыхары вёскі заявілі, што паедуць толькі пасля таго, як будуць прыняты ад іх каровы і свінні. Жывёлу на вагу вызначалі камісійна, грузілі на аўтамашыны і вывозілі. Адначасова ішла і пагрузка грамадскага пагалоўя. Жанчыны, праводзячы сваіх рагуль, плакалі. Неспакойна паводзіла сябе і жывёла.

4 мая эвакуацыйныя работы працягваліся. На дапамогу прыехала 40—50 салдат з двума афіцэрамі.

З раніцы прыбылі для перавозкі людзей аўтобусы. Апоўдні пачалася эвакуацыя насельніцтва. Плакалі жанчыны і дзеці, старыя прасілі пакінуць іх паміраць на роднай зямлі, мужчыны былі негаваркія. З'явіліся і першыя ў нецвярозым стане.

Я зноў заехаў у Лясок. Там ужо ўсе былі гатовыя да ад'езду. Раптам высветлілася, што няма адной бабулькі. Мы з цесцем, некалькі салдат і старшы лейтэнант пайшлі да яе на падворак. У доме — нікога, пуста і ў хляве. Адзін з салдат злазіў на гарышча. Там таксама было пуста. У двары, на калодзежы, палавіна якога была зачынена, ляжалі каралі. Пашукалі багром — у калодзежы таксама пуста.

У бабулі было некалькі маленькіх сабачак, і ўвесь той час, што мы яе шукалі, яны бегалі па двары. Раптам усе паімчалі ўбок лесу, які знаходзіўся за 150 метраў ад вёскі. Цесць прапанаваў ісці за імі. На ўскрайку лесу, пад вывернутым вялікім дрэвам, у ямцы сядзела бабуля. Пабачыўшы нас, стала прасіць, каб яе пакінулі ў вёсцы, што ёй засталося жыць ужо зусім мала. Салдаты давялі бабулю да аўтобуса, дапамаглі ёй сесці. Гэтая гісторыя з адсяленнем у маёй памяці застанецца назаўсёды.

Разам з аўтобусам выязджала мінулае і сучаснае маіх родзічаў па жонцы, маіх новых знаёмых, проста добрых людзей. Яны пакідалі сваю малую радзіму, радасць і смутак, дзяцінства і юнацтва, свае надзеі... Яны ехалі ў невядомасць... Адно толькі адчувалі, што ўжо ніколі сюды не вернуцца, каб нармальна жыць, што развітваюцца з вёскай назаўсёды. Іх плач, — як рэквіем па роднай зямлі, якая іх гадавала, карміла і паіла. На гэтай зямлі нарадзіліся і выраслі іх дзеці. Бывай, Лясок, бывай, мая другая радзіма, што падаравала мне жонку, што дала новых родзічаў, пакінула ў памяці шмат добрых успамінаў!

І зноў я ў Пагонным. Работа па адсяленні жыхароў і ліквідацыі гаспадаркі падыходзіла ўжо да канца. На плошчы, каля канторы саўгаса і далей па цэнтральнай вуліцы стаялі аўтобусы. Шмат аўтобусаў... Усё было гатова да эвакуацыі людзей.

З дырэктарам саўгаса Пятром Краўчанкам і сакратаром парткама Мікалаем Бельчанкам прайшлі яшчэ раз па вытворчых аб'ектах, паглядзелі, ці ўсё зачынена

і апячатана. Падышлі да магазіна, дзе сабралася шмат вяскоўцаў. Зноў пасыпаліся пытанні: як жыць далей, ці небяспечна гэта, ці надоўга выязджаюць, што будзе з маёмасцю?

Як мог і ведаў растлумачыў ім сітуацыю. Пажылыя людзі гаварылі, што так не было нават у гады Вялікай Айчыннай вайны, каб нельга было з сабой нешта ўзяць з нажытага.

Па вуліцах вёскі ўвесь гэты час хадзілі салдаты, апранутыя ў ахоўныя касцюмы. І не па сабе станавілася ад усяго гэтага.

Было спякотна. З дырэктарам саўгаса прайшлі да паганянскага канала. Недалёка ад моста вырашылі пакупацца. Вада халаднаватая, але стомленасць як рукой зняло. Тое купанне — прыклад таго, наколькі недасведчаныя былі мы пра радыеактыўную забруджанасць, яе ўздзеянне на здароўе.

Вярнуліся ў вёску. У канторы саўгаса вадзіцелі мне сказалі, што ўсё гатова да ад'езду. Можна вывозіць людзей. Абмеркаваўшы яшчэ раз некаторыя моманты, прымаем рашэнне аб пасадцы людзей у аўтобусы. Зараз не памятаю дакладны час пачатку эвакуацыі жыхароў вёскі Пагоннае, але помню той плач, крыкі, якія стаялі над вёскай. Людзі абдымаліся і развітваліся адзін з адным, хаця пакуль яны ехалі разам. Праз некалькі месяцаў многія жыхары Пагоннага і Ляска атрымалі жыллё ў вёсцы Кірава Жлобінскага раёна, дзе жывуць і цяпер.

А тады пра гэта ніхто яшчэ не ведаў. Многія мужчыны да пасадкі ў аўтобус паспелі добра-такі напіцца, іх сілком садзілі ў транспарт. Запомнілася і тое, як бегалі вакол аўтобусаў сабакі, развітваючыся са сваімі гаспадарамі.

Даю каманду да адпраўкі, вадзіцелі займаюць свае месцы, націскаюць на сігналы — і калона, з плачам, уключанымі гукавымі сігналамі, у суправаджэнні дзесяткаў сабак, якія выюць, павольна выязджае з вёскі. Уся вёска Пагоннае, як населены пункт, перастала існаваць, як і амаль паўсотні іншых у раёне.

Пётр Іванавіч Краўчанка запрасіў мяне дадому, дзе, па яго словах, жонка Ніна Іванаўна, якая працавала галоўным урачом участковай бальніцы, прыгатавала развітальны абед. Пасядзеўшы за сталом у гасцінных Краўчанкаў, падзякаваўшы гаспадыні за абед, развітаўся з імі і выехаў у Хойнікі. А ў вёсцы засталіся ў асноўным ваенныя, якія ўзялі пад ахову пакінутую людзьмі тэрыторыю.

Так, пачынаючы з 5 мая 1986 года, на тэрыторыі Хойніцкага раёна ўзнікла 30-кіламетровая зона. Усе тыя дні, дзе б я ні быў і якімі б пытаннямі ні займаўся, неадступна праследавала адна думка: як там мая сям'я, мае дзеці, што будзе з усімі намі далей? Удзячны лёсу, што мая жонка, зразумеўшы сітуацыю і маё становішча, ніколі не ўчыняла разборак, не прад'яўляла катэгарычных патрабаванняў аб пераездзе, хаця падобныя гутаркі былі і ў нас. Асабліва пасля выезду з раёна тых або іншых добрых знаёмых. Ехалі ж вельмі многія. Ехалі хто куды, бо тады ж быў яшчэ Савецкі Саюз, людзі шукалі і знаходзілі сабе і жыллё, і работу.

У мяне, у Хойніках, па вуліцы Калесніка ў двухпакаёвай кватэры спыніліся жончыны бацькі, іншыя родзічы з адселеных вёсак. Усім хапіла месца! Калі прыязджаў вечарам дадому, дапазна з мужчынамі абмяркоўвалі сітуацыю, якая склалася, будавалі планы на будучае.

А жыццё ў райцэнтры і населеных пунктах, якія засталіся, працягвалася. Праўда, усё несла на сабе чарнобыльскі адбітак. У магазіны, калгасы і саўгасы, у арганізацыі і на прадпрыемствы завозіліся прадукты харчавання з чыстых рэгіёнаў, усім выплачвалася двайная зарплата. Выплачваліся і грошы на пакупку новага адзення пасля наведвання зоны эвакуацыі. У магазінах было шмат чырвоных він, асабліва папулярным стала «Кабэрне». Некалькі яго бутэлек было ў мяне ў сейфе ў кабінеце: медыкі раілі яго піць у невялікіх дозах.

У раён зачасцілі брыгады медыцынскіх работнікаў з Мінска, Ленінграда, іншых месц — для абследавання насельніцтва. Адзін з такіх пунктаў быў разгорнуты проста ў памяшканні райкама партыі, здаецца, медыкі з Ленінградскай ваенна-медыцынскай акадэміі.

Нас правяралі, нас вывучалі... Абследаванні многіх выяўлялі вялікія ступені накаплення радыенуклідаў. Людзей накіроўвалі на дадатковае абследаванне і лячэнне. Мне таксама прапісалі нейкія таблеткі і мікстуры, рэкамендавалі пэўны час не выязджаць у 30-кіламетровую зону.

Частымі гасцямі ў нас сталі розныя ансамблі, творчыя калектывы. На стадыёне ў гарадскім парку перад насельніцтвам выступалі «Сябры», іншыя вядомыя зоркі эстрады як нашай рэспублікі, так і іншых рэгіёнаў Савецкага Саюза.

Праводзіліся таварыскія сустрэчы хойніцкіх футбалістаў з мінскімі дынамаўцамі, футбольнымі камандамі многіх гарадоў вобласці. Прайшлі таксама спаборніцтвы па іншых відах спорту.

Хайнічане цёпла віталі артыстаў, перажывалі і «хварэлі» за сваіх спартсменаў-землякоў. Усё гэта адбывалася пад спякотнымі промнямі сонца, пад уздзеяннем радыеактыўнага апраменьвання.

6 мая ў «вярхах» было прынята рашэнне аб адсяленні з раёна дзяцей і цяжарных жанчын. Гэтая акцыя павінна была адбыцца 7 мая. З раніцы таго дня ў раён сталі прыбываць аўтобусы з аўтапаркаў Гомеля і іншых гарадоў вобласці. Яны размяркоўваліся па школах згодна колькасці вучняў, дашкольнікі вывозіліся разам з маці. З сельскай мясцовасці аўтобусы павінны былі прыбыць у горад недзе к 10 гадзінам, выстройваліся па дарозе Хойнікі — Гомель.

У горадзе рабілася нешта неверагоднае. Усе знаходзіліся ў стане афекта, абстаноўка была непрадказальнай. А недзе к 9 гадзінам раніцы стала вядома, што магчымы выбух на атамнай станцыі: з-за верагоднага пранікнення ў прыпяцкія воды з-пад рэактарных памяшканняў расплаўленай масы. Аб гэтым кіраўніцтва раёна было папярэджана афіцыйна. І ўсе нашы клопаты (маю на ўвазе мужчын) былі пра тое, кааб як хутчэй з Хойнік вывезці дзяцей і жонак. Аб сабе тады не думалася.

А 10 гадзіне з дазволу першага сакратара райкама партыі (быў рабочы дзень) я паехаў да СШ № 3 развітацца з жонкай і дзецьмі. Каля школы стаяла шмат аўтобусаў, пасадка дзяцей пачалася ўжо. Жонка са сваім класам была каля аўтобуса. Вакол сабраліся бацькі і родзічы ад'язджаючых. Тут я ўпершыню ўбачыў, як плачуць мужчыны. Ніхто не саромеўся слёз. Такі ж стан быў і ў мяне, не дай Божа каму яшчэ перажыць што-небудзь падобнае, што выпала ў тыя майскія дні нам.

Нарэшце пасадка закончана. Прымаецца рашэнне аб пачатку руху. Калона ў суправаджэнні машын дзяржаўтаінспекцыі і «хуткай дапамогі» з уключанымі гукавымі сігналамі рушыла. Некаторы час праважатыя ішлі за ёй. Крыкі і плач чуліся і з аўтобусаў, і ад праважатых.

Прайшло з таго дня нямала год, а і сёння памятаюцца да падрабязнасцей тыя хвіліны, і бачу, як з аўтобуса мне махаюць рукамі сын і дачка, як плачуць яны і жонка.

Для мяне і многіх іншых мужчын раёна на доўгія месяцы пачалося халасяцкае жыццё.

Правёўшы калону, вярнуўся ў райкам. Усе сакратары і загадчыкі аддзелаў былі на сваіх месцах, чакалі далейшага развіцця падзей на атамнай станцыі: новага выбуху. Проста сядзелі і чакалі, бо прадпрыняць што-небудзь для яго прадухілення ні мы, ні хто іншы не мог. Памятаю, зайшоў у кабінет першага сакратара, а ён сядзіць у цёмных акулярах і моўчкі глядзіць у акно. Ужо наколькі ён быў у нас дзелавым, а ў той сітуацыі таксама аказаўся бяссільны.

Час ішоў, мы сядзелі і чакалі, думалі аб тым, што хоць своечасова выехалі жонкі і дзеці. Выпіўшы крыху «Кабэрне», я выйшаў з кабінета на вуліцу. Абсалютна ніякага руху, ніякага жыцця, ні пешаходаў, ні транспарту. Вярнуўся ў памяшканне, зайшоў у кабінет Сяргея Чубка, які працаваў тады старшынёй парткамісіі. Вельмі душэўны і чулы чалавек. Перакінуліся некалькімі фразамі, якія нічога не значылі. Для сур'ёзнай размовы не было ні жадання, ні настрою.

У сваім кабінеце, памятаю, узяў пачытаць нейкую газету. Мінут праз дзесяць зазваніў тэлефон. Сакратар райкама Валерый Пінчук папрасіў зайсці да яго. Падняўся на другі паверх, пабылі некаторы час у кабінеце Пінчука, а затым удвух зайшлі да першага сакратара. Запрасіўшы нас прысесці, ён запытаў аб настроі (думаю, гэта было дзяжурнае пытанне). Потым пагаварылі пра бягучыя справы, падрыхтоўку да чарговага пасяджэння бюро райкама КПБ. Аб чакаемым на ЧАЭС выбуху з нас ніхто не ўспомніў.

У гэты ж час, а было каля апоўдня, пазваніў старшыня райвыканкама Аляксандр Іванавіч Абухаў. Ён паведаміў, што мяркуемага выбуху на станцыі не будзе, удалося сітуацыю ўзяць пад кантроль. Такую інфармацыю старшыня райвыканкама атрымаў, па-мойму, з Мінска.

Мы абняліся, усе былі рады таму, што ўсё так закончылася.

Гэтая вестка хутка разнеслася па горадзе. З акон мы бачылі, як людзі на вуліцы абдымаліся, радаваліся сустрэчы адзін з адным. Хайнічане перажылі яшчэ адну стрэсавую сітуацыю. А колькі іх яшчэ было наперадзе!

Усе гэтыя дні, пачынаючы з эвакуацыі насельніцтва і ліквідацыі гаспадарак, у раёне працаваў надзвычайны штаб па каардынацыі і правядзенні ўсіх работ, выкліканых катастрофай на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Намеснік старшыні Савета Міністраў, кіраўнікі і прадстаўнікі міністэрстваў і ведамстваў пастаянна знаходзіліся ў Хойніках, непасрэдна тут прымалі неабходныя рашэнні.

Асаблівых слоў падзякі заслугоўвае былы старшыня Гомельскага аблвыканкама, ужо нябожчык, Аляксандр Адамавіч Грахоўскі, які кіраваў работай штаба. Менавіта дзякуючы яго арганізатарскім здольнасцям, смеласці прымаць нестандартныя рашэнні на належным узроўні вырашаліся першачарговыя задачы па ліквідацыі вынікаў катастрофы на ЧАЭС.

Мы, партыйныя і савецкія работнікі раёна 1986 года, і сёння з асаблівай цеплынёй успамінаем гэтага чалавека, яго ўменне арганізаваць работу ў экстрэмальных умовах, чалавечнасць і ўвагу да людзей, паважлівыя адносіны да падначаленых.

На жаль, былі і іншыя прыклады паводзін вялікіх чыноўнікаў. Ашчаслівіў наш раён сваім прыездам і першы сакратар ЦК КПБ. Пасядзеў у кабінеце першага сакратара райкама, сустрэўся з вузкім колам асоб. А ў гэты час у рэстаране работнікі камбіната грамадскага харчавання гатавалі для высокага госця абед, стараліся з усіх сіл: калі яшчэ давядзецца гатаваць для першай асобы дзяржавы?!

Аднак за некаторы час да абеду вяльможы ў двор рэстарана заехала спецмашына, і хлопцы ў шэрых пінжаках сталі нешта пераносіць з яе салона ў скрынках у рэстаран. Потым з кухні і залы былі выдалены нашы повары і афіцыянткі.

Аказалася, што для яго з Мінска былі прывезены прадукты харчавання, лыжкі і відэльцы, іншы посуд. Нават повары і афіцыянткі. Рукі перад ядой ён таксама мыў сталічнай вадой.

Ва ўстаноўлены час разам са сваёй світай пад'ехаў да рэстарана, падняліся наверх, там і адабедалі са сталічных прадуктаў. А ў гэты час перад рэстаранам сталі збірацца перасяленцы, жыхары горада. Народ хацеў сустрэцца з кіраўніком рэспублікі, паслухаць яго, задаць пытанні. Думаю, гэта было цалкам нармальнае жаданне.

Начальнік раённай міліцыі падпалкоўнік Леанід Жаўняк далажыў першаму сакратару райкама, што на вуліцы сабраліся людзі. Безумоўна ж, ні аб якой сустрэчы, аб выхадзе да іх высокага чыноўніка не магло быць і размовы: вялікіх людзей трэба берагчы, навошта ім «рваць» свае нервы, у іх і так праблем хапае.

Падпалкоўнік Жаўняк выйшаў на вуліцу і папрасіў натоўп разыходзіцца, паведаміўшы пры гэтым, што ніхто з імі сустракацца не будзе. Людзі зашумелі, захваляваліся...

Праз некаторы час з двара рэстарана выехалі машыны першага сакратара ЦК і суправаджаючых яго асоб і ўзялі курс на Гомель. Гэты візіт запомніўся ўсім нам, і заўсёды мы аб ім успамінаем з недаўменнем і прыкрасцю.

А ў раёне працягвалася жыццё. Яно несла на сабе трагічны адбітак Чарнобыля. Даводзілася вырашаць пытанні, пра якія раней не маглі нават думаць: размяшчэнне адселеных жыхароў, іх працаўладкаванне, выплата грашовых сродкаў як кампенсацыю за пакінутую маёмасць, забеспячэнне насельніцтва «чыстымі» прадуктамі харчавання, арганізацыяй медыцынскага абслугоўвання хайнічан і шэраг іншых. Вяскоўцы ў гаспадарках, якія засталіся, па-ранейшаму сеялі, нарыхтоўвалі кармы, даглядалі жывёлу. Працавалі прадпрыемствы і арганізацыі горада. Кожную суботу досвіткам з Хойнік у бок Гомеля і Калінкавіч цягнулася чарада легкавых аўтамашын. Гэта жыхары раёна, у асноўным мужчыны, ехалі ў піянерскія лагеры, санаторыі, дамы адпачынку, каб наведаць сваіх жонак і дзяцей, якія знаходзіліся там на аздараўленні. А насустрач ішла тэхніка з будаўнічымі матэрыяламі, абсталяваннем і канструкцыямі: узводзіўся сёння ўжо нікому не патрэбны пункт дэзактывацыі ў Берасцечку і іншыя аб’екты.

А потым быў другі этап адсялення восенню 1986 года. Праз некалькі год разам з іншымі быў адселены і мой родны пасёлак імя Леніна. Бацькі атрымалі жыллё ў горадзе Гомелі. Першы час я часта заязджаў на сваю малую радзіму, наведваў бацькоўскі дом, хадзіў па садзе і агародзе, па вуліцы. Кожная такая паездка болем адгуквалася ў сэрцы, цяжка і сумна было глядзець, як тое, што акружала многія гады, прыходзіць у запусценне. Буйная зяляніна вясной і летам, цвіценне садоў у маі напамінае і сёння пра той далёкі час, калі тут жылі людзі, што тут нарадзіўся і вырас, крочыў у першы клас пачатковай школы, адсюль пайшоў у вялікае жыццё.

Мае аднавяскоўцы раз’ехаліся пасля адсялення па ўсёй Беларусі і далей. Толькі светлая памяць засталася пра іх!

Памяць, памяць, памяць... Добра, што ў чалавека ёсць яна, што ён здольны помніць. Памяць непадуладна гадам, проста асобныя падзеі і факты мінулага жыцця адсоўваюцца на задні план днём сённяшнім, яго праблемамі, смуткам і радасцямі.

Катастрофа на Чарнобыльскай атамнай станцыі, якая здарылася 24 гады таму, выклікала праблемы, вырашэнне якіх будзе працягвацца многія дзесяцігоддзі. А тыя першыя меры, першыя дзеянні па ліквідацыі атамнага следу з гадамі забудуцца, сатруцца з памяці, як пойдуць у свет іншы відавочцы і непасрэдныя ўдзельнікі тых далёкіх падзей. Іх дзеянні і прынятыя рашэнні застануцца толькі ва ўспамінах, пакладзеных на паперу, і ў сухіх тэкстах прынятых тады загадаў, рашэнняў і пастаноў.

У сваіх успамінах я спыніўся толькі на першых тыднях нашай работы ва ўмовах катастрофы, першых кроках па ліквідацыі вынікаў аварыі, на сваіх уласных думках і перажываннях, не спасылаючыся пры гэтым ні на адзін афіцыйны дакумент або заяву, выказванне.

А наперадзе былі і будуць яшчэ дні, месяцы і гады працы і жыцця пад Чарнобылем...



**Маргарыта ПРОХАР**

# ЧАРНОБЫЛЬСКІЯ МАТЫВЫ Ў ПРОЗЕ ЎКРАІНСКІХ АЎТАРАЎ

**Для** параўнання намі выбраны тры творы ўкраінскіх пісьменнікаў з адметнымі вобразна-выяўленчымі сродкамі: апавяданне Яўгена Гуцалы «Радыяцыя», раман Леаніда Губіна «Вішнёвае вока д’ябла» і апавяданне Аляксандра Сізоненкі «Бяда».

Нават назвы гэтых твораў з’яўляюцца адметнымі мастацка-асацыятыўнымі сімваламі-сінонімамі найменню «Чарнобыль»: бяда-радыяцыя-д’ябал, апошняе вызначэнне мае выразны эсхаталагічны матыў. Зрэшты, у гэтых творах біблейская, міфалагічная фальклорная (народная) сімволіка, якая набывае ў некаторых выпадках канцэптуалагічны характар, з’яўляецца базавай, вызначальнай для многіх вобразаў, характараў і выяўленчых сродкаў-канатацый.

Галоўная думка апавядання Яўгена Гуцалы «Радыяцыя» — Чарнобыль знішчае чалавечнасць. «Чарнобыльская катастрофа перастварыла псіхалогію людзей». (Фіалкова Л. Чорнобильска катастрофа і фольклор. Вісн. АН України. 1993. № 1).

Да галоўнага героя твора — Хведара — прыехала маці з чарнобыльскай зоны. Зіна, жонка Хведара, спужалася, што тая заражана радыяцыяй, і збегла з хаты з дзецьмі, каб яны не падхапілі хваробы. Хведар, які напачатку асуджаў такія паводзіны жонкі, пасля забаяўся: сапраўды, а што калі старая заразіць дзяцей? І ён вырашыў адвезці маці да яе сяброўкі — Фрасіны. Так Чарнобыль не толькі фізічна, але і маральна ўплывае на людзей, робіць іх ворагамі, знішчае нават такія пачуцці, як сыноўняя любоў, абавязак перад бацькамі. Аўтар ярка адлюстроўвае сітуацыю праз партрэтныя і прыродаапісальныя карціны, сістэму вобразных сродкаў апавядання. Найперш ён знаходзіць удалае параўнанне Чарнобыля з вайной: «Тут усе кажуць, што вайна, толькі яе не бачна. І я нічога не бачу», — сказала маці Хведара.

Трывога, што скразным матывам праходзіць праз увесь твор, адлюстроўваецца праз мастацкія параўнанні і эпітэты. Напрыклад, узгадаем воблік жонкі Зіны, якая бегла прэч ад сваёй свякрухі, што прыехала з чарнобыльскай вёскі: «твару не бачна, скукожыла, вочы жаласныя, як слязінкі, ледзь не выскачаць». Трывога і страх перад Чарнобылем для Хведара пачынаецца з новага, непрыемнага адчування вясны: «Заўсёды любіў вясну — хай познюю, хай ранню, але гэтая дыхала вялікай трывогаю». Далей трывога павялічваецца праз гіпербалізацыю звычайных пачуццяў. Хведар любіў свой сад, а ўвесну — асабліва: «Яблыня гула пчоламі і пахла мёдам», усё квітнела, і Хведар не разумеў, як гэта можа быць, калі прыйшла такая бяда — Чарнобыль.

Такім чынам, Яўген Гуцала праз асацыятыўнасць (параўнанне Чарнобыля з вайною), праз новы, нязвыклы чарнобыльскі сэнс вобразаў-сімвалаў вясны і саду, яркіх партрэтных апісанняў паказаў Чарнобыль вачыма сялян-украінцаў. Выявіў разбуральнае дзеянне нябачнай катастрофы перш за ўсё на свядомасць і душы людзей, якія пераступаюць Божы закон любіць і клапаціцца пра сваіх бацькоў, і тады, як пазначае ўкраінскі даследчык І. Шапавал, пачынаецца самае страшнае — «Чарнобыль нашых душаў». (І. Шапавал «Данило Кулиняк: «Час — відстань від серця до рідного краю». Вісник Чорнобиля. 1998. 27 чэрвеня). І ў гэтым праглядаецца яркі эсхаталагічны матыў.

Свой погляд, мастацкую канцэпцыю і паэтыку прапаноўвае яшчэ адзін украінскі пісьменнік — Аляксандр Сізоненка, які выступае з апавяданнем «Бяда» на старонках часопіса «Радуга» (1991. № 8).

Ад Чарнобыля аўтар з'язджае са сваёй сям'ёй — жонкай і ўнукамі, у вёску, дзе нарадзіўся. Падчас жыцця там ён нанова ўзгадвае былое, аднак чарнобыльская катастрофа нібыта перайначыла ранейшыя спакойныя і мірныя ўспаміны. «…Колькі стрэсаў, знявечаных лёсаў і ўнутранага адчаю загнаных у кут, выкінутых выбуховаю хваляю са спрадвечнага жыцця людзей ужо не знойдуць у сабе таго, што ў іх было…» (Городниньский І. «Непрочитаний Чорнобиль у творах Світлани Йовенко». Вісник Чорнобиля. 1998. 25 ліпеня).

Апавяданне Аляксандра Сізоненкі — гэта філасофскі роздум пісьменніка над сэнсам жыцця, яго каштоўнасцямі ў новым, паслячарнобыльскім свеце. Перш за ўсё акцэнтуем увагу на назве твора. Бяда, «зорка бяды» — яшчэ адно сімвалічнае ўвасабленне Чарнобыля. «Як усё на свеце, гэтая таксама грымнула нечакана перуном чарнобыльскай катастрофы, якая дагнала нас, вымусіла перш за ўсё ратаваць дзяцей… Пад зоркай бяды паблякла і стала звычайнай вясновая наша аўтастрада, якой мы заўсёды любаваліся, выязджаючы на яе, нібыта акуналіся ў святочны настрой — гэтая ж дарога вяла нас у родны край. Да бацькоў, пакуль яны былі жывыя, да сясцёр і братоў, што заўсёды чакалі нас…» Героі адчуваюць, што ўсё змянілася з прыходам Бяды. І аўтар па-мастацку трапна перадае іх адчуванні вобразна-выяўленчымі сродкамі прыродаапісання: «Усё, здаецца, было на месцы: і роўны асфальт на праезджай частцы, і буйная зяляніна траў на ўзбочынах, і дрэвы высіліся за кюветамі, па-вясноваму свежыя і юныя, высокія прыгожыя дрэвы, што выраслі на нашых вачах: арэхі і чарэшні, канадскія разлапістыя клёны і срэбныя стройныя таполі, белыя акацыі і цемналістыя ліпы са светлымі суквеццямі, над якімі вечна раіліся пчолы. Усе быццам і не такія, як усюды, а асаблівыя, раскошныя, дагледжаныя, прыветныя і свежыя ў гэтую раннюю вясновую пару. А толькі чаму ж яны не радуюць нас па-ранейшаму?

Чаму мы іх як бы не пазнаём ці не заўважаем?»

І аўтар надае новыя адценні ў адначасовым апісанні прыроды і пачуццяў: «Усе раскошныя дрэвы нібыта аддаліліся ад нас, неяк дзіўна і незразумела сталі чужымі, аддаліліся ад нашых душаў, што напоўніліся ў гэтую трывожную раніцу страхам і няўпэўненасцю не толькі ў заўтрашнім, але і ў сённяшнім дні». Прырода стала сімвалам Бяды, пагрозай жыццю. Менавіта таму бацькоўскія краявіды больш не радуюць вока.

Матыў падзелу на да-і паслячарнобыльскі перыяды — своеасаблівая мастацкая рэтраспекцыя, дзякуючы якой аўтар паказвае маштабы Бяды: ад фізічна-матэрыяльных да духоўных, адкрывае новую, страшную для свядомасці герояў рэальнасць, якая прымушае іх параўноўваць недалёкае дачарнобыльскае мінулае і цяперашні чарнобыльскі дзень. Па-новаму бачыцца ім лета: «А лета пасля чарнобыльскай аварыі выдалася такое гарачае, што старажылы, якія нават не памяталі такога, ратаваліся ад спёкі на новых, крытых шыферам падвор'ях».

Пакуты і перажыванні героя аўтар раскрывае праз сімвалічныя мастацкія вобразы-канцэпты. Напрыклад, вобраз поўні: «Поўня ізноў вісела над нашым дваром, чыстая і ясная, і ўсё больш хілілася да вершаліны суседняга ясеня, а самота мая не знікала і ноччу, і думкі мае былі ўсё пра тое ж: пра недаўгавечнасць і прадвызначанасць лёсу ўсіх самых дарагіх твайму сэрцу людзей».

Сімвал Бяды, такі часты ў творы, набывае і свой асацыятыўны мастацкі сінонім, што таксама ўтрымлівае адмоўную характарыстыку — трывога: у тыя дні «наведвалі мяне даволі часта і затрымліваліся ў душы надоўга гэтыя трывогі, гэты страх за самых блізкіх і самых родных і за далёкіх і невядомых людзей, што засталіся ў Чарнобылі… А дзеці гулялі, гулялі ў травах, і ніхто ўжо не мог пэўна сказаць, што і тут, у травах, не затаілася пагроза для іх здароўя, для іх будучага. Гэта таксама хвалявала і турбавала, атручвала жыццё.

Белы свет! што ж творыцца ў табе, такім буйным і прыгожым у гэтую летнюю пару? Што мы зрабілі з табою нашай мітуснёй, нашай хіміяй…» Гэтая цытата ілюструе дамінантны падыход пісьменніка да вобразнасці ў плане сімвалічных параўнанняў мастацкіх канцэптаў: бяда — трывога — эсхаталагічны матыў канца свету.

Як пацвярджэнне думкі развіваецца новы, выкліканы чарнобыльскай рэальнасцю кантэкст «чужой роднай зямлі», і гэты мастацкі сродкак (аксюмаран) найбольш выразна адлюстроўвае самую страшную духоўную катастрофу, такую змену свядомасці, якой не было нават у вайну: «І зноў напаўчужое роднае сяло, … плач івалгі ў садзе, і поўня над суседскім клёнам, і халоднае, як лязо нажа пад сэрцам, адчуванне непрацягласці, няпэўнасці чалавечага жыцця на гэтым свеце, дзе здараюцца беды Чарнобыля, а могуць здарыцца і сусветныя катастрофы».

І гэта палохае галоўнага героя, ён не рашаецца і найдалей паглыбляцца ў пастку Бяды, каб не страціць адчування радзімы як Радзімы, чалавека як Чалавека: «Што ж застаецца? — думаў я, выехаўшы за ваколіцу. Застаецца верыць у жыццё…, у тое, што вясна вернецца, і лета вернецца, і івалга зноў пяшчотна будзе адгукацца ў бацькоўскім садзе, а з ёю будзе там адгукацца і мая душа».

Герой апавядання Аляксандра Сізоненкі, такім чынам, праходзіць увесь шлях маральных пакут, шлях сваёй і агульнанароднай Бяды. Гэты шлях нібы ачышчальная дарога да таго, што павінна застацца, калі мы зберажом самае важнае — духоўнасць і любоў да Радзімы: «Я вяртаюся ў Кіеў, без якога больш жыць не магу, і тут нічога не значыць нават чарнобыльская бяда, далёкая яна ці блізкая, усё роўна. Перажывём, пераможам! На тое мы і людзі, каб усё пераносіць і дзяліць з людзьмі, не наракаючы і ні на каго не перакладаючы нашыя беды і пакуты. Толькі перад старасцю і небыццём мы бяссільныя. Але род прыходзіць і род праходзіць, а зямля вечная…

І жыццё ні на кім з нас не канчаецца».

У тым жа, 1991 годзе з'явіўся і яшчэ адзін украінскі твор пра Чарнобыль, праўда, буйнога жанру, — раман Леаніда Губіна «Вішнёвае вока д'ябла».( Радуга. 1991. № 10). Цікава, што яго назва нібыта дапоўніла той сімвалічны ланцужок найменняў пра Чарнобыль біблейскім вобразам д'ябла.

Сімвалічная і эсхаталагічная назва рамана і эпіграф да яго ўзяты са «Слова пра паход Ігаравы»: «І застагнаў, браты, Кіеў ад гора, а Чарнігаў ад напасці».

Твор адкрываецца першымі весткамі пра выбух, якія аўтар падае праз параўнанні да- і паслячарнобыльскага горада Прыпяць. Раней — «чысценькі ўтульны горад, велічная, чымсьці падобная да «дзяржаўнай» Нявы, палеская рака Прыпяць… Ціхі плёскат вады аб бартавіны… Высокія ліпы. Інжынер-атамшчык пасярод балотнага лугу, і ўдалечыні — цыклапічныя, прыгашаныя цемрай і ад таго нібыта паветраныя блокі». І далей, як вынік з гэтага апісання-матыву: «Ноч. Завісла ў лістоце каштанаў поўня. Неспакойны грукат сэрца». Поўня і сонца — два знакі святла і цемры. Знак поўні, эсхаталагічны па сваёй сутнасці, але і сонца — знак святла — траціць сваю жыццядайную функцыю і ператвараецца ў вобраз з эсхаталагічным сэнсам. Ідзе філасофская мутацыя: «І пазаўчора, і ўчора барвовае скатвалася на дахі дамоў сонца. Апускалася, нібыта ў пазалочаны пыл».

Паступова, праз яркі матыў раздзялення да- і паслячарнобыльскай прасторы з'яўляецца новае вызначэнне Чарнобыля — *«адтуль, туды».*

«У паветры духата. Цёплы паўднёвы вецер дуе туды. Цяпер усе гавораць, і чамусьці шэптам: «Дзьме туды», «Вярнуўся адтуль». Нібыта баяцца напужаць кагосьці, хто ўлёгся за лясамі». Так палохаліся раней жахлівай пачвары (у народных казках), у рэлігіі — чорта, пекла, д'ябла. Палохаліся, таму не называлі яго, а прыдумвалі асацыятыўныя назвы. Таму ў гэтым безназоўі Чарнобыля ёсць адметны эсхаталагічны матыў.

Чарнобыльская вясна — яшчэ адзін вобраз, які змяняе сваё першаснае значэнне росквіту жыцця і ператвараецца ў выразны эсхаталагічны вобраз. «Уча-

рашнім ранкам у мяне было такое адчуванне, нібыта на двары не вясна, а ранняя восень з надыходзячым бабіным летам і беспрасветнай макрэчай за ім». «Чарнобыль. Балюча б'е па сэрцы гэтае слова», — піша Л. Губін. А тут — Першамай. Нібыта здзек гучаць віншаванні людзей, якія не ведалі ўсёй жудасці катастрофы: «Са святам вас! З вясновым святам». І гэта яскравы прыклад матыву горкай іроніі, які вынікае з кантрастных параўнанняў.

Услед за першымі звесткамі пра Чарнобыль прыходзіць эвакуацыя, простымі словамі — бежанства, паколькі найперш «Чарнобыльская катастрофа паставіла перад украінскім народам пытанне выжывання». (Сяргей Квіт. Трагічний оптимізм Дмитра Донцова. Слово і час. 1993. № 3)

Дарэчы, эсхаталагічны матыў бежанства — выратаванне ад канца свету выяўлены ў наступным урыўку: «Каля ўвахода кожнага вагона ўціскваюцца целы. Не людзі — целы. З чамаданамі, сумкамі, дзецьмі, пухлымі кулямі, з заплечнымі, у пяць разоў вышэй галавы, мяшкамі. Адтуль глухі працяглы стогн — а-а-а…

Вось-вось як нібыта ў вечаровым небе пакажуцца жудасныя кропкі «юнкерсаў». Так аўтар выводзіць яшчэ адно параўнанне — параўнанне Чарнобыля з вайной, якая ў мастацкай літаратуры вызначалася як эсхаталагічны вобраз, канец мірнаму звыкламу жыццю.

Аўтар раскрывае сваю пісьменніцкую пазіцыю і праз асацыятыўныя вобразы і матывы, паколькі «перадаць трагедыю, выкліканую Чарнобыльскай аварыяй, ці то адной усеахопліваючай метафарай, ці то суцэльным метанімічным радам немагчыма, бо і першы, і другі спосаб былі б надта лагічнымі, а трагедыя гэтая такая велічэзная, што гаварыць пра яе можна або выключна абстрактна, або навукова, або паэтычна» (Іван Фізер. Емблема і символ людскої трагедії. Слово і час. 1992. № 10).

Напрыклад, важную ролю ў раскрыцці душэўнага стану і змен свядомасці адыгрываюць сны пра Чарнобыль як матыў прадказання і матыў смерці. Смерць бачылі ў вайну, але не ведаюць яшчэ, што такое чарнобыльская смерць, як яна адбываецца. Таму і згадваецца ўва сне ўспамін пра родных, што былі закатаваны фашыстамі: «Галовы, галовы, галовы, раззяўленыя, у крыку, забітыя магільнай зямлёю раты…

У нас у Данбасе фашысты і пакаранне прыдумалі для нашых людзей — жывымі зарываць у зямлю ці жывымі кідаць у шурф». І толькі са смерці-пагасання шафёра Колі, які быў мабілізаваны ліквідатарам і з якім пасля развялася жонка Зіна, усе зразумелі, што такое смерць ад Чарнобыля — нябачная смерць ад радыяцыі. І яшчэ адзін прыклад эсхаталагічнай афарбоўкі сну: «Мне прыснілася страшная карціна. У нашым двары побач з двума дарослымі таполямі на маіх вачах пачала засыхаць маладзенькая. Лісцейкі яе ніжніх галінак скукожыліся, перасталі шалясцець пад ветрыкам, таполя заўважна панікла вершалінай. Я рыхліў пад ёю зямлю, кідаў нейкае лекавае семя, ліў пад камель ваду. Але вада тут жа высыхала, а ўзрыхленая зямля цвярдзела. Я адчайна паглядаў на ўсохлую лістоту і бачыў скрозь яе заўважны вішнёвы прамень».

Сон, акрамя эсхаталагічнай афарбоўкі, набывае і сімвалічны сэнс: «— А я ведала, што вы прыедзеце, — сказала яна замест прывітання... — Бяда ў вас у Кіеве, і сон мне прысніўся… Нібыта ляціць лебедзь белы». Вобраз белага лебедзя ва ўкраінскай літаратуры можна параўнаць з вобразам белага бусла ў беларускай, міфалагічныя, фальклорныя і сімвалічныя характарыстыкі, што ім надаюцца, аналагічныя.

Там, у Чарнобылі, свае колеры:

«Спакойны эпічны голас маёра сцішвае нас:

— Белы — мінулае, чорны — сённяшняе». Праз чорны колер, такім чынам, бачыцца будучае, і такое мастацкае перастварэнне перарастае ў эсхаталагічны матыў.

Чарнобыльскі светапогляд дыктуе і новае ўспрыняцце прыродных з’яў. Напрыклад, вецер. Пасля Чарнобыля вецер перастаў успрымацца і апісвацца людзьмі як цёплы, вясновы, халодны і г. д. Ён стаў ветрам «адтуль» і «туды». І ўсе баяліся, калі вецер — адтуль, бо ён нёс радыяцыю. Тут назіраецца эсхаталагічны матыў страху, прадчування бяды.

«— Дык гэта ж вецер адтуль! — ледзь не крыкнуў я, увесь ад галавы да пят прасякнуты токам здагадкі. — Сапраўдны норд. Маракі наракаюць, што ён самы непрыемны з усіх вятроў на моры.

На зямлі — таксама.

Я стаяў і не мог ачомацца: вецер дзьмуў з Чарнобыля».

Вясновае свята Першамая не абыходзіцца без ветру-папярэджання: «адтуль, з галавы калоны — з поўначы! — прама на вуліцу дзьмуў звярэючы халодны вятрышча». Трэба адзначыць, што і эпітэты аўтар падбірае таксама эсхаталагічнага характару.

Прывыкаць да новых, складаных абставін цяжка, таму і ў аўтара часам узнікае жаданне збегчы: «Лепш пакуль у лес. У лес, у лес! Там хоць шуміць лістота, пяюць птушкі, свішча вецер. Вецер?» — ізноў вяртаецца ён да новай, страшнай рэальнасці. Неба — таксама прадвесце бяды. Людзі ўвогуле перасталі бачыць прыроду яркай, яны баяцца яе, чакаюць толькі горшага. І таму іх не здзіўляе, што «на горад з поўначы насунулася шыза-шэрая пухліна. Ну і неба».

Такім чынам, аўтар прыводзіць да высновы: прырода тоіць пагрозу. Нават маленькі зялёны лісток можа забраць дзіцячае жыццё Алёшкі, які гэтага не разумее, просіць:

«— Татачка, сарві лісточак! — ныў Алёшка. — Татачка, сарві. Я хачу лісточак.

Адкуль нам было ведаць, што нават кранацца лістоты нельга? Яна несла нешта нябачнае, вельмі пагрозлівае.

Восенню, калі яна пажухне, па ўсім Кіеве і вакол Кіева яе будуць збіраць у спецыяльныя поліэтыленавыя мяшкі і ў жалезныя — на колах — кантэйнеры, потым адпраўляць ці то пад Обухаў, ці то яшчэ куды, каб закапаць у ярах і вырытых калодзежах глыбока ў зямлю.

Гэтага ніхто з нас пакуль не ведаў.

Зрываючы лісточак і даючы яго ў Алёшкавы ручкі, мы, па сутнасці, па сваёй волі адымалі ў яго і без таго кволае здароўе».

Апісанне чарнобыльскай катастрофы суправаджаецца не толькі змрочнымі карцінамі прыроды з эсхаталагічнай накіраванасцю, але і новымі, чыста «чарнобыльскімі», вобразамі. Адзін з іх — пыл. Пыл найбольш утрымліваў радыяцыю і разносіў яе, таму яго залівалі вадой, і Кіеў стаяў мокры. Пыл звязаны і з эсхаталагічным матывам бежанства. «Спёка. Пыл. Несусветная гарачыня.

Па ўсіх дарогах, што вядуць з Кіева на захад, поўдзень і ўсход (толькі не на поўнач) пацягнуліся легкавыя аўтамабілі. На шашы бясконцая нітка рознакаляровых пацерак. І ўсе туды, туды, туды. Толькі зрэдку — адтуль».

Мара людзей, герояў твора — месца, дзе можна ўратавацца ад Чарнобыля. Гэтае месца ўяўляецца сапраўдным раем, і такая асацыятыўная змена перадаецца кантрастам у апісанні двух вобразаў «пекла — рай»:«туманна-срабрыстыя на гарызонтах пералескі ў цёплым залатым мроіве, што ільецца да нябёсаў ад самога сонца. Там чысты азон, салодкае выратавальнае паветра…

А тут пыл. …Пыл пад нагамі, у машыне, над галавою.

Ён стаў з’явай. Амаль бядотнай. Выклікае пачуццё прыкрасці і небяспекі. Ніколі не думаў, што звычайны стэпавы пыл, ад якога толькі моцна чыхаюць, стаў для ўсяго жывога такім грозным».

Далёка ад Чарнобыля прырода іншая на вока аўтара. Яна выратавальная, яна мірная, звычайная і прыемная. Калі там, ля Чарнобыля, поўня палохала, то тут яна «спакойна свяцілася».

«А дом стаіць, і расце ў садзе тая самая старая вішня з уцэпістымі галінамі, і яблынькі, і сліўкі. І на вуліцы каля дома стаіць гэткі ж явар, і гарыць каля яго на слупе, як і раней, яркая лямпачка — бы пуцяводная зорка…

Чарнобыль?

Я зірнуў на поўню… У гэтую ноч, зараз, у гэтую хвіліну, поўня ззяе і над Чарнобылем, на асветленую ёю Прыпяць-раку, на той жудасны, што сее ў ночы над рэактарам кармінава-чырвоныя іскры і нябачную смерць Чацвёрты блок». Эсхаталагічны матыў смерці, такім чынам, праходзіць праз роздум пісьменніка, нават калі ён апісвае мірныя карціны прыроды: «Паўсюль буяла вясна. Лясы стаялі, нібыта вымытыя, трава на ўзбочку свежая, хоць і прыпарошаная пылам, азімыя чыстыя, пачалі ўжо касмацець пад ветрыкам. Побач роўнымі радамі ўзышла кукуруза.

Не верылася, не верылася, не верылася». І яшчэ прыклад: «Страшная не сама бяда — страшнае асэнсаванне яе.

У прыродзе ўсё на месцы. Як і тысячу гадоў назад. Неба. Зямля. Сосны на ёй. Вада ў паўнаводнай Прыпяці. А на душы — грукае неспакой. Ад неба. Ад зямлі. Ад соснаў. Ад вады».

Такім чынам, «Чарнобыль… выклікае новую мастацкую форму гневу і маральнага пакарання. Пакарання не толькі за фізічныя пакуты, а за адчужэнне людзей ад прыроды — асновы ўкраінскага этнасу» (Розумный Яраслаў. Плід каяття. Літ. Україна. — 1991. 25 квіт).

Выразнае эсхаталагічнае і сімвалічнае значэнне набываюць колеры. Найперш людзей сустракае страшная колеравая гама — белыя запіскі на чорных слупах з просьбамі знайсці родных, якіх спешна вывезлі з зоны: «— Сум у белым абліччы, — сказаў Кананенка».

Журналіст Кананенка вырашыў зняць дакументальны фільм пра Чарнобыль. Найбольш яго хвалюе «вока» рэактара, адкуль ідзе смяротная радыяцыя. Ён кажа: « — Хачу, Ігар Кірылавіч, зірнуць д'яблу ў вочы. … Хачу зняць развал Чацвёртага, вішнёвае вока д'ябла, самую таямніцу яго душы». Вішнёвае вока д'ябла — назва рамана — эсхаталагічная па сваёй сутнасці, нездарма ў творы шмат яе прадаўжэнняў, эсхаталагічных матываў, якія вынікаюць з сэнсу асноўнага вобраза. Вобраз Чарнобыля-д'ябла аўтар апісвае дэталёва: «Адна з камер трымала правы бок панарамы і адкрывала жахлівую карціну правалу з вострымі роўнымі краямі — там, па ўсім відаць, і цараваў д'ябал»; «— Не дыхаць на экран, а то ўляціць у рот нячыстая сіла»; «Ледзь я паспеў адсунуцца, як у кадр убег салдат са сваім нізенькім напарнікам. Рыдлёўкамі і ламамі яны скінулі бліжэйшыя кавалкі спечанай масы часткова ў прорву да д'ябла, часткова ў жалезную на калёсіках скрыню і тут жа зніклі за жалезабетоннай тумбай»; «Ігар і Жэня яшчэ па разу выбягалі тым жа кароткім маршрутам да таго ж самага месца, адкуль адкрываўся зёў у прорву, у апраметную»; «Разумныя людзі гавораць, нібыта ядро рэактара гарыць вішнёвым агнём».

Раздзел «Пасля бяды» апісвае жудасныя вынікі Чарнобыля — захварэў унук аўтара, які збіраў у радыяцыйным пыле лісточкі з дрэваў, з ім перасталі гуляць дзеці — баяліся; засохла любімая таполя.

Свядомасць аўтара ўспрымае матывы смерці праз колер: «Бурліла Чарнобыльская прыстанька. Барвовы асядаў на ваду захад сонца. Чырвоныя пажарныя машыны смокчуць пурпуровую ваду — як кроў»; «пясчаныя плешыны паміж траў былі чыстыя, дагледжаныя ветрыкам. Зніклі трупікі чмялёў і мух. Праз лістоту праглядала месцамі замытае ліняла неба»; — і праз пахі: «Вымытыя жорсткімі струямі і зараз жа высахлыя пад спёкай кіеўскія вуліцы незразумела пахлі ці то дэзінфекцыяй, ці то ёдам, ці то карболкай. Толькі не квітнеючай акацыяй альбо бэзам, як раней».

Сваю новую афарбоўку набываюць і замалёўкі паслячарнобыльскага жыцця, не толькі сюжэтна, але і праз адметнае мастацкае выкананне. І ў гэтых сцэнах — выразны эсхаталагічны матыў страху:

«За вуглом цётка працягвае хлопцу букет аж пад самы нос.

— Купі, а то да вечара выкіну.

— Кветачкі, цётачка, я і нюхнуць баюся — у іх уся чарнобыльская зараза».

Рыба не клюе, акунь не хоча браць чарвякоў. Рыбак кажа: «— Няўжо і табе радыяцыя папярок горла!».

Настрой — дрэнны, усе выязджаюць, пуста і ціха. « — Як канец свету, Ігар Кірылавіч, далібог!».

«У нас на рабоце баяцца снегу, — з уздыхам сказала Оля. — Людзі цяпер шмат чаго баяцца».

«А ў дворыках на прыгрэве, у абодвух батанічных садах, у парках і ўвогуле ў маленькіх зялёных аазісах сярод мора машын паўзло быліннае, бабульчына:

— І пашле гасподзь тую зорку Палын… і спапяліць тая зорка… і наступіць мор і глад».

«Непрыкметна магутным дзевятым валам набліжалася гадавіна Чарнобыля. Сустракаючыся, людзі падавалі адзін аднаму рукі і замест «добры дзень» пыталіся: — Ну, што там чуваць пра Д'ябла?» Аўтар выдзяляе гэты эсхаталагічны вобраз, піша нават з вялікай літары, гіпербалізуючы яго.

Гэтаму спрыяюць і элементы дакументалізму. У дадзеным выпадку яны дапаўняюць вобразна-паэтычныя сродкі: «Сто дваццаць — сто трыццаць кілаграмаў радыенуклідаў плутонія выкінута з рэактара падчас Чарнобыльскага памяшальніцтва. Пяцьсот тон увогуле шкодных рэчываў вылятае ў атмасферу кожны дзень. Сто тысяч кюрынуклідаў у год выкідваецца сёння ў паветра і прыкладна сорак тысяч — у ваду. Гэта толькі па Украіне»; «У педыятраў ужо існуе тэрмін «хімічны чалавек».

Адсюль, з такіх адчуванняў, — іншая колеравая гама, іншыя параўнанні і эпітэты твора: «З марозцу ў цёплым вестыбюлі — магільны пах адталай хвоі. Вянкі — пурпуровае на зялёным — да болю ў вачах. («І тады, на беразе Ірпеня, каля Маманта было пурпуровае на зялёным» — ударыў у галаву ўспамін.)». Гэта хароняць рэжысёра Кананенку, які адзіны зняў на камеру вішнёвае вока д'ябла. Для чаго? Аўтар дае права на дыскусію: «— Цяпер кожны зразумее цану жыцця, калі ўбачыць вішнёвае вока д'ябла на экране. Другога такога фільма ніхто не створыць, і ніхто больш не ўбачыць д'ябла на свае вочы. Ён пакрыты саркафагам.

— А ці можна цаною жыцця сцвярджаць жыццё?

— Можна. Так было заўсёды. Заўсёды. Не спрачайцеся. З вечнасцю нельга спрачацца». Так, дзякуючы галоўнай думцы твора, смела вынесенай аўтарам, эсхаталагічны матыў смерці змяняецца матывам вечнасці.

Аўтар зноў са здымачнай групай паехаў пад Чарнобыль. «Мяне ўразіла чорная, дзесяцікіламетровая зона — пустыня вакол горада Прыпяць і Чацвёртага блока. Пустыня са зваленым, пахаваным лесам і знятым слоем урадлівай глебы — жывое цела са злупленай скурай». Вось такое нараджаецца эсхаталагічнае параўнанне.

Праўда, чалавек не можа жыць заўсёды ў страху, адчаі, прадчуванні смерці. Ён інтуітыўна шукае выйсце. Напачатку з'яўляецца надзея — біблейскі матыў, які аўтар раскрывае праз зварот да царквы, храма: «А наверсе, над старажытным гарадзішчам Яраслаўля, ззяла купаламі святая Сафія. Як залатая нітка ў стагоддзе будучае з дзён мінулых. Ніколі я так востра не адчуваў трываласці гэтай залатой ніці».

Такім чынам, праз асацыятыўныя сінонімы-сімвалы чарнобыльскай катастрофы (Бяда-Трывога-Эсхаталагічны матыў канца свету), вобразна-выяўленчыя сродкі параўнання да- і паслячарнобыльскай рэальнасці ўкраінскія пісьменнікі не толькі змаглі перадаць сваё адчуванне Чаробыля, але і паставілі маральна-этычную задачу чытачу, скіраваную да наступных пакаленняў — не паўтарыць памылкі мінулага.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# ЛІТАРАТУРНА-КРАЯЗНАЎЧЫ ЧОВЕН

*І. Штэйнер. «Дняпроўскія матывы». Гомель: Сож, 2009.*

У апошнія гады заўважная цікавасць дасведчанага гомельскага літаратуразнаўца, доктара філалагічных навук Івана Фёдаравіча Штэйнера да рэгіянальнага краязнаўчага разгляду літаратурных здабыткаў ураджэнцаў Гомеля, Гомельшчыны альбо тых, хто прыехаў ці прыязджаў у гэтую прыкметную старонку. Таму і новая кніга — «Дняпроўскія матывы» — не падаецца выпадковай, а наадварот уяўляецца лагічным працягам папярэдніх вышукаў. Ці мо нават пэўным лагічным падсумоўваннем, найболей сістэматызаваным афармленнем ранейшых доследаў. У кнізе «Дняпроўскія матывы» І. Штэйнер аглядае літаратурную гісторыю шасці раёнаў Гомельшчыны. А ў анатацыі да грунтоўнай, манаграфічнага характару кнігі тлумачыцца: «Кніга ўяўляе сабой зборнік навукова-папулярных артыкулаў, у якіх аналізуецца творчасць пісьменнікаў, якія нарадзіліся ў раёнах, што прымыкаюць да галоўнай ракі Гомельшчыны — Дняпра з яго прытокамі, у першую чаргу Бярэзінай. Каб трапіць ва ўсе куточкі і мясціны Рагачоўскага, Жлобінскага, Светлагорскага, Рэчыцкага, Лоеўскага і Брагінскага раёнаў, мы скарысталі цуда-сродак, пра які пісаў У. Караткевіч: «Плыве пад ветразем крылаты човен, // Як казачны ў паветры карабель», дзякуючы якому наведалі маленькую радзіму літаратараў рэгіёна.

Акрамя таго, пададзены бібліяграфічныя звесткі, даецца падрабязны аналіз іх творчасці. На вялікім фактычным матэрыяле паказана значнасць рэгіянальных традыцый у нацыянальнай літаратуры. Згаданы пісьменнікі, якія нарадзіліся на Гомельшчыне, але праявілі сябе ў іншамоўных літаратурах.

Кніга адрасавана літаратарам, работнікам культуры рэгіёна, вучоным і настаўнікам, студэнтам і выкладчыкам ВНУ, журналістам, краязнаўцам».

Адкрывае ёмісты том раздзел «Дняпро выходзіць з берагоў: Рагачоўшчына паэтычная». Нарысам-персаналіям папярэднічае невялікі артыкул агляднага характару, у якім аўтар акрэслівае прастору даследчыцкай увагі. Згадваюцца і тыя пісьменнікі, пра каго пасля ў асобных нарысах І. Штэйнер напіша больш падрабязна і грунтоўна. А некаторыя са служак прыгожага пісьменства так і застаюцца толькі героямі ўступнага артыкула. Як, напрыклад, этнограф, фалькларыст Уладзімір Сысоў (1951—1997, нарадзіўся ў вёсцы Старая Алешня), літаратурны крытык Святлана Марчанка (нарадзілася ў 1942 годзе ў вёсцы Папоўка), яўрэйскі паэт, драматург і перакладчык Самуіл Галкін (1897—1960, нарадзіўся ў Рагачове), празаік, публіцыст, літаратурны крытык Яфім Гаварушка (1911—1992, нарадзіўся ў вёсцы Востраў) і іншыя. Асобныя ж нарысы расказваюць пра рускага пісьменніка, літаратурнага крытыка, мастацтвазнаўца Уладзіміра Кігн-Дзедлава (1856—1908), Міхася Лынькова (1899—1975), Аўгена Калубовіча (1910—1987), Алеся Жаўрука (1910—1942), Юльяна Пшыркова (1912—1980), Фёдара Куляшова (1913—1993), Міколу Сурначова (1917—1945), Андрэя Макаёнка (1929—1982), Уладзіміра Караткевіча (1930—1984), Міколу Купрэева (1937—2004), Міколу Гроднева (нарадзіўся ў 1929), Міколу Янчанку (1931—2000), Навума Габлера (нарадзіўся ў 1933), Міколу Старчанку (нарадзіўся ў 1938), Уладзіміра Немізанскага (1939—2004), Васіля Ткачова (нарадзіўся ў 1948), рускага пісьменніка Міхаіла Расолава (нарадзіўся ў 1948), паэта Аляксандра Дамброўскага (нарадзіўся ў 1950), Міхася

Сліву (нарадзіўся ў 1950), Насту Кудасаву (нарадзілася ў 1984). Дваццаць нарысаў-партрэтаў. Фактычна — кніга. Так, цэласная кніга, якая прадстаўляе пісьменнікаў Рагачоўшчыны. І. Штэйнер падрабязна спыняецца на разглядзе творчасці сваіх герояў. У многіх выпадках задача гэтая дастаткова складаная ўжо па той прычыне, што трэба знайсці асаблівую, так бы мовіць, *рагачоўскую*, лінію выкладання матэрыялу. І другая складанасць — маштабы такіх пісьменніцкіх асоб, здзейсненае якімі ў літаратуры вымяраецца дзесяткамі кніг, патрабуюць больш шырокай увагі. Як, напрыклад, Міхась Лынькоў, Андрэй Макаёнак, Уладзімір Караткевіч. Ды і здабыткі таго ж празаіка, драматурга, публіцыста Васіля Ткачова ўжо вартыя цэлай манаграфіі. Даследчык у прынцыпе спраўляецца з гэтым клопатам. Пры ўсёй лаканічнасці вельмі сімпатычным выглядае нарыс пра Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча («У дняпроўскіх хвалях, бы ў калысцы…»).

І. Штэйнер цытуе згадкі пісьменніка пра Рагачоўскую старонку: «…Продкі мае таксама ўсе адсюль. Гісторыю маю можна было б пачаць з таго, што роўна сто гадоў таму мая зямля была ахоплена паўстаннем. Гарэла ўсё: фальваркі, вёскі, цэрквы, нівы. Адна бітва адбылася на поўнач ад Рагачова. Паўстанцаў разбілі, камандзіра іхняга расстралялі ў Рагачове. Ён быў мне сваяк з боку маці і яе радні. І такіх было многа. Гэтую ж гісторыю я напісаў у пралогу да рамана «Леаніды не вернуцца на зямлю». І яшчэ кавалачак успамінаў: «Маці мая, Надзея Васільеўна, нарадзілася ў 1893 годзе, у дзяцінстве засталася без маці, скончыла Марыінскую гімназію ў Магілёве, некаторы час, пакінуўшы дом, працавала вясковай настаўніцай у вёсцы Збароў, ля Рагачова, а пасля пазнаёмілася з маім бацькам, Караткевічам Сямёнам Ціханавічам, і ў 1917 годзе выйшла за яго замуж…» Але так удала разгледзець прывязанасць да роднай старонкі, сувязі мастацкіх ідэй з лёсам роднага краю, як у выпадку з У. Караткевічам, М. Купрэевым, не заўсёды атрымліваецца. Шкада, што ў бальшыні выпадкаў літаратурнага краязнаўца Штэйнера перамагае Штэйнер-літаратуразнаўца. Тым болей, што многія персанажы — нашы сучаснікі. Напрыклад, прыдатным матэрыялам да разгляду повязей прозы, паэзіі з роднай старонкай, рагачоўскімі матывамі магла б стаць творчасць Васіля Ткачова, Міхася Слівы і іншых аўтараў. Варта было б толькі даследчыку следам за чытаннем іх кніг заняцца роспытамі, параўнаннямі. Патрэбны і ўдакладненні, адкуль сюжэты і тэмы. Варта звярнуць пільную ўвагу на мову, ужыванне дыялектных слоў.

Безумоўна, аўтар сам выбірае «фармат» выкладання краязнаўчага матэрыялу. Але, відавочна, вопыт папярэднікаў у літаратурна-краязнаўчых вышуках падказвае іншыя, адрозныя ад перакананняў Івана Штэйнера, падыходы. Амаль класічнымі, калі разглядаць прыклады з літаратурнага краязнаўства Беларусі, падаюцца работы В. Ляшук і Г. Снітко «Літаратурная Берасцейшчына» і А. Пяткевіча «Літаратурная Гродзеншчына». В. Ляшук і Г. Снітко абралі гісторыка-храналагічны прынцып, паслядоўна выкладаючы літаратурную біяграфію рэгіёна. Пры гэтым асобна, не парушаючы храналогію, вылучылі разгляд творчасці рускіх, украінскіх, польскіх пісьменнікаў, паяднаных з Брэстам, Берасцейшчынай. Завяршаюць літаратурна-краязнаўчую манаграфію імянны і геаграфічны паказальнікі. Іншы падыход «культывіраваўся» доўгі час на старонках часопіса «Роднае слова», дзе самыя розныя аўтары, прадстаўлялі літаратурна-краязнаўчую біяграфію таго ці іншага раёна. Артыкулы проста унікальныя і нават вартыя таго, каб ужо цяпер сабраць іх у рэгіянальныя зборнікі. Там, дзякуючы паслядоўнай зададзенасці тагачаснага галоўнага рэдактара часопіса Міхася Шавыркіна, ажыццяўляўся ці не асноўны краязнаўчы прынцып: аўтары запрашалі чытачоў у падарожжа па тым ці іншым раёне і ў стасунках з пэўнымі паселішчамі коратка выкладалі пісьменніцкія біяграфіі. Яшчэ адзін, блізкі да краязнаўства, прынцып заснаваны ў серыі адмысловых рэгія-

нальных хрэстаматый «Беларусь літаратурная», якімі апякуецца выдавецтва «Мастацкая літаратура». Як правіла, публікацыі твораў таго ці іншага пісьменніка-земляка папярэднічае ў якасці ўступу нарыс пра яго альбо кароткае выкладанне біяграфіі. Ужо выйшлі такія кнігі, прысвечаныя Барысаўскаму, Валожынскаму, Маладзечанскаму, Смаргонскаму, Старадарожскаму, Ганцавіцкаму і іншым раёнам.

Так, у аўтара «Дняпроўскіх матываў» — свой шлях, свой уласны выбар. І пытанне зусім не ў тым, прымаць ці адвяргаць яго. Кніга ўжо зроблена. І, відавочна, ужо абраны падыход І. Штэйнер скарыстае і ў асвятленні гісторыі літаратурнага жыцця іншых рэгіёнаў Гомельшчыны. Магчыма, усё ж такі, захаваўшы і такі падыход, аўтару трэба ўскладніць наступныя выданні: варта дадаць імянны і геаграфічны паказальнікі, а мо нават і паказальнік твораў. Несумненным узбагачэннем кнігі быў бы спіс выкарыстанай літаратуры. Ёсць і яшчэ адна прапанова, якая, магчыма, на першы погляд, падасца досыць складанай і не зусім да месца. Чаму б напрыканцы кожнага з раздзелаў не даць своеасаблівы краязнаўчы «дайджэст»: прадставіць у алфавітным парадку паселішчы, а побач з імі спіс, толькі спіс літаратараў, якія спрычыніліся да іх сваімі лёсамі. І гэта ніколькі не будзе супярэчыць імянным і геаграфічным паказальнікам. Такі дадатак да раздзелаў у першую чаргу быў бы скіраваны да ўвагі вучняў агульнаадукацыйнай школы.

Прывядзём прыклад па матэрыялах нарыса ці раздзела «Духоўнае слова Рэчыцы». Ёсць такія Васілевічы. Тут нарадзіліся Іван Навуменка, рускі празаік, кінадраматург Аркадзь Пінчук, літаратуразнаўца Сцяпан Лаўшук. У ваколіцах Васілевіч, у школе ў Ведрычы працаваў паэт Уладзімір Верамейчык. Дапаўненне можа выглядаць дастаткова проста: назва паселішча, прозвішчы літаратараў, якія нарадзіліся, жылі тут альбо наведвалі гэтую мясціну.

Мне падаецца, што кнігі, падобныя «Дняпроўскім матывам», павінны выдавацца з ілюстрацыйным матэрыялам, што дазволіць іх шырэй выкарыстоўваць у школе. Яшчэ адна заўвага (яе можна прымаць альбо не прымаць) — справа пазіцыі, перакананняў аўтара. Так, даследчык разглядае жыццё і творчасць пісьменнікаў, якія пісалі ці пішуць не толькі на беларускай, але і на рускай мовах. І ў большасці выпадкаў І. Штэйнер піша пра рускамоўных літаратараў па-руску. На мой суб'ектыўны погляд, гэта не зусім правільна. Мова кнігі павінна быць адна — беларуская ці руская. Выбіраць, канечне ж, аўтару. Гэта ніколькі не стане перашкодай пры цытаванні твораў (асабліва паэзіі) на мове арыгіналаў.

І ўсё ж абсяг, ахоплены Іванам Штэйнерам, уражвае. Літаратуразнаўца, які часова перакваліфікаваўся ў краязнаўцу, засведчыў сябе «Дняпроўскімі матывамі» як сур'ёзны і настойлівы даследчык. Кніга (шкада, што наклад яе ўсяго толькі 500 асобнікаў) — яшчэ і фундамент, аснова для работы і вышукаў наступнікаў, якім плыць і плыць на літаратурна-краязнаўчым чоўне па Дняпры і іншых рэках Гомельшчыны.



**Марыя ШАМЯКІНА**

# СВЯТЛО ПАМЯЦІ

*Уладзімір Ягоўдзік. «Шчыраю ноччу». Літаратура і Мастацтва, 2009.*

**Імя** празаіка і драматурга Уладзіміра Ягоўдзіка даўно вядомае і прызнанае ў сучасных беларускіх чытачоў — як дарослых, так і дзяцей. Яго новая кніга «Шчыраю ноччу», выдадзеная летась, уключае выбраныя творы пісьменніка розных гадоў напісання, рознай тэматыкі і жанраў.

У сваёй «дарослай» прозе Ягоўдзік — прыхільнік традыцыйнай рэалістычнай манеры, прычым хіліцца нават да бытапісальнай плыні: ён не імкнецца да займальнай інтрыгі, не шукае ў фактах жыцця красамоўных супярэчнасцей, яскравых сацыяльных канфліктаў, а імкнецца ўбачыць і выявіць вялікае ў малым, значнае — у бытавым. Для мастацкіх твораў пісьменніка характэрны прыхаваны драматызм — драматызм псіхалагічнага стану героя або ўспрыняцця жыццёвай калізіі аўтарам. Драматычны пачатак заключаны, уласна кажучы, у самім стылі, апісаннях, дэталях, мове герояў. Так, у аповесці «Вочы Начніцы», якая адкрывае зборнік, шматлікія падзеі ў жыцці галоўнага героя — вясковага хлопчыка (першае сарамлівае каханне да студэнткі-практыканткі, догляд за цяляткам, стасункі з аднакласнікамі) маюць трагічны фон, які пастаянна прысутнічае ў свядомасці, прымушае ўвесь час сціскацца сэрца пякуча-горкім пачуццём: смяротная хвароба маці і яе заўчасная смерць. Бытавыя клопаты хлопца, любімае ім маляванне, назіранні за бабуляй і дзядулем, згадкі пра драматычныя факты іх біяграфій, адносіны з суседзямі — усё разам з пастаяннымі пакутлівымі думкамі пра маці.

Паміж блізкімі людзьмі, персанажамі аповесці, — поўнае паразуменне, шкадаванне, шчымлівая туга, асабліва калі маці і сын бачацца ў бальніцы ў апошні раз, і кожны з іх адчувае, што — апошні... Жыццёвая трагедыя, выказаная без пафасу, без надрыву, — пранікнёна і высакародна, б’е па сэрцы чытача, прымушае задумацца пра жыццё, лёс чалавека, эпоху.

Могуць сказаць: яшчэ адна аповесць пра вясковае дзяцінства. Так, твор пра дзяцінства пакалення, якое стала гарадской інтэлігенцыяй, але не згубіла памяць і ўдзячнасць, упісаўшы, такім чынам, свой індывідуальны, родавы вопыт у вопыт нацыі. Падобны вопыт у апошні час набывае — для нераўнадушных, безумоўна, людзей — усё большую цану. Урэшце, народнае жыццё пачынаецца з канкрэтнага чалавека і да яго вяртаецца, праходзячы кола будзённай працы, творчага гарэння, любові, выпрабаванняў — усё, як у творы Уладзіміра Ягоўдзіка.

У аповесці раскідана шмат апісанняў прыроды і быту роднай аўтару Слонімшчыны, рысак, прыкмет часу — канца 60-х гадоў: вучань шостага класа ўжо з гадзіннікам на руцэ, паказчыкам прэстыжу бацькі і дабрабыту сям’і; згадваюцца тут школьныя дошкі гонару, пласцінкі з класікай, да якой маладая настаўніца-наватар (наватарства ў педагогіцы — таксама адзнака эпохі) імкнецца далучыць навучэнцаў; кінастужкі тых гадоў; звыклы для вяскоўцаў, якія яшчэ добра памятаюць вайну і пасляваенную галечу, аўтобус паміж населенымі пунктамі — з вёскі ў Слонім, у Жыровіцкі манастыр. А ў той жа час у вясковай працы, асабліва на ўласным падворку, не змянілася амаль нічога. Захоўваліся яшчэ традыцыйныя заняткі, скажам, жанчыны ткуць посцілкі на кроснах. Існавала і нейкая надзвычай кранальная міфалагічная паэтычнасць успрыняцця свету, вера ў знакі, сімвалы, духаў. Так, героя-хлопчыка гняце з’яўленне менавіта на іх сядзібнай бярозе амялы — расліны-паразіта, у якой жыве, па словах дзеда, злая Начніца, што забірае

душу не толькі ў дрэва, але і ў чалавека. Яе і вініць герой у смерці маці...

Яшчэ больш «урастае» аўтар у фальклорны матэрыял у наступнай аповесці «І пазвала я...» Тут герой — ужо студэнт філфака, які прыехаў у родную мясцовасць збіраць фальклор, каб атрымаць залік па практыцы. Стаўленне да такога віду навучання ў студэнтаў, як вядома, рознае — бывала, што выклікала і раздражненне. У творы наўмысна, для кантрасту, прыводзіцца ганебны ліст аднакурсніка, яўна гарадскога жыхара, які аказаўся, у адрозненне ад героя, на практыцы разам з усёй групай: «... Запхнулі нас у такую дзірку, што выем ад нудоты. І гэта тады, калі ўсе нармальныя людзі жывуць чэмпіянатам па футболе. Цягаемся па хатах і кіснем, слухаючы дапатопных неандэртальцаў. А яны ўсё пра адно і тое: то пра кароўку, то пра пенсію, то пра вайну...» Інакш успрымае сваю задачу герой твора — былы вясковы жыхар, у якога і блізка няма такога грэблівага, як у яго сябра, стаўлення да сялян. Праўда, і ён сутыкнуўся з цяжкасцямі: «Тыркнуўся ў адну хату, у другую... Прымаюць як роднага. Але толькі дастану мікрафон — гамонка тут жа заціхае». Працаваць з апаратурай вясковаму чалавеку, сапраўды, тады было яшчэ цяжка. Але бяда папраўная, галоўнае — студэнт шчыра цікавіцца жыццём аднавяскоўцаў, а матэрыял прыходзіць як бы сам сабою. Ягоўдзік распавядае пра слонімскага «дзівака» — Камара, пра розныя прыгоды, што з ім здараліся, пра сустрэчу студэнта з бабуляй, якая адзінока жыве на закінутым хутары. Апісана ўсё проста, без літаратурнага штукарства, але нераўнадушна, з любоўю, замілаваннем. Аповесць у свой час спадабалася такому патрабавальнаму — і да сябе, і да іншых — пісьменніку, як Ян Скрыган. У другім раздзеле кнігі Ягоўдзік прыводзіць ліст да яго Скрыгана з выказваннямі пра аповесць: «Энергічная, душэўная, усхваляваная, густа напісаная. Я не пазнаю твае мовы: каларытная, народная (часам, ведама, падробленая), няма ранейшых выбрыкаў, колькі свежых, простых, чалавечых слоў, зусім па-свойму сказаных. Колькі — не, не колькі, а якія вобразы — Камар, старая жанчына, колькі аўтаравай душы ў аповесці...»

Філалагічная адукацыя, у прыватнасці, веданне таго ж фальклору, дапамагае Ягоўдзіку ў яго творчасці для дзяцей. Аўтар некалькіх дзіцячых кніг, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра, ён уключыў у свой апошні па часе зборнік аповесць-казку «Янка і Ружа». Вечная казачная калізія барацьбы дабра і зла пададзена ў форме індывідуальна-аўтарскай, з выкарыстаннем самых сучасных рэалій, напрыклад, згадваецца тут і мае пэўную ролю ў сюжэце НЛА; гаворыцца пра выкарыстанне пачварамі (Балотніцай) псіхалагічных метадаў уздзеяння; не абыдзена ўвагай экалагічная тэматыка, якая ўвогуле займае важнае месца ў творчасці Уладзіміра Ягоўдзіка. Удалымі аказаліся ў казцы вобразы, запазычаныя з народнай творчасці, хоць і ў аўтарскай інтэрпрэтацыі, напрыклад, Купальскі дзядок, у распараджэнні якога аказваюцца кветкі папараці (праўда, з фальклору вядома, што кветка-папараць кожны год расцвітае адна, і менавіта ў адзінкавасці — яе унікальнасць). Але штучнымі і недарэчнымі выглядаюць прыёмы і дэталі, запазычаныя з масавай культуры ці з іншых літаратурных твораў. Напрыклад, зубонскі і пузонскі каралі, каб авалодаць Летавецкім царствам, носяць маскі бацькоў Ружы і тым самым шмат гадоў абдурваюць яе. Але маскі на твары, што капіруюць тую ці іншую асобу, — дэталь, узятая з яшчэ французскіх кінастужак пра Фантамаса, і Галівудам яна выкарыстоўвалася неаднаразова. Сама Ружа пастаянна ходзіць у чароўных акулярах, таму ўсё бачыць у скажоным выглядзе. Такія акуляры таксама сустракаюцца ў вядомай казцы А. Волкава «Чараўнік Смарагдавага горада». Ёсць у творы і іншыя вобразы, якія не выклікаюць даверу. Праўда, даверу ў дарослых. Магчыма, дзеці ўспрымаюць аповесць зусім інакш, хоць і для іх яна здаецца залішне зацягнутай, інфармацыйна перагружанай. Казка значна б выйграла, каб аўтар скараціў яе і зрабіў больш дынамічнай.

У зборніку пісьменнік паўстае ў розных іпастасях. Так, другі раздзел кнігі «Залатыя кросны душы» ўключае

творчыя партрэты («Штрыхі да партрэтаў», як сцвярджае сам аўтар у падзагалоўку раздзела) пісьменнікаў, навукоўцаў і мастакоў. Першы нарыс — «З дабраччу ў сэрцы» — пра слыннага даследчыка літаратуры, прафесара Уладзіміра Калесніка. Уладзімір Ягоўдзік сустракаўся з ім неаднаразова, таму згадвае розныя выпадкі, розныя сітуацыі, якія яскрава характарызуюць неардынарнага чалавека, аднаго з лепшых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі. «Вось мы вяртаемся з Камянецкага раёна, дзе выступалі перад вучнямі сярэдняй школы. Шафёр — малады хлапчына — зухавата круціць баранку і пахваляецца паляўнічымі подзвігамі. «Дзічыны, — кажа, — хапае, бо паблізу — белавежскія лясы...» У Брэсце Уладзімір Андрэевіч просіць яго пачакаць каля пад’езда дома, а праз хвіліну-другую выносіць з кватэры амаль бярэмя кніг з імёнамі на вокладцы — Сетан-Томпсан, Джой Адамсан, Бернгард Гржымек: «Пачытай, можа, іншы раз падумаеш, перш чым страляць...» Іншы эпізод: «Я сяджу ў рэдакцыі. Тэлефонны званок: «Калі маеш час, дапамажы...» Сустракаемся на тралейбусным прыпынку. У руцэ Калесніка — вядро з цэментам і кельмай. Выходзім каля могілак на былой Маскоўскай вуліцы. І потым некалькі гадзін парадкуем забытую сваякамі магілку паэта Міколы Засіма. Я толькі пасабляў: прынёс пяску і вады. Але той цёплы жнівеньскі дзянёк пачатку 80-х і сёння стаіць перад вачыма, нібыта мы сустракаліся пазаўчора».

Ягоўдзік лічыць Калесніка з яго дапытлівасцю, неўтаймаванай энергіяй, markdown

рознабаковасцю ў інтарэсах такім жа, як людзі Адраджэння, скажам, Скарына. «Сапраўды, ён быў таленавіты ва ўсім, за што ні браўся. Сведчаннем таму — яго жывапісныя эцюды, драўляныя скульптуры, шматлікія фотаздымкі, асабліва тыя, што змешчаны на старонках створанай ім сумесна з Алесем Адамовічам і Янкам Брылём славутай кнігі «Я з вогненнай вёскі...» У гады вайны, будучы ў партызанах, Калеснік сам неаднойчы глядзеў у вочы смерці».

Несумненна каштоўнымі з’яўляюцца і ўспаміны Ягоўдзіка пра легендарную Зоську Верас, якая адзінаццаць месяцаў не дажыла да ста гадоў, пакінула найцікавейшыя мемуарныя нататкі пра дзеячаў беларускага нацыянальнага Адраджэння пачатку XX стагоддзя. З Зоськай Верас Уладзімір Ягоўдзік не толькі перапісваўся пятнаццаць гадоў, атрымаўшы ад яе 85 лістоў, але і наведаў яе ў 1975 годзе, яшчэ будучы студэнтам.

Нарыс «Вечар з Караткевічам» апісвае і сустрэчу з Уладзімірам Сямёнавічам на яго кватэры ў «пісьменніцкім» доме па вуліцы Карла Маркса, 36. Караткевіч тады, не ў лепшую пару свайго жыцця (смяротна хварэла жонка), сустрэўся з супрацоўнікам «ЛіМа» Ягоўдзікам і адказаў на пытанні з нагоды атрымання прэміі імя Івана Мележа. Адносна Мележа Уладзімір Сямёнавіч сказаў: «Ніколі не забуду тое непараўнанае ўражанне, якое зрабілі на мяне «Людзі на балоце». Гэта было падобна на выбух бомбы. Жывыя людзі. Жывыя стрэхі на хатах. Жывое балота навокал. ПАЛЕССЕ! Вельмі хацелася б пісаць так густа, так глыбока, як напісаны гэты раман, як напісаны лепшыя старонкі іншых мележаўскіх кніг». Варта нагадаць гэтыя словы — словы аднаго бясспрэчнага класіка беларускай літаратуры пра другога, бо ў апошні час пра савецкіх пісьменнікаў гавораць мала і неахвотна. Між тым, іх кнігі, іх гераічнае і драматычнае, бо час — драматычны, жыццё — наш неацэнны скарб, наша нацыянальнае багацце, пра якое ні ў якім разе нельга забываць.

Цікавыя выказванні Караткевіча і пра ўласную творчасць. Так, адносна рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» ён сказаў: «Гэты раман ад пачатку і да канца фантазія, калі хочаш, нават хлусня. Я толькі адштурхнуўся ад радкоў з хронікі Стрыйкоўскага, дзе расказваецца пра бадзягу, які выдаваў сябе за сына Божага. У мяне была зусім іншая мэта, чым зляпіць адносна праўдзівую гістарычную хроніку з сярэднявечча. Я пісаў прытчу, раман-легенду з думкай пра тое, што здарылася б у таталітарным грамадстве, каб сапраўды з’явіўся Хрыстос».

Уладзімір Караткевіч, між іншым, жыў у кватэры, якую раней, у 60-я гады, займаў Янка Скрыган. Пра Скрыгана ў

нататках «Дзядзька Ян» Ягоўдзік успамінае нязменна цёпла і прыязна, хоць Скрыган быў суровым крытыкам яго творчасці. Яны і перапісваліся, і сустракаліся. Скрыган аднойчы сказаў маладому пісьменніку: «Не трэба мудрагеліць і штукарыць. Пішы, як ходзіш. Галоўнае ў літаратуры — свая ўласная паходка». Мяркуючы па ўсім, Уладзімір Ягоўдзік трымаецца запавету старэйшага сябра.

Піша ён і пра аднагодкаў, блізкіх па ўзросце калег. Асабліва праніклёныя радкі — пра Алеся Пісьмянкова, які так трагічна рана, заўчасна пакінуў нас. Успамін лірычны, шчымліва кранальны, звернуты да памерлага таварыша: «Ты ўмеў жартаваць. Ты любіў жартаваць. Ты заўсёды імкнуўся і блізкага сябра, і калегу па рабоце, наогул, кожнага чалавека акрыліць радасцю. Не, не імкнуўся, а проста ў Цябе так атрымлівалася, бо інакш Ты жыць не ўмеў».

Уладзімір Ягоўдзік нядрэнна малюе. І як дзіцячы аўтар ён не аднойчы сустракаўся і сустракаецца з ілюстратарамі кніг для дзяцей. Таму партрэты мастакоў займаюць у кнізе такое ж пачэснае месца, як і партрэты пісьменнікаў. Адчуваецца, што аўтар выдатна разбіраецца ў жывапісе. Не можа не ўразіць яго дасканалы, зусім прафесійны аналіз японскай гравюры ў нарысе «Бог Фукуракудзю». У прыватнасці, ён піша: «Найперш, што ўражвае, — дасканаласць і завершанасць ліній, строгая, але вельмі ёмістая лаканічнасць». Пісьменнік і сам імкнецца да такой жа «ёмістай лаканічнасці», і ўмее ўбачыць яе ў іншых. У згаданым артыкуле Ягоўдзік выказвае і сваё ўласнае творчае крэда: «...Для Мастацтва не існуе межаў у часе і прасторы. Менавіта Літаратура і Мастацтва з'яўляюцца апраўданнем нашай зямной цывілізацыі — памылкі? загадкі? эксперыменту? бясконцага Сусвету».

У артыкуле «Райскія сны Алены Кіш» Ягоўдзік разглядае творчасць лепшай і самай вядомай у свеце беларускай мастачкі-прымітывіста. Ён імкнецца зразумець вытокі фантазіі народнага майстра. Неабходна сказаць, што ў творчай індывідуальнасці Алены Кіш, як у кожным таленце, яшчэ шмат застаецца загадкавага, невытлумачанага, нягледзячы на тое, што Ягоўдзік надзвычай сумленна, скрупулёзна вывучае біяграфію і творчую спадчыну мастачкі. Ён піша: «Глядзіш на дываны гэтай жанчыны, якая прайшла сялянскую навуку, і не перастаеш здзіўляцца яе фантазіі, што лёгка спалучала ў адзін свет рэаліі вясковага жыцця з тым казачным, што існавала ў яе мроях ці снах». Ягоўдзік захапляльна апісвае творы жывапісца. Напрыклад: «У цэнтры кампазіцыі «Рай» — блакітнае возера. На вадзе ў лодцы — дзве прыгажуні, а на другім плане — усё тая ж неразлучная пара львоў, што сімвалізуе вернасць і згоду ў сям'і. А на пярэднім плане, акурат насупраць дзяўчат, на беразе стаіць яшчэ адзін леў і... бусел. Так, бусел! Ці трэба казаць, што гэта ўспрымаецца як знак на шчаслівае каханне, на светлы чалавечы лёс. А навокал раскашуе прырода, няхай сабе і стылізаваная, але наша, беларуская. І як гарманічна ўсё паяднана: бярозы, львы, экзатычныя блакітныя птушкі, бусел... Хіба ёсць больш шчаслівы і прыгожы рай, чым гэты, што з дзяцінства навокал цябе, у якім ты жывеш, радуешся і плачаш?» Пісьменнік лічыць, што Алена Кіш жыла адразу нібы ў двух светах: звычайным і ўяўным, які можна разглядаць як пратэст супраць шэрага будзённага жыцця. Але так жыве, уласна кажучы, любы сапраўдны сумленны мастак — не кан'юнктуршчык. Сам зварот да творчасці — пратэст, адштурхоўванне ад звычайнасці, імкненне зазірнуць у таямніцу свету, якая, безумоўна, у ім ёсць.

Добра, што блізкія пісьменніку мастакі самі распавядаюць пра сваю творчасць. Ягоўдзік піша пра Івана Рэя, Валерыя Славука, Уладзіміра Савіча, Алену Лось. Так, пісьменнік адзначае надзвычай яркія, багатыя на дэталі малюнкі дзіцячых кніг Уладзіміра Савіча, якога нават папракаюць у этнаграфізме. Сам жа жывапісец, паводле сведчання Ягоўдзіка, сцвярджае: «Школьнікам я любіў чытаць народныя казкі. Аднак мне не падабалася, што на многіх малюнках сяляне апрануты ў жабрацкія лахманы, носяць анучы і лапці. Я паспрабаваў развеяць гэты недарэчны штамп, паказаць нашу багатую матэрыяльную культуру. Першым крокам у гэтым напрамку лічу афармленне кніжкі Якуба Кола-

са «Міхасёвы прыгоды». А «Казка пра суседзяў, змяю і мядзведзя» дала магчымасць яшчэ шырэй адлюстраваць харастово беларускай нацыянальнай вопраткі і народнай архітэктуры, а значыць, і душы беларуса...» Вельмі правільны, дарэчы, падыход: вочы сучасных дзяцей, выхаваных тэлевізарам і камп'ютэрнымі гульнямі, прызвычаіліся да моцных візуальных раздражняльнікаў, таму і кніжкі для іх павінны быць яркімі, гранічна маляўнічымі. Акрамя таго, і сапраўды, наша народная культура — надзвычай багатая і разнастайная, чаму б яе такою і не перадаць?

У лепшых традыцыях народнага мастацтва — той жа Алены Кіш, лубка — працуе Алена Лось. Яна ахвотна падзялілася з Уладзімірам Ягоўдзікам — вытокамі сваёй творчасці. У прыватнасці, згадала такі эпізод: «У пачатку 60-х гадоў мы з Гары Якубенем [муж Алены Лось. — **М. Ш.**] прыехалі ў Тураў. І трапілі акурат на Сёмуху. Я тады ўпершыню ўбачыла, як жанчыны ішлі з царквы ў народных строях. Гэтае ўрачыстае шэсце сведчыла пра вялікую культуру, адшліфаваную стагоддзямі. На кожнай жанчыне быў вышыты фартух. І ўсе фартухі рознакаляровыя. І ніводнага аднолькавага. Я рабіла накіды алоўкам і запісвала, дзе ляжыць той ці іншы колер. Потым нас запрасілі ў хату. Чыста вымытая, быццам сонечная падлога, а на ёй раскіданы аер». Такія ўражанні фарміравалі мастацкі густ Алены Лось. Паказальна, што яна сама ўмее аналізаваць вытокі сваёй творчасці і добра іх разумее. Адносна ж Алены Кіш многае так і застаецца таямніцай.

Жывапіс — найбольш блізкая для пісьменніка Ягоўдзіка сфера мастацтва. Але цікавіцца ён і музыкай. У кнізе змешчаны грунтоўны артыкул, прысвечаны выдатнаму беларускаму спеваку Міхасю Забэйду-Суміцкаму. Уладзімір Ягоўдзік ліставаўся са спеваком, які жыў тады ў Празе. Высветлілася, што яны — землякі: Забэйда-Суміцкі нарадзіўся і вырас каля Ружанаў, што недалёка ад Слонімшчыны. Натуральна, што яго творчасць асабліва зацікавіла пісьменніка. Ён пра спевака і пісаў, і рабіў тэлеперадачу на Брэсцкім тэлебачанні.

З мемуарных нататкаў Ягоўдзіка паўстае, акрамя аб'ектаў яго адлюстравання, і ён сам — дапытлівы, няўрымслівы, па-грамадску актыўны чалавек, сапраўдны патрыёт сваёй Радзімы. Нельга не адзначыць яшчэ адзін, акрамя мастацкага і мемуарнага, важны напрамак яго творчасці — прыродаапісальны, экалагічны. У сярэдзіне 90-х гадоў Ягоўдзік пачаў выдаваць часопіс сяброў прыроды «Лесавік», пры гэтым грунтоўна вывучаючы — у кнігах і ўласных падарожжах — геаграфію і геалогію роднай Бацькаўшчыны. У трэцюю частку яго кнігі ўключаны апавяданні, невялікія абразкі, а таксама прыродаапісальныя нарысы. З іх найбольш цікавыя — пра рэчкі, азёры, крыніцы і валуны Беларусі. Тут Ягоўдзік паказвае сябе выдатным, палымяным публіцыстам. У артыкуле «Сляды волатаў» ён піша пра Музей валуноў ва Уруччы, адзначаючы, што такая важная справа, такі унікальны мінскі парк аказаўся загубленым: «Улады нібыта забыліся пра Музей валуноў. Каштоўныя экспанаты паступова зараслі травой, ніхто не прыбіраў смецце, на догляд геалагічных помнікаў не знаходзілася грошай... Вядома, валуны пачакаюць, стагоддзе для іх — імгненне, бо ўзрост кожнага вымяраецца мільёнамі гадоў. Але як пазбавіцца ад прыкрасці? Адносіны да прыродных помнікаў, наогул да прыроды, у першую чаргу выяўляюць культурны ўзровень грамадства, дзе мы жывём, наш агульны культурны ўзровень».

Кніга Уладзіміра Ягоўдзіка «Шчыраю ноччу» складзена ў моднай сёння эсэістычнай манеры спалучэння розных жанраў і нават стыляў — мастацка-апавядальнага, пранікнёна-лірычнага, публіцыстычнага, па-навуковаму дакладнага. Відаць, правільны падыход. Зборнік не стамляе аднастайнасцю, а дае самую разнастайную, багатую інфармацыю — як для розуму, так і для душы, дарue эстэтычнае задавальненне, падставы для філасофскага роздуму.

**Павел ШПІЛЕЎСКІ**

# «МАЗЫРШЧЫНА»

*Прыбярэжныя мястэчкі ад Мазыра да Петрыкава. — Мястэчка Петрыкава. — Абрад Купалы. — Купальныя вераванні. — Чэрпіп. — Тураў і Тураўскае княства з X стагоддзя да аб'яднання Літвы з Польшчаю. — Тураўская епіскапія і яе біскупы. — Тураў пад польскім валадарствам. — Рэшткі старажытнасцей. — Курган Тура. — Колькасць цэркваў. — Тураўскі могільнік. — Паданні аб ім. — Землі. — Тураўскія лясы. — Кампанія ангельцаў для высечкі лесу і пабудовы фермаў у Тураве. — Авечкагадоўля і пчалярства. — Тураўскія жанчыны. — Прадмесці Турава. — Каменны вугаль. — Мястэчка Давыд-Гарадок. — Яго правы. — Давыд-гарадоцкія мяшчане і іх гандаль. — Радзішча і старажытныя выбарныя ў мястэчку. — Іх строі. — Шавецтва. — Праца жанчын. — Давыд-гарадоцкая мова. — Мястэчка Семікосцішча і фантастычная народная легенда аб сямі сёстрах.*

З Мазыра ў Тураў можна ехаць сухім шляхам і вадой; але я ўпадабаў апошняе, тым больш, што можна было адправіцца на параходзе. Мне хацелася паглядзець на прыбярэжныя наваколлі Прыпяці, міма якіх павінен быў праходзіць параход і спыніцца па шляху да Петрыкава; а гэта няцяжка было зрабіць пры тым павольным плаванні, якім вылучаюцца новаўведзеныя мазырскія параходы. На параходзе было вельмі мала пасажыраў, увесь груз складаўся больш з таварнага багажу. Па меры аддалення парахода ад Мазыра берагі Прыпяці ўсё больш і больш закрываліся цяністымі зараснікамі ядлоўцу і хвойніку, якія паступова змяняліся густым лесам,ператвараліся, нарэшце, у самыя глухія, некранутыя рукою чалавека, гушчары гіганцкіх, таўшчэзных дубоў, якія народ заве стогадовымі. І сапраўды, дубы велізарных памераў — тром чалавекам цяжка абхапіць; і ўсе гэтыя дубы стаяць цэлымі сем'ямі на высокіх узгорках, нярэдка аточаных друзлай, балоцістай багнай. Між тым берагі Прыпяці становяцца ўсё ніжэй і ніжэй, так што зразумелы той страшны разліў вод, якімі напаўняюцца прыбярэжныя лясныя мясцовасці Мазыршчыны і тураўскай ускраіны. Але вось, нарэшце, на самай блізкай адлегласці паказалася мястэчка Петрыкава, што маляўніча раскінулася на абрывістым беразе Прыпяці. Мястэчка размешчана на высокай гары, усе будынкі драўляныя, і царква, і касцёл архітэктуры незайздроснай. Петрыкава належыць князю Горскаму-Хадкевічу, нашчадку старадаўняга літоўскага роду, апошнія прадстаўнікі якога лічыліся віленскімі каштэлянамі. Тут ёсць гандлёвая прыстань для мясцовых суднаў. Гандлююць лесам і свойскай жывёлай, асабліва падчас кірмашоў, якімі багата мястэчка. У Петрыкаве калісьці быў умацаваны замак з бастыёнамі і часовым гарнізонам слуцкага князя Юрыя Алелькавіча, знакамітага родапачынальніка старажытнай заходнерускай дынастыі ў Слуцкім княстве. Петрыкаў быў некалі павятовым мястэчкам слуцкай долі князёў Алелькавічаў, а ад іх, па праве сваяцтва ў жаночай лініі, перайшоў да Хадкевічаў.

Параход спыніўся ў Петрыкаве на ўсю ноч для загрузкі скур, і я паспяшаўся скарыстацца вольным часам, каб пабадзяцца па бліжэйшых лясах і курганах мястэчка. Гэта было пад вечар, сонца хілілася да захаду. Я абышоў амаль усе

бліжэйшыя гушчары дубоў і прабіраўся да прыстані, як раптам здзіўлены быў у самім глухім месцы лесу страшным зарывам: мне здалося — не ці пажар у мястэчку, але, падыходзячы бліжэй да агню, убачыў зусім іншае. На высокім, амаль квадратным кургане, — хто ведае, ці не старажытнага якога-небудзь гістарычнага паходжання, натоўп сялян і сялянак кружыўся, прытанцоўваваў і спяваў ля палаючага вогнішча.

«Што ў вас такое?» — спытаў я адну сялянку.

«Купалу спраўляем», — наіўна адказала маладая дзяўчына.

Купалу?.. Тут я ўспомніў, што патрапіў на народнае свята язычніцкага паходжання, вядомае ў вялікарускіх вёсках пад назвай Іванава дня. У заходнерускім краі гэты дзень завецца Купалам у памяць старажытнага язычніцкага славянарускага боства Купалы, апекуна кветак і пладоў, ад якога павялося ў простага люду свята, што адбываецца напярэдадні Іванава дня, 23 чэрвеня. Мне было знаёма гэтае свята па дзіцячых успамінах, і я жадаў пабачыць сам абрад народнага гуляння. Пасярод кургана прымацаваны быў у паглыбленні доўгі драўляны шост, увесь абвіты зелянінай. На яго вершаліне было прывязана некалькі вянкоў з кветак і бярозавых галін. Гэты шост увасабляе бога Купалу. Яго, звычайна, прыносіць маладая прыгожая дзяўчына, якая завецца ў гэтым выпадку купальніцай. Купальніца таксама ўся з ног да галавы ўпрыгожана кветкамі і зелянінай, на галаве вянок. Яна абавязана ўторкнуць у яму шост, а іншыя сяброўкі на значнай адлегласці ад шоста (каб не згарэў раней часу) накідваюць галлё, галіны і вянкі са свежай і сухой травы. Усё гэта рыхтуецца да заходу сонца. Як толькі сонца схаваецца, купальніца з завязанымі вачамі садзіцца ў яму; карагод дзяўчат і хлопцаў кружыцца вакол ямы і шоста з рознымі прыпевамі. Паміж тым купальніца без разбору вымае з ямы вянкі і раздае іх сяброўкам. Калі якой дзяўчыне трапіцца вянок са свежых кветак, гэта значыць — быць ёй шчаслівай і багатай замужам. Калі ж дастанецца вянок з сухой травы, — гэта значыць, дзяўчына будзе нешчаслівая і бедная ў замужжы. Па канцы варажбы хлопцы кідаюць салому і лясное галлё ў яму і запальваюць іх, а каб ілюмінацыя працягвалася, — падкідаюць сухіх дубцоў і лісця датуль, пакуль не супакоіцца ад скокаў святочная кампанія. Да канца згарае і сам шост… З гэтым абрадам звязаны даволі пацешныя народныя павер'і. Думаюць, што купальская ноч поўная незвычайных здарэнняў. Вераць, быццам у тую ноч весяліцца і скача ўвесь свет… Галоўная весялосць адбываецца на Лысай гары, дзе ведзьмы спраўляюць урачысты шабас: на гэты шабас павінны з'ехацца ўсе ведзьмы і падуладныя ім чараўніцы і ведзьмары; таму ў купальскую ноч і не пакідаюць коней на пашах, бо перакананы, што які-небудзь вядзьмак абавязкова з'едзе на самым лепшым кані. Млынары адпраўляюцца на шпацыр па рацэ і прыварожваюць рыбу назло рыбакам, якія ў гэтую ноч атрымліваюць нейкае асаблівае прасвятленне ад незвычайнага водбліску на вадзе. Гэты водбліск абуджае качак і іншых рачных птушак, якія весела перагукваюцца сваёй птушынай гаворкай. Дрэвы скачуць, пераходзяць з аднаго месца на другое і размаўляюць паміж сабой шумам лісця і галін. Каб разумець гэтую гутарку, трэба знайсці кветку папараці і насіць яе ў ботах або ў лапцях. З папараццю шукаюць скарбы і ўпэўнены, што знаходзяць: затрымка толькі за кветкай…

На другі дзень з раніцы параход імчаў на ўзмоцненых парах, і маляўнічыя краявіды з велічнымі дубамі праносіліся перад пасажырамі да самога Чэрніна, прыгожай вёскі: відаць, трэба было пасьпяшацца туды. Ад Чэрніна параход ізноў ішоў цішэй, а перад Туравам амаль чарапахай поўз. Нарэшце — вось і Тураў, паміж Прыпяццю і Струменем. Тыя ж велізарныя горы і курганы, тыя ж непраходныя лясы і гразкія балоты…

Хто б мог сказаць, убачыўшы невялікае мястэчка, нават вёску з маленькімі драўлянымі хаткамі, акружанымі нізенькімі тынамі з лазы, што гэтае мястэчка,

гэтая вёска — той самы старажытны, гістарычны Тураў, галоўны горад першых рускіх удзельных князёў, найблізкіх сваякоў Уладзіміра Вялікага, нават ці ледзь не княства даўладзімірскай дынастыі, валоданне самабытнага варажскага князя Тура, аб якім так ясна гаворыцца яшчэ ў летапісах X стагоддзя. «Бъ бо Рогволодъ, — заўважае складальнік лаўрэнцеўскага спісу[1], — пришел из-за моря, имяше власть свою ў Полотьске, у Тур в Турове». А такое, сапраўды, старажытнае паходжанне цяперашняга мястэчка Турава. Была эпоха, калі Тураў і Тураўскае княства займалі значнае месца ў складзе старажытнай Русі. Палітычнае значэнне Турава выяўляецца з самага пачатку X стагоддзя, калі першы тураўскі князь удзельнічаў у паходах Алега супраць грэкаў. Па дамове 907 года грэкі плацілі даніну Алегу і тураўскаму князю: «и уклады на руские городы и на Полтеск и на Туров, па тем бо городом седяху князья»[2]. З XI стагоддзя Тураўскае княства падпарадкоўваецца манархіі Уладзіміра Вялікага: у 1019 годзе ён пасадзіў у Тураў пляменніка свайго Святаполка Яраполкавіча, які быў жанаты на дачцэ Баляслава Храбрага. Але з гэтага часу тураўскія князі сталі прэтэндаваць на званне вялікіх князёў кіеўскіх і некаторыя з іх дасягнулі сваёй мэты. Першы ж Святаполк Яраполкавіч пачынае марыць аб Кіеве, але пры жыцці Уладзіміра Вялікага яму не ўдалося ажыццявіць сваёй мары: дзядзька быў раздражнёны інтрыгамі Святаполка і кольберцкага каталіцкага місіянера Рэйберна, які знаходзіўся пры свіце яго жонкі, і пасадзіў усіх траіх у вязніцу ў Кіеве[3]. Пасля смерці дзядзькі Святаполк пры дапамозе сваіх саўдзельнікаў быў вызвалены і, як старэйшы ў родзе Рурыкавічаў, паспеў захапіць кіеўскі вялікакняжацкі пасад: адгэтуль ідзе ўплыў каталіцызму на Кіеўскую Русь пры садзейнічанні біскупа Рэйнберна[4]. У 1078 годзе Усевалад Святаславіч умацаваўся ў Кіеве, а Тураў перадаў малодшаму сыну Яраполку: «Всеволод седее Киев на столе, переима власть руськую всю, придав Ярополку Туров[5]». У 1093 годзе тураўскім князем быў Святаполк Ізяславіч, які па прызначэнні Уладзіміра Манамаха абраны быў на вялікакняжанне ў Кіеў. Ён быў раздражняльным і неспакойным, пастаянна варагаваў з суседзямі і рабіў смуты ў супляменных акругах. З першага ж года свайго княжання па закліку тураўскай дружыны, якая была пры ім, ён уступіў у барацьбу з моцнымі полаўцамі і, пабіты на галаву за ракой Стугнаю, збег у Тураў, адкуль зноў вярнуўся на вялікакняжацкі пасад у 1097 годзе[6]. Святаполк Ізяславіч памёр у 1113 годзе, праклінаемы падданымі. Пасля яго Уладзімір Манамах абраў у вялікія князі кіеўскія сына свайго Вячаслава, князя тураўскага, любімага падданымі больш за ўсіх папярэднікаў. Ён не раз быў пасыланы для ўціхамірвання непакорлівых крывічоў — жыхароў цяперашняй Мінскай губерні[7]. Месца яго ў Тураве ў 1146 годзе заняў Яраслаў Ізяславіч. З гэтага часу ў склад Тураўскага княства ўваходзіць Пінск, і лёс яго неразлучны з Туравам. У 1155 годзе, калі вялікі князь Юры Даўгарукі аддаў Тураўскае княства сыну свайму Барысу, межы княства распасціраліся за раку Гарынь і ахоплівалі ўсю цяперашнюю Мазыршчыну. У 1158 годзе Тураў быў добра ўмацаваны і напоўнены саюзнымі войскамі, на выпадак нападу на яго Яраславічаў, якія хацелі выцесніць з яго Барыса Юр'евіча. Тураў дзесяць тыдняў быў абложаны шматлікім атрадам, але вялікі князь Юры падаспеў на дапамогу, і Барыс утрымаўся[8]. У 1190 годзе летапісы называюць тураўскім князем нямоглага Святаполка Юр'евіча, які быў даннікам Ольгавічаў і павінен быў дапамагаць ім супраць кіеўскага князя Рурыка: «в лето 6713 поидоша Олговичи вси опять на Рюрика к Кыеву, Всеволод Чермный с своею братью і с своими сыновци, а из Турова и из Пиньска князь Святополк»[9]. Пасля Тураўскае княства аслабла ад пастаянных драбненняў надзелаў, і ад моцных тураўскіх князёў пайшлі дробныя князі Астрожскія, Пагарынскія, Нясвіжскія, Свіслацкія. Канчатковае ж знішчэнне тураўскай валадарнай дынастыі настала ў эпоху ўмацавання ў заходняй Русі літоўскай магутнасці. Уплыў Літвы пачаўся пры Скірмунце, які, атрымаўшы бліскучую перамогу

над тураўскім і валынскім князем Мсціславам пры рацэ Ясельдзе, пасля доўгіх супраціваў жыхароў усё яшчэ дужага (па выразе летапісаў) Турава, зліў уладанні тураўскіх князёў з літоўскімі правінцыямі. Скірмунт аддаў Тураў сыну свайму Пусімунду. У 1320 годзе Гедымін знішчыў назву Тураўскага княства, і літоўскія валадарныя князі тураўскіх абласцей перанеслі сваю сталіцу ў Пінск. Зрэшты, у Тураве ўсё-ткі заставалася ў гэты час галоўная рэзідэнцыя праваслаўнай Епіскапіі, якой падпарадкоўвалася пінская епархія. Епіскапія яшчэ доўга існавала ў Тураве[10]: апошні біскуп тураўскі Авраамій Стагонскі памёр у 1630 годзе; папярэднікам яго быў Лаўрэнцій[11]. З іншых біскупаў вядомыя: знакаміты прапаведнік святы Кірыла; уладар Іаакім[12], Варлаам[13], Марыон[14], Арсень і Грыгорый, які ўдзельнічаў у брэсцкім саборы з выпадку мяркуемай уніі[15]. Тураўская епархія існавала нават і ў 1686 годзе, пасля злучэння Літвы з Польшчай[16].

У XVI стагоддзі ўсе ўмацаванні з замкам і каменнымі будынкамі былі разбураны татарамі; зрэшты, і да таго Тураў спазнаў нямала спусташэнняў. У 1521 годзе татары разрабавалі замак, і ўсе пажыткі ўладара павезлі ў сваю прагнуючу арду. Падчас польскага валадарства Тураў быў ператвораны ў попел у выніку крывапралітнай сутычкі князя Януша Радзівіла з Міхненка, які, па шляху ў Мазыр, паспеў заахвоціць тураўцаў на карысць казацтва і на абарону праваслаўнай веры і тым раздражніў польскую ўладу: Тураў спасцігла доля Мазыра (гл. вышэй, раздзел ІІ аб Мазыры). З тых часоў Тураў перастае быць гістарычным горадам і невядомы ў летапісах не толькі пад імем княства, але нават і ваяводства, у сэнсе польскай адміністрацыйнай вобласці. У канцы XVI стагоддзя, па сведчанні старадаўняга польскага географа[17], значыцца толькі Мінскае ваяводства, да якога быў прыпісаны Тураў у ІІ палове XVII стагоддзя ў якасці павятовага горада.

Зараз Тураў — мястэчка Мазырскага павета. Відавочных слядоў старажытнага княжання ў ім няма амаль ніякіх. Адзіныя рэшткі тураўскіх старажытнасцей — курганы і іншыя насыпы, раскінутыя вакол мястэчка; некаторыя з іх носяць назвы замчышчаў і могілак. Але ўсё гэта так цёмна, зблытана ва ўяўленні народа, што па паданнях яго немагчыма скласці дакладнага паняцця аб значэнні большай часткі курганоў. Самы вялікі насып, вядомы пад імем Туры, цягнецца на значнай прасторы па правым баку Прыпяці. Назва гэта, кажуць, захавалася ў памяць былога некалі на ёй замка з сямю вежамі — турамі, абведзенага равамі; сляды равоў прыкметны і зараз. Але ад руін замка не засталося ні аднаго каменя. На месцы іх пабудавана царква. Усіх цэркваў тры, а, па народным паданні, у старажытным Тураве было 80 цэркваў.

Па левым баку Прыпяці на высокай гары размешчаны шырокі квадратны магільнік, на якім, па сцвярджэнні народа, была абіцель святога Кірылы, епіскапа тураўскага, і месцазнаходжанне іншых тураўскіх уладароў; тут жа быў, кажуць, і Кірылаўскі манастыр. Дзіўна, заўважым, што дагэтуль заслугі гэтага знакамітага дзеяча свайго часу не ўшанаваны ніякім грамадскім помнікам у Мінскай губерні; нават ні адзін мінскі манастыр не носіць імя святога Кірылы. Чуўся толькі слых два гады таму, што ў самім Мінску меркавалі заснаваць прытулак і манастыр у памяць святога Кірылы Тураўскага: няўжо толькі слыхам і абмяжуецца добры намер? На тых жа могілках, кажа падданне, пахаваны любімы князь тураўскі Вячаслаў Уладзіміравіч. Непадалёк ад могілак, у велізарным густым лесе, паказваюць магільны курган, на якім пахаваны два героі з ахоўнай варты Вячаслава. Па суседстве з усімі насыпамі і курганамі землі незвычайна ўрадлівыя, ды і наогул тураўская зямля славіцца гладкім чарназёмам, на якім можа ўрадзіць самая раскошная пшаніца і проса. Мне здарылася бачыць выдатныя кавуны і дыні ў Тураве, якіх там багата і якія спеюць да жніўня. Гародніна тураўская — морква, агуркі, бульба і гарох — вельмі смачная і спажыўная.

Як ні велічэзныя мазырскія лясы, але тураўскія пушчы складаюць выключэнне па сваіх незвычайна рослых ліпах, клёнах і піхтах, якія нагадваюць славутую Белавежскую пушчу (на мяжы пінскага Палесся, паміж Кобрынам і Брэстам), не хапае толькі зуброў; але затое ў тураўскіх лясах водзяцца такія мядзведзі, што, пры сустрэчы з імі, ахнеш ад здзіўлення, настолькі вялізныя гэтыя спусташальнікі вулляў і сялянскіх палёў. Яны спакойна расхаджваюць па нівах, нішчаць авёс і пшаніцу; залазяць у вуллі і перакульваюць іх на зямлю; водзяцца таксама сарны і барсукі. Тураўскія лясы даюць сялянам шмат сродкаў для жыцця: сплаў страявога лесу, гонка смалы, падрыхтоўка луб'яў і мачулы — усё гэта важкі прыбытак у мястэчку, якое ляжыць пры суднаходнай рацэ. Але асабліва вялікія заробкі з'яўляюцца вясною, калі падрадчыкі і наогул лясныя прамыслоўцы спяшаюцца пераправіць праз Прыпяць падрыхтаваны лес; а збыт лесу ў Тураўшчыне вялікі, хоць са значна большаю засцярогай з боку ўладальнікаў, чым у мазырскіх пушчах. Тураўскія памешчыкі ведаюць кошт свайму лесу і не дазваляюць абыходзіцца з ім нядбайна: нарыхтоўка дапускаецца самая ўмераная. А ахвотнікаў знішчыць тураўскія лясы знайшлося б шмат; сюды пранікалі ўжо далёкія замежныя гандляры. Слава тураўскіх пушчаў дайшла нават у Англію: яшчэ ў 1790 годзе нейкая кампанія ангельцаў ладзіла велічэзны праект для закупу самых лепшых лясных мясцовасцей вакол Турава з мэтай высечкі векавых дубоў і хвой і потым заснавання розных земляробчых фермаў на спустошанай зямлі. Ужо нават дайшлі да складання ўмоў куплі. Памешчык Агінскі адправіўся ў Англію для заключэння кантракту на дзесяткі гадоў; але, на шчасце, палітычны пераварот у Расіі спыніў згубны намер тураўскіх валадароў, і іх лясы засталіся непашкоджанымі да цяперашняга часу. Ці не лепш самім заняцца ачышчэннем лясоў і ашчаднай нарыхтоўкай, а потым заснаваннем фабрык і фермаў? Дарэчы, Тураў можа пахваліцца сваёй авечкагадоўляй і жывёлагадоўляй; авечкі тураўскія даюць багатую, выдатную мяккую воўну, з якой на замежных фабрыках вырабляюць тонкія шарсцяныя і суконныя тканіны; чаму не спажыць з карысцю тую ж воўну на мясцовых фабрыках? На фермах можна зрабіць пахты і алейні, гавяды даволі, нават авечы сыр тураўскі можа скласці ласунак для аматараў самых далікатных сыроў; у тураўскіх сёлах водзяцца козы. Уладальнікам трэба было б падбаць аб пчалярстве, бо атрымліваюць жа сяляне вялікія выгоды ад мёду, асабліва ліпавага (ліпец), пахкага і празрыстага, як ключавая бруя; некаторыя заможныя мужычкі дзесяткамі пудоў прадаюць мёд, які, нават праходзячы праз яўрэйскія рукі, усё такі ж каштоўны і на яго сталы попыт за мяжой.

Тураўскія сяляне і сялянкі маюць шмат агульнага з мазырскімі сялянамі і ў строях, і ў ладзе жыцця; але галоўнай перавагай тураўчанак можна назваць цноту, якая складае іх упрыгожванне і гонар. Парушэнне цноты лічыцца недаравальнай крыўдай для сям'і і вінаваты караецца выгнаннем з грамадства, — бываюць выпадкі, што спакусніка прывязваюць да слупа пасярод вёскі і такім чынам выстаўляюць яго на ганьбу перад усёй грамадой. Мужчыны вельмі статныя, прадпрымальныя і энергічныя; жанчыны ціхія, пакорлівыя і кемлівыя; паміж імі ёсць шмат майстрых. Некаторыя ткуць самыя тонкія палотны, паясы і нават стужкі з воўны, якія на мінскіх кірмашах выдаюцца за прывазныя: так хораша і трывала ткуць тураўчанкі. Жанчыны, асабліва дзяўчаты, любяць займацца кветкаводствам: амаль ля кожнай хаткі ўбачыце чысценькі, хоць і невялікі кветнік пад наглядам дачкі, сястры або пляменніцы гаспадара.

Тураў дзеліцца на дзве часткі: галоўную складае мястэчка, другую — два прадмесці: Заяцелле і Запясочча; прадмесці адлучаюцца ад мястэчка насыпам. Бліз гэтага насыпу, у лясах, нядаўна адкрылі каменны вугаль, які аказаўся прыдатным як паліва. Кажуць, яго знаходзяць і ў іншых месцах тураўскіх лясоў, але няўменне выкарыстоўваць яго адбівае ў сялян ахвоту адшукваць вугаль, а, між

тым, можна было б звярнуць сур'ёзную ўвагу на гэтую прадукцыйную галіну тураўскага краю. Бачна, не прыйшоў яшчэ ў нас час карыстацца дарамі сваёй айчыны… Магчыма, іншыя нагадаюць нам аб іх…

Хто бываў у Тураве, той не мог абмінуць выдатнага, вялікага, прыгожа забудаванага прамысловага мястэчка — Давыд-Гарадка, які выбітна адрозніваецца ў тураўскім краі сваім месцазнаходжаннем і норавамі жыхароў. Ён пабудаваны на некалькіх выспах паміж трыма рукавамі ракі Гарыні, якая ўпадае ў Прыпяць. Лёс гэтага мястэчка надзвычай цікавы: яно ўваходзіла некалі ў склад ардынацыі вядомых князёў Радзівілаў, было ў руках іншых валадароў, карысталася і правамі бясподатнай волі. У апошнія гады давыд-гарадчукі судовым парадкам даказалі свае старажытныя прывілеі і зараз зноў лічацца мяшчанамі. Даказаць мяшчанскія правы жыхарам Давыд-Гарадка было нялёгка, хоць у прывілеях, якія захаваліся, вельмі ясна пазначана законнасць іску. Па гэтых прывілеях давыд-гарадчукі — кіеўскія высяленцы, якія ў якасці ратнай дружыны хадзілі ваяваць у Тураўскім княстве разам з сваім князем Давыдам з кіеўскага надзела. Які менавіта гэта быў князь, у прывілеях не вызначана, але пэўна тое, што ён са сваёю дружынай пасля розных воінскіх няўдач прамяняў меч на спакойнае жыццё і заснаваў мястэчка непадалёк ад старажытнага Турава. Магчыма, яго лёс быў цесна звязаны з Тураўскім княствам, прынамсі паміж яго дружынай, цяперашнімі жыхарамі Давыд-Гарадка, і тураўцамі існуе самая цесная, сяброўская сувязь. Што Давыд-Гарадок даволі старажытнае паселішча, даказваецца граматай караля Яна-Казіміра[18], у якой згадваецца аб старадаўняй праваслаўнай царкве ў Давыд-Гарадку ў 1663 годзе. У самім мястэчку дагэтуль захаваўся помнік старажытнага кіравання — супольнай рады: адна вуліца завецца — Радзішчам (або Радзічы) ад месца, дзе некалі адбывалася рада. На гэтай вуліцы, кажуць, была радная хата, у якой збіраліся выбарныя мяшчане для рашэння і абмеркавання мястэчковых спраў. У памяць старажытнай рады і зараз яшчэ некаторыя грамадзяне горада імянуюцца ў паперах раднымі мяшчанамі. Гэтыя старшыны нават носяць па святах асаблівы нацыянальны строй (які, кажуць, быў прысвоены званню ранейшых выбарных): доўгі амаль да ног кафтан, абабіты пазументнымі шнуркамі з кутасамі, шырокі шоўкавы пояс і высокую футравую баярскую шапку. Гэты строй нагадвае старажытныя ўборы дапятроўскай Русі. Не меней таго цікавыя строі і іншых мяшчан Давыд-Гарадка — таксама кафтаны, толькі цёмнага колеру, з паясамі, высокія боты за калені, кашуля з некалькімі запінкамі, на плячах тальмах з кайстраю; пры гэтым доўгія валасы, вусы і ў некаторых — голеныя бароды. Давыд-гарадчукі вылучаюцца здаровым, атлетычным складам цела, спрытам і разумным выразам твару. Жанчыны відныя, жывога характару і працаўніцы ў вышэйшай ступені. Жыццё давыд-гарадчукоў вельмі прывольнае: усе яны вялікія гаспадары і пераважна — агароднікі. Сталы прадмет іх прамысловасці і гандлю — гародніна і насенне, сушаная садавіна, проса і выдатна захоўваемы кмен. Усё гэта яны развозяць па суседніх губернях, пасылаюць у Кіеў, Варшаву, Вільню. У Вільні нават уладкавана для іх гандлю асаблівае месца перад ратушаю, забяспечанае старажытнай (з XV стагоддзя) гарадской пастановай, якая прадпісвае не перашкаджаць купцам з Давыд-Гарадка вольна гандляваць у Вільні на ратушным пляцы: тут і размяшчаюцца давыд-гарадчукі са сваімі таварамі. Сюды ж яны прывозяць сушаныя баравікі, якімі славяцца іх лясы, вэнджаную рыбу, саланіну і вяндліну, якая сваім прыгатаваннем не саступае вестфальскай; яркі ружовы колер, крэпасць і маласольны смак складаюць адметную вартасць як давыд-гарадоцкай саланіны, так і вяндліны. Каб меркаваць аб вартасці гэтай вяндліны, варта паглядзець на саміх кабаноў, велічынёю з маладога вала, якія адкормліваюцца жалудамі, дзікімі яблыкамі, грушамі і сакавітымі карэннямі на давыд-гарадоцкіх астраўках, дзе іх пакідаюць без усякага нагляду: кабаны гэтыя кормяцца два-тры гады, і настоль-

кі заплываюць тлушчам, што не могуць хадзіць. І гэта свіное сала часам бывае таўшчынёю ў чвэрць аршына; яго шмат закупляюць для замежных рынкаў. Не апошні артыкул даходу ўяўляюць сушаныя яршы і ўюны, якія прадаюцца вазамі, нанізаныя на доўгіх дубцах: яшчэ лепш салёныя яршы і марынаваныя ўюны.

Выдатна, што ў Давыд-Гарадку яўрэі ніяк не маглі ўцерціся ў мясцовы гандаль: як дробны, так і аптовы. Продаж усіх магчымых тавараў і прадуктаў вядуць выключна хрысціянскія мяшчане. Нават рамесніцтва ў руках хрысціян: асабліва цікавае мясцовае шавецтва; у мястэчку робяць непрамакальныя боты і чаравікі з падвойнымі падэшвамі, але такімі трывалымі, што нават у мясцовых балотах яны вытрымліваюць каля года. У гэтых адносінах Давыд-Гарадок можа стаць нароўні з Таржком (Цвярской губерні) — мястэчкам, дзе гандлююць гатовымі ботамі. Я нават думаю, што давыд-гарадоцкі шавецкі тавар значна лепшы і мацнейшы за таржкоўскі, бо мясцовы юхт вырабляецца без прымешкі розных вострых, едкіх вадкасцей, якія выкарыстоўваюць у Таржку пры ачыстцы скур дзеля іх лепшага вонкавага выгляду. Давыд-гарадчук больш клапоціцца аб трываласці, чым аб вытанчанасці скуры — асабліва для мужчынскага абутку. Гэта ад таго, што ў мястэчку ўсе жыхары ходзяць у ботах і, значыць, — робяць тавар больш для сябе. Зрэшты, давыд-гарадчук такі добрасумленны, што не рашыцца падмануць і староннягa. Асноўнае правіла яго ў жыцці: «што не люба іншаму, то не міла і мне». Пры такім правіле зразумелы тыя высакародныя якасці, якімі знамянальна вылучаюцца давыд-гарадоцкія жыхары сярод іншых сялян. Іх добрыя справы ў сваю чаргу ўзнагароджваюцца сямейным шчасцем і дабрабытам. Давыд-гарадчукі жывуць у дастатку і нават, можна сказаць, багата. Некаторыя мяшчане валодаюць вялікімі капіталамі і запісаліся ў купецтва; пісьменнасць між імі — рэч звычайная.

Давыд-гарадоцкія жанчыны робяць рыбацкія сеткі, вырэзваюць з бяросты табакеркі і прадуць самую тонкую нітку, з якой ткуць хусткі і чэпчыкі. Да ліку карысных тканін адносіцца так званая радзюга, якая ўжываецца ўлетку замест шкла ў аконных рамах. Жанчыны нават плятуць з саломы мужчынскія шапкі і капелюшы, таксама кошыкі. Але асабліва прыгожыя кошыкі з вярбовых пляцёнак, якія афарбоўваюцца ў розныя колеры; з тых жа пляцёнак робяцца корабы для калёс і брычак, але гэта ўжо справа мужчын…

Давыд-гарадчукі да таго адрозніваюцца ад усіх сваіх суседзяў, што нават размаўляюць на мове, непадобнай на мазырскую і тураўскую. У іх гаворцы чуюцца старадаўнія славянскія словы і нават яе абарачэнне вельмі блізка падыходзіць да біблейскай мовы; гэта яшчэ больш адлюстроўваецца ў пісьмовым складзе і канструкцыі мовы давыд-гарадчукоў.

Мне прыйшлося яшчэ быць і ў другім старадаўнім мястэчку, не падобным на Давыд-Гарадок ні сваім месцазнаходжаннем, ні многалюдствам, ні прыгожымі хатамі. Яно ўсё знаходзіцца ў лесе, так што на яго тэрыторыі растуць дрэвы і хмызнякі. Завецца яно Сямікосцішчам і мае тую асаблівасць, што вакол яго страшныя балоты, а само яно размешчана на сямі пагорках з самага чыстага, амаль белага пяску. Народная фантазія надзяліла Сямікосцішча цэлай легендай, ад якой, быццам, мястэчка і атрымала сваю назву. Народ распавядае, што на гэтых пагорках жыло сем замужніх сясцёр — адна другой прыгажэйшая і разумнейшая. Іх мужы зараблялі пушнінай і часта ездзілі ў далёкія краі на доўгі час. Сёстры жылі дружна, так што ў адсутнасць мужоў збіраліся і заўсёды разам праводзілі час. Аднойчы, калі іх мужы кудысьці з’ехалі, выпадкова патрапіў у іх месца прыгожы, статны хлопец у золаце і срэбры на хвацкім белым кані. Як убачылі сёстры-дамаседкі такога статнага волата, усе сем закахаліся ў яго. Волат чакае рашэння, у чыю хату заехаць, кожная з сямі сясцёр кліча да сабе. Нарэшце волат прапанаваў усім ім сабрацца ў бліжэйшай хаце і сам туды адправіўся.

Мінула некалькі дзён, госцю трэба было ехаць далей, але сёстры не пускаюць яго, перасварыліся нават паміж сабою з-за яго. На бяду сваю ўпрасілі яны госця застацца яшчэ на некалькі дзён: прыехалі мужы і паднялі страшную трывогу. Завязалася сямейная спрэчка: жонкі адмовіліся ад мужоў і абвясцілі, што гатовы ехаць з рыцарам на край свету. Тады мужы ўступілі ў бой з жонкамі: бой быў бы няроўны, калі б у шэраг сямі сясцёр не стаў сам волат; ён быў вядзьмак і клікнуў на дапамогу гарцукоў (горныя духі). Мужы былі пераможаны і ўсе да аднаго забіты. Ведзьмаку-герою заставалася абраць адну з сямі сясцёр, але гэта не лёгка было зрабіць: кожная з іх жадала быць жонкаю волата. Каб пазбавіцца ад жонак-здрадніц, якія так жорстка паступілі са сваімі мужамі, волат загадаў гарцукам склікаць сем лясных духаў і з'явіцца ўсім ім у выяве такога ж, як ён, статнага хлопца і ўзяць сем сясцёр-удоў сабе ў жонкі. Сёстры былі ўпэўнены, што кожная з іх абрана самім волатам, а яму таго і хацелася. Ён з'ехаў у той жа дзень на сваім белым кані, а лясныя духі назаўжды засталіся ўладарамі сямі сясцёр. Мужы ўсіх сямі сясцёр пахаваны на сямі пагорках, а само месца бітвы названа Сямікосцішчам, таму што на ім пала сем трупаў — (касцячоў). Сямікосцішча дагэтуль лічыцца прытулкам чарадзеяў, ведзьмакоў і чараўніц.

---

[1] Летап. Нест. Лаўр. спіс. стр. 32.

[2] Там жа. стр. 13.

[3] Dietmari chronic. lib. VII, p. 859, § 52.

[4] Там жа. Также — Monumenta German. histor. t. III. p. 69.

[5] Лаўрэнт. лет. стр. 87.

[6] Дзяніс Зубрыцкі «Гісторыя старажытнага Галічскарускага княства», Львоў, 1852 г. ч. II. стр. 16.

[7] Руская хроніка, выд. Даніловіча, стр. 121.

[8] Дзяніс Зубрыцкі «Гісторыя старажытнага Галічскарускага княства», Львоў, 1852 г. ч. II. стр. 29.

[9] Лаўрэнт. лет. стр. 181.

[10] Zywoty Ewfrosynii, — Stebelski, — ч. II, стр. 163. — 18.

[11] Рус. Патер. Ноўг. Саф. Бібл №502, л. 87.

[12] Jusza — o obrazie cudownym Matki Boskiej w Chelmie; Niesiecki, t. I. f. IV, 770.

[13] Збор акт. і грам. Мінск. губ. № 11.

[14] Гістарыч. Слоўн., т. I.

[15] «Соврем.», 1853 г. № VI. Артыкул аб Брэсце.

[16] Крашэўскі «Вільна ад пачатку існавання», т. III. стр. 64.

[17] « Геаграфіч. слоўнік» Карпінскага, стр. 402.

[18] Збор акт. і грам. Мінскай губер. № 132.

***Пераклад і падрыхтоўка да друку Аляксандра Вашчанкі.***



## Красавік

**1**

105 гадоў з дня нараджэння Асоўскага Лешака (1905—1996), польскага мовазнаўца, славіста, даследчыка беларускай мовы.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Басалыгі Уладзіміра Самойлавіча, беларускага графіка.

**2**

80 гадоў з дня нараджэння Гусака Сяргея Адамавіча (1930—1969), беларускага крытыка і літаратуразнаўца.

**5**

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Усанавай Людмілы Мікалаеўны, беларускай і расійскай актрысы, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь. З 1979 г. жыве ў Расіі.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Шчэрбіны Уладзіміра Іванавіча, беларускага плакатыста.

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Дамнянкова Уладзіміра Уладзіміравіча, беларускага графіка.

**6**

120 гадоў з дня нараджэння Віера Гаўрылы Сямё навіча (1890—1964), беларускага жывапісца.

**7**

85 гадоў з дня нараджэння (1925) Моўчана Міхаіла Аляксеевіча, беларускага жывапісца, графіка.

**10**

105 гадоў з дня нараджэння Баркоўскага Сцяпана Андрэевіча (1905—1966), беларускага этнографа, літаратурнага крытыка.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Крэпака Барыса Аляксеевіча, беларускага мастацтвазнаўца, мастацкага крытыка, журналіста, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

**12**

120 гадоў з дня нараджэння Нёманскага Янкі (сапр. Пятровіч Іван Андрэевіч; 1890—1937), беларускага празаіка, публіцыста, грамадскага дзеяча.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Савічава Алега Ігаравіча, беларускага графіка.

**14**

130 гадоў з дня нараджэння Дылы Язэпа (Восіпа Лявонавіча; 1880—1973), беларускага празаіка, драматурга і грамадскага дзеяча.

125 гадоў з дня нараджэння Рак-Міхайлоўскага Сымона Аляксандравіча (1885—1938), беларускага палітычнага і грамадскага дзеяча, публіцыста, педагога, перакладчыка, паэта.

100 гадоў з дня нараджэння Пруднікава Алеся (Аляксандра Трафімавіча; 1910—1941), беларускага паэта.

90 гадоў з дня нараджэння Карпюка Аляксея Нічыпаравіча (1920—1992), беларускага празаіка, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.

85 гадоў з дня нараджэння (1925) Захарава Аляксандра Раманавіча, беларускага графіка, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

**15**

90 гадоў з дня нараджэння Ракітнага Міколы (сапр. Новікаў Мікалай Ісакавіч; 1920—2000), беларускага празаіка.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Рыжкоўскага Леаніда Анатольевіча, беларускага мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**16**

95 гадоў з дня нараджэння Яворскага Станіслава Іванавіча (1915—1988), беларускага акцёра, заслужанага артыста БССР.

90 гадоў з дня нараджэння (1920) Светашава Георгія Данілавіча, беларускага спевака, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Клышкі Анатоля Канстанцінавіча, беларускага празаіка, крытыка, перакладчыка, педагога.

**17**

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Рубінчыка Валерыя Давыдавіча, беларускага кінарэжысёра, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Расіі.

**18**

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Ханка Эдуарда Сямёнавіча, беларускага кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь, народнага артыста Беларусі.

**19**

85 гадоў з дня нараджэння (1925) Нікеевай Ноны Сяргееўны, беларускай спявачкі, педагога, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.

**20**

75 гадоў з дня нараджэння Летуна Уладзіміра Міхайлавіча (1935—2001), беларускага скульптара.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Капшая Уладзіміра Міхайлавіча, беларускага мастака-афарміцеля, жывапісца, графіка.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Мархеля Уладзіміра Іосіфавіча, беларускага літаратуразнаўца, перакладчыка.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Сакаловай Тамары Міхайлаўны, беларускага мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**21**

175 гадоў з дня нараджэння Вуля Ялегі Пранціша (сапр. Карафа-Корбут Элігій-Францішак Маўрыкіевіч; 1835—1880-я), беларускага паэта.

**22**

100 гадоў з дня нараджэння Лаўрова Георгія Сцяпанавіча (1910—1993), беларускага акцёра, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

**23**

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Казько Віктара Апанасавіча, беларускага празаіка.

**24**

100 гадоў з дня нараджэнн Вязава Анатоля Міхайлавіча (1910—1986), артыста цырка, заслужанага артыста БССР.

**25**

60 гадоў з дня нараджэння Уладамірскага Аляксандра Барысавіча (1950—1997), беларускага акцёра.

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Шчамялёвай Людмілы Леанідаўны, беларускага жывапісца.

**27**

80 гадоў з дня нараджэння (1930) Данцыга Мая Вольфавіча, беларускага жывапісца, народнага мастака Беларусі.

**28**

95 гадоў з дня нараджэння Макарава Барыса Паўлавіча (1915—1991), беларускага спевака, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

**29**

70 гадоў з дня нараджэння Кухарава Юрыя Іванавіча (1940—1996), беларускага графіка.

**30**

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Позняка Вячаслава Аляксандравіча, беларускага мастака манументальна-дэкаратыўнага мастацтва.



## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «ПОЛЫМЯ»!

**Ідзе падпіска на I паўгоддзе 2010 года:**

*індывідуальная льготная для настаўнікаў (індэкс — 00471)*

на 1 месяц — 5820 руб.
на 3 месяцы — 17 460 руб.

*індывідуальная (індэкс — 74985)*

на 1 месяц — 9400 руб.
на 3 месяцы — 28 200 руб.

*ведамасная (індэкс — 749852)*

на 1 месяц — 11 740 руб.
на 3 месяцы — 35 220 руб.

*ведамасная льготная для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)*

на 1 месяц — 9580 руб.
на 3 месяцы — 28 740 руб.

***e-mail: polymya@bk.ru***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 288-22-37.

Стыльрэдактар *М. М. Гілевіч*
Камп'ютэрная вёрстка *А. А. Губар*

Падпісана ў друк 14.04.10 г. Фармат 70×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80. Ул.-выд. арк. 16,68. Тыраж 3145 экз. Заказ 934.
Рэгістрацыйны № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.